**Ірына Масляніцына**
**Мікола Багадзяж**

# Слава і нясляўе

Мінск
«Народная асвета»
1995

УДК 087.5:316.3-055.2(476) (092)

У кнізе выкарыстаны малюнкі мастакоў В. Замяткі, Р. Замяткі, А. Кашкурэвіча, В. Макаранкі, А. Печнікавай, К. Ракіцкага, Р. Фралова, Ю. Цярэшчанкі.

Масляніцына І. А., Багадзяж М. К.

Слава і няслаўе.— Мн.: Нар. асвета, 1995.— 255 с.

ISBN 985-03-0227-5.

У кнізе — гісторыка-біяграфічныя нарысы пра жанчын, жыццё і дзейнасць якіх у той ці іншай ступені звязаны з беларускай зямлёй. Чытач пазнаёміцца з лёсам Барбары Радзівіл, Соф'і Слуцкай, трагічным каханнем князёўны Ганны Кобрынскай, даведаецца аб тым, якія адносіны да Беларусі маюць польская авантурыстка Марына Мнішак і расійская імператрыца Лізавета Пятроўна.

ISBN 985-03-0227-5

## АД АЎТАРАЎ

Шаноўны чытач! Перад табою 34 аповеды пра жанчын, лёс якіх у той ці іншай ступені звязаны з Беларуссю. Адны з іх нарадзіліся і дзейнічалі на беларускай зямлі; другія па волі лёсу трапілі ў іншыя краіны і праславіліся там; трэція — чужаземкі, якія былі выдадзены замуж за жыхароў нашай зямлі, знайшлі тут сваю радзіму. Ёсць у кнізе і гісторыі жыцця іншаземак беларускага паходжання. Часы, у якія жылі ўсе гэтыя жанчыны, іх погляды, характары, паводзіны настолькі ж непадобныя паміж сабой, як і іх лёсы. Аб'ядноўвае ж нашых гераінь тое, што ім даводзілася пракладваць свой жыццёвы шлях паміж славай і няслаўем. Некаторыя з іх дабравольна адмовіліся ад спакусаў людскога жыцця дзеля ажыццяўлення вялікіх мэт, якія яны паставілі перад сабой. Іншыя пайшлі на повадзе сваіх не зусім высокіх пачуццяў. Той-сёй проста не пашанцавала. Рознае было ў іх жыццё. Рознае было ў іх жыцці. Аднак кожная з гэтых жанчын пакінула свой адметны, непаўторны след у гісторыі.

Такім чынам, запрашаем зрабіць падарожжа па стагоддзях, пачынаючы з VI і заканчваючы ў XVIII, і пазнаёміцца не толькі з акалічнасцямі асабістага жыцця Рагнеды, Ефрасінні Полацкай, Алены Глінскай, Барбары Радзівіл, Соф'і Слуцкай, Саламеі Русецкай, але і даведацца пра тое, якое дачыненне да Беларусі маюць польская авантурыстка Марына Мнішак, расійская імператрыца Лізавета Пятроўна.

Спадзяёмся, што гэта кніжка зробіць гісторыю нашай Радзімы больш блізкай, цікавай і зразумелай ці хаця б крыху аблегчыць чытачу задачу пры яе спасціжэнні. Пры гэтым зазначым, што мы ні ў якім разе не прэтэндуем на ролю апошняй інстанцыі ў трактоўцы тых ці іншых гістарычных падзей і фактаў.

Будзем удзячны тым, хто выкажа нам свае меркаванні і заўвагі па дадзенай кнізе.

## ЯНЫ ПРЫПЛЫЛІ З ПОЎНАЧЫ

### ЛЫБЕДЗЬ
### (VI стагоддзе)

Сляды вякоў, сляды сівыя
у дзень далёкі пераносяць.
Адны маўчаць, нібы нямыя,
другія самі слова просяць.
*М. Шаўчонак. «Сляды вякоў»*

Гісторыя кожнага народа пачынаецца з легенды, якая з'яўляецца водгаласам сапраўдных гістарычных падзей. Галоўны герой такіх легендаў (Бог, герой альбо правадыр) часцей за ўсё прыводзіць сваіх людзей на новыя мясціны, дзе яны селяцца, каб даць пачатак новаму народу альбо ўліць сваю свежую кроў у жылы таго, які насяляў гэтыя мясціны раней.

Такая легенда пра героя Троі Энея, які прывёў сваіх воінаў на Апенінскі паўвостраў. Нашчадкі траянцаў, перамяшаўшыся з мясцовым насельніцтвам, стварылі народ, які пазней стаў называцца рымлянамі. Скандынаваў прывёў на халодныя прасторы з далёкага Паўночнага Прычарнамор'я правадыр Одзін. Пасля яго абагатварылі іх нашчадкі. Нашы паўночныя суседзі — літоўцы ў якасці аднаго са сваіх пашчураў прыгадваюць нейкага замежнага воіна Нямона. Яны сцвярджаюць, што гэта быў ці то вараг, ці то рымлянін (па розных версіях). Ён хадзіў са сваімі воямі па рацэ, якая атрымала яго імя — Нямунас (Нёман), і будаваў на сваім шляху крэпасці.

Гісторыя ўсходніх славян пачынаецца з прыгожага падання пра Кія, якое, дарэчы, шмат у чым падмацоўваецца гістарычнымі фактамі. Ён таксама прывёў свой народ на землі, што сталі потым іх новай радзімай.

Змешчаная ў «Аповесці мінулых гадоў», гэтая легенда прыгадвае таксама імёны двух братоў і сястры Кія, якія былі яго бліжэйшымі паплечнікамі,— Шчэка, Харыва і Лыбедзі.

Нестар-летапісец лічыў, што менавіта з іх прыходу і пачалася, «пайшла зямля Руская»... Пад словамі «зямля Руская» ён меў на ўвазе тэрыторыі, на якіх жылі ў яго час усходнія славяне. Але пазней шмат хто пачаў выкарыстоўваць гэтыя словы ў сваіх вузкакарыслівых мэтах. Расійскія гісторыкі апошніх стагоддзяў сцвярджалі і сцвярджаюць, што Кій — роданачальнік рускага народа. Сучасныя ўкраінскія

даследчыкі ў сваю чаргу спрабуюць даказаць, што ён быў украінцам. Але ці так гэта?

У цэнтры Кіева стаіць цудоўны помнік, адзін з сапраўдных шэдэўраў скульптурнага мастацтва XX ст.,— «Ладдзя заснавальнікаў горада». Тым самым аўтары гэтага помніка як бы прыгадваюць нам аб тым, што Кій «со товарищи» прыплыў аднекуль у гэтую зямлю. Адкуль жа яны прыплылі?

Зразумела, што для таго, каб адказаць на гэтае пытанне, не трэба «лезці ў нетры» і шукаць прарадзіму славян. Аб месцы, дзе яны сфарміраваліся, існуе процьма гіпотэз. Нас жа цікавіць час, калі славяне пачалі засяляць тэрыторыі, на якіх жывуць і цяпер. Звязаны гэты працэс з падзеямі, якія адбыліся ў час так званага другога Вялікага перасялення народаў. Пачаткам гэтай з'явы паслужыла перамяшчэнне. да паўночна-ўсходніх меж Рымскай імперыі германскіх плямёнаў. Адбывалася гэта ў II-III стст. н. э. У наступным стагоддзі з глыбінь Азіі вырваліся гуны. З шумам і гамам, спустошваючы ўсё на сваім шляху, пранесліся яны на сваіх конях па паўночначарнаморскіх стэпах, Балканах і «ўваліліся» на тэрыторыю ўсё той жа імперыі. У V — пачатку VI ст. на поўначы Балканскага паўвострава з'явілася процьма славян. Не паспеўшы як след асвоіць гэтую тэрыторыю, яны пачалі рассяляцца. Прычым шляхі іх былі накіраваны не толькі на Поўдзень, да багатых правінцый Рымскай імперыі, але і на Усход.

Археолагі як адзін сцвярджаюць, што менавіта з гэтым паслябалканскім перыядам, які датаваны VI-VII стст., звязана шырокае распаўсюджанне славянскіх помнікаў (т. зв. культуры пражскага тыпу) на тэрыторыі Сярэдняй і Усходняй Еўропы. Помнікі гэтыя сустракаюцца амаль ва ўсіх славянскіх дзяржавах, што існуюць у цяперашні час, у тым ліку і на Украіне, і ў Паўднёвай Беларусі. Пацвярджэнне таго, што менавіта падчас гэтага рассялення славяне прыйшлі «на зямлю Рускую», знаходзім мы і ў Нестара. У сваім творы летапісец так і адзначае: «Сидяху славянѣ на Дунае», і распавядае далей, што менавіта адтуль пачалі яны рассяляцца.

Але ж шлях іх не быў прамалінейным, бо ў славянскіх плямёнаў не было мэты дабрацца да нейкага канкрэтнага пункта. Іх правадыры вялі людзей наўздагад, туды, дзе, на іх думку, лепей было б пасяліцца.

Украінскі гісторык І. Крып'якевіч з гэтай нагоды піша: «Са сваёй прабацькаўшчыны яны рушылі бурлівай плынню на поўдзень, прадзіраліся праз векавечныя пушчы, пераходзілі праз багны і дрыгву, масцілі шлях праз шырокія рэкі, цягнуліся па бездарожных стэпах, займалі ўсе далейшыя прасторы, руйнавалі ўсе перашкоды, ішлі ўсё да-

лей, усё наперад. Гэта быў здаровы, малады народ, поўны пярвічнай сілы і невычэрпнай энергіі».

Ці ж можна ў гэтым моры славян-перасяленцаў вызначыць той шлях, якім ішоў Кій і яго супляменнікі? Гэта задача здаецца немагчымай. Археалогія тут не дапаможа. Але варта звярнуцца да народнай памяці, а дакладней, да фальклору.

Шмат легендаў і паданняў, звязаных з канкрэтнай мясцовасцю, існуе на Беларусі, і ў некаторых з іх мы сустракаем водгаласы тых падзей, імёны Кія, яго братоў і сястры. Легенды гэтыя дапамаглі аўтарам дадзеных радкоў аднавіць частку шляху племені Кія. Як ні дзіўна гэта можа падацца на першы погляд, але, на нашу думку, ён прайшоў праз землі сучаснай Беларусі. Менавіта па Прыпяці, якую ў старажытнасці называлі Трыпяццю з-за таго, што ўпадала ў раку тройчы па пяць рэк, плылі ладдзі Кіевых супляменнікаў.

У Маларыцкім раёне, недалёка ад вытоку славутай ракі, ёсць возера, якое завецца Лукаўскім. Ля возера знаходзіцца велізарны камень-валун, а на ім — адбітак жаночага ступака. Паводле падання, гэта слядок жанчыны-чараўніцы, па імені Лебедзь. Аднаго разу ў бурную ноч яна быццам бы выратавала людзей з паселішча на востраве сярод возера, якія ледзь не загінулі ў яго хвалях. Дзяўчына прайшла па вадзе, як па сушы, і ўсе, хто крочыў за ёю, уцалелі. Сцвярджаць, што гэтае паданне мае нейкія адносіны да сястры Кія, Шчэка і Харыва, мякка кажучы, занадта смела. Тым больш што ў другім, хрысціянізаваным, варыянце падання людзей ратуе не Лебедзь, а Матка Боска. Але цікаўнаму чалавеку нельга грэбаваць нават такімі звесткамі. Супадзенне імені можа азначаць і памяць пра канкрэтную асобу. Тым больш што імя Лебедзь у беларускай фалькларыстыцы можна сустрэць выключна ў басейне Прыпяці.

У Пінскім раёне ў свой час намі было запісана паданне пра трох братоў, якія задумалі спаборніцтва на ладдзях па Прыпяці. Пераможцу павінна была дастацца ў жонкі прыгожая нявеста. Цікава не столькі супадзенне колькасці: тры браты — адна дзяўчына, колькі тое, як легенда апісвае ладдзі кожнага з братоў. У старэйшага на носе ладдзі была выява змяінай галавы, у сярэдняга — рыбы, у малодшага — аленя. А імёны ў гэтых герояў: Кій (угра-фіны, якія жылі ў гэтых мясцінах да прыходу славян і працягвалі потым суіснаваць з імі, маглі б перакласці гэтае славянскае імя як «змей», бо па-іхняму Кій — «змей»), Шчэк — ужо і па-старaславянску значыць «шчупак», Харыў — па-старaславянску альбо «бык», альбо «алень». Можа, сапраўды, менавіта ў гэтых мясцінах Кій і яго супляменнікі шмат стагоддзяў назад

наладзілі своеасаблівыя волатаўскія гульні? Цікава, хто з братоў выйшаў пераможцам?

Яшчэ ніжэй па цячэнні Прыпяць прымае ў сябе прыток Пціч, пра які таксама ёсць паданне. Дзяўчыну клікалі Пціч, таму што надта ж прасілася яна штогод восенню ў птушыны вырай, каб паглядзець новыя, невядомыя землі. Мара дзяўчыны збылася, бо каханы ў ладдзі звёз яе з «наседжанага месца» ў чужыя краі. А раку, ля якой яна спаткалася з ім, назвалі імем дзяўчыны. Тут у наяўнасці — зноў ладдзя і дзяўчына з «птушыным» імем. І нават мэта вандроўкі — адпаведная.

Цікавую легенду запісаў у свой час на Гомельшчыне навуковы супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Рэспублікі Беларусь В. Скідан. У вёсцы Звіняцкае Хойніцкага раёна расказалі яму арыгінальную версію ўзнікнення Кіева. Быццам бы браты паставілі кіёк (палку), размяжоўваючы ёю свае ўладанні. Ад таго кія нібы і назва пабудаванага імі пасля горада. Што за справа палескай правінцыі да ўкраінскай сталіцы? Як інакш можна растлумачыць гэта, калі не прымаць пад увагу амаль генетычную памяць пра тыя далёкія падзеі, калі праз усю Паўднёвую Беларусь імкнуліся да сваёй мэты ладдзі Кія і яго супляменнікаў?

Акадэмічнае беларускае паданне пра палешукоў і палевікоў яшчэ больш праясняе вытокі такой стойкай памяці. Паданне гэтае ўвайшло амаль ва ўсе выдадзеныя ў нашай рэспубліцы фальклорныя зборнікі і нават, у апрацаваным выглядзе, у зборнікі казак для дзяцей. Яно апавядае пра тое, як адна вялікая сям'я рушыла з наседжаных месцаў некуды ў пошуках шчасця. Яны шмат ішлі праз густыя лясы, і многія не вытрымалі цяжкасцей шляху, адмовіліся ісці далей, расчысцілі сабе месца сярод лесу і засталіся там жыць. Але самыя ўпартыя члены сям'і не згадзіліся жыць у лесе. Яны прадоўжылі свой шлях і хутка выбраліся на прастору стэпаў. Першых назвалі палешукамі, другіх — палевікамі.

Можна меркаваць, што ў гэтым выпадку паданне адлюстроўвае сапраўдныя падзеі, якія адбыліся шмат стагоддзяў назад. І племя Кія падчас вандроўкі раздзялілася. Тыя, што палічылі за лепшае пасяліцца ў лясах, пачалі называцца дрыгавічамі і драўлянамі, а тыя, хто разам з Кіем дабраўся да Дняпра,— палянамі.

Тады зразумела, у якім асяроддзі маглі захавацца гэтыя вельмі старажытныя паданні пра Кія, яго братоў і сястру.

Легенда з вёскі Звіняцкае мае і яшчэ адну цікавую дэталь. У ёй падкрэсліваецца, што браты не адразу пабудавалі Кіеў. Спачатку яны заснавалі самастойныя паселішчы. Гэты самы падзел: «Да Кія мая

зямля, а пасля — твая». У летапісе ж гаворыцца: «И сидяше Кый на горе, идеже ныне увоз Боричев, а Щек сидяше на горе, идеже ныне зоветься Щековица, а Хорив на третьей горе, от него же прозъвася Хоревида».

Значна пазней яны «...създоша градѣк въ имя брата своего старэйшага и нарекоша имя ему — Кыев».

Д. Ліхачоў у прадмове да Лаўрэнцьеўскага спіса «Аповесці мінулых гадоў» сцвярджае на падставе гэтага ўрыўка, што паляне прыйшлі ў гэтыя мясціны яшчэ да Кія, а Кій быў іх чарговым князем. І што праславіўся ён толькі тым, што пабудаваў новы горад.

Прызнацца, гэтае сцверджанне не новае. У свой час выказвалася нават гіпотэза, што сучасную сталіцу Украіны заснавалі скіфы, прычым прыхільнікі яе спасылаліся на тое, што на тэрыторыі сучаснага Кіева былі знойдзены рымскія манеты і рэчы, якія датуюцца пачаткам тысячагоддзя нашай эры. Але гэты факт толькі даказвае, што ў тыя часы на тэрыторыі горада існавалі адно або нават некалькі паселішчаў. Відаць, прыхільнікі гэтай тэорыі забываюць, што жыццё ў іх скончылася ў тым жа стагоддзі. І што аднавілася яно толькі пасля прыходу на гэтыя тэрыторыі славян. Цалкам магчыма, што браты са сваімі родамі абжылі спачатку свае «горы» і толькі пазней стварылі адзін племянны цэнтр.

Новы горад закрываў вялізны басейн рэк, якія ўпадалі ў Днепр вышэй па цячэнні. Той, хто валодаў ім, нажываўся за кошт своеасаблівага мытнага збору. Дарэчы, памеры гэтага горада былі смехатворнымі па сучасных маштабах. Яго плошча складала ўсяго два гектары. У той час ён толькі пачаў набываць значэнне палітычнага, культурнага і міжпляменнага цэнтра. Аб значэнні гэтага горада і аб уплыве князя, які кіраваў ім, сведчаць летапісныя звесткі пра тое, з якім шанаваннем сустрэў аднойчы Кія візантыйскі імператар. Невядома, ці то князь сам паехаў у Канстанцінопаль, ці то па запрашэнню тагачаснага імператара. Не называе летапісец і імя гэтага імператара. Адны даследчыкі лічаць, што гэта быў Анастасій, другія — што Юсцініян. Дакладна вядома толькі тое, што візантыйскія імператары ў той час даволі часта наймалі да сябе на службу варварскіх правадыроў з дружынамі, бо выдатна ведалі аб ваенных здольнасцях «скіфаў», або «антаў», як называў славян візантыйскі гісторык Пракопій Кесарыйскі. Імператар звярнуўся з такой жа просьбай і да Кія. Прычым размова ішла аб канкрэтнай справе — абароне прыдунайскай мяжы Візантыйскай імперыі. Князь згадзіўся. Ён накіраваўся

на Дунай. На яго беразе была пабудавана крэпасць, якая атрымала назву Кіевец.

Але мясцовае насельніцтва сустрэла Кія варожа. Пачаліся канфлікты, узброеныя напады. У рэшце рэшт гэта надакучыла кіеўскаму князю і ён з дружынаю вырашыў вярнуцца дадому. (Дарэчы, усё гэта сведчыць аб тым, што Кій сапраўды быў князем, а не перавозчыкам цераз Днепр. У «Аповесці мінулых гадоў» прыгадваецца і такі варыянт падання пра заснавальніка горада.) Нестар таксама спасылаецца менавіта на гэтыя факты з мэтай абвергнуць паданне пра Кія-перавозчыка. Наконт гэтага піша: «А ще бы Кый перевозъник был, то не ходил Кесарю-граду. Но се Кый къняжаше в роде своемъ и приходившю ему к цесарю...»

Чым займаўся Кій пасля вяртання з Візантыі і як скончылася яго жыццё, невядома. Цемра стагоддзяў схавала гэтыя звесткі.

Цікава было б даведацца таксама пра лёс Шчэка, Харыва і Лыбедзі. Пра братоў Кія можна з дакладнасцю сказаць толькі тое, што яны ўдзельнічалі ў паходзе на Дунай. Гэта падказваюць радкі з «Аповесці мінулых гадоў»: «Идущю же ему вспять (вяртаючыся з Канстанцінопаля.— Аўт.), приде к Дунавеі и възлюби место и сруби градък мал и хотяше сести **з родъм своім...**» (вылучана намі.— Аўт.) Магчыма, разам з братамі хадзіла на Дунай і Лыбедзь, бо імёны ўсіх чатырох летапісец заўсёды ставіць побач. Дарэчы, што датычыць лёсу Лыбедзі, дык існуе ажно тры паданні наконт яго. Адно прыводзіць у сваёй кнізе «Повесть о славных богатырях» Т. Ліхаталь. «У сястры Кія Лыбедзі не было шчасця,— піша яна,— якое дзявочае шчасце? Любоў таго, хто мілы душы. Памылілася Лыбедзь у сваім каханым. І абрыдлым стаў ёй горад брата, родныя мясціны. Адляцела б, ды крылаў няма. Найшла б на край свету, ды ногі дзявочыя не звыклі далёка ісці. Кінулася Лыбедзь у раку... З тых часін і назвалі рэчку Лыбеддзю».

Украінскі гісторык-пісьменнік А. Латоцкі выкладае свой варыянт лёсу Лыбедзі. Ён піша, што ў прыгажуню-князёўну закахаліся адначасова славянскі юнак Руслан і сын хазарскага кагана. І хаця больш выгадна было б для Кія аддаць сястру хазарыну, ён не захацеў рабіць Лыбедзь няшчаснай, таму што яна кахала Руслана. У рэшце рэшт ледзь не ўспыхнуўшы ўзброены канфлікт было вырашана скончыць боем двух прэтэндэнтаў, з якога каханы Лыбедзі выйшаў пераможцам.

Кіеўскія ж экскурсаводы расказваюць яшчэ і пра такі варыянт, што быццам бы ў адзін і той жа год сканалі ў Кіеве ўсе браты Лыбедзі. І яна не змагла перанесці такой страты, усё плакала і плакала, пакуль не выйшла разам са слязьмі і яе жыццё.

Якое паданне больш блізкае да ісціны? Відаць, мы ніколі ўжо не даведаемся пра гэта.

Дакладна з летапісаў вядома толькі, што і браты, і сястра скончылі сваё жыццё ў заснаваным імі горадзе і што яны далі пачатак роду кіеўскіх князёў, які абарваўся потым з забітымі князямі-суправіцелямі Аскольдам і Дзірам.

# НА ПАЧАТКУ ГІСТОРЫІ

## ПРАДСЛАВА
## (X стагоддзе)

> ...ператворыцца сарамлівая Рагнеда ў цвёрдую, як меч, вялікую княгіню, і хто ведае, ці не давядзецца ёй правіць дзяржавай, як правіла Кіевам Вольга, а Полацкам бабка гэтай Рагнеды, маці Рагвалода, княгіня Прадслава, калі засталася ўдавою?
>
> *К. Тарасаў. «Тры жыцця Рагнеды»*

Звернемся да гістарычнай памяці, як да машыны часу, з просьбай паказаць нам тых з нашых продкаў, хто стаяў на пачатку беларускай гісторыі. Мы даволі выразна ўбачым сілуэты полацкага князя Рагвалода і яго дачкі Рагнеды, якія жылі ў X ст. Няўжо за іх спінамі толькі цемра небыцця? Але ўгледзімся паўважлівей — і перад вачыма паўстане цэлы шэраг невыразных, расплыўчатых постацей: князёў, вояў, майстроў, жанчын... Тых, імёны і дзеянні якіх не дайшлі да нас, нашчадкаў.

Дзіўны лёс напаткаў Беларусь: на працягу многіх стагоддзяў на яе зямлі бушавалі войны, суседзі імкнуліся разарваць яе на кавалкі. Гісторыя выкарыстоўвала яе як шчыт, якім прыкрывала іншыя краіны і народы ад варожых удараў. Беларусам была падаравана Богам вялікая колькасць слаўных герояў, якія стварылі гісторыю цікавую, непадобную на іншыя, гісторыю народа-абаронцы, народа-воіна. А зараз іронія лёсу — даводзіцца складаць яе нанава, сшываць з абрэзкаў новы «дыван». Бо загінула асноўная крыніца нашых ведаў пра сівую мінуўшчыну — Полацкі летапіс. У летапісах жа іншых княстваў пра гісторыю Полацкай зямлі можна знайсці толькі асобныя, несістэматызаваныя звесткі — матэрыял для навуковых даследаў і спрэчак. Усё лагічна — летапісца перш за ўсё цікавіць яго ўласны князь і падзеі ў яго княстве. Нават Рагвалод ды Рагнеда ўсплылі з цемры мінулага толькі дзякуючы цікаўнасці кіеўскага летапісца да асабістага жыцця свайго князя Уладзіміра.

Дык няўжо ніколі нам, нашчадкам, не зазірнуць у мінуўшчыну больш далёкую? Хто ведае...

Яшчэ зусім нядаўна здавалася неверагоднай магчымасць даведацца пра дзеянні каго-небудзь з полацкіх князёў, што жылі да Рагвалода. Але аналіз аднаго з тагачасных дакументаў нечакана прывёў да адкрыцця. І ўсплыло жаночае імя — Прадслава. І ўзнялася заслона над цікавейшым лёсам...

Што ж гэта за дакумент? А гэта — мірны дагавор з Візантыяй, падпісаны рускімі князямі ў 40-х гг. X ст., у час праўлення кіеўскага князя Ігара Рурыкавіча.

Яшчэ кіеўскі князь Алег, які ўвайшоў у гісторыю з мянушкай Вешчы, вадзіў кіеўлян на Візантыю, дзе на браме Царграда ў 907 г. прыбіў свой шчыт як пераможца. Летапісцы сведчаць, што ў гэтых паходах удзельнічалі не толькі паляне, але і войскі іншых славянскіх плямёнаў. У тым ліку і полацкія крывічы. Князь палачан быў тады васалам Алега, таму што ў дагаворы з візантыйцамі, заключаным Алегам, Полацк аднесены да тых гарадоў, дзе «седяху велиции князи, под Олго суще».

Візантыя была абкладзена кантрыбуцыяй, і сярод гарадоў, якім яна прызначалася, быў і Полацк.

Удзел палачан у паходах на Царград працягваўся і пры Алегавым пераемніку, Ігары, у 941 і 944 гг. Але ёсць падставы сцвярджаць, што ў гэты час Полацк ужо не падпарадкоўваўся Кіеву, таму што ў тагачасных дакументах сярод гарадоў-васалаў ён не фігуруе. Тады ўзнікае меркаванне, што полацкае войска ішло на Царград толькі як саюзнік Ігара. І безумоўна, не з-за таго, што паход быў выгадны Кіеву, а з-за таго, што ён мог прынесці нейкую карысць менавіта Полацку.

Цікава, а ці прымаў удзел у «замежным ваяжы» сам полацкі князь? Відаць, так. Хаця яго імені няма ў мірным дагаворы, падпісаным Ігарам з візантыйцамі ў 945 г. Чаму? Можна меркаваць, што князя тады не было ўжо ў жывых. Ён мог загінуць падчас паходу, а мог і памерці сваёй смерцю. Тым не менш хтосьці павінен быў выступіць у дагаворы ў якасці прадстаўніка саюзнага Кіеву Полацка.

З гэтай прычыны яшчэ раз звернемся да дакумента і перачытаем імёны тых, хто падпісаў яго з «рускага боку»: «Мы от рода руского съли и гостье, Иворъ, солъ Игоревъ, великого князя руского, и обьчии ели: Вуефастъ Святославль, сына Игорева; Искусеви Ольги княгини, Слуды Игоревъ, нети Игоревъ; Улѣбъ Володиславль; Канщаръ Передъславшъ...»

Першымі пералічваюцца прадстаўнікі кіеўскай княжацкай сям'і: сам Ігар, яго малалетні сын Святаслаў, жонка Вольга, бліжэйшыя родзічы Ігара, князі Ігар і Уладзіслаў. Пасля ўсіх ідзе прадстаўнік

жанчыны па імені Прадслава. Безумоўна, гэта княгіня. Але чыя? Некаторыя ўкраінскія даследчыкі хочуць бачыць у ёй жонку Святаслава Ігаравіча і нявестку Ігара, венгерскую князёўну, якая прыняла славянскае імя. Але шмат дзе ў летапісах мы знаходзім факты, якія сведчаць, што ў тыя часы Святаслаў не мог быць жанатым. У 945 г. яму было па адных крыніцах 7-9, а па другіх — наогул тры гады. Ды і само імя Прадслава... Не кіеўскае, не палянскае яно. На працягу трох стагоддзяў (X-XIII) толькі два разы называюць так сваіх дачок кіеўскія князі. І адзін з гэтых выпадкаў ужывання імя Прадслава звязаны з полацкай Рагнедай. Гэта яна, будучы жонкай кіеўскага Уладзіміра «Красное Солнышко», назвала Прадславаю сваю дачку.

Не карысталася папулярнасцю вышэйназванае імя і ў іншых княствах, акрамя Полацкага. Тут яно становіцца традыцыйным для князёўнаў, таксама, як мужчынскае імя Рагвалод для княжычаў. Ці не з'явілася гэтая традыцыя ў больш раннія часы? Ці не пра полацкую княгіню ідзе гутарка ў старажытным дакуменце? Беларускія даследчыкі М. Ермаловіч і К. Тарасаў лічаць гэта не гіпотэзай, а доказаным фактам. Яны адводзяць княгіні-ўдаве Прадславе месца ў беларускай гісторыі непасрэдна перад славутым Рагвалодам. І значыць, яе імя — цяпер першае з вядомых нам імёнаў полацкіх князёў.

Ці можна сказаць што-небудзь больш канкрэтнае пра гэтую асобу? Пэўна, для гэтага трэба ўявіць сабе Полацкае княства тых гадоў. Гэта павінна была быць моцная ў палітычным сэнсе дзяржава, інакш ёй было б немагчыма дабіцца незалежнасці ад моцнага і ваяўнічага Кіева. Ад апекі Кіева адмовіўся муж Прадславы (па часу атрымліваецца толькі гэтак). Магчыма, Прадслава мела даволі гібкі палітычны розум, таму што ўдзельнічала ў палітычных справах свайго мужа. Калі б было інакш, Полацк, відаць, адразу ж пасля смерці князя зноў трапіў бы ў залежнасць ад Кіева. Чаму палачане пасадзілі ў сябе на прастол жанчыну? Што гэта — рэшткі матрыярхату? Можа, часовая з'ява, пакуль стануць паўналетнімі спадчыннікі князя? А можа, прызнанне розуму і іншых вартасцей княгіні? Сцвярджаць можна толькі тое, што Прадслава Полацкая — першая вядомая нам усходнеславянская поўнаўладная правіцельніца. Яна атрымала ўладу над сваёй дзяржавай на цэлы год раней за кіеўскую княгіню Вольгу. І магчыма, менавіта полацкі прыклад падказаў кіеўлянам, якія ў 946 г. паўсталі перад пытаннем — каго паставіць князем, правільнае рашэнне.

Безумоўна, маючы сваёй суседкай Прадславу, кіеўская Вольга, якая па паданню паходзіла таксама з крывічоў (наўгародскіх), не магла не прыглядацца да полацкай княгіні з цікаўнасцю. Магчыма, штосьці з дзеянняў Прадславы магло паслужыць для Вольгі прыкла-

дам для яе ўласнай палітыкі. Пэўна, Вольга паважала Прадславу, таму што, падпарадкаваўшы сабе драўлян, яна магла паспрабаваць ваяваць і з Полацкам. Але рабіць гэтага не стала.

Ці бачыліся Вольга і Прадслава? Праблематычнае пытанне! Тым не менш у Віцебскім летапісе ёсць цікавы запіс. Летапісец прыводзіць легенду пра заснаванне Віцебска: у 974 г. Вольга, разбіўшы яцвягаў і печанегаў, пераправілася праз Заходнюю Дзвіну і заначавала на яе беразе з войскам. Ёй спадабаліся мясціны. І яна залажыла драўляны замак, названы Віцьбескам ад назвы ракі Віцьбы. Пражыла тут Вольга, быццам бы, два гады, а пасля вярнулася ў Кіеў. Тут трэба звярнуць увагу на памылку летапісца. Нам дакладна вядомы год смерці Вольгі — 969. Таму гісторыкі Б. Рыбакоў і Л. Аляксееў лічаць, што згаданую вышэй дату трэба чытаць не 974, а 947. Во менавіта ў гэтым годзе, паводле «Аповесці мінулых гадоў», Вольга здзейсніла цэлы шэраг вандровак з мэтай паставіць «погосты», г. зн. месцы збору даніны па рэках Мсце і Лузе. Яна магла апынуцца і на Заходняй Дзвіне. Безумоўна, знаходжанне Вольгі на тэрыторыі сваёй суседкі (а месца, дзе зараз стаіць Віцебск, было зямлёю Прадславы) не магло не прывесці альбо да ваеннай сутычкі, альбо да звычайнай сустрэчы.

Бітвы не было — летапісы не ўпамінаюць пра яе. Значыць, была сустрэча. Магчыма, Прадслава сама запрасіла Вольгу да сябе, альбо Вольга напрасілася ў госці. Гледзячы па ўсім, дзве княгіні так сышліся ў поглядах, што кіеўскай княгіні было прапанавана пабудаваць церам-замак на беразе Віцьбы для таго, каб ёй было дзе спыняцца падчас наступных гасцяванняў. Два гады, калі верыць летапісу, яна наведвала гэтыя мясціны. А потым іншыя справы адцягнулі ўвагу Вольгі. А з яе невялічкага жытла пачаўся слаўны горад Полацкай зямлі, клопат пра які ўзялі на сябе нашчадкі Прадславы.

Цікава таксама даведацца, а ці былі дзеці ў полацкай княгіні? М. Ермаловіч будуе цікавую гіпотэзу, называючы імёны полацкага Рагвалода і Тура, паўлегендарнага заснавальніка Турава. І тут ён спрачаецца з прыхільнікамі так званай «нарманскай тэорыі», якія сцвярджаюць, што Рагвалод — «варажскі госць» быў запрошаны ў Полацк на княжанне, бо, згодна з летапісам, «Рогволод пришел и — заморья, имяше свою волость в Полотъске». Тым не менш М. Ермаловіч мяркуе, што летапісец у дадзеным выпадку хацеў сказаць толькі тое, што Рагвалод пасля доўгай адсутнасці вярнуўся ў родную вотчыну. Па сваймy ўзросту ён цалкам мог быць сынам нашай Прадславы. Дзе ж вандраваў Рагвалод у той час, калі яна кіравала Полацкам?

«Полацк па Заходняй Дзвіне падтрымліваў сувязі з паморскімі славянамі, якія жылі на паўднёвым узбярэжжы Балтыйскага мора,—

піша М. Ермаловіч.— Як вядома, у пачатку XIII ст. полацкі князь Барыс быў жанаты з паморскай князёўнай Святохнай, і таму не выключана, што адтуль у свой час мог прыйсці і Рагвалод». Па звычаі таго часу Рагвалод мог княжыць там, пакуль смерць маці не вымусіла яго вярнуцца на радзіму. Гэта адбылося, паводле звестак Маскоўскага летапіснага зводу канца XV ст., «...во дни Святослава Игоревича», і, значыць, да 972 г. Прыкладна ў гэты ж час з'явіўся і князь Тур, што заснаваў горад Тураў, які стаў вельмі хутка цэнтрам другой дзяржавы на тэрыторыі Беларусі — Турава-Пінскага княства. У летапісах імёны Рагвалода і Тура даволі часта прыгадваюцца побач. Больш таго, існуе легенда, запісаная ў 70-х гг. XIX ст., паводле якой Рагвалод, ужо будучы полацкім князем, разам з Турам вандруе па Прыпяці з мэтай адшукаць месца для заснавання горада. Яна — яшчэ адзін факт, які сцвярджае блізкае сваяцтва Рагвалода і Тура.

Сапраўды, канцэпцыя гэта настолькі дакладна пабудаваная, што вельмі цяжка знайсці штосьці, што б магло сур'ёзна абвергнуць яе.

І вось ужо туман невядомасці за постацямі Рагвалода і Рагнеды рассейваецца настолькі, што становіцца бачным яшчэ адзін твар: твар княгіні Прадславы — мудрай правіцельніцы, удалага палітычнага дзеяча, вартай маці, пры якой пачалася гісторыя Полацка незалежнага.

## ЗАГАДКА КЛЮЧНІЦЫ МАЛУШЫ

### МАЛУША
### (каля 943-? гг.)

> — Не ты перамагла рабыню,— казаў Святаслаў,— яна перамагла цябе, княгіня. Бо нарадзіла сына... якога чакаюць рускія людзі... Быць яму, як яно і ёсць, сынам рабыні, вялікім князем.
>
> *С. Склярэнка. «Святаслаў»*

Як часта гісторыя жыцця людзей, што сапраўды жылі, аказваецца значна больш цікавай, чым надуманыя прыгоды герояў авантурна-прыгодніцкіх раманаў! Нават самае геніяльнае пяро не змагло б, пэўна, напісаць нічога больш захапляючага, чым гісторыя палескай прыгажуні Малушы, якая жыла адзінаццаць стагоддзяў назад побач з такімі вядомымі асобамі, як княгіня Вольга, князь Святаслаў Ігаравіч і ваявода Дабрыня. Праўда, у летапісах гэтая жанчына ўспамінаецца толькі ўскосна, у той меры, у якой яе жыццё было пераплецена з жыццём гэтых траіх. Але і так дастаткова, каб мы даведаліся пра адну з самых прыгожых гісторый кахання і барацьбы за ўласную годнасць.

Дадзеная гісторыя ўдвая павінна быць цікавай для нас — беларусаў, бо непасрэдна датычыць нашай сівой даўніны.

Бліжэйшымі суседзямі племені палян, якія ў VI-VII стст. Рассяляліся ў басейне Дняпра, былі драўляне. Яны жылі сярод густых лясоў на правабярэжжы Прыпяці, па цячэнні рэк Цецераў, Уж, Убарць, Сцвіга. Украінскі гісторык Міхайла Грушэўскі ў канцы мінулага стагоддзя пісаў: «Обитатели Древлянской земли должны были уступать въ культурѣ своимъ восточнымъ сосѣдямъ. Условия местности располагали населеніе более къ о хоть и пчеловодству, чемъ къ земледѣлію. За то лѣсъ служилъ прекрасною защитою отъ кочевниковъ; онъ для послѣдніхъ составляль всегда непреоборимую преграду».

Сягоння нам вядомы толькі два гарады на тэрыторыі старажытнай драўлянскай зямлі — Іскарасцень і Оўруч. Апошні ўзнік ужо пасля далучэння драўлянскай тэрыторыі да Кіеўскага княства. У часы ж, пра якія пойдзе гаворка, яго яшчэ не існавала. Затое Іскарасцень быў сталіцай. Там жыў князь. Прыпяць служыла драўлянам асноўным водным шляхам. Яна ж з'яўлялася своеасаблівай мяжой: драўляне жылі ў асноўным на поўдзень ад гэтай ракі, а на поўнач ад Прыпяці

рассяліліся дрыгавічы. Апошнія разам з крывічамі і радзімічамі афіцыйна на ўсіх гістарычных крыніцах праходзяць як продкі сучасных беларусаў. Драўляне ж не ўключаны ў гэты спіс, што можа выклікаць толькі непаразуменне.

Расійскі гісторык другой паловы XIX ст. М. Барса ў у сваёй «Географии Начальной лѣтописи» прыводзіць цікавыя звесткі, якія пацвярджаюць, што драўляне ўнеслі сваю лепту ў фарміраванне не толькі ўкраінскай, але і беларускай нацыі. Гістарычна можна прасачыць, як драўлянская зямля ўваходзіла ў склад то Кіеўскага княства, то Турава-Пінскага. Ды і зараз тэрыторыя, дзе жылі драўляне, падзелена паміж Беларуссю і Украінай. Значыць, кожная з гэтых краін мае права лічыць гісторыю драўлян сваёй уласнай. Беларусь нават у большай ступені. Бо ў час княгіні Вольгі і аўтаномнага існавання драўлян прадстаўнікі гэтага славянскага племені этнічна мелі больш цесныя сувязі з дрыгавічамі, чым з палянамі.

Галоўным сярод драўлян тады быў князь Мал, мужны вой, адважны чалавек. Ён меў дваіх дзяцей: сына Дабрыню, гледзячы па ўсім, старэйшага, і дачку Малушу, названую гэтак у гонар бацькі.

Дзеці былі яшчэ вельмі малыя, калі адбыліся падзеі, якія так моцна паўплывалі на іх лёс. Па загаду Мала быў забіты кіеўскі князь Ігар, які выклікаў вялікае нездавальненне ў драўлян сваёй прагнасцю пры зборы ў гэтых мясцінах даніны: атрымаўшы яе аднойчы, ён з паўдарогі да Кіева вярнуўся, каб сабраць даніну другі раз. Прагнага Ігара па загаду Мала прывязалі нагамі да двух сагнутых да зямлі дрэў. І калі іх адпусцілі, цела князя было разарвана надвае.

З пункту гледжання драўлян дзеянні Мала былі справядлівымі, бо абараняў ён інтарэсы свайго народа. Але пасля князь дапусціў тую памылку, якая каштавала жыцця яму і тысячам падданых.

Мал, на той час удавец, вырашыў ажаніцца з удавой Ігара, маладзенькай княгіняй Вольгай, і такім чынам «прыбраць да рук» Кіеў.

Але Вольга аказалася не такой ужо безабароннай, як здавалася. Найперш яна жорстка расправілася са сватамі драўлянскага князя, а потым павяла княжацкую дружыну на Іскарасцень. У бітве драўляне былі разбіты. Драўлянскі стольны горад спалены. Жыхары яго часткова загінулі, часткова былі ўзяты ў палон. Князь Мал разам з іншымі найбольш знатнымі іскарасценцамі быў кінуты ў поруб, дзе і скончыў сваё жыццё. Летапісы захавалі для нас вобраз Вольгі-фурыі, якая вынаходзіла бязмежную колькасць вытанчаных катаванняў для сваіх ворагаў. Але сучасныя гісторыкі не надаюць вялікай веры гэтым радкам, справядліва лічачы іх больш фальклорнымі, чым гістарычнымі.

Доказам вышэйсказанага можа быць гістарычны факт: калі да ўдавы Ігара воіны прывялі дзяцей яе ворага Мала, яна выказала жаданне ўзяць іх да сябе на выхаванне. Значыць, Вольга зусім не была забойцай-садысткай. І помсціла за гібель свайго мужа толькі таму, што такім быў яе абавязак. Можна з вялікай верагоднасцю сцвярджаць, што калі б у Ігара быў дарослы сын, то не Вольга вяла б войскі на Іскарасцень. Святаслаў жа, сын Ігара і Вольгі, быў па тых часах яшчэ хлопчыкам, Сучасны ўкраінскі даследчык У. М. Рычка, услед за вучоным М. Ю. Брайчэўскім, лічыць, што ў год Вольгінай помсты, 946, яму было 8-10 гадоў. Іншыя гісторыкі, ведаючы дакладна гады праўлення Кіевам Вольгай у якасці рэгенткі пры непаўналетнім сыне — 945-957 гг.,— вызначаюць, што Святаслаў быў чатырохгадовым. Гэта падобна на праўду. Летапіс апавядае, як маленькі княжыч па волі маці даў знак пачынаць бітву пад Іскарасценем. Ён кінуў у бок ворагаў дадзенае яму Вольгай кап'ё. Сілы, праўда, у хлопчыка было яшчэ вельмі мала, і таму кап'ё, праляцеўшы між вушамі яго каня, ударыла таму па назе. Убачыўшы гэта, ваявода Свенельд гукнуў: «Князь пачаў ужо! Ударым, воі, услед за князем!»

Сын Мала, Дабрыня, быў ненамнога старэйшы за Святаслава, а Малуша, верагодна, адных з ім гадоў. Убачыўшы ні ў чым невінаватых дзяцей, Вольга, як і любая жанчына-маці, не магла не пашкадаваць іх. Так дзеці Мала трапілі з палаючага Іскарасценя ў пышны палац кіеўскай княгіні.

На якім становішчы жылі яны там? Гісторыкі спрачаюцца наконт гэтага. Адным хочацца бачыць усё толькі ў ружовых танах, другія шукаюць доказы таго, што Вольга рабіла ўсё магчымае, каб выхаваць з дзяцей свайго ворага паслухмяных рабоў. З абедзвюма тэорыямі таксама можна спрачацца. Вядома, што з часам Дабрыня стаў прыбліжаным дружыннікам Святаслава, а Малуша — ключніцай (г. зн. аканомкай) самой Вольгі. Пасады, як бачым, не рабскія. Але, калі разабрацца, усё ж не зусім падыходзячыя для дзяцей князя.

З гэтай нагоды мы можам толькі меркаваць, што да дзяцей Мала ў палацы Вольгі адносіліся ўвогуле няблага. Яны выхоўваліся побач з маленькім князем, пэўна прымалі ўдзел у яго дзіцячых гульнях. Паміж Святаславам і Дабрыняй завязалася шчырае сяброўства. А ў адзін цудоўны дзень юны князь убачыў у Малушы ўжо не нязграбнае дзяўчо, а прывабную маладую жанчыну.

Матэрыялы археалагічных даследаванняў старажытнага Кіева даюць нам магчымасць уявіць, якім было жытло княгіні Вольгі. Пышна ўпрыгожаны мармуровымі калонамі, аздоблены фрэскамі і малахітавымі плітамі палац быў вельмі падобны на залатую клетку, у якой

трымалі лясную птушку, народжаную для таго, каб спяваць на волі. Такой птушкай была юная Малуша, жывая цацка сваёй гаспадыні. Але ці памятала яна сваё ранейшае жыццё? Пэўна, не. Затое нічога не забыў Дабрыня. Ён, трэба думаць, па-юнацку балюча перажываў сваё становішча і немагчымасць адпомсціць за смерць бацькі. Іскарасцень быў зруйнаваны настолькі, што не было нават спадзяванняў калі-небудзь аднавіць яго. Вольга, не прымаючы дарэмна граху на душу, усё зрабіла так, каб драўлянская княжацкая дынастыя не змагла ўжо адрадзіцца. Але калі Дабрыня заўважыў цікавасць Святаслава да сястры, ён хутка зразумеў, што не ўсё яшчэ страчана. Бо калі б удалося ажаніць князя з Малушай, то іх спадчыннік быў бы прамым нашчадкам Мала і яго зямлі. Дабрыня падзяліўся сваімі думкамі з сястрой, і, трэба думаць, яна падтрымала яго план, таму што ўжо кахала прыгожага і мужнага сына Вольгі.

Святаслаў жа рос не пестуном, а сапраўдным воінам. Яго мала цікавілі хатнія справы. Ён аддаваў перавагу чыста мужчынскім заняткам. Летапісцы расказваюць пра тое, як дзяліў ён усе цяжкасці паходнага жыцця са сваімі дружыннікамі, якім быў прыстасаваным да прыродных умоў і нястомным у час бітваў. Жанчыны і ў юнацтве, і пасля цікавілі Святаслава даволі мала. Але гэта не датычыла Малушы, каханню да якой ён застаўся верным на ўсё жыццё. Чым жа ўдалося прываражыць палескай дзяўчыне гэтага суровага воіна? Для нас гэта застаецца таямніцай, бо, акрамя скупых летапісных радкоў, ні па чым не можам мы зараз аднавіць для сябе гісторыю гэтага кахання.

Безумоўна, Святаслаў, як і любы мужчына, быў здольны ацаніць прыгажосць не толькі зброі ды коней. Такі вывад можна зрабіць па пэўнаму запісу з летапісу. У адным са сваіх паходаў Святаслаў паланіў юную грачанку-манашку незвычайнай прыгажосці. Ён вязе яе, як самы каштоўны падарунак, у Кіеў, свайму старэйшаму сыну.

Але, пэўна, не толькі прыгажосць Малушы прыцягнула да яе Святаслава. Уяўляецца, што галоўным тут быў моцны, рашучы характар сястры Дабрыні. Менавіта гэтыя рысы больш за ўсё паважаў у людзях малады кіеўскі князь.

Вольга не магла, безумоўна, не заўважыць гэткай прыхільнасці свайго сына да ключніцы. А прымаючы пад увагу характар Вольгі, можна смела сцвярджаць, што перспектыва шлюбу Святаслава і Малушы не магла задаволіць княгіню. Таму Вольга спяшаецца найхутчэй ажаніць сына, пакуль яна яшчэ рэгентка пры ім.

Аўтары кнігі «Русская история» І. А. Заічкін і І. М. Пачкаеў называюць імя нявесты, абранай Вольгай,— княжна Ільдзіка, дачка венгерскага князя Такшоня.

Гэтыя ж аўтары, насуперак іншым, сцвярджаюць, што яшчэ да гэтай жаніцьбы ў Святаслава і Малушы нарадзіўся сын Уладзімір. Але, мяркуючы па ўсім, яны памыляюцца. Бо цэлы шэраг іншых крыніц сведчыць на карысць таго, што Уладзімір нарадзіўся значна пазней за іншых Святаслававых сыноў. І значыць, нягледзячы на нездаволенасць Вольгі, Святаслаў, як толькі набыў поўную ўладу, зноў наблізіў да сябе Малушу. Каб не дражніць дарэмна маці, ён не ўзаконіў свае адносіны з каханай (прыгадаем, што ў дахрысціянскі час князь мог мець некалькі жонак). Таму сын Малушы і Святаслава, Уладзімір, нарадзіўся пазашлюбным. Тым не менш Святаслаў афіцыйна прызнаў яго і даверыў выхаванне маленькага Уладзіміра яго дзядзьку Дабрыні.

І. А. Заічкін і І. М. Пачкаеў таксама сцвярджаюць, што асцярожнасць Святаслава ў яго адносінах да Малушы не дапамагла маладой жанчыне. Вольга быццам бы выслала яе з Кіева ў далёкае сяло Будуцін на рацэ Рось.

Украінскія ж даследчыкі І. Крып'якевіч, М. Грушніцкі і іншыя, наадварот, даказваюць, што Вольгу не толькі задаволіла становішча спраў, але і ў далейшым яна яшчэ больш прыблізіла да сябе Малушу, якая з часам стала першай дарадчыцай і любімай сяброўкай старой княгіні.

Дзве палярныя гіпотэзы. Якой жа верыць? Возьмем за апору так званую «залатую сярэдзіну». Мяркуючы па ўсім, Вольгу сапраўды непакоіла толькі магчымасць таго, што Малуша стане княгіняй. Прычыніць жа зло каханай Святаслава пасля таго, як ён стаў паўналетнім, яна не магла — сын не даў бы пакрыўдзіць Малушу. Але і асаблівай прыхільнасці да сваёй ключніцы ў Вольгі ўзнікнуць проста не магло. Значыць, хутчэй за ўсё, дзякуючы маўклівай згодзе паміж маці і сынам, Малуша засталася ў сваім ранейшым становішчы.

Тым не менш Дабрыні і Малушы ўдалася першая частка іх плана — нашчадак Мала мог зараз прэтэндаваць на княства. Цяпер трэба было толькі падрыхтаваць яму гэтае княства. Безумоўна, Дабрыня хацеў, каб Уладзімір атрымаў пад сваю ўладу драўлянскія землі дзеда.

Пачатак выканання другой часткі Дабрыневага плана можна ўбачыць у тым, як неўзабаве Святаслаў, які звычайна вельмі мала цікавіўся справамі свайго княства і з большай ахвотай прысвячаў сябе заморскім паходам, пачынае будаўніцтва ў драўлянскай зямлі горада Оўруча. Паводле яго планаў, у далейшым Оўруч павінен быў выконваць тыя ж функцыі, якія выконваў знішчаны Вольгай Іскарасцень.

Тым не менш не Уладзіміру давялося княжыць у Оўручы. Гэтаму паспрыялі наўгародцы, людзі хітрыя і разважлівыя.

Ноўгарад, паводле сведчання расійскага гісторыка М. Хітрова, ніколі не мог існаваць без князя, выбар якога, аднак, цалкам залежаў ад самога Ноўгарада. Навязаць князя супраць волі народа было нельга, інакш у Ноўгарадзе не прымуць яго. Але калі князь, абраны і прыняты Ноўгарадам, палюбіцца яму, ён смела можа разлічваць на вернасць і адданасць гараджан.

І вось аднаго разу дэлегацыя наўгародцаў рушыла да Святаслава ў Кіеў патрабаваць сабе князя. Ведаючы іх «дрэнны характар», Святаслаў здзівіўся: «Ды хто ж да вас пойдзе?» Яшчэ большае здзіўленне выклікаў адказ: Ноўгарад жадае князем малалетняга Уладзіміра.

Параіўшыся з Дабрыняй, Святаслаў вырашыў, урэшце, што для пачатку гэта прапанова зусім нядрэнная для княжыча. Так маленькі Уладзімір стаў наўгародскім князем. І здаецца, асаблівых канфліктаў з падданымі ў яго не было. Кіраваць наўгародцамі дапамагалі яму разумныя парады дзядзькі, які паехаў у Ноўгарад разам са сваім пляменнікам-выхаванцам, каб стаць яго правай рукой і апорай, яго ваяводам.

Мэтанакіраванаму Дабрыні ўдалося выхаваць з сына сваёй сястры моцнага князя. Не без Дабрыневай парады, пэўна, Уладзімір ажаніўся ў шаснаццаць гадоў са скандынаўкай Аловай. Гэта быў выгадны шлюб, бо пасля яго Уладзімір мог разлічваць на дапамогу скандынаваў. Дабрыня ж стаў і натхняльнікам Уладзіміра ў барацьбе за кіеўскі прастол, які пасля смерці Святаслава перайшоў да яго старэйшага сына Яраполка. Яшчэ адзін прэтэндэнт, сярэдні Святаславаў сын Алег (дарэчы, менавіта ён атрымаў Оўруч), быў забіты Яраполкам. Зразумеўшы, што з гэтай смерцю шанцы Уладзіміра на кіеўскі прастол узраслі, Дабрыня раіць яму яшчэ адзін шлюб, з дачкой полацкага князя Рагнедай. А калі задума не ўдаецца, вядзе разам са сваім выхаванцам змешанае войска наўгародцаў і варагаў спачатку на Полацк, а пасля на Кіеў.

Так Дабрыня дапамагае Уладзіміру стаць вялікім князем кіеўскім, і гэтым вяртае роду Мала яго славу. Ці дажыла да гэтага Малуша? Звесткі аб ёй мы страчваем яшчэ да прызыву Уладзіміра наўгародцамі.

«Аповесць мінулых гадоў» прыгадвае, што падчас сватаўства Уладзіміра да Рагнеды ён атрымаў ад мяркуемай нявесты страшэнную абразу. Сынам рабыні назвала Уладзіміра Рагнеда. За гэтыя словы быў спалены Полацк і забіта ўся княжацкая сям'я. За іх давялося расплачвацца ўсім сваім жыццём Рагнедзе. Думаецца, што такая жорсткая адплата не магла б настаць проста за абразу жанчыны жанчынай. Але была б правамоцнай, калі б абразілі памяць аб горача

любімым і страчаным чалавеку. Значыць, можна дапусціць, што на той час Малушы ўжо не было ў жывых.

Завяршаючы аповед пра драўлянскую князёўну Малушу, нельга не прыгадаць гіпотэзу, якая існуе і да гэтага часу паралельна з прыведзенай намі. Некаторыя даследчыкі, напрыклад Б. Рыбакоў, І. Крып'якевіч, В. Каргалаў, лічаць Малушу не дачкой князя Мала Драўлянскага, а дачкой нейкага Малка Любчаніна.

Яны будуюць свае довады на аснове адной ускоснай фразы з Лаўрэнцьеўскага спіса «Аповесці мінулых гадоў». З аднаго боку, спрачацца з летапісцам — невысакародная справа, а з другога — у такой сітуацыі трэба ўсё ж такі разабрацца. Калі легендарны Нестар, манах, якому прыпісваецца стварэнне «Аповесці мінулых гадоў», меў рацыю сцвярджаць, што паходжанне Малушы — не драўлянскае, то мы маем права сказаць, што Малуша — не княжацкага роду. У іншым выпадку імя яе бацькі было б — Мал Чарнігаўскі. (Любеч уваходзіў у склад гэтага княства.) Малк Любчанін можа быць імем гараджаніна, баярына альбо селяніна. Як жа дачка гэтага чалавека магла трапіць у ключніцы да кіеўскай княгіні? Калі зноў жа ўспомніць выказаную Рагнедай у адносінах да памяці Малушы пагарду, трэба думаць, што «рабыня» Малуша магла быць толькі захопленай у якасці ваеннай здабычы. Але ж нам невядомы на гэты час ніводзін паход кіеўлян супраць чарнігаўцаў.

З другога боку, трэба ўлічыць таксама і той факт, што Нестар, працуючы над сваім творам, выконваў своеасаблівы «сацыяльны заказ» кіеўскіх князёў, якім было пажадана даказаць, што іх паходжанне — самае высакароднае. З гэтай мэтай Нестар амаль з першых старонак «Аповесці мінулых гадоў» пачынае весці «прапалянскую палітыку». Паляне размалёўваюцца ім як рахманыя, набожныя, добрапрыстойныя людзі, якія шануюць законы чалавечай маралі. Іншыя плямёны (у першую чаргу драўляне) наказаны дзікунскімі, адсталымі, варварскімі наўмысна, каб гэтак апраўдаць захоп кіеўскімі князямі іх тэрыторыі.

І безумоўна, пасля ўсяго гэтага ўжо становіцца палітычна нявыгадным называць маці Уладзіміра драўлянкай. І ёй прыдумваюць больш «прыстойнае» паходжанне.

Тым не менш шэраг даследчыкаў у сваіх работах ужо адкрыта пішуць пра памылку ў кіеўскіх летапісах. Сярод іх і наш зямляк К. Тарасаў, і расіянін Г. Філіст, і аўтарка цікавейшай кнігі пра былінных волатаў Т. Ліхаталь.

## РАГНЕДА І СЛАВУТАЯ І… НЕВЯДОМАЯ І

### РАГНЕДА
### (960(?) — 1000 гг.)

Дзеці былі. Унукі былі.
Ды праз агонь і беды
Не яго, а яе зямлю берaглі —
Зямлю Рагнеды!

*В. Іпатава. «Рагнеда»*

Пэўна, гэта складае нейкую асаблівасць славянскай душы: выразна падзяляючы ўласную гісторыю на два перыяды, легендарны і навуковы, на мяжы іх, у сівой даўніне, прывабным цёплым святлом павагі і захаплення вылучаць жаночую постаць. Яна звычайна знаходзіцца так далёка ў мінулым, што ўсе сабраныя пакрысе даныя пра яе цяжка падзяліць на гістарычныя факты і легенды, якімі аплялі за шмат стагоддзяў яе імя людзі. Магчыма, спрадвечнае язычніцкае шанаванне маці-прарадзіцельніцы прымусіла кожны славянскі народ каранаваць сваёй любоўю жанчыну, што жыла ў далёкім мінулым, каб было ад каго весці свой радавод.

У палякаў гэта каралева Ванда, якая адмовілася выйсці за ворага свайго народа і скінулася са сцяны асаджанага горада, каб не трапіць да яго ў палон; у чэхаў — княгіня Лібушэ, якой удалося аб'яднаць Чэхію ў адзіную дзяржаву; у рускіх — княгіня Вольга. У беларусаў жа – Рагнеда…

Мабыць, няма зараз нікога на Беларусі, каму б было невядомае гэта імя. Многія з нас змогуць расказаць шмат чаго пра яе лёс, прыгаданы яшчэ ў старадаўнія часы самаадданым манахам, аўтарам «Аповесці мінулых гадоў». Але ці будуць апавяданні гэтыя аднолькавымі? Толькі ў агульных рысах. Бо ўсё ж веды нашы пра Рагнеду ў большай ступені абмяжоўваюцца двума ў чымсьці супярэчлівымі запісамі з Іпацьеўскага і Лаўрэнцьеўскага спісаў «Аповесці мінулых гадоў» ды легендай, занатаванай у Цвярскім летапісе. Усё астатняе — больш ці менш удалыя гіпотэзы, пошукі ў цемры. Аўтары розных манаграфій, навуковых даследаванняў пакуль што так і не «дамовіліся» ў адносінах да Рагнеды ні пра яе паходжанне, ні пра год нараджэння, ні пра колькасць дзяцей, ні пра абставіны яе смерці. Тым больш здзіўляе сімпатыя ўсіх без выключэння нашых айчынных даследчыкаў да асобы полацкай князёўны, імкненне бачыць ва ўсіх яе ўчынках патрыятычны пачатак, гэткае наданне высакароднасці ўсяму, што звязана з Рагнедай. Так, менавіта такіх адносін да ідала

патрабуюць законы старажытнага язычніцкага культу прарадзіцельніцы. Але ці мэтазгодна ўсё гэта ў адносінах да гісторыі? Паспрабуем жа разабрацца, якой сапраўды была Рагнеда, абраная намі ў якасці сімвала народа.

Рагнеда была дачкой Рагвалода, першага дакладна вядомага нам полацкага князя. Акрамя Рагнеды, Рагвалод меў яшчэ двух сыноў, старэйшых па ўзросту. Але менавіта дачка была ў сям'і любіміцай. Ёй шмат што дазвалялася, і, пэўна, не часта за смелыя свае ўчынкі Рагнеда атрымлівала бацькоўскае пакаранне. Такія меркаванні прыходзяць у галаву, калі ўспамінаеш пра смелыя, не па-дзявочы дзёрзкія паводзіны юнай палачанкі ў час прыёму сватоў ад наўгародскага князя Уладзіміра.

Ні адна са старажытных крыніц не дае дакладнай даты нараджэння Рагнеды. Таму можна толькі здагадвацца, колькі гадоў было Рагнедзе тады, калі палітычныя разлікі прымусілі братоў Святаславічаў, Яраполка і Уладзіміра, прасіць яе рукі. Праўда, той жа К. Тарасаў бярэ аднекуль лічбу — 12 гадоў. Але яна вельмі няпэўная. Па-першае, дакладна вядома, што ў той жа год пасля драматычных падзей Рагнедзе давялося стаць маці. Па сцвярджэнню многіх даследчыкаў, за сем (альбо больш) гадоў сямейнага жыцця дачка Рагвалода нарадзіла шэсць дзяцей. Безумоўна, у адносінах да маладога арганізма дзяўчынкі (нават не падлетка), такія раннія і такія частыя роды не маглі не прывесці да хуткай смерці. На Русі добра ведалі пра гэта. І нават калі дынастычныя праблемы прымушалі заключаць шлюбы з непаўналетнімі дзяўчынкамі, мужы цярпліва чакалі часу палавой сталасці ў жонак. Улічваючы ўсё гэта, можна сцвярджаць, што падчас сватаўства братоў Святаславічаў Рагнеда была ўсё ж паўналетняй.

Легенда сцвярджае, што полацкая князёўна славілася сваёй прыгажосцю. Не будзем скептычнымі ў адносінах да гэтага сведчання. Тым больш што многія крыніцы адзначаюць, што полацкі княжацкі дом заўсёды ганарыўся красою сваіх жанчын. Ефрасіння Полацкая, яе сёстры Гардзіслава і Звеніслава, князёўна Аляксандра, якая стала жонкай Аляксандра Неўскага, калі верыць летапісцам, таксама былі вельмі прыгожымі.

Тым не менш не столькі прыгажосць Рагнеды, колькі палітычныя выгоды шлюбу з ёй прыцягнулі ў Полацк сватоў з Кіева і Ноўгарада. Браты Святаславічы не адрозніваліся шчырымі сваяцкімі пачуццямі адзін да аднаго. Таму ў сваёй барацьбе за ўладу шукалі моцнага саюзніка. Позірк іх амаль адначасова ўпаў на Полацк.

Першымі з'явіліся сваты Яраполка Кіеўскага. Ён быў старэйшым сынам Святаслава Ігаравіча і, як здалося Рагвалоду, меў больш тры-

валую ўладу. Мець зяцем князя Кіеўскага — шмат хто з іншых князёў палічыў бы гэта за вялікі гонар для сябе.

Таму, нягледзячы на тое што малады Яраполк мог узяць Рагнеду толькі другой жонкай, бо першай была прыгажуня грачанка, палонная манашка, у Полацку яму адказалі згодай. Муж знатны, малады і прыгожы, да таго ж ухвалены бацькамі,— аб гэтым магла толькі марыць любая на месцы Рагнеды.

Але ледзь толькі паспелі сваты Яраполка пакінуць Рагвалодаў палац, як з'явілася другая дэлегацыя, на чале з грозным сівым ваяводам Дабрыняй, дзядзькам, апекуном і выхавальнікам Уладзіміра, князя Наўгародскага. Усе ведалі яго як вельмі жорсткага чалавека, які зрабіў свайго выхаванца гэткім жа.

Больш таго, Рагнеда не магла не ведаць і аб тым, аб чым гаварылі ўсе: што Уладзімір — сын незаконнай жонкі князя Святаслава і Вольгінай паланянкі Малушы.

Ганарыстая, няўрымслівая натура полацкай князёўны ўспыхнула ад адной толькі думкі пра тое, што сын «рабыні» адважыўся пасватацца да яе.

Безумоўна, юная Рагнеда не мела ніякага ўяўлення аб дыпламатыі. Таму, адкінуўшы ўсялякія хітрыкі, проста заявіла: «Не хачу разуці рабычыча, а за Яраполка хачу». Абраза была публічнай і недаравальнай. І ўжо ніякія спробы з боку родных Рагнеды выправіць становішча не маглі. Тым больш што са слоў Рагнеды хітры і помслівы Дабрыня зразумеў: Полацк абраў сабе саюзніка, і гэта не Уладзімір.

Вярнуўшыся ў Ноўгарад, ваявода пачынае падбухторваць маладога князя адплаціць за крыўду. Уладзімір вядзе войскі на Полацк і захоплівае яго. Уся княжацкая сям'я гіне. А Рагнеду, па парадзе таго ж Дабрыні, Уладзімір насільна бярэ сабе за жонку. Калі верыць Лаўрэнцьеўскаму летапісу, Уладзімір згвалціў Рагнеду прама на вачах яе бацькоў.

Пакінуўшы Полацк у агні і крыві, Уладзімір вяртаецца ў Ноўгарад, дзе ў княжацкім палацы чакае мужа першая жонка, скандынаўка Алова. Уладзімір прадстаўляе Рагнеду ўсім як сваю новую жонку Гарыславу. Такое красамоўнае імя ён абірае ёй, відаць, для таго, каб яно было сугучным Рагнедзінаму лёсу. Магчыма, гэта сведчыць і аб пазнейшым шкадаванні маладога Уладзіміра за свой учынак у адносінах да полацкай князёўны.

Пасля гэтых усіх падзей Уладзімір вядзе свае войскі на Кіеў. Ён забівае Яраполка, бярэ чарговай жонкай яго «грачанку» і становіцца Кіеўскім князем. Разам з жонкамі і наложніцамі Уладзіміра трапляе ў Кіеў і Рагнеда.

Год, калі адбываліся ўсе вышэйпамянёныя падзеі, у летапісах адзначаны як 980. Але гісторыкі падлічылі, што на самай справе гэта было не пазней 976 г. Такая дата ўсплыла дзякуючы дакладна вядомым гадам жыцця другога сына Рагнеды, Яраслава Мудрага. Гэты ж 976 г. можна лічыць годам нараджэння першынца Рагнеды, Ізяслава.

Хутка Уладзіміру, «гарэм» якога, суразмерна яго высокаму велікакняжацкаму становішчу, расце «не па днях, а па гадзінах», становіцца ясна, што пакуль усе гэтыя шматлікія жанчыны знаходзяцца ў яго палацы, спакою ў ім не будзе.

Як і ў любым сералі, на жаночай палове княжацкага палаца пачаліся інтрыгі, рэўнасць, спрэчкі, якія даходзілі літаральна да боек. Каб скончыць усё гэта, Уладзімір будуе ў навакольных вёсках дамы для кожнай са сваіх жанчын. Мяркуючы па ўсім, перасяленне Уладзіміравых жонак з Кіева адбылося не раней 977 г. Такі вывад можна зрабіць па тым, што ў Рагнеды на той час ужо было другое дзіця, дачка Прадслава, і вёсцы, у якой пасялілі Рагнеду, Уладзімір даў новае імя — Прадславіна.

Навукоўцаў вельмі цікавіць, якія адносіны былі ў гэты перыяд паміж Рагнедай і Уладзімірам. Ва ўсякім разе, мяркуючы па тым, што Рагнеда амаль штогод дарыла Уладзіміру па дзіцяці, абвінавачваць мужа ў няўвазе, раўнаваць да іншых жонак у яе не было падстаў. Прыгадаем у сувязі з гэтым, што да 988 г., да вядомага яе замаху на жыццё Уладзіміра, Рагнеда нарадзіла яму яшчэ сыноў Яраслава, Мсціслава і Усевалада, дачку Праміславу. Значыць, жорсткі князь цягнуўся да полацкай князёўны больш, чым да іншых. І безумоўна, тут ніяк не вытрымлівае канцэпцыя вядомага рускага гісторыка В. Тацішчава, які расцэньвае замах на жыццё мужа з боку Рагнеды як звычайнае праяўленне рэўнасці. Але не трэба, відаць, паддавацца ілюзіі і наконт доўга выношваемага Рагнедай плана забойства Уладзіміра як помсты за смерць сваёй сям'і. У перыяд з 976 па 988 г. у гэтай жанчыны, пэўна, было шмат магчымасцей ажыццявіць сваю помсту. Але яна іх не выкарыстала. Што гэта? Адкуль такая пакорлівасць? А можа, наадварот? Бачачы сваю яўную перавагу перад іншымі жонкамі Уладзіміра, Рагнеда дзесьці ў глыбіні душы знаходзіць апраўданне яго апошнім учынкам. Таму, хутчэй за ўсё, Рагнеда, жывучы ў пашане, на правах любімай жонкі, ніколі да 988 г. не думала аб помсце Уладзіміру.

988 г. з'явіўся для жанчыны ракавым. Уладзімір вырашыў прыняць хрысціянства і заключыць шлюб з візантыйскай царэўнай Ганнай. Гэта азначала, што з «гарэмам» трэба расстацца. Уладзімір, не адмаўляючыся ад дзяцей, прапанаваў жонкам развод і новае замуж-

жа. Пакорлівыя волі ўладнага мужа, жанчыны не маглі запярэчыць яму. Але не такой была Рагнеда. Цвярскі летапіс апавядае пра тое, як сустрэла прапанову Уладзіміра гордая княгіня. «Княгіняй была, не хачу быць рабыняй»,— гэтыя словы як мага лепш сведчаць аб выключным становішчы Рагнеды сярод іншых жонак Уладзіміра. Летапіс расказвае таксама, што размова мужа і жонкі быццам бы праходзіла ў прысутнасці маленькага княжыча Яраслава, які быў хворы ад нараджэння (у яго былі паралізаваныя ногі), і яна так уразіла хлопчыка, што ён устаў з крэсла і кінуўся ў абдымкі да маці. З тых часоў ён пачаў хадзіць.

Усё вышэйсказанае магло адбыцца толькі ў Прадславіна, куды князь спецыяльна прыехаў, каб па магчымасці палюбоўна расстацца з Рагнедай. Дзеля іншых жонак ён, мабыць, так не стараўся. Ім былі пасланы наказы князя праз ганцоў.

Уладзімір застаўся начаваць у Прадславіна. І тады крыўда, нанесеная Рагнедзе Уладзімірам, уклала ў яе рукі кінжал. На сваё шчасце, Уладзімір прачнуўся раней, перш чым нож паспеў упіцца яму ў грудзі, і адвёў удар.

Калі верыць Лаўрэнцьеўскаму летапісу, князь са здзіўленнем спытаўся, што паслужыла прычынай такога ўчынку Рагнеды. На гэта яна адказала, успомніўшы, безумоўна, усе грахі Уладзіміра. І першым — забойства яе родных: «Ты бацьку майго забіў і зямлю яго паланіў дзеля мяне, а цяпер не любіш мяне». Калі многім з айчынных гісторыкаў удалося ўгледзець у гэтых словах больш патрыятычнага сэнсу, чым асабістай жаночай крыўды, то нам, перш-наперш, усё бачыцца зусім у іншым святле. Здаецца, што ўспомніць пра Полацк, пра бацькоў і братоў яе прымусіла менавіта здрада чалавека, у пачуццях якога яна не сумнявалася. Але ці нам судзіць учынак Рагнеды? Тым больш з сучасных пазіцый. Вельмі жорсткім быў свет, у якім жыла жанчына. І гэта не магло не паўплываць на фарміраванне яе характару, яе светапогляду. І ўсё ж Рагнеда не была дачкой толькі сваёй эпохі. Яна значна апярэдзіла ў развіцці самасвядомасці сваіх сучасніц. Таму яе і запомнілі, таму яе ўчынак і выклікаў здзіўленне і захапленне ў летапісцаў. Была б Рагнеда іншай, летапісы б нічога не сказалі нам пра яе.

Незвычайнае па тым часе здарэнне, калі жонка не толькі запярэчыла мужу, але і ўзняла на яго руку, уразіла ўсіх. У гневе Уладзімір вырашыў расправіцца з непакорнай. Ён загадаў Рагнедзе апрануцца па-святочнаму і чакаць смерці. (Пакаранне смерцю жонкі за такі ўчынак было ў тыя часы не толькі правам, але і абавязкам мужчыны.) Рагнеда так і зрабіла. Але ў апошні момант на вочы ёй трапіўся старэйшы сын Ізяслаў. Тады нешта падказала ёй шлях да выратавання.

Рагнеда дае маленькаму Ізяславу ў рукі меч і загадвае ўстаць з ім на шляху раз'юшанага бацькі. І калі ў апачывальні з'яўляецца Уладзімір, хлопчык ідзе яму насустрач са словамі: «Не думай, бацька, што ты тут адзін».

Невядома, якой была рэакцыя кіеўскага князя на гэты даволі дзіўны эпізод. Ці то ён рассмяяўся, калі заўважыў велізарную неадпаведнасць паміж памерамі хлопчыка і мяча, што ён ледзь трымаў у руках. Ці то ў думках яшчэ раз здзівіўся розуму сваёй жонкі. А магчыма, у сэрцы яго ўзнік незразумелы страх перад уласным сынам, які, у выпадку гібелі Рагнеды ад рук Уладзіміра, ніколі не даруе гэтага бацьку і не спыніцца перад помстай. Ва ўсякім разе першапачатковае рашэнне пакараць Рагнеду смерцю змянілася іншым. Уладзімір раіцца з баярамі, якія прапануюць яму не забіваць Рагнеду, а выслаць мяцежную жонку як мага далей ад Кіева, пажадана разам з ваўчонкам Ізяславам. Уладзімір надумвае аддаць гэтаму свайму сыну ў княжанне горад продкаў яго маці — Полацк. Але пазней. Пакуль жа Ізяслаў непаўналетні, няхай ён жыве з Рагнедай у ціхім гарадку, пабудаваным спецыяльна для гэтай мэты пад Менскам — Ізяслаўлі. Гэтак, цудам захаваўшы жыццё, Рагнеда трапляе ў маленькі Ізяслаўль, які нам вядомы больш, як Заслаўе.

Гісторыкі і дагэтуль спрачаюцца пра тое, на якім становішчы даводзілася жыць Рагнедзе ў Ізяслаўлі. У. Ігнатоўскі, напрыклад, лічыць, што ў гэтым невялічкім мястэчку Рагнеда адчувала сябе гаспадыняй. М. Ермаловіч таксама схіляецца да такой думкі, гаворачы нават больш: «Новазбудаваны Ізяслаўль хутчэй за ўсё стаў уладаннем Рагнеды (некаторыя даследчыкі лічаць яго першым «феадальным уладаннем ва Усходняй Еўропе)». А вось К. Тарасаў, наадварот, у сваёй кнізе «Памяць пра легенды» ўпэўнена гаворыць пра бяспраўнае становішча Рагнеды ў Ізяслаўлі, насільнае пастрыжэнне ў манашкі, фактычнае заключэнне яе ў манастыр без права бачыцца з сынам і потым магчымае атручванне абодвух. Але давайце яшчэ раз звернемся да летапісу. У ім няма ніякіх намёкаў на тое, пра што піша К. Тарасаў. Наадварот, у Лаўрэнцьеўскім летапісе, дзе найбольш падрабязна апісана гісторыя Рагнеды, гаворыцца: «І апусціў ён (Уладзімір.— Аўт.) свой меч, склікаў баяр і расказаў ім. Яны ж параілі яму: «Не забівай яе дзеля гэтага дзіцяці (Ізяслава.— Аўт.), а аднаві яе бацькаўшчыну і дай ёй са сваім сынам. І пабудаваў Уладзімір горад, аддаў яго ім і назваў гэты горад Ізяслаўлем. І з таго часу меч узнімаюць Рагвалодавы ўнукі супраць Яраслававых унукаў».

Відавочна, што гутарка тут ідзе хутчэй за ўсё менавіта пра ганаровую ссылку жанчыны, якая сваім учынкам моцна пакрыўдзіла

жорсткага кіеўскага князя і заслугоўвала за гэта пакаранне смерцю. Але Уладзімір не зрабіў гэтага, відаць, таму, што ён, калі і не любіў, дык вельмі паважаў гордую палачанку. Аб міжвольнай павазе Рагнеды Уладзімірам гаворыць і тое, як паклапаціўся ён аб яе сынах. Ізяславу ў княжанне ён аддаў Полацк, Яраславу — Ноўгарад, Мсціславу — Цьмутаракань, Усеваладу — Уладзімір Валынскі.

Дакладна вядома, што ў тым жа годзе, калі была саслана ў Ізяслаўль Рагнеда, Уладзімір прымае хрост і жэніцца на царэўне Ганне. Яна становіцца яго жонкай, упэўненая, што Уладзімір ужо разабраўся са сваім «гарэмам». Але няўпэўнена адчувае сябе Уладзімір. Ганна ў любы момант можа пачуць ад кагосьці пра Рагнеду, якая адмовілася браць іншага мужа, а, значыць, па-ранейшаму фактычна застаецца жонкай Уладзіміра. Таму Уладзімір, трэба думаць, таемна ад Ганны, дасылае Дабрыню на перагаворы з Рагнедай з тым, каб яна адмовілася ад свецкага жыцця і пайшла ў манашкі. Гордая палачанка зразумела, што дрэнны вынік дадзеных перагавораў можа прычыніцца да таго, што жорсткі Уладзімір паспрабуе не то што развесціся, а проста стаць удаўцом. Выклікаў апаскі ў такім выпадку і лёс Ізяслава. Таму Рагнеда-маці вырашыла згадзіцца з прапановай Уладзіміра і хаця б фармальна прыняць пострыг. Так жанчына, што па існасці сваёй усё жыццё засталася язычніцай, увайшла ў летапісы як манашка Анастасія. Але калі была манашка, дык павінен быў бы быць і манастыр. Аднак археалагічныя раскопкі ніякіх звестак аб ім не даюць. Тым больш што манастыр не мог складацца толькі з адной чарніцы. Няўжо дзеля Рагнеды давялося пастрыгчы ў манашкі яшчэ некалькі дзесяткаў жанчын? Думаецца, што такія факты не маглі застацца па-за ўвагай летапісцаў. Але летапісы маўчаць наконт гэтага. Таму можна ўпэўнена сцвярджаць, што Рагнеда была адзінай манашкай у Ізяслаўлі. Тым не менш дадзенае становішча не перашкаджала Рагнедзе весці справы аднаўленага княства і, пэўна, малады Ізяслаў неаднойчы кіраваўся яе мудрымі парадамі.

Памерла Рагнеда ў 1000-м годзе. І ніхто дакладна не ведае, дзе яна была пахавана.

Погляд без рэтушы на любую асобу таго часу можа ў нечым расчараваць. Але для навукі, для дакладных ведаў гэта, верагодна, трэба зрабіць. А Рагнедзе мы будзем усё роўна ўдзячны. Хаця б за тое, што яна нарадзіла і выхавала сваіх сыноў не кволымі ды дробнымі князькамі, а асобамі, здольнымі рабіць вялікую гісторыю. Сярод іх першымі трэба назваць Яраслава Мудрага і Мсціслава Храбрага — асоб, імёны якіх чамусьці рэдка звязваюць з імем Рагнеды. Здзіўляе, што правы на іх беларусы яшчэ так і не прад'явілі, хаця яны — плоць і кроў Рагнедзіна.

## АШУКАНАЯ КНЯЗЁЎНА

## ПРАДСЛАВА УЛАДЗІМІРАЎНА
**(да 987 — ? гг.)**

Его ничей не тронул стон,
И крулю Польши, Болеславу,
Сестру родную отдал он
На посрамленье и забаву.

*К. Бальмонт. «Убийца Глеба и Бориса»*

Старажытныя летапісцы дзіўна няўважліва ставіліся да жанчын. Іх творы насычаны мужчынскімі імёнамі. А вось імёны прадстаўніц «прыгожага полу» сустракаюцца ў летапісах вельмі рэдка, а калі і сустракаюцца, то толькі ў сувязі з якім-небудзь неардынарным здарэннем. Прычым датычыць гэта нават дачок вялікіх князёў. Яркім прыкладам таго могуць быць радкі Радзівілаўскага летапісу: «Рогнед(ь), юже пасады на Лыбеди, есть н(ь)нѣ селце Предславино, от неяж(е) роди 4 с(ы)ны: Изяслава, Мьстислава, Ярослава, Всеволода и 2 дщери».

Вось так. Нават дачок наймагутнейшага Кіеўскага князя Уладзіміра «Красное Солнышко» не палічыў за патрэбнае назваць летапісец. Не назваў іх імёны пры пераліку дзяцей Уладзіміра і Нестар у сваёй «Аповесці мінулых гадоў». Праўда, пазней ён двойчы прыгадаў імя старэйшай — Прадславы. Сустракаецца яе імя і на старонках заходнееўрапейскіх хронік. Л во» ь й імем малодшай сяетры адбыва юцца наогул дзіўныя рэчы. Нестар называв яе Праміславаю, а польскія гісторыкі — то Мечыславаю, то Мсціславаю.

А між іншым першая з названых князёўнаў, Прадслава, была любімай дачкой князя Уладзіміра. Сведчаннем гэтага з'яўляецца той факт, што сяльцо, у якім жыла пасля высялення з Кіева Рагнеда і яе дзеці, атрымала пасля нараджэчня дзяучынкі назву Прадславіна. У гэтым жа сяльцы раслі дзеці Рагнеды пасля таго, як яна са старэйшым сынам была саслана ў Ізяслаўль. Тут, недалёка ад Кіева, прайшло іх цінства і юнацтва. Адсюль раз'ехаліся ўзмужнелыя сыны Рагнеды па розных гарадах на княжанне. Сёстры ж іх засталіся.

Абедзве дачкі Рагнеды атрымалі ў спадчыну ад маці яе незвычайную прыгажосць. Асабліва славілася ёю Прадслава. Вядома, што польскі кароль-рыцар Баляслаў Храбры закахаўся ў маладзенькую князёўну настолькі моцна, што настойліва прасіў яе рукі ў кіеўскага ўладара. Але атрымаў адмову якая вельмі пакрыўдзіла яго. Польскі храніст Марцін Галус з гэтай нагоды піша, што пазней менавіта

жаданне завалодаць Прадславай падштурхнула Баляслава на вайну з Кіевам, але гэта, вядома ж, перабольшанне.

Наогул невядома, для каго захоўваў Уладзімір найпрыгажэйшую са сваіх дачок, каго хацеў ён бачыць мужам Прадславы. Зразумела, што з такой прыгажосцю ды паходжаннем не было ніякай праблемы знайсці ёй дастойную партыю. Але — загадка гісторыі! Уладзімір так і не ўладкаваў Прадславін лёс.

Ён памёр пасля доўгай хваробы 15 ліпеня 1015 г. Кіеўскі прастол заняў яго старэйшы сын, Святаполк. Амаль адразу паміж сынамі Уладзіміра пачалася крывавая барацьба. Першым загінуў Барыс. Забойцы, якіх падаслалі да яго, перабілі і большасць отракаў, што былі з ім. Уцалеў толькі Майсей Угрын. Ён дабраўся да Кіева і звярнуўся да Прадславы. Расказаў ёй пра крывавыя падзеі. Напэўна, ён першым выказаў меркаванне аб тым, што натхняльнікам гэтага злачынства быў Святаполк. Бо пра небяспеку менавіта з яго боку вырашыла папярэдзіць князёўна свайго брата Яраслава. З гэтай мэтай яна пасылае ганца ў далёкі Ноўгарад, дзе той княжыў. У таемным лісце было толькі некалькі радкоў: «Отецъ ти умерь, а Святополкъ сѣдитъ ти Кыевѣ, убивъ Бориса, а на Глѣба посла, а блюдися его повелику». Відаць, нядрэнная «агентура» была ў князёўны, калі яна ведала аб тым, што збіраюцца забіць Глеба, і аб тым, што небяспека навісла і над іншымі братамі. Увогуле Прадслава даволі актыўна ўключылася ў барацьбу супраць Святаполка. Паводле сведчання Кіева-Пячорскага пацерыка («Жыціе св. Антонія»), яна хавала ў сваім сяльцы не толькі Майсея, але і іншых ворагаў вялікага князя.

Яраслаў жа з весткай Прадславы ў Ноўгарадзе пачаў узмоцненую падрыхтоўку да барацьбы са Святаполкам. Тым часам быў забіты князь Глеб. Яраслаў сабраў вялікае па тым часе войска. Яно складалася з трох тысяч наўгародцаў і тысячы варагаў. З гэтымі сіламі Яраслаў у 1016 г. выступіў супраць Святаполка. Той хутка даведаўся пра паход брата і пачаў збіраць сваё войска з усіх падуладных яму зямель. Да таго ж запрасіў на дапамогу печанегаў. Войскі братоўсапернікаў сустрэліся ля горада Любеча. Размясціліся яны на розных берагах Дняпра. Ні той, ні другі ніяк не адважваліся пачаць пераправу. Ішлі дзень за днём, тыдзень за тыднем, а варожыя раці так і заставаліся на сваіх месцах. Невядома, чым бы скончылася гэта супрацьстаянне, калі б не кіеўскі ваявода Воўчы Хвост. Той выехаў на кані да берага і аблаяў наўгародцаў. Выказаўся наконт таго, што яны не воіны, а цесляры, і, смеючыся, дадаў: «Вось мы прымусім вас будаваць нам харомы».

Наўгародцы моцна пакрыўдзіліся. Яны прыйшлі да свайго князя і папярэдзілі, што заўтра ж пераправяцца на той бераг. Пры гэтым прыгразілі: «...калі хто не пойдзе з намі, таго самі заб'ём». Яраслаў вымушаны быў даць згоду.

Вечарам наступнага дня пачалася пераправа. Каб ніхто не збег з поля бою, наўгародцы пасля яе заканчэння пусцілі лодкі па цячэнні. Потым ціха пастроіліся ў палкі. Апусцілася ўжо цёмная ноч. Войска Святаполка размяшчалася паміж двух азёр. А саюзнікі-печанегі стаялі лагерам на процілеглым беразе аднаго з іх. Восеньскія маразы пакрылі ваду нетрывалым яшчэ лёдам. Ноч была халодная. Магчыма з-за гэтага Святаполк са сваёю дружынай п'янстваваў. Таму яго ахова не заўважыла пераправу ворагаў і іх набліжэнне. Удар наўгародцаў быў настолькі нечаканым, што шмат хто з ваяроў Святаполка не паспеў нават узброіцца, як быў забіты. Але хутка кіеўляне апомніліся. Пачалася жорсткая сеча. Войска Святаполка змагалася адчайна, але сілы аказаліся ўжо няроўнымі. Князя з дружынай прыціснулі да берага аднаго з азёр. Яны пачалі адыходзіць па лёдзе да процілеглага берага — да печанегаў, якія стаялі там і нічым не маглі дапамагчы. Лёд, які быў яшчэ тонкі, не вытрымаў, і мноства дружыннікаў Святаполка патанула. Самому ж кіеўскаму князю пашчасціла выратавацца. Ён збег у Польшчу да свайго цесця (Святаполк быў жанаты на дачцэ Баляслава Храбрага).

Яраслаў увайшоў у Кіеў. Ён узнагародзіў ваяроў і адпусціў іх дадому. Князь быў упэўнены, што на Русі ўсталяваўся мір. Але памыліўся. Святаполк распачаў новую вайну. Ён звярнуўся за дапамогай да польскага караля Баляслава Храбрага. Той згадзіўся адпомсціць за зяця. Да таго ж марыў вярнуць чэрвеньскія землі, якія адваяваў у палякаў князь Уладзімір.

У 1018 г. Баляслаў выступіў у паход на Кіеў. У войску былі не толькі палякі. Далучыліся да яго немцы, венгры і печанегі. Сустрэча варожых ратей адбылася 22 ліпеня на памежнай рэчцы Заходні Буг. Спачатку паўтарылася тая ж сітуацыя, што і пры першай сустрэчы войск Святаполка і Яраслава. Абодва войскі стаялі на процілеглых берагах і не рашаліся пераправіцца... І зноў да пачатку рашучых дзеянняў прывяла насмешка ваяводы. Толькі на гэты раз насміхаўся ваявода Яраслава, Буды. Той аблаяў Баляслава самымі бруднымі словамі. А потым прыгразіў яму: «Вось пачакай, ужо мы праткнём кап'ём пуза тваё тоўстае!»

Баляслава гэта вельмі пакрыўдзіла. Асабліва намёк на яго паўнату. Летапісец так апісаў яго знешнасць: «...быль велик и тяжель и съ

трудомъ сидѣл на лошади, но зато былъ смышленъ». Кароль звярнуўся да свайго войска і сказаў: «Адпомсцім, або адзін загіну»,— і вярхом на кані кінуўся ў раку. Яго войска натхнілася прыкладам свайго кіраўніка і кінулася ўслед за ім. Гэта было настолькі нечакана, што войска Яраслава не паспела нават нешта зрабіць. Яно было хутка разбіта. Сам жа Яраслаў цудам выратаваўся. Паводле сведчання летапісца, з ім засталіся толькі чатыры ваяры. Разам з імі князь накіраваўся да Ноўгарада.

Палякі ж «вииде в Киев», дзе ў гэты час былі сёстры Яраслава. Баляслаў узяў іх у палон. Амаль у гэты ж дзень ён накіраваў у Ноўгарад кіеўскага епіскапа. Той паехаў да Яраслава з прапановай польскага караля абмяняць яго сясцёр на сваю дачку (жонку Святаполка), якая раней была захоплена Яраславам.

Яраслаў жа, напалоханы магутнасцю войска Баляслава, не маючы сіл і сродкаў для барацьбы, збіраўся збегчы за мора. Ён разлічваў знайсці прытулак у варагаў. Але наўгародцы не далі яму зрабіць гэтага. Наўгародскі пасаднік Касцянцін (сын Дабрыні) і яго аднадумцы пасеклі ладдзі, на якіх збіраўся збегчы іх былы князь. Яны заявілі Яраславу: «Гасудар! Мы жадаем і можам яшчэ супраціўляцца Баляславу. У цябе няма казны, вазьмі ўсё, што маем». Наўгародцы аб'явілі спецыяльны грашовы збор з усіх жыхароў Наўгародскай зямлі. На сабраныя грошы ўзброілі гарадское апалчэнне і запрасілі на дапамогу варагаў. За ўсімі гэтымі падзеямі Яраслаў ці то не зняйшоў часу, ці то не пажадаў адказваць на прапанову Баляслава.

У гэты ж час польскі кароль адпусціў дадому іншаземных наёмнікаў і частку свайго войска. Астатніх разаслаў на кармленне па розных гарадах Кіеўшчыны. Ганарыстыя палякі паводзілі сябе ў іх вельмі нахабна, што выклікала моцнае нездавальненне насельніцтва гэтых гарадоў. Святаполк, які адразу пасля захопу Кіева быў зноў абвешчаны вялікім князем і якому надакучыла апекаванне з боку цесця, загадаў знішчыць палякаў у тых гарадах, дзе яны былі размешчаны. Палякаў усюды пачалі бязлітасна забіваць. Баляслаў даведаўся пра гэта, таму спешна пакінуў Кіеў і накіраваўся на радзіму. А паколькі ад Яраслава наконт абмену ніякіх вестак не было, то ён «вѣзме имѣнье и бояры Ярославѣ и сестрѣ его...»

У хуткім часе пасля гэтых падзей наўгародцы выступілі на Кіеў. Святаполк жа накіраваўся да печанегаў. Ён прывёў адтуль велізарнае коннае войска. Бітва адбылася ў 1019 г. на беразе ракі Альты. Сеча ішла з ранку да позняга вечара. Тры разы сыходзіліся абодва войскі. Летапісец паведамляе, што такой сечы дагэтуль на Русі не было. На-

ват коп'і затупіліся, а па далінах кроў ручаямі цякла. Перад захадам сонца стала зразумела, што перамагае Яраслаў. Святаполк кінуўся ўцякаць. Ад страху ў яго «ослабели всѣ члены и кости». Ён увесь час паўтараў: «Бяжыце, бяжыце, даганяюць нас». З гэтымі словамі ён і памёр у пустынным месцы «...межю Ляхи и Чехи».

Яраслаў заняў велікакняжацкі прастол і пачаў умацоўваць дзяржаву. Але і ў гэты час ён не ўспомніў пра сваіх сясцёр. Не зрабіў ніводнай спробы вызваліць іх з няволі. Князь, якога празвалі Мудрым, быццам забыўся і пра гады далёкага дзяцінства, і пра тое, як дапамагла яму Прадслава, папярэдзіўшы яго аб небяспецы.

А лёс князёўнаў за мяжой між тым склаўся па-рознаму. Малодшую, Праміславу, узяў за жонку саюзнік Баляслава па кіеўскаму паходу венгерскі князь Ласла Лысы. Значна больш горкі лёс напаткаў старэйшую, Прадславу. Сучаснік тых падзей — нямецкі храніст Дзітмар — піша: «Адну з іх, раней жаданую, стары распуснік Баляслаў узяў ганебна» (г. зн. прымусіў быць наложніцай). Далейшыя звесткі пра князёўну, якую пакінуў на гвалт і здзекі ворагам горача любімы ёю брат, знікаюць у цемры стагоддзяў, у раўнадушнай да людскіх лёсаў плыні часу.

## АГМУНДА ЗАЛАТАКУДРАЯ

## АНАСТАСІЯ ЯРАСЛАЎНА
## (да 1024— ? гг.)

Кароткі век дзявочы, мая доня...
Адно табе магу я абяцаць:
Хоць давядзецца мужа разуваць,
Але з кален паднімешся ў кароне.
За ўсі кароны лепш мая дачка,
Што кніжнаю прамудрасцю зіхоціць...

*І. Качарга. «Яраслаў Мудры»*

Імя гэтай жанчыны, аб прыгажосці і розуме якой красамоўна сведчаць венгерскія сярэдневяковыя хронікі, гучыць амаль па-біблейску. Магчыма, такой і ўяўлялася яна сваім сучаснікам: непрыступная ў сваёй жаночай годнасці, як Сусанна, мудрая, як Эсфір, прывабная, як царыца Саўская.

Калі малады венгерскі кароль Эндрэ I урачыста абвяшчаў золатавалосую чужаземку сваёй жонкай і каралевай, гэтае імя ўжо належала ёй. Венгерскія святары абралі яго з сотняў іншых, бо гучала яно, як уздых зачараванага натоўпу. Такім уздыхам сустрэлі ў Венгрыі юную дачку кіеўскага князя Яраслава Анастасію, карані прыгажосці і розуму якой моцна трымаліся за Полацкую зямлю.

Яна атрымала сваё імя ў гонар бабкі — полацкай князёўны Рагнеды. (Анастасія — было манаскае імя апошняй.)

Старэйшая з дачок Яраслава, Анастасія, у адрозненне ад ганарыстай Лізаветы і авантурнай Ганны, мела характар філасофскі, расла кніжніцай. Яе цягнула пад манастырскія скляпенні, дзе ў цішы келейнай рыпелі пёры манахаў-перапісчыкаў. Але некаторая замкнёнасць у сабе, тым не менш, не была ўласцівая гэтай дзяўчыне, бо яна вельмі цікавілася ўсімі палітычнымі падзеямі, што абмяркоўваліся ў княжацкай грыдніцы. Князёўна ўбірала ў сябе, бы губка, усю прамудрасць бацькавай дыпламатыі, цікавілася нават сучаснай ёй стратэгіяй вядзення войнаў.

Летапісы сцвярджаюць, што Яраслаў шчыра радаваўся, калі члены яго сям'і займаліся самаадукацыяй, што ён сам «насеял книжными словесы» сэрцы блізкіх сваіх. Але, хто ведае, ці не ўзнікалі ў кіеўскага князя ў адносінах да Анастасіі пэўныя сумненні? Надта ж шмат для жанчыны яна хацела ведаць. Быццам бы не жанчынай-маці збіралася яна стаць, а галавой дзяржавы.

Тым не менш Анастасіі не было забаронена набываць новыя веды. І яна так спяшалася спасцігнуць навукі, быццам адчувала, як няшмат часу засталося ёй жыць у бацькоўскім доме.

У 1034 г. у Кіеве з'явіўся малады прыгожы венгерскі каралевіч Эндрэ са сваім братам Левентэ. Яны былі ўжо не першымі асобамі каралеўскай крыві, якія ратаваліся ад інтрыг уласных ворагаў у гасціннай сталіцы Яраслава. Хітры, спрытны кіеўскі князь у сваю чаргу ніколі не аказваў дапамогі без выгады для сябе. Ён хутка ўвайшоў у сутнасць справы венгерскіх каралевічаў і вырашыў, што можа зрабіць на іх стаўку.

Акінем жа і мы хуткім позіркам тагачасны палітычны стан Венгрыі, у якой пасля смерці караля Іштвана І пачаўся перыяд «палацавых пераваротаў». У вышэйзванага караля быў сын, але ён загінуў у 1031 г., і таму спадчыннікам аказаўся пляменнік манарха Вазул. Аднак пэўную частку феадалаў не задавальняла такое становішча, і змоўшчыкі асляпілі прэтэндэнта на карону, запрасіўшы на прастол венецыянскага дожа Петэра Арсеолу. Сыны Вазула — Эндрэ, Левентэ і Бэла — ратуючы сваё жыццё, былі вымушаны бегчы на чужыну. Двое першых апынуліся ў Кіеве, апошні — у Польшчы.

Яраслаў Мудры даў прытулак каралевічам, спадзеючыся на тое, што калі-небудзь венгры адумаюцца і пажадаюць вярнуць карону законным спадчыннікам. Амаль з першых дзён знаходжання каралевічаў у Кіеве князь звярнуў увагу Эндрэ на сваю дачку Ганну. Але прыгожы венгр выбраў Анастасію. Шлюб, аднак, з пункту гледжання Яраслава, стаў магчымым толькі ў 1046 г., калі ў Венгрыі адбыўся чарговы пераварот. Караля Петэра скінулі і заклікалі да ўлады Эндрэ. Ён вярнуўся на радзіму ў суправаджэнні юнай прыгажуні-жонкі.

Да выбару караля венгры аднесліся станоўча. Яны ўжо раней мелі адну гаспадыню-русінку — жонку князя Ласла Лысага, Рагнедзіну дачку Праміславу, і добрыя ўспаміны пра яе давалі магчымасць яе пляменніцы Анастасіі без цяжкасцей заваяваць тут народную любоў і папулярнасць.

Але не райскае бесклапотнае жыццё абяцала венгерская карона кіеўскай князёўне. У параўнанні з асветным Кіевам Венгрыя выглядала краінай дзікай, неадукаванай, варварскай. Насельніцтва яе ў тыя часы вяло паўкачавы спосаб жыцця. Паходныя шатры замянялі венграм дамы. Жытло феадалаў было крыху больш цывілізаваным — драўляныя, груба зробленыя будынкі. Драўляным быў і каралеўскі палац, у якім Эндрэ пасяліў маладую жонку. (Венгерскія каралі пачалі жыць у мураваных замках толькі ў XIV ст.) Пагалоўная непісьменнасць нават сярод свяшчэннікаў шакіравала Анастасію. Кнігі былі тут

рэдкай з'явай. Ніякай іншай, нават духоўнай, літаратуры, акрамя закону Божага на латыні, не было. Венгерская мова, якую выкарыстоўвала ўсё свецкае насельніцтва краіны, існавала толькі ў размоўным варыянце. Летапісы не вяліся. Вось калі спатрэбіліся Анастасіі ўсе набытыя ў маладыя гады веды.

Сваю асветніцкую дзейнасць у Венгрыі Анастасія-Агмунда пачала са стварэння бібліятэкі пры каралеўскім замку. Кнігі для каралевы прысылалі з Кіева. За чатырнаццаць гадоў сумеснага жыцця з мужам (Эндрэ I загінуў у 1060 г.) яна паспела заснаваць два манастыры па ўзору Кіева-Пячэрскага: у Вышаградзе і Тормаве. Гэта былі першыя мураваныя будынкі ў Венгрыі.

Есць сведчанне, што для пабудовы іх Агмунда Залатакудрая запрасіла ў Венгрыю рускіх дойлідаў.

Натхнёны на працу гэтай цудоўнай жанчынай, натарый караля, епіскап Міклаш, пачынае пісаць грандыёзную літаратурна-гістарычную працу «Дзеянні венграў». У яе пабудове бачны ўплыў Нестаравай «Аповесці мінулых гадоў». Па загаду Агмунды з улікам палітычных складанасцей таго часу ў «Дзеяннях венграў» наўмысна было зменена паходжанне караля Эндрэ I. Сцвярджалася, што Эндрэ — сын князя Ласла Лысага, гэта значыць, што ён з'яўляецца наступнікам венгерскага прастола па прамой, а не па бакавой лініі. Відаць, каралева разлічвала на тое, што «Дзеянні венграў» будуць чытаць не яе сучаснікі, а далёкія нашчадкі, і хацела тым самым замацаваць перад імі правы сваіх унукаў і праўнукаў. Агмунда адчувала, як нетрывала трымаецца на галаве яе мужа карона.

У гэты час на палітычную арэну выйшаў брат Эндрэ, Бэла. Вярнуўшыся ў Венгрыю амаль адначасова з братам, Бэла неўзабаве пачаў міжусобіцу. Рабіў замахі на ўладу Эндрэ I і скінуты венграмі карольдож Петэр. Ён двойчы, у 1051 і 1052 гг., спрабаваў з дапамогай замежных войскаў вярнуць уладу.

У такой неспакойнай абстаноўцы Эндрэ і Агмунда вырашылі заручыцца падтрымкай моцнага саюзніка. І такім ім убачыўся германскі імператар Генрых III. Дыпламатыя і абаянне залатакудрай венгерскай каралевы дапамаглі заключыць з гэтым манархам узаемавыгадны дагавор. Імператар атрымліваў Венгрыю ў якасці лена пры ўмове абараняць інтарэсы Эндрэ I. Дагавор падмацоўваўся заручынамі дзесяцігадовага сына Эндрэ і Агмунды, Шалмана, з дачкой Генрыха, Юдзіт.

Але праз чатыры гады, падчас чарговага выступлення Бэлы супраць свайго брата-караля, Эндрэ I загінуў у бітве. Бэла абвясціў сябе

яго пераемнікам. Каралева-ўдава з дзецьмі збегла да германскага імператара.

Тры гады жыла там Анастасія-Агмунда на правах беднай сваячкі. Гонар не дазваляў ёй прасіць дапамогі ў Кіева. Яна была каралевай, роўнай сваім бацькам, і лічыла, што павінна сама вярнуць страчаны прастол.

У 1063 г. памёр ганіцель Агмунды Бэла I. За прастол пачалі спрачацца яго сыны, герцагі Геза, Лампэрт і Ласла. Семнаццацігадовы Шалман, прыслухоўваючыся да парад мудрай маці, паспяшаўся ўступіць у барацьбу за ўладу. На баку Шалмана выступіў новы германскі імператар Генрых IV, брат Юдзіт. Агмунда даўно зрабіла ўсё магчымае, каб малады Генрых IV стаў сябрам яе сына.

У 1069 г. Шалман перамог герцагаў у бітве. Лампэрт збег у Польшчу, Ласла спрабаваў выпрасіць дапамогі ў братоў Агмунды ў Кіеве, але тыя толькі пасмяяліся з яго. Геза ж застаўся ў Венгрыі, каб падрыхтаваць новае выступленне супраць Шалмана. Яму гэта ўдалося.

14 сакавіка 1074 г. адбылася бітва пры Мадзьяродзе, у якой ужо Шалман быў разбіты.

Ён пакінуў краіну. Венгры атрымалі новага караля Геза I, а пасля яго смерці — Ласла I.

Шалман жа не страчваў надзеі вярнуць карону аж да 1087 г. Увесь гэты час бліжэйшым дарадчыкам яму была маці. Яна імкнулася зноў угаварыць Генрыха IV даць сваіх воінаў Шалману, але германскі імператар у гэты час быў заняты барацьбой з папам Грыгорыем VII і не мог дапамагчы свайму зяцю. Тады, успомніўшы манеру вядзення міжусобных войнаў на Русі, Агмунда параіла сыну выкарыстаць у якасці ўдарнай сілы качэўнікаў. Шалман згаварыўся з полаўцамі, якія заставаліся яму саюзнікамі да самай яго смерці.

Як і калі скончылася жыццё Агмунды Залатакудрай, венгерскай каралевы і маці венгерскага экскараля, нам невядома.

## ЧАРОЎНАЯ ДАМА СЯРЭДНЯВЕЧЧА

## ГАННА ЯРАСЛАЎНА
## (1024-1075(?) гг.)

Боже, храни на земле
Счастливых любовников!
*Ант. Ладинский. «Анна Ярославна — королева Франции»*

У бібліятэцы французскага горада Рэймса сярод калекцыі старадаўніх кніг ды рукапісаў з вялікай любоўю захоўваюць шаснаццаць пажоўклых пергаментных аркушаў. Гэта ўсё, што засталося ад славутага Рэймскага Евангелля, святой рэліквіі, на якой на працягу некалькіх стагоддзяў прыносілі клятву вернасці свайму народу французскія каралі. Яна была неабходнай часткай абраду каранацыі, якая звычайна адбывалася ў Рэймскім саборы. Без змен абрад захоўваўся да XIV ст., пакуль кароль Карл IV, імператар Свяшчэннай Рымскай імперыі, не звёз каштоўную кнігу на сваю радзіму, у Чэхію. У Францыі засталіся толькі шаснаццаць аркушаў. Так расказвае гісторыю Рэймскага Евангелля сучасны даследчык Л. П. Жукоўская.

Але якое дачыненне мае да нас старая французская рэліквія, што калісьці зрабіла такую дзіўную вандроўку? Адказ на гэтае пытанне дае расійскі гісторык мінулага стагоддзя А. Нечваладаў. Ён расказвае, як падчас сваіх паездак па Еўропе малады цар Пётр I завітаў у Рэймс, дзе яму з глыбокай павагай паказалі тое, што засталося ад свяшчэннай кнігі. «Гэта вельмі стары рукапіс,— сказалі французы.— Усе ведаюць, што аркушы належалі Евангеллю, але на якой мове было яно напісана — невядома. Магчыма, народ, што карыстаўся ім, ужо не існуе». Якім жа было здзіўленне субяседнікаў Пятра, калі малады цар «варварскай краіны» ўзяў аркушы ў рукі і пачаў даволі хутка чытаць. Рэймскае Евангелле было напісана на старажытнаславянскай мове. Належала яно французскай каралеве Ганне Русінцы, якая ў XI ст. прывезла яго ў Францыю ў якасці пасагу з далёкага Кіева. Каралева гэтая была дачкою Яраслава Мудрага і ўнучкаю полацкай князёўны Рагнеды.

Яе лёс выдаўся незвычайным, жыццё — бурным. Гэта было прадвызначана Ганне яшчэ пры нараджэнні. Бо атрымала яна ад бабкі сваёй даволі «небяспечную» спадчыну — прыгажосць, якая прымушала ўсіх, хто акружаў яе, страчваць галаву. Такім жа дарам адзначыла Рагнеда і іншых сваіх нашчадкаў па жаночай лініі. Яе дочкі былі захоплены ў палон звар'яцелым ад кахання да адной з іх

польскім каралём Баляславам, рукі ўнучак дамагаліся манархі ўсіх суседніх да Русі дзяржаў.

Ганна нарадзілася ў 1024 г. Яна была сярэдняй дачкой сына Рагнеды Яраслава Мудрага і, паводле сведчання сучаснікаў, самай звычайнай сярод сясцёр. Яна значна прайгравала знешне, знаходзячыся побач з золатавалосай і каравокай малодшай Лізаветай. І нават старэйшая сястра, Анастасія, больш прыцягвала прагныя да дзявочай красы вочы. Ганну псавала тое, што валасы яе былі рудымі. Гэтую яе асаблівасць падказалі дзве старажытныя каляровыя гравюры, зробленыя для калекцыі французскага караля паводле прыжыццёвых апісанняў Ганны. Магчыма з-за гэтага, разбалаваныя незвычайнай прыгажосцю яе сясцёр і цётак жаніхі-прэтэндэнты, што прыязджалі ў Кіеў з розных краін, доўгі час пакідалі без увагі рудую Ганну.

Германскі імператар, які меўся сваім шлюбам з Ганнай замацаваць мірны дагавор паміж яго дзяржавай і дзяржавай Яраслава, даведаўшыся, што іншыя сёстры — прыгажэйшыя, палічыў сябе абражаным і адрокся ад нявесты. Нават прэтэндэнт на венгерскую карону, малады Эндрэ І, які ў свой час прыбег у Кіеў прасіць дапамогі ў Яраслава Мудрага, ад прапанаванага шлюбу з Ганнай адмовіўся на карысць Анастасіі.

Ганна «засядзелася ў дзеўках» да 25 гадоў з-за таго, што яе сёстры былі прыгажэйшымі за яе. Але зусім не таму, што яе знешнія даныя не адпавядалі мужчынскаму ўяўленню аб жаночай прыгажосці. Цяжка нават уявіць, які фурор выклікала яе з'яўленне ў Парыжы ў 1049 г., калі яна была ўрачыста прадстаўлена французам, як жонка іх караля Анры І.

Якім жа чынам позірк французскага манарха спыніўся на дачцэ Яраслава? Пэўна, не трэба цешыць сябе ілюзіямі, што заключэнне гэтага шлюбу было выгадна Францыі. На жаль, многія ўсходнеславянскія даследчыкі дапускаюць такую памылку ў сваіх работах. У манаграфіі французскага гісторыка XIX ст. графа дэ Ке дэ Сент-Эмура, выдадзенай у Львове ў 1909 г., ёсць сапраўднае тлумачэнне дадзенай падзеі.

Сент-Эмур піша: «Пад уплывам страху, абуджанага надыходам тысячнага года нашай эры, які народныя забабоны здаўна абвяшчалі фатальнай датай канца свету і Страшнага суда, адзінаццатае стагоддзе пачалося абвастрэннем набожнасці».

Царква выкарыстала гэта ў сваіх мэтах. Клерыкалы аб'явілі, што ў прадказанне трапіла памылка, і што канец свету адбудзецца на некалькі гадоў пазней. Уся Заходняя Еўропа пачала актыўна змагацца за выратаванне ўласных душ. Гэта дало магчымасць святарам рас-

пачаць барацьбу з такім сацыяльным злом, як кровазмяшальныя і блізкароднасныя сувязі манархаў, якія прыводзілі да з'яўлення хворага пакалення і вельмі ўплывалі на маральны стан грамадства. У прыватнасці, папа рымскі забараніў заключаць шлюбы паміж сваякамі да сёмага калена.

Кароль Францыі Анры І трапіў з-за гэтага ў вельмі цяжкае становішча. У 1044 г. Ён аўдавеў. Нябожчыца не пакінула яму сыноў, і, значыць, трэба было ажаніцца зноў. Але нябожчыца-каралева была дачкой германскага імператара Генрыха ІІ, які, у сваю чаргу, быў звязаны роднаснымі адносінамі з усімі правячымі дамамі Еўропы. Такім чынам, для Анры І аказаліся недаступнымі ўсе еўрапейскія прынцэсы, якія па ўзросту падыходзілі да шлюбу.

Кароль было ўжо страціў надзею, калі нехта з яго прыдворных паведаміў, што дзесьці «недалёка ад Візантыі» ў князя дзікай Русі Яраслава, здаецца, яшчэ засталася адна дачка. І кажуць, знешне даволі прывабная. У тым становішчы, у якім апынуўся Анры І, пэўна, любы згадзіўся б нават на непрыгожую нявесту, толькі б яна была аднаго з ім сацыяльнага становішча і належала да хрысціянскага веравызнання. Кароль папрасіў паказаць яму на карце княства Яраслава. На жаль, каралеўская карта Еўропы канчалася недзе ў Польшчы, а карта Азіі ледзь захоплівала землі, што межавалі з Візантыяй. Праўда, прыдворны вучоны запэўніў Анры, што ў рускай князёўны славутыя продкі і што яе дзед Уладзімір для русінаў усё роўна, што для французаў Карл Вялікі. Уздыхнуўшы, кароль рашыўся сватацца да Ганны.

Граф дэ Сент-Эмур заўважае ў сваёй манаграфіі, што пра Русь у тыя часы ў Францыі не маглі не ведаць. Вельмі ж вялікай была слава князёў, што неаднойчы хадзілі на Візантыю. Але каралю Анры, як і большасці яго прыдворных, было даравальна мець такое слабае ўяўленне аб русінах. Па тых часах манарху было не модна быць асабліва адукаваным. Вядома, што Анры І, як пасля і яго сын Філіп І, на дакументах падпісваліся крыжыкамі. Ганна Яраслаўна аказалася першай з французскіх каралеў, якая магла напісаць уласнае імя. Але і гэтая «самая адукаваная дама Францыі ХІ ст.» падпісвалася з граматычнымі памылкамі. Але ж вернемся да сватаўства Анры І. Вядома, што пасольства французскага караля, якое ўзначальваў міністр двара Гаселен дэ Шавіньяк і епіскап Гацье Саваяр, было накіравана ў Кіеў у пачатку 1048 г. Сябры і блізкія праводзілі іх са страхам і слязьмі. Шлях уяўляўся доўгім і поўным небяспекі. Варварская Русь палохала. Магчыма, таму сваты караля не вельмі спяшаліся дасягнуць мэты сваёй вандроўкі. Трэба думаць, спыняліся яны ў кожнай больш-менш прыстойнай карчме, у кожным сустрэчным рыцарскім замку, што

пападаліся на іх шляху. У выніку ў сталіцу Яраслава Мудрага гэтыя доблесныя мужы трапілі толькі ў 1049 г. Але тое, што ўбачылі яны там, невыказна ўразіла іх. Кіеў аказаўся вялікім прыгожым горадам, Яраслаў — высокаадукаваным хрысціянскім правіцелем, Ганна — прывабнай маладой жанчынай. Яшчэ большыя эмоцыі выклікаў пасаг князёўны — візантыйскія залатыя манеты, старажытныя ўпрыгажэнні і вялікага памеру і чысціні каштоўны камень гіяцынт. Перагаворы і дарога ў Францыю занялі значна менш часу. У маі 1049 г. Ганна ўрачыста ўехала ў Парыж. У тым жа месяцы ашалелы ад радасці Анры І абвянчаўся з рудавалосай кіеўскай князёўнай.

Паміж даследчыкамі і дагэтуль шырока бытуе думка, што быццам Ганна, нават тады, калі яна стала ўжо каралевай Францыі, прытрымлівалася праваслаўнай веры. І быццам бы з гэтай прычыны яна прывезла з сабой святара і для ўласных рэлігійных патрэб пабудавала ў Парыжы праваслаўную каплічку. Але калі ўважліва зазірнуць у гісторыю, становіцца зразумела, што ў Ганны ў гэтым не было вялікай патрэбнасці.

У год, калі яна з'явілася ў Францыі, раскол паміж цэрквамі Рымскай ды Грэчаскай яшчэ не быў такім вялікім. Існавалі істотныя адрозненні ў абрадах і тлумачэннях веры, але сувязі паміж святарамі абодвух хрысціянскіх накірункаў не перарываліся. Трагедыя разыгралася ў 1054 г., калі моцна пасварыліся папа Леў IX і патрыярх Канстанцінопальскі Міхаіл Керулярый. У выніку хрысціяне раздзяліліся і размежаваліся. Вось толькі пасля гэтага года не так ужо лёгка было б, відаць, набожнаму французскаму манарху атрымаць дазвол царквы на шлюб з праваслаўнай нявестай. Але Ганна ў дадзены момант была ўжо жонкай і маці. І каталічкай яна стала аўтаматычна.

У розных крыніцах можна сустрэць яшчэ адну легенду — пра тое, што быццам Ганна аж восем гадоў не магла нарадзіць дзіця. Спалоханая сваёй бясплоднасцю, каралева дала абяцанне Богу, што пабудуе абацтва, калі ён пашле ёй сына. Але ж калі супаставіць даты жыцця Анры І і яго сыноў ад Ганны, можна смела сцвярджаць, што легенда гэтая не адпавядае рэчаіснасці. Сапраўды, некаторы час дзяцей у каралеўскай пары не было, і, сапраўды, Ганна дала вышэйпамянёнае абяцанне. Але дзіця ў яе нарадзілася значна раней, чым сцвярджае легенда. Украінскі гісторык У. М. Рычка называе 1053 г. Свайму першаму сыну Ганна дала імя Філіп. У многіх французаў гэта выклікала здзіўленне. Імя было вельмі рэдкім і нязвыклым. Але Ганна настаяла на сваім, растлумачыўшы мужу, што дае яго ў гонар Філіпа Македонскага, бацькі славутага Аляксандра. Ад гэтага Філіпа лічаць

сваю радаслоўную візантыйскія імператары. А дзед Ганны, Уладзімір, парадніўся з імі. Значыць, Філіп Македонскі і яе, Ганны, прашчур.

Дзесьці праз год каралева нарадзіла яшчэ аднаго сына, Роберта. Потым нарадзіўся Гуго... І тады Анры I занепакоіўся. Ніколі яшчэ французскія каралевы не нараджалі так многа дзяцей. Такая пладавітасць пагражала беднасцю малодшым каралевічам. Бо тэрыторыя тагачаснага французскага каралеўства абмяжоўвалася памерамі невялічкага герцагства, а сам кароль толькі фармальна лічыўся галавой дзяржавы. Але Ганна не падзяляла боязі мужа, а толькі ўсё часцей напамінала яму пра неабходнасць выканаць дадзенае ёю Богу абяцанне. Дайшло да таго, што Анры I са злосці рашуча заявіў: «Бог не атрымае абяцанага. Францыі хопіць ужо каралевічаў!»

Больш чым за дзесяць гадоў сумеснага жыцця паміж каралём і каралевай канфліктаў не было. І нават самыя скептычныя французскія храністы заўважаюць, што як жонка і маці Ганна была бездакорнай.

У 1060 г. кароль Анры I памёр. І Ганна надоўга апранулася ў белае. (Белы колер — колер жалобы для каралёў. Каралева-ўдава ў сярэдневяковай Францыі павінна была апранацца да самай смерці ў белую сукенку і хаваць пад белым пакрывалам валасы.)

Каралём пасля смерці Анры I быў абвешчаны сямігадовы Філіп. Рэгентам пры ім афіцыйна стаў брат Анры Бадуэн V, граф Фландрыі. Але фактычна кіраўніцтва дзяржавай перайшло да каралевы. Ганна выбрала для сваёй рэзідэнцыі стары замак у мястэчку Сан-Ліс, недалёка ад Парыжа. Вакол была вельмі прыгожая прырода і вялізныя паляўнічыя ўгоддзі. У Сан-Ліс прывезла каралева і ўсіх сваіх сыноў. Там яна займалася палітыкай, наладжвала аўдыенцыі, вяла дзелавую перапіску з іншымі дзяржавамі.

Ля Сан-Ліса Ганна і вырашыла пабудаваць абяцанае Богу абацтва. Яна прызначыла яго манахіням-аўгусцінкам, якія былі ёй за гэта вельмі ўдзячныя. Абацтва праіснавала да XVIII ст., амаль да Вялікай французскай рэвалюцыі. І кожны год у дзень смерці сваёй фундатаркі манахіні адпраўлялі ўрачыстую імшу. А каб і бедната ўдзельнічала ў свяце, прысвечаным памяці добрай каралевы, абатыса арганізоўвала бясплатны абед для трынаццаці ўбогіх удоў.

Але палітыка і набожныя справы не забіралі ўвесь вольны час Ганны. Яна любіла забавы і ўмела ладзіць іх. Балі, банкеты, паляванні змяняліся адно адным. Ганна цудоўна трымалася ў сядле і рабіла доўгія конныя прагулкі па наваколлі. Ці не ў час адной з іх адбылося знаёмства каралевы з графам Раулем? Яго поўны тытул гучаў так: Рауль III Вялікі, граф Крэпі і Валуа, гаспадар Вексена, Аліена, Бар-сюр-Аб,

Вітры, Перокі і Мондзідзьера. Сваю радаслоўную ён пачынаў з Карла Вялікага, і таму гонару ў яго было нават больш, чым калі б ён быў каралём. Сярэдневяковы храніст пра графа Рауля піша, што ён быў «самы магутны і самы незалежны з усіх магнатаў Францыі» і «не баяўся ані арміі караля, ані царкоўных громаў». Безумоўна, не заўважыць і не вылучыць сярод сваіх паклоннікаў такую асобу было вельмі цяжка. Павольна захапленне моцным, незалежным характерам Рауля перайшло ў Ганны ў каханне. Граф Крэпі і Валуа лічыў сябе свабодным, бо жонку сваю Аліенору ён даўно ўжо прагнаў, калі пераканаўся, што тая здраджвае яму з іншымі мужчынамі. Трыццаціпяцігадовая ж каралева была ўдавой. Што магло перашкодзіць гэтым дваім кахаць адзін аднаго?! Вельмі хутка Ганна паведаміла Раулю, што яна чакае дзіця. І тады адважны рыцар проста пасадзіў яе наперадзе сябе на каня і звёз «як звычайную пастушку» ў сталіцу свайго графства Крэпі. Там Ганна скінула абрыдлую белую жалобную сукенку і пераапранулася ў featured рознакаляровыя шаўкі. А Рауль захапіў нейкага прычэтніка, якога ці то падкупіў, ці то запалохаў настолькі, што той згадзіўся абвянчаць закаханых.

Даведаўшыся пра ўчынак каралевы, якую ўсе шчыра шанавалі, французы ахнулі. Такое магла сабе дазволіць толькі сапраўдная варварка: абвянчацца з жанатым чалавекам, усяго толькі графам, ды яшчэ такім ганебным чынам! Мінула зусім няшмат часу, і Ганна нарадзіла Раулю дзіця. Францыю пачало ліхаманіць. Погляды ўсіх былі накіраваны на юнага караля: як ён адрэагуе на гэта? Але Філіп аказаўся даволі разумным падлеткам. Ён зрабіў выгляд, што нічога страшнага не адбылося. Але пры гэтым усё ж адхіліў маці ад палітычных спраў. Магчыма, сынава любоў Філіпа і выратавала б Ганну ад усіх непрыемнасцей, калі б не ўмяшалася пакінутая жонка Рауля, Аліенора. Яна паехала ў Рым да папы і там паскардзілася на мужа. Папа даслаў Раулю строй загад: прыняць законную жонку, а каралеву адаслаць, інакш Рауль будзе адлучаны ад царквы.

Але граф Крэпі і Валуа толькі пасмяяўся. Такія пагрозы яго не палохалі, таму што быў пазбаўлены рэлігійнага страху. Ганна па смеласці таксама аказалася дастойнай свайго каханага. Яны працягвалі жыць як муж і жонка да самай смерці графа (гэта здарылася ў 1074 г.). Некаторыя французскія біёграфы выказваюць меркаванне, што перад смерцю Рауль нібыта адштурхнуў ад сябе жанчыну, якая прымусіла яго пайсці на такі страшны грэх. Але нешта не верыцца. Рауль, на наш погляд, быў перш за ўсё сапраўдным рыцарам, які ставіў вышэй за ўсе іншыя законы куртуазнасці, г. зн. пакланенне прыгожай даме. Каханне да каралевы было для яго самым вялікім подзвігам.

Нават перад смерцю ён не мог бы адмовіцца ад сваіх жыццёвых прынцыпаў.

Як бы там ні было, але пасля смерці Рауля Ганне давялося шукаць прытулку ў Парыжы. Дзеці графа Крэпі і Валуа, пасынкі Ганны, зрабілі ўсё магчымае, каб «бессаромная русінка» пакінула іх уладанні. Філіп І прыняў маці даволі сардэчна. Пры яго двары яна атрымала ўсё неабходнае. Нават магчымасць зноў займацца палітыкай, прысутнічаць на ўсіх каралеўскіх нарадах і г. д. Але былой павагі ў французаў да Ганны ўжо не было. І яна гэта адчувала.

У 1075 г. пяцідзесяцідвухгадовая Ганна пакідае двор. І з гэтага моманту знікаюць усе звесткі пра яе. Даследчыкі раздзяляюцца ў думках, чым жа скончылася гісторыя рудавалосай каралевы. Адны сцвярджаюць, што Ганна вярнулася на радзіму. Але гэта малаверагодна. Такая значная падзея, безумоўна ж, не засталася б незаўважанай на Русі і абавязкова б знайшла адлюстраванне ў летапісах.

У. М. Рычка ў кнізе «За літописним рядком» піша, што Ганна памерла ў тым жа 1075 г. і што пахавана яна ў царкве заснаванага ёю абацтва ў Сан-Лісе. Але французы сцвярджаюць, што труны Ганны там няма і быць не можа, таму што падчас сумеснага жыцця з Раулем яна дабілася таго, каб гэтае абацтва перайшло ва ўладанне графаў Валуа. Пасля ж смерці Рауля абацтва стала ўласнасцю яго старэйшага сына, пасынка Ганны, які ненавідзеў яе.

У XVII ст. вучоны-езуіт Менестрые даследаваў склеп у храме абацтва Віліер у правінцыі Гатынуа. Ён паспрабаваў даказаць, што адна з трун у ім належыць каралеве, якая была жонкай Анры І. І што гэта труна не першай яго жонкі, Мацільды Германскай, а другой, г. зн. Ганны. Доўгі час сумненні ў правільнасці такой гіпотэзы падтрымлівала толькі тое, што Менестрые называў каралеву Агнесай. Гэтае імя было выбіта на труне. Але ўжо ў XIX ст. удалося прааналізаваць цэлы шэраг дакументаў, падпісаных Ганнай Русінкай. Сярод іх ёсць два, дзе каралева памылкова напісала не «Anna», а «Agna». Верагодна, дзякуючы такой памылцы і ўзнікла міфічная Агнеса.

Як бы там ні было, французы па-ранейшаму сцвярджаюць, што Ганна Яраслаўна памерла ў Францыі і пахавана ў Гатынуа.

## ДЗЯЎЧЫНА З ЗАЛАТОЙ ГРЫЎНАЙ

### ЛІЗАВЕТА ЯРАСЛАЎНА
### (пасля 1024-1076 гг.)

И слава, добытая в долгой борьбе,
И самый венец мой державный,
И все, чем я бранной обязан судьбе,—
Всё то я добыл лишь на вено тебе,
Звезда ты моя, Ярославна!

*А. К. Толстой. «Песня о Гаральде и Ярославне»*

Аднойчы ўбачыўшы гэты твар, ніколі не забудзеш яго. Такая прыгажосць быццам знарок створана на згубу мужчын. Але існуе дзеля таго, каб ёй любаваліся, каб пра яе складалі песні, каб за яе змагаліся. А калі ж яшчэ такая красуня мае цвёрды характар і ганарлівую натуру, то яна зможа адправіць таго, хто закахаўся ў яе, і на край свету, і ў пашчу цмока, і нават на плаху. І ахвяра кахання з радасцю пойдзе ў любым з вышэйназваных напрамкаў.

Першае ўражанне ад гэтага партрэта звычайна не падманвае. Бо на ім, апетая ў сагах, вершах паэтаў-рамантыкаў і гісторыка-прыгодніцкіх раманах «Герда з Гарда» (Дзяўчына з Русі), унучка Рагнеды, Лізавета. Менавіта ў гэтую, самую прыгожую з дачок князя Яраслава Мудрага, меў няшчасце закахацца малады нарвежац Харальд. Менавіта дзеля яе пайшоў ён па свету ў пошуках славы і багацця.

Харальд даводзіўся братам нарвежскаму конунгу Олафу Святому. Той пасля паражэння, што ў 1030 г. нанеслі яго войску датчане, збег на Русь і спыніўся пры двары князя Яраслава Мудрага, жонка якога Інгігерд даводзілася яму сваячкай. У наступным годзе Олаф паспрабаваў адваяваць свой прастол. Але ў бітве пры Скіклесце загінуў. Да апошняй хвіліны абараняў смяротна параненага Олафа пятнаццацігадовы Харальд. Нарвежцаў разбілі. Харальд выратаваўся і доўга хаваўся ў лясным гушчары, дзе залечваў свае раны. Пасля прабіўся ў Швецыю. Там з воінамі, якія далучыліся да яго, падрыхтаваў некалькі караблёў і адплыў да Яраслава Мудрага.

У Кіеве Харальд амаль з першых дзён стаў сваім чалавекам пры двары князя Яраслава. Гэта адбылося не толькі таму, што ён быў сваяком княгіні, а і таму, што ў гэтым княжацкім палацы падрастаў і набіраўся моцы яго пляменнік — сын Олафа Магнус. Хутка Харальда паставілі на чале княжацкай славянаваражскай дружыны. З гэтымі

воінамі ён ажыццявіў некалькі паходаў. Яны мелі сутыкненні з саксамі, вендамі і яшчэ тым-сім з суседзяў.

На няшчасце Харальда ў князя Яраслава былі тры дачкі. І наш герой закахаўся ў малодшую, самую прыгожую з іх, Лізавету. Пэўны час ён змагаўся са сваім пачуццём, а потым пайшоў да Яраслава прасіць рукі яго дачкі. Яраслаў разгубіўся — і адмовіць аднаму з лепшых і знатных воінаў нельга, і згоды даць не вельмі хочацца. Да таго ж ён, калі верыць паданню, якое расказваюць кіеўскія экскурсаводы, паабяцаў некалі сваёй любіміцы, што аддасць яе замуж толькі за таго, каго яна пакахае. Вялікі князь вырашыў пагаварыць з дачкой і высветліць яе стаўленне да Харальда. Пасля гэтай размовы Яраслаў адказаў нарвежцу: «Ты, Харальд, хлопец талковы і паходжання добрага. Але ж у цябе ні дзяржавы, ні багаццяў. А калі так, то, каб шлюб твой не здаваўся няроўным, ты павінен праславіць сваё імя і здабыць багацце». Прыгавор бацькі позіркам пацвердзіла Лізавета. Яна не сумнявалася, што яе каханы справіцца з усімі задачамі, пастаўленымі перад ім. Са свайго ж боку князёўна абяцала верна чакаць юнака. На развітанне Харальд падарыў каханай залатую грыўну і прасіў не здымаць яе з шыі, пакуль ён не вернецца.

Дзе ж у той час можна было здабыць і багацце, і славу? Толькі там, «дзе арабы з нарманамі бой вядуць на зямлі і на моры»,— у Міжземнамор'і. Харальд збірае сваіх землякоў, што служылі ў Яраслава, і накіроўваецца шляхам, даўно вядомым паўночным шукальнікам прыгод,— «шляхам з варагаў у грэкі». Атрад Харальда прыбыў у гэтыя самыя «грэкі», г. зн. у Канстанцінопаль, у 1038 г. У той час Візантыйскай імперыяй правіў базілеўс (імператар) Міхаіл IV Пафлагонец, а дакладней — базіліса Зоя, якая вельмі часта мяняла мужоў. Юны правадыр варагаў вельмі падабаўся ёй. У хуткім часе яго прызначылі кіраўніком усёй варажскай дружыны. Восенню гэтага ж года вікінгі Харальда вырашылі паказаць сябе ў справе. Яны на сваіх дракарах (баявых ладдзях) выйшлі разам з візантыйскай эскадрай Георгія Маніяка на барацьбу з піратамі, якія вельмі перашкаджалі гандлёвым справам імперыі. Аднак неўзабаве Харальд з Георгіем пасварыліся і пачалі дзейнічаць самастойна. Кожны з іх жадаў паказаць, на што варты. Пры гэтым яны не грэбавалі нічым, громячы ўсё на сваім шляху.

У хуткім часе слава пра Харальда Суровага і яго галаварэзаў разнеслася па ўсім Міжземнамор'і і яго наваколлях — Блізкім Усходзе, Заходняй Еўропе, Русі. Спачатку яны захапілі «краіну сарацынаў». Калі верыць сазе, то варагі захапілі і разрабавалі 80 арабскіх гарадоў. Бы ўраган, пранесліся яны па берагах Паўночнай Афрыкі. Харальд,

які быў да таго ж выдатным скальдам (бардам), уславіў гэтыя падзеі ў сваіх песнях:

Там ляск ішоў ад нашай зброі,
Там кроў лілася з целаў!
Там імя я сваё ўпісаў
На сведчанне нашых спраў...

Апісваў ён свае прыгоды і ў далейшым, і кожны куплет нязменна заканчваў словамі:

А руская дзяўчына
З залатою грыўнай
Мяне не хоча...

Такім чынам, юнак расказваў усяму свету пра сваё каханне і тыя намаганні, якія ён прыкладае для таго, каб дабіцца каханай.

Тым часам перад варагамі паўстала вялікая праблема. Што рабіць са здабычай? Караблі ледзь не тонуць ад яе. Куды ж яе падзець? Ашчадных кас тады не існавала, закопваць скарбы на бязлюдным востраве ў моду яшчэ не ўвайшло, пераправіць на радзіму — у Скандынавію, дзе панавалі датчане, немагчыма, захоўваць у Канстанцінопалі — ненадзейна. Абмеркаваўшы становішча, яны вырашылі адсылаць здабычу з надзейнымі людзьмі ў Кіеў да Яраслава. Гэты факт даў магчымасць аўтару кнігі «Женщины Древней Руси» Н. Пушкаровай сцвярджаць, што Харальд, перасылаючы да Яраслава здабытыя ім велізарныя багацці, хацеў тым самым паказаць, што варты быць яго зяцем.

Думаецца, што ў дадзеным выпадку Н. Пушкарова памыляецца. Ніхто, відаць, з нас не можа прывесці ніводнага прыкладу пра піратаў, якія б без усякай прычыны прэзентавалі каму-небудзь сваю здабычу. Калі нават дапусціць неверагоднае, што Харальд Суровы такім чынам хацеў даказаць сваю вартасць перад Яраславам, то падумаць такое пра яго паплечнікаў ніяк немагчыма. Імі ж рухала не каханне, як нашым героем, а пагоня за багаццямі. Відаць, варагі проста ператварылі Яраслава ў захавальніка іх «абшчака».

Разгрузіўшы дракары і развязаўшы сабе рукі, варагі накіраваліся да іншых берагоў. Шлях іх ляжаў на востраў Сіцылія. Харальд са сваімі людзьмі хутка авалодаў чатырма гарадамі, якія лічыліся непрыступнымі. Пры гэтым ён праявіў немалую тактычную спраўнасць. Для захопу першага горада выкарыстаў добра вядомы па летапісах спосаб. Зрабіў тое ж, што ў свой час княгіня Вольга пры знішчэнні Іскарасценя. Варагі налавілі ластавак, прывязалі ім да спінак стружкі, прамочаныя смалою, падпалілі і... праз кароткі час гараджане адчынілі брамы і запрасілі літасці. Другі горад узялі падкопам.

Прычым атрымалася так, што канец гэтага падкопу аказаўся якраз пад залай, у якой у гэты час піравалі «бацькі горада». Уявіце, як яны перапалохаліся, калі «расчынілася» зямля і з-пад яе з'явіліся ўзброеныя да зубоў варагі!

Ля трэцяга горада варагі больш чым тыдзень займаліся рознымі гульнямі і гараджане настолькі прывыклі да гэтага, што пачалі выходзіць паглядзець на “варварскія скачкі” і прагледзелі момант, калі варагі ўварваліся ў расчыненыя брамы. Праўда, потым гараджане схамянуліся. Бойка была адчайная. Варагі панеслі вялікія страты. Харальду рассеклі твар. Але, у рэшце рэшт, горад быў захоплены. Дзеля ўзяцця ж апошняга горада было разыграна цэлае тэатралізаванае прадстаўленне. Тут было і раптоўнае жаданне правадыра аблужнікаў прыняць хрысціянства (заўважым, што Харальд хрысціўся яшчэ ў Кіеве), і яго раптоўная смерць, і перадсмяротная просьба пахаваць на хрысціянскіх могілках (гэта значыць, у горадзе). Расчуленыя святары «бацькі горада» згадзіліся з адной умовай — каб нябожчыка праводзілі ў апошні шлях толькі паўдзесятка бяззбройных паплечнікаў. «Няўцешныя сябры» згадзіліся. І вось труну ўносяць у горад. Але раптам яе разварочваюць упоперак гарадскіх брам, нябожчык «ажывае» і ўскоквае, узброены мячом і баявой сякерай. Бяззбройныя сябры выхопліваюць з труны мячы, і труна ператвараецца ў барыкаду. А войска Харальда ў гэты час, паводле слоў скандынаўскага летапісца, «...кінулася з лагера ў поўным узбраенні з крыкамі ды гіканнем і ўварвалася ў горад. Манахі ж і святары, якія ўдзельнічалі ў гэтым пахавальным шэсці, спаборнічаючы паміж сабой у тым, хто першы атрымае прынашэнне, зараз спаборнічалі ў тым, каб падалей збегчы ад верынгаў (варагаў.— Аўт.), таму, што тыя забівалі кожнага, хто ім сустракаўся,— і клірыка, і няверуючага. Так верынгі прайшлі па ўсім горадзе, забіваючы народ, разграбілі ўсе гарадскія цэрквы і ўзялі велізарную здабычу...»

Некалькі гадоў адсутнічалі вікінгі ў Канстанцінопалі. Але, у рэшце рэшт, вярнуліся назад на караблях, ледзь не даверху бартоў заваленых здабычай. Частка яе пайшла ў казну, частку растрацілі, а большасць зноў з надзейнымі людзьмі адаслалі ў Кіеў. І паплылі па шляху «з грэкаў у варагі» каштоўныя падарункі для «Герды з Гарда». Атрымала яна і працяг песні, дзе Харальд расказваў сваёй каханай аб чарговых паходах, аб крывавых бітвах і перамогах. А ў канцы песні ўсё тыя ж словы:

А руская дзяўчына
З залатою грыўнай
Мяне не хоча...

Дзякуючы гэтай песні слава пра гордую і непрыступную дачку Яраслава Мудрага прагрымела па ўсёй Еўропе. Яраславу гэта было настолькі прыемна, што ён заказаў мастаку, што якраз працаваў над фрэскамі ў нядаўна збудаванай кіеўскай Сафіі, намаляваць там праслаўленую ў харальдавай песні «Дзяўчыну з залатой грыўнай». Уласна кажучы, Яраслаў Мудры з самага пачатку задумваў пакінуць нашчадкам на сценах Сафіі партрэты ўсіх членаў сваёй сям'і. Але намаляваць Лізавету з грыўнай на шыі — гэткае рашэнне з'явілася толькі зараз.

А Харальд зноў у паходзе. На гэты раз ён накіроўваецца ў Палесціну. У адрозненне ад папярэдняга гэты паход быў лёгкі. Паводле сагі, усе гарады на шляху вікінгаў здаліся ім без бою. Харальд пабываў у Іерусаліме, дайшоў да ракі Іардан, у якой выкупаўся, як гэта было прынята ў паломнікаў, пабываў на берагах Мёртвага мора...

У Канстанцінопалі вікінгі даведаліся, што Магнус, сын Олафа Святога, захапіў уладу ў Даніі і Нарвегіі, і вельмі ўзрадаваліся. Большасць з іх вырашыла адправіцца на радзіму. Харальд паведаміў аб гэтым Зоі. Але тая не збіралася развітвацца з такім войскам. Ды і наконт самога правадыра яна, мяркуючы па ўсім, мела пэўныя намеры. Яна прывяла шэраг доказаў, з-за якіх вікінгі павінны застацца. Але Харальд не згадзіўся. Тады Зоя абвінаваціла яго ў тым, што ён прысвоіў здабычу Георгія Маніяка. Базілеўс Міхаіл V Каліфат, які змяніў незадоўга да гэтых падзей памёршага ад атруты свайго цёзку, загадаў пасадзіць Харальда і двух яго паплечнікаў на самы верх высокай вежы. Над іх галовамі толькі неба. Гэта, на думку Зоі, было найлепшае месца, дзе Харальд у «спакойнай абстаноўцы» мог падумаць над яе прапановамі. Але варагі ашукалі базілісу. Яны здолелі збегчы. Сага гаворыць аб вяроўцы, скінутай зверху «адной саноўнай жанчынай» і двума яе слугамі. Цікава, з якога гэта «верху» можна штосьці скінуць у вежу? Хутчэй за ўсё вязням сапраўды перадалі вяроўку, але праз падкупленых вартаўнікоў. Як бы там ні было, але нашы героі злезлі з вежы, дабраліся да паплечнікаў і той жа ноччу на двух караблях адплылі ў Чорнае мора.

І вось Кіеў. Але ў Кіеве Яраслава на гэты час не было, ён разам з сям'ёю знаходзіўся ў Ноўгарадзе. Дык гэта і лепш,— радуюцца вікінгі,— адтуль да дому бліжэй. У Ноўгарадзе сустрэлі іх вельмі цёпла. Яраслаў вярнуў варагам усю здабычу, якую яны перасылалі яму. А хутка адгулялі і вяселле. І сапраўды, маладыя заслужылі яго. Жаніх выканаў наказ бацькі — прайшоў па свеце, здабыў сабе славу і багацце, а нявеста стрымала сваё слова і дачакалася каханага. Яны перазімавалі ў Ноўгарадзе, а як толькі прыгрэла веснавое сонейка, Харальд з маладой жонкай і паплечнікамі накіраваўся на Ладагу. Там

яны падрыхтавалі тры ладдзі і адплылі ў Швецыю, а адтуль на радзіму.

Цікава, што ў сваёй кнізе Н. Пушкарова сцвярджае, што Лізавета, стаўшы жонкаю Харальда, засталася жыць на Русі і што муж дасылаў ёй з Нарвегіі багатыя падарункі. Думаецца, што Н. Пушкарова памыляецца і на гэты раз. Факты, што маюцца, сведчаць супраць гэтага меркавання даследчыцы. Лізавета Яраслаўна ўсё ж такі паехала разам з мужам у Нарвегію, дзе атрымала новае імя — Элізіф. Пад гэтым імем яна ўпамінаецца ў скандынаўскіх хроніках, пад гэтым імем яе ўслаўляюць сагі.

Магнус быў шчаслівы ўбачыць дзядзьку жывым і здаровым. Вельмі рады ён быў і сустрэчы з даўняй сваёй сяброўкай Лізаветай. У Харальда было ўсё, што неабходна для шчасця,— багацце, дом, каханая жонка, дзеці (у іх нарадзіліся дзве дзяўчынкі, Інгігерд і Марыя). Але не мог ён спакойна сядзець на месцы. Хацелася зноў адчуць на сваіх шчаках подых марскога ветру, зноў урубіцца з сякерай у руках у рады ворагаў, зноў убачыць, як блакіт неба змыкаецца на гарызонце з блакітам мора. Для сваёй рэзідэнцыі ён заснаваў горад і назваў яго Осла. Потым паплыў у далёкі Віндланд (калонію вікінгаў у Паўночнай Амерыцы). Але даплыў толькі да Грэнландыі.

У 1047 г. памёр Магнус. Харальд стаў конунгам. У наступным годзе «зашавяліліся і загрымелі зброяй» датчане. Харальд пачаў рабіць на іх рэгулярныя набегі. Яго войскі наносілі ўдары ў самых нечаканых месцах. Працягвалася гэта не адзін год. Але, у рэшце рэшт, нарвежскі конунг прымусіў датчан спачатку ў 1061 г. запрасіць літасці, а ў 1064 г. заключыць з ім мір.

Наогул жа марай для Харальда было аднаўленне магутнасці «варажскай імперыі Поўначы». Гэта імперыя, што склалася ў пачатку XI ст., больш вядомая як «Імперыя Кнута Вялікага», аб'ядноўвала тэрыторыі Даніі, Нарвегіі, Англіі. Яна распалася пасля смерці Кнута.

І вось у 1066 г. памёр англійскі кароль Эдуард Спаведнік. На прастол узышоў яго зяць, якога звалі таксама, як і нарвежскага конунга, Харальдам. Муж Лізаветы вырашыў уступіць у барацьбу за англійскі прастол. Восенню гэтага ж года флот пад яго кіраўніцтвам выйшаў у мора. На некалькіх сотнях дракараў плыло на заваяванне Англіі, па розных звестках, ад 5 да 12 тыс. апранутых у жалеза пешых воінаў. Конунг настолькі быў упэўнены ў сваёй перамозе, што ўзяў з сабой і сям'ю. Ён высадзіў Лізавету і дачок на невялікі востраў недалёка ад Англіі. А сам разам з войскам сышоў на бераг «туманнага Альбіёна».

25 верасня 1066 г. варагі сустрэліся з войскам англасаксонскага караля Харальда. Перад бітвай ад англічан прыйшоў пасланнік і выканаў песню, якую экспромтам склаў яго кароль. У ёй праслаўлялася мужнасць англасаксаў. Харальд Нарвежскі здзівіўся: «Хіба ж гэта песня? А ты праспявай свайму каралю маю». І сымправізаваў сам. Змест гэтай песні невядомы, але адразу пасля таго, як каралеўскі пасланец выканаў яе свайму ўладару, англасаксы кінуліся ў атаку. Бітва была жорсткая. Рубіліся сякерамі і мячамі, калолі коп'ямі, рэзалі адзін аднаго нажамі. Перамога схілялася то на адзін, то на другі бок. У разгар бітвы ў горла нарвежскага конунга трапіла страла... Смерць яго вырашыла вынік бітвы. Рэшткі варажскага войска пераправіліся на востраў, на якім была Лізавета з дочкамі, і прывезлі цела іх мужа і бацькі. Сагі расказваюць, што адна з дачок, Марыя, не ўбачыла гэтага моманту. Яна, любіміца Харальда, быццам бы памерла ў тое ж імгненне, калі загінуў яе бацька. Так у бітве ля Стэмфард-Брыджа скончылася жыццё Харальда Суровага, якога даследчыкі называюць «апошнім каралём-вікінгам», «адным з апошніх скальдаў», «гераічнай фігурай, на якой закончылася Эпоха Вікінгаў».

Няўцешная Лізавета павезла целы сваіх блізкіх дадому. На мачце дракара нацягнулі чорны ветразь, традыцыйны знак бяды. У душы яе пасялілася туга.

Але жыццё бярэ сваё — і праз пэўны тэрмін Лізавета выйшла замуж за конунга дацкага, Свейна Эстрыдсана.

Харальд Суровы і Лізавета адышлі ў нябыт шмат стагоддзяў назад. А памяць пра іх каханне засталася. Прысвечаная Лізавеце песня Харальда ўвайшла ў залаты фонд скандынаўскай літаратуры. Яна неаднаразова перакладалася на рускую мову ў XVIII-XX стст. Шэраг даследчыкаў лічаць, што менавіта Харальду і Лізавеце прысвечаны падзеі, апетыя ў быліне пра Салаўя Будзіміравіча — заморскага каралевіча-песенніка, што сватаўся да кіеўскай князёўны. І нядзіўна, бо гэтыя падзеі і дагэтуль жывуць у памяці розных народаў.

## СВЯТАЯ ЗАСТУПНІЦА БЕЛАЙ РУСІ

## ЕФРАСІННЯ ПОЛАЦКАЯ (ПРАДСЛАВА СВЯТАСЛАЎНА) (1110(?) — 1173 гг.)

Сілай духоўнай узвысіла Полацк высока.
Тым, хто імкнуўся да кнігі, свяціла, бы зорка.
Мове, адзінай дзяржаве, шчэ толькі злучацца —
Свет нас прымаў як народ па адной палачанцы.

*Д. Бічэль-Загнетава. «Натхняльніца»*

На іконе «Сабор Беларускіх Святых» гэтыя дзве постаці знаходзяцца побач. Смерць і гісторыя прымірылі двух непрымірымых, паставілі ігуменню Ефрасінню Полацкую і епіскапа Полацкага Дыянісія ў адзін рад. Магчыма, сапраўды, перад нябёсамі заслугі іх былі аднолькавыя, але ў памяці чалавечай вобраз палкага Дыянісія сцёрся да невыразнай плямы, і нават уся духоўная літаратура пра святога сведчыць больш пра моц веры гэтага чалавека, чым пра канкрэтныя яго дзеянні. Ефрасіння ж «яко луча солнечная» пакінула светлы след у гісторыі і памяці нашай. У чым жа прычына такіх розных адносін да святых, якія абодва з'яўляліся апорамі хрысціянства, стаўпамі веры ў Полацкай зямлі ў XII ст.? Ніводзін з дакументаў таго часу не дае прамога адказу на гэтае пытанне. Але можна меркаваць, што справа тут у тым, які шлях у сваёй дзейнасці абраў кожны з іх.

Вядома, што Дыянісій быў заўзятым прыхільнікам хрысціянізацыі па метаду Пуцяты і Дабрыні, якія хрысцілі Ноўгарад «агнём і мячом». Ефрасінні ж, міратворцы і чалавекалюбцы, не маглі быць даспадобы метады Дыянісія, яго жорсткі да чалавечых лёсаў максімалізм. Яна імкнулася, каб вера сама выспела ў сэрцах палачан, каб узрасла дзіўнай кветкай любоў да Хрыста ў іх душах. І яна валодала вялікім талентам пераконваць. У самыя цяжкія моманты не баялася быць сярод людзей, раздзяляць з імі ўсе іх беды і турботы, пастаянна павучаючы і на прыкладах жыццёвых тлумачачы хрысціянскія запаведзі і пастулаты веры. За гэта заслужыла Ефрасіння вялікі аўтарытэт і народную любоў, якія захаваліся праз стагоддзі.

І калі шлях, абраны Ефрасінняй Полацкай, бачыцца зараз дастойным павагі і ўхвалы, то трэба ведаць і пра тое, як пакутліва цяжка было ісці па ім.

Пачынаўся ж шлях гэты з падзеі дзіўнай, бяспрыкладнай, незразумелай нават для многіх сучаснікаў будучай святой. Аднаго разу дванаццацігадовая полацкая князёўна без усялякіх бачных на тое пры-

чын прыняла пострыг і пасялілася ў галубніцы велічнай Сафіі Полацкай, каб перапісваць там у цішы і пры цьмяным святле свечкі старыя фаліянты.

Пры нараджэнні атрымала яна імя Прадслава... Так называлі спакон веку жанчын Полацкай княжацкай дынастыі ў гонар мудрай княгіні, што падчас свайго праўлення дабілася незалежнасці Полацка ад Кіева. Здавалася, дзяўчынцы з такім імем самім лёсам наканавана княжыць, падзяляючы з мужам цяжкасці ўлады. І Прадславу рыхтавалі да гэтага з маленства. Але не мірская ўлада цікавіла дзяўчынку. Яе вабіла і цягнула ўзнёслая атмасфера Сафійскага сабора, заваражвалі строгія і прасветленыя твары святых на іконах. Яна зачытвалася Бібліяй, і шматлікімі «жыціямі» святых, як мы зараз зачытваемся прыгодніцкімі раманамі. Былі ў яе і любімыя гераіні — святыя пакутніцы Фяўронія і Еўпраксія. Іх лёс зачароўваў, натхняў. Маленькай князёўне хацелася паўтарыць подзвіг гэтых жанчын альбо хаця б у чымсьці быць падобнай да іх. Пазней аўтар «Жыція Ефрасінні Полацкай» укладзе ў вусны дзяўчынкі Прадславы такія словы:

«...жанчыны, якія жылі раней і, узяўшы мужчынскую моц, пайшлі следам за сваім Жаніхом і целы свае аддалі на пакуты, і склалі галовы пад меч, а іншыя хоць і не схілілі шыі свае пад жалеза, але духоўным мячом адсеклі ад сябе плоцкія асалоды, аддаўшы цела свае на пост і на дбанне, і каленныя пакланенні, і зямельныя лежанні,— тыя памятныя на зямлі, іх імёны напісаныя на нябёсах, і яны там з анёламі Бога ўслаўляюць».

Усё часцей Прадслава наведвае манастыр, дзе ігуменняй яе цётка, удава князя Рамана Усяславіча. Ёй цікавыя размовы гэтай добрай і разумнай жанчыны пра Бога. Ігумення таксама прывязваецца да маленькай пляменніцы, якая так прагне ведаў і святла.

Каб было больш зразумела, як адбылося ўсё далей, трэба крыху спыніцца на асобе княгіні-манашкі Раманавай. Прыняўшы пострыг пасля смерці мужа, гэтая жанчына верыла па-сапраўднаму, шчыра і апантана, як, дарэчы, і брат яе мужа, князь Полацкі Барыс. Яна не магла не бачыць перавагі хрысціянскага духоўнага светапогляду над язычніцкім. І безумоўна ж, як высокаадукаваны чалавек, разумела, што ўсеагульнае прыняцце хрысціянства ўзмацніць княжацкую ўладу. Яна адчувала, што Полацкай зямлі патрэбна зараз асоба, пажадана з княжацкага роду, якая магла б павесці людзей за сабой да новай веры. Але Полацку не шанцавала: тыя з князёў, што былі набожнымі, з'яўляліся слабымі людзьмі. Такія ж моцныя асобы, як Усяслаў Чарадзей і Рагнеда, адносіны з хрысціянствам мелі складаныя і незразумелыя.

Позірк Раманавай спыніўся на Прадславе. У дзяўчынцы адчуваўся і розум, і сапраўдная вера, і моц характару. Раманава пачала рыхтаваць яе да цяжкай місіі. І не ведала ігумення тады, што вучаніца яе пойдзе далей, чым бачылася ёй у яе марах.

У княжацкім палацы рыхтавалася вяселле, калі дванаццацігадовая нявеста раптам знікла. Прадслава збегла да цёткі, і там прасіла пастрыгчы яе ў манашкі. Ніякія ўгаворы не дапамаглі. І блізкія Прадславы вымушаны былі саступіць перад яе настойлівасцю.

У першыя гады свайго манаскага жыцця Прадслава, якая змяніла мірское імя на іншае — Ефрасіння, «успрыняла найпадзвіжнейшы подзвіг посту, і начала пісаць кнігі сваімі рукамі, і прыбытак (ад продажу іх) аддавала тым, хто папросіць». Былі ў яе і прывіды, якія толькі падтрымлівалі Ефрасінню ў думках, што яна не памылілася, абраўшы шлях служэння Богу.

У адным з гэтых прывідаў быццам бы з'явіўся Ефрасінні анёл, які параіў ёй пакінуць келлю-галубніцу ў Сафіі і заснаваць свой манастыр пры цэркаўцы святога Спаса ў Сяльцы. Жаданне Ефрасінні было выканана полацкім епіскапам Іллёй. Ноччу ў суправаджэнні адной чарніцы Ефрасіння пешшу рушыць з Полацка ў Сяльцо. Ніякіх рэчаў пры ёй няма, акрамя любімых кніг. Надта дарага цаніла іх юная манашка, якой наканавана было ў хуткім часе стаць ігуменняй новапабудаванага манастыра.

Вопыту для гэтага яшчэ было няшмат, але Ефрасінні дапамагалі і члены княжацкай сям'і, і епіскап, і вышэйшых чыноў святары. Безумоўна ж, першай настаўніцай Ефрасінні заставалася па-ранейшаму Раманава, якая стала частай наведвальніцай Сяльца з таго моманту, як там з'явіўся жаночы манастыр.

Зразумела, што першы штуршок дзейнасці Ефрасінні дало ўсё ж яе высокае становішча. І заснаванне манастыра, і далейшае фундатарства царквы святога Спаса было б не па сродках звычайнай манашцы. Але справа ў тым, што ўжо само пастрыжэнне дванаццацігадовай княжацкай дачкі па тых часах было з'явай незвычайнай. Пра ўчынак Прадславы не сціхалі спрэчкі. Пазнаёміцца і паразмаўляць з ёю на багаслоўскія тэмы прыязджалі многія суседнія князі і святары. Тое, што дзяўчынка так рашуча адмовілася ад усяго мірскога дзеля служэння Богу, было ў вачах людзей своеасаблівым сцвярджэннем існавання Хрыста і доказам перавагі хрысціянскай рэлігіі над язычніцкай. Такі настрой трэба было падтрымліваць і надалей. Таму дапамагала Ефрасінні вялікая колькасць людзей.

Дарэчы, на карысць князёўны-манашцы гаворыць тое, што яна, будучы яшчэ даволі маладой і наіўнай, гэтага не разумее. І ўспрымае

вялікую палітыку як натуральную цягу блізкіх ёй людзей да святла сапраўднай веры. У Сяльцы вядзе яна яшчэ больш замкнёнае і сузіральніцкае жыццё, чым у Полацку. Яно не абцяжарвае юную ігуменню. Мабыць, толькі адно хвалюе Ефрасінню — няма побач сяброўкі-аднадумцы адных з ёю гадоў.

Усё вышэйпералічанае штурхае яе на ўчынак, па сучасных мерках, эгаістычны і нават жорсткі. Ефрасіння запрашае да сябе ў госці малодшую сястру Гардзіславу і ўгаворвае пакорлівую і даверлівую дзяўчыну, каб яна таксама, таемна ад бацькоў, прыняла пострыг. Яна лічыць, што такім чынам дапамагае сястры знайсці свой шлях да вечнага жыцця.

Але гэтым учынкам Ефрасіння не вырашае ўсе свае праблемы. У 1128 г. памірае набожны князь Барыс, дзядзька Ефрасінні, а ў наступным — кіеўскі князь Мсціслаў за адмову ісці ў паход на полаўцаў высылае ўсіх родных памёршага з Полацка ў далёкую Візантыю. Разам з бацькам і маці была вымушана пакінуць радзіму і яе малодшая сястра. Дзевятнаццацігадовая Ефрасіння часова застаецца без падтрымкі. Ёй страшна і самотна. Да гэтага ж пачынаюць адольваць сумненні: ці не занадта вялікую ахвяру прынесла яна на алтар веры? У пакутлівых роздумах ідуць дні, і разважлівасць усё ж такі перамагае ў спрэчцы з сэрцам. Ефрасіння розумам ужо сталага чалавека спасцігае сваё прадвызначэнне. Яна павінна аддаць усю сябе дзеля таго, каб расквітнела Полаччына і каб хаця трошкі лепш стала жыць палачанам.

І Ефрасіння ўжо самастойна робіць тое, што ёй наканавана. Яна збірае ў манастыры маладых жанчын і вучыць іх розным навукам, адкрывае пры манастыры школу для дзяцей гараджан. Наладжвае сувязі з манастырамі іншых княстваў у пошуках рэдкіх рукапісаў, якія потым пад яе кіраўніцтвам перапісваюць святыя сёстры.

Калі полацкія князі вяртаюцца пасля вымушанага гасцявання ў візантыйскага імператара на радзіму, яны знаходзяць манастыр Ефрасінні « аздобленым і поўным усялякіх даброт»аў».

Ефрасіння просіць у новага князя, Рагвалода Барысавіча, які даводзіцца ёй стрыечным братам, дапамогі ў заснаванні мужчынскага манастыра ў Полацку. Ёй не адмаўляюць. Ігуменам новага манастыра выбіраецца манах Дыянісій. Ён вельмі хутка набывае вялікі аўтарытэт у князя і становіцца яго першым дарадчыкам, а пазней епіскапам Полацкім. А Ефрасіння атрымлівае ў яго асобе самага сур'ёзнага праціўніка. Ёй даводзіцца сутыкацца з Дыянісіем па самых розных пытаннях маралі і палітыкі. Бо «не хацела яна бачыць, каб хто варагаваў: ні князь з князем, ні баярын з баярынам, ні

з простых хто са сваім сябрам, але ўсіх жадала бачыць адзінадушнымі».

У 1150 г. Ефрасінні ўжо больш за сорак гадоў. І яна духоўна падрыхтавана для самага вялікага з сваіх здзяйсненняў — узвядзення Спаскай царквы ў Полацку і царквы Прасвятой Багародзіцы пры мужчынскім манастыры, заснаваным ёю. Прыгожымі атрымаліся гэтыя храмы, не горш за кіеўскія ці наўгародскія. Да будаўніцтва першага Ефрасіння прыцягнула выдатнага дойліда-манаха Іаана. Для царквы Багародзіцы выпісала святыню з самой Візантыі — абраз маці Божай Адыгітрыі, які па паданню маляваў сам евангеліст Лука. Напрастольны ж крыж, які выкарыстоўваўся як каўчэг для хрысціянскіх рэліквій, набытых у Візантыі разам з Адыгітрыяй, быў заказаны лепшаму полацкаму майстру-ювеліру Лазару Богшу.

У дадзены час Ефрасіння знаходзіцца на вяршыні сваёй славы. Аўтарытэт ігуменні такі вялікі, што яе дапускаюць нават да кіраўніцтва княствам. Яе парад чакаюць і князі, і духоўныя асобы. Аб вялікай павазе сучаснікаў да Ефрасінні Полацкай сведчыць, між іншым, той факт, што полацкі князь Рагвалод Барысавіч у гэты час называе сваю нованароджаную дачку ў гонар стрыечнай сястры Ефрасінняй, а галіцкі князь Яраслаў Асмамысл упрошвае полацкую ігуменню стаць хроснай маці сваёй дачкі, таксама Ефрасінні.

Цікава, што першая з дзяўчынак у далейшым была кананізавана і яе імя папоўніла пантэон імёнаў пскоўскіх святых (туды яе аддалі замуж), а галіцкая князёўна ўвайшла ў гісторыю пад імем Яраслаўны, гераіні «Слова пра паход Ігаравы».

У 1173 г. полацкая ігумення, немаладая, хваравітая ўжо жанчына пачынае падумваць аб тым, каб з большай годнасцю скончыць свой жыццёвы шлях. Позірк Ефрасінні Полацкай звяртаецца да Іерусаліма.

Яе праводзілі з ушанаваннямі, вартымі царыцы. Людзі плакалі, не хаваючы свайго суму, бо любілі ігуменню за тое, што «быў жа дадзены дар гэтай блажэннай Ефрасінні ад Бога. Калі хто спытае ў яе пра што-небудзь, тая адказвала яму, і хто слухаў яе — атрымліваў усялякія даброты».

Перад самым адыходам да Ефрасінні прыехалі пляменніцы, Вольга і Кірыяна, з просьбай пастрыгчы іх у манашкі. Ігумення выканала гэту просьбу, хаця, як і ў выпадку з Гардзіславай, адбылося гэта супраць волі бацькоў.

Увесь шлях да Іерусаліма быў падобны на трыумфальнае шэсце. Правіцелі розных зямель і народаў запрашалі ігуменню да сябе ў госці. З эскортам свайго сваяка — імператара Візантыі Мануіла дабралася

Ефрасіння да Святой зямлі. Але гады ўзялі сваё. Далёкая дарога аказалася пажылой жанчыне не пад сілу. Яна памерла, дасягнуўшы сваёй мэты, ля труны Гасподняй.

Так скончылася жыццё гэтай незвычайнай жанчыны. Неўзабаве ў праваслаўных святцах з'явілася яшчэ адно імя, Ефрасінні Полацкай. Яна была першай усходнеславянскай святой, таму што кананізавалі яе нават раней, чым кіеўскую княгіню Вольгу, што жыла ажно за тры стагоддзі да Ефрасінні.

## ПРАДАЎЖАЛЬНІЦА СПРАЎ ЕФРАСІННІ

## ГАРДЗІСЛАВА СВЯТАСЛАЎНА (ЕЎДАКІЯ)
## (пасля 1110 — ? гг.)

Не здзівіла ты мяне, Гардзіслава, пра страх свой сказаўшы.
Не для ўсіх, а для гордых і мужных — той шлях, на які я, сястра твая, цябе клічу.

*Т. Бондар. «Спакуса»*

Першай на нашай зямлі жанчынай, якая ўступіла на шлях асветніцтва, была Ефрасіння Полацкая. Другой — можна смела назваць яе малодшую сястру Гардзіславу. Яна была паплечніцай і прадаўжальніцай спраў славутай налачанкі.

Прынята лічыць, што ў часы Ефрасінні ўсе дзяўчаты-князёўны атрымлівалі аднолькавае выхаванне і адукацыю. Але факты сведчаць аб іншым. Успомнім словы з «Жыція Ефрасінні Полацкай», дзе гаворыцца, што яна з дзяцінства вылучалася сваімі здольнасцямі. Падкрэсліваецца нават, што навука давалася ёй значна лягчэй, чым іншым. Зразумела, што дзеці полацкіх князёў мелі шырокі доступ да кніг, якія захоўваліся ў княжацкім палацы. Але ж Гардзіслава, у адрозненне, напрыклад, ад Ефрасінні, не магла карыстацца імі, бо... не ўмела чытаць. Гэта меркаванне зноў-такі падмацоўвае «Жыціе Ефрасінні Полацкай», той яго момант, калі старэйшая сястра просіць бацьку адпусціць малодшую да яе ў манастыр: «Пусці да мяне сястру маю Гардзіславу, каб навучылася грамаце».

Полацкі князь Святаслаў-Георгій, бацька Ефрасінні і Гардзіславы, безумоўна, лічыў, што дзяўчынку трэба рыхтаваць толькі да замужжа. У гэтым ён не вельмі адрозніваўся ад сваіх сучаснікаў-князёў.

Цікавасць старэйшай дачкі князя Святаслава да навук, а потым і яе пастрыжэнне, былі для яго з'явай незразумелай. І наогул, феномен Ефрасінні Полацкай яе сучаснікі разумелі з цяжкасцю. Малодшая ж сястра славутай жанчыны была звычайнай. Гісторыя выпадкова вылучыла яе ў шэраг асоб-вяршыцеляў.

Аднак Ефрасіння пры ўсёй яе геніяльнасці і апантанасці не магла абысціся без паплечнікаў. І відаць, першай, каго яна ўспомніла, была Гардзіслава. Чаму менавіта на Гардзіславу паў выбар Ефрасінні? Галоўным тут хутчэй за ўсё было тое, што гэта была яе сястра, характар якой яна вельмі добра ведала. Гардзіслава была дастаткова ўс-

прымальнай, паслухмянай і, што вельмі важна, мела здольнасці да навукі. У апошнім Ефрасіння магла канчаткова ўпэўніцца падчас навучання сястры. Выбар быў зроблены правільна, бо «...дадзены быў блажэннай Ефрасінні дар ад Бога: на каго паглядзіць вачамі сваімі, разумее, які чалавек будзе абраны сасудам Божым».

Цяпер наперадзе было самае цяжкае — падрыхтаваць Гардзіславу да манаства, пра якое дзяўчына і не думала, і супраць якога, безумоўна ж, рашуча ўзняліся б бацькі. І вось Ефрасіння «...з руплівасцю вучыла яе (Гардзіславу.— Аўт.) ратаванню душы, а тая з руплівасцю прымала, як урадлівая ніва, памякчэўшы сэрца сваё і кажучы: «Госпад Бог хай наставіць мяне на ратунак душы тваімі, пані, святымі малітвамі». Убачыўшы, што сястра падрыхтавалася ўжо да рашучага кроку, Ефрасіння таемна ад бацькоў «...прывёўшы яе ў царкву, наказала Іярэю, каб той, абвясціўшы, апрануў яе ў манаскія рызы, і наракла яе Еўдакіяй».

Можна шмат спрачацца аб тым, добра ці дрэнна зрабіла Ефрасіння для сваёй малодшай сястры. Мы не ведаем і не можам ведаць, як склаўся б далейшы лёс Гардзіславы, калі б бацька выдаў яе замуж. Магчыма, сапраўды, яна была б больш шчаслівай у ролі жонкі якога-небудзь князя.

Тым не менш пастрыжэнне Гардзіславы не было прымусовым, і, значыць, перакладаць поўнасцю адказнасць за яго на плечы маладой ігуменні Ефрасінні мы не маем права. Вырашыўшы стаць манашкай, Гардзіслава была ўпэўнена ў тым, што яе прызванне — служэнне Богу.

Даведаўшыся пра таемнае пастрыжэнне і другой сваёй дачкі, князь Святаслаў і яго жонка ледзь не страцілі розум ад гора.

Мяркуючы па ўсім, на гэту дачку князь ускладаў большыя надзеі, чым на Ефрасінню. А можа, Святаслаў-Георгій проста больш любіў Гардзіславу, была вельмі прывабнай у сваёй юнай жаноцкасці і якая магла зрабіць шчаслівым любога мужчыну.

Ефрасіння ж, верагодна, лічыла, што манаства не азначае адрачэння ад жаноцкасці і што званне Хрыстовай нявесты патрабуе якраз яшчэ большага ўдасканалення ў гэтым напрамку. Думаць так дазваляе своеасаблівасць устава яе манастыра і тое, чаму вучыла яна манашак: «...старых вучыла цярплівасці і ўстрыманню, юных жа навучала душэўнай чысціні і цялеснай бясстраснасці, пашчэнню чэснаму, хаджэнню рахманаму, голасу ціхмянаму, слову дабрачыннаму, ядзенню і піццю маўклівому; пры старэйшых маўчаць, мудрых слухаць; да старэйшых пакоры, да роўных і меншых любові некрывадушнай; мала казаць, а больш разумець». Гардзіслава ж была з ліку

лепшых вучаніц Ефрасінні. Аб чым сведчыць тое, што ігуменння даволі хутка пачала давяраць ёй адказныя справы. Калі Звеніслава, іх стрыечная сястра, якая таксама пастрыглася ў манашкі, вельмі часта замяшчала Ефрасінню ў кіраўніцтве навучаннем дачок багатых гараджан у школе, створанай пры манастыры, то Гардзіславе-Еўдакіі былі даверaны гаспадарчыя справы святога жытла. А калі Ефрасіння вырашыла накіравацца ў паломніцтва ў Іерусалім, то «...дала ўладарыць і ладзіць сястры сваёй Еўдакіі абодва манастыры». Гэта сведчыць аб тым, што яе сястра ўзяла на свае плечы кіраўніцтва не толькі жаночым, а і мужчынскім манастыром, які таксама быў створаны Ефрасінняй.

Вядома, што менавіта ў час Ефрасінні Полацкай у княстве пачалі весціся летапісы. Шмат хто з даследчыкаў лічаць, што летапісанне ў Полацку пачалося якраз з лёгкай рукі першай ігуменні. Калі гэта так, то пасля яе смерці менавіта Гардзіславе давялося прыняць разам з пасадай ігуменні яшчэ і гэты клопат. У «спадчыну» Еўдакіі быў пакінуты і канфлікт з мітрапалітам полацкім Дыянісіем.

Увогуле на Еўдакію лягла цяжкая задача не толькі захаваць усё, што было зроблена намаганцямі Ефрасінні, але і прадоўжыць яе пачынанні. Нам уяўляецца верагодным, што дарадчыкам новай ігуменні ў многіх пытаннях быў Кірыла Тураўскі. Дарэчы, ён стаў епіскапам тураўскім усяго на некалькі гадоў раней, чым Еўдакія — ігуменняй. І калі існавала пастаянная перапіска паміж такімі буйнымі цэнтрамі культуры, якімі былі ў той час тураўская епархія і полацкія манастыры, то хутчэй за ўсё перапіска гэта вялася не між Кірылам Тураўскім і Ефрасінняй, як лічаць большасць даследчыкаў, а менавіта між «тураўскім златавустам» і Гардзіславай-Еўдакіяй. Можна сцвярджаць і тое, што ігуменння Еўдакія была адной з першых, хто пачаў дабівацца кананізацыі Ефрасінні. Дзякуючы яе настойлівасці, у хуткім часе на землях усходніх славян з'явілася першая жанчына-святая.

## ЦЕНЬ ВЯЛІКАЙ АСВЕТНІЦЫ

## ЗВЕНІСЛАВА БАРЫСАЎНА (ЕЎПРАКСІЯ) (пасля 1110—1202 гг.)

Манастыр, яго сцены,
Стануць схронам і сховам
для высокіх натхненняў,
для высокага слова.

*Т. Бондар. «Доля»*

Побач з поўняй на небе становяцца нябачнымі нават самыя яркія зоркі. Так бывае і сярод людзей. Асоба прападобнай Ефрасінні Полацкай засланіла сваёй веліччу больш сціплыя, але таксама вельмі цікавыя асобы сваіх паплечнікаў, аднадумцаў, братоў і сясцёр па асвеце. Але такі буйны цэнтр культуры, адукацыі, навукі і рамёстваў, як Полацк сярэдзіны XII ст., не мог быць створаны намаганнямі толькі аднаго, няхай нават геніяльнага, чалавека. І нават, калі да імя Ефрасінні Полацкай мы далучым імёны дойліда Іаана і ювеліра Богшы, гэтага таксама будзе недастаткова. Уважліва чытаючы летапісы і іншыя помнікі старажытнай літаратуры, можна адкрыць для сябе яшчэ цэлае сузор'е імёнаў тых, хто, быццам паходні, сваім розумам і талентам асвяцілі шлях іншым. Сярод гэтых постацей найбольш выразная і прывабная — Звеніслава, князёўна і манашка, стрыечная сястра і найбольш блізкая паплечніца святой Ефрасінні. Што ж вядома нам пра яе?

Звеніслава, дачка князя Барыса, нарадзілася на некалькі гадоў пазней Прадславы (Ефрасінні Полацкай), дачкі князя Святаслава. Ранняе пастрыжэнне і адасабленне Прадславы-Ефрасінні ад свецкага жыцця не маглі зрабіць магчымым блізкае сяброўства стрыечных сясцёр. Звеніслава выхоўвалася «ў міры», так, як павінна была выхоўвацца па тым часе дачка Полацкага князя. У адрозненне ад Прадславы і яе малодшай сястры Гардзіславы, бацька якіх не наследаваў уладу над княствам, дачка старэйшага з братоў, Барыса, магла, відавочна, разлічваць на лепшы выбар пры замужжы. З гісторыі ж вядома, што, як нявесты, князёўны роду Усяслава Чарадзея цаніліся вельмі высока.

Тым не менш аднаго разу князёўна Звеніслава добраахвотна, хаця і не так фанатычна, як Прадслава-Ефрасіння, надзявае манаскі клабук. Усе грошы і каштоўнасці, што прызначаліся ёй у якасці пасагу, пераходзяць у манастырскую казну. Менавіта на іх, і амаль

толькі на іх, быў пабудаваны славуты Спаса Ефрасіннеўскі храм у Полацку. Што ж было прычынай?

У Полацку і дагэтуль існуе паданне пра князёўну, якая пакахала роднага брата і, каб пазбавіцца ад спакусы, пайшла ў манастыр, пабудавала храм «Спадару Ісусу, жаніху духоўнаму» на грошы ўласнага пасагу. Але хаця нешта падобнае ў паданні з гісторыяй Звеніславы і ёсць, не будзем пакуль ідэнтыфікаваць яе асобу з князёўнай з легенды.

У Звеніславы было шмат больш рэальных прычын, каб пакінуць свет.

1128 г. па летапісах — год смерці князя Барыса. Літаральна праз год кіеўскі князь на правах моцнага ссылае ўсю сям'ю нябожчыка ў Візантыю. Вымушаны пакінуць родны горад і бацька Ефрасінні Святаслаў.

Уладзімір Арлоў будуе гіпотэзу аб тым, што менавіта ў гэты год прымае пострыг Ефрасіння, каб уратавацца ад долі выгнанніцы. І нават абвяргае гэтым амаль аксіёмнае сцвярджэнне аб тым, што Ефрасіння стала манашкай у 12 гадоў. На яго думку князёўне было 16-19 гадоў.

Але навошта спрачацца з адзіным творам, у якім захаваліся больш-менш дакладныя звесткі аб будучай Полацкай святой,— з «Жыціем» Ефрасінні? Ефрасіння пастрыглася дванаццацігадовай, а, значыць, адбылося гэта значна раней 1129 г. Але былі ў Звеніславы ўсе падставы для таго, каб прыняць пострыг недзе ў гэтым годзе. Бо ніхто не ведаў, колькі працягнецца ссылка. На чужыне ж, пазбаўленая бацькоўскай апекі і становішча, князёўна Звеніслава наўрад ці ўжо магла прэтэндаваць на замужжа. А калі лёсам наканаваны манастыр, дык лепш у родным горадзе, сярод людзей, якія памятаюць пра славу роду Усяслава, пад кіраўніцтвам стрыечнай сястры.

Дарэчы, перакладчык «Жыція Ефрасінні Полацкай» на сучасную беларускую мову Аляксей Мельнікаў таксама схіляецца да думкі, што Звеніслава прыйшла ў манастыр да Ефрасінні, напэўна, неўзабаве пасля смерці бацькі, г. зн. у 1128-1129 гг.

Са своеасаблівым кантрастам падаецца ў «Жыціі» прыход да Бога Ефрасінні і Звеніславы. Калі Ефрасіння з узнёслым фанатызмам пераконвае ігуменню Раманаву пастрыгчы яе ў манашкі і з радасцю прымае новае, ужо манаскае, імя, дык Звеніслава прысвячае сваё жыццё служэнню Богу з ціхім сумам, блізкім да адчаю. «Пані й сястра! Уся прыгажосць гэтага свету мне не патрэбная. Аддаю ўсё гэта святому Спасу, а сама хачу схіліць галаву сваю пад **ярмо** (выдзелена намі.— Аўт.) Хрыстовае».

Духоўнае імя Звеніславе Ефрасіння выбрала сугучным свайму — Еўпраксія. З першага ж дня сястра Еўпраксія з галавою паглыбляецца ў манастырскае жыццё. Маладая жанчына паступова становіцца своеасаблівым духоўным лідэрам — усё атрымліваецца ў яе хутчэй і лепш, чым у іншых. Неўзабаве і сама ігуменння пачынае адчуваць, якім аўтарытэтам сярод сясцёр карыстаецца Еўпраксія. Нам, на жаль, невядома, асцярожнасць ці шчырая радасць за поспехі стрыечнай сястры на новым полі дзейнасці паспрыялі таму, што Ефрасіння ўрэшце прыблізіла Еўпраксію да сябе так, як нікога іншага. «І былі яны, як адна душа ў двух целах». Еўпраксія стала практычна намесніцай спраў Ефрасінні. І потым мы можам меркаваць, што менавіта яна непасрэдна кіравала працай сясцёр па перапісванню кніг для манастырскай бібліятэкі і вяла заняткі ў заснаванай Ефрасінняй школе для дачок багатых палачан у той час, калі сама ігуменння была пагружана ў справы больш адказныя: будаўніцтва храмаў і манастыроў, палітыка, наладжванне духоўных сувязей паміж Полацкім княствам і Візантыяй, вядзенне Полацкага летапісу, жорсткія спрэчкі з настаяцелем мужчынскага манастыра ў Полацку — Дыянісіем.

У «Аповесці мінулых гадоў» ёсць напамін аб моры, які давялося перажыць палачанам прыкладна ў гэты час. Магчыма, гэта была лакальнага плана ўспышка халеры, якая тады была частай госцяй у старажытнарускіх гарадах. Паданне сцвярджае, што манашкі Ефрасінні Полацкай падчас мору выйшлі разам з ігуменняй з келляў да людзей, каб дапамагчы ім, і паводзілі сябе так, як у больш блізкія да нас часы сёстры міласэрнасці. Але ў «Жыціі Ефрасінні Полацкай» нічога не гаворыцца пра ўдзел у гэтым акце міласэрнасці першай усходнеславянскай святой. Магчыма, не трэба давярацца паданню. Але тлумачэнне ўсяму гэтаму можа быць і такім: акт міласэрнасці быў, але Ефрасіння Полацкая не мела да яго ніякага дачынення, знаходзячыся недзе за межамі горада або занятая справамі царквы больш чым звычайна. Хто ж, акрамя няўрымслівай ігуменні, мог павесці святых сясцёр на вуліцы горада, каб аказаць дапамогу пакутуючым? Несумненна, толькі тая з манашак, якая мела ўладу ў манастыры амаль такую ж вялікую, як сама ігуменння. І калі паверыць апавяданню, што данесла да нас народная памяць, іншай асобы, чым Еўпраксія, у цэнтры яго не паставіш.

Звеніслава-Еўпраксія была, несумненна, адной з самых цікавых жанчын свайго часу. Яна не магла не разумець, што справа асветніцтва, якую, бы крыж, усклала на свае плечы Ефрасіння, непамерна цяжкая для аднаго чалавека. І таму лічыла сваім абавязкам па магчымасці падзяліць са стрыечнай сястрой гэты цяжар. Але яе не

прыцягвала слава. І таму, аддаючы ва ўсім першае месца Ефрасінні, яна добраахвотна ішла ў «цень».

Тое, што Еўпраксія з'яўлялася адной з нешматлікіх, што суправаджалі Ефрасінню ў яе паломніцтве ў Іерусалім,— яшчэ адно сведчанне ўсяго вышэйсказанага.

Яна стойка пераносіць нялёгкі шлях да Труны Гасподняй, усяляк падтрымлівае значна старэйшую і ўжо хваравітую Ефрасінню.

Там, у святым месцы, Еўпраксіі давядзецца быць да канца побач са згасаючай ігуменняй, прыняць апошні яе ўздых і ўскласці на сябе ўсе клопаты, звязаныя з пахаваннем.

У родны Полацк Еўпраксія вернецца сведкай найвялікшага дзіва — ціхмянага, набожнага канца жыццёвага шляху вялікай асветніцы Ефрасінні Полацкай, якая памерла менавіта ў тым месцы, дзе прыняў смерць Хрыстос, гэтым даказаўшы сваю святасць.

Яркае свяціла — Ефрасіння Полацкая — зайшло. І свет дрыготкай зоркі Еўпраксіі павінен быў, урэшце, стаць бачным. Гэта не магло не адбыцца. Яшчэ раз уважліва перачытаем «Жыціе Ефрасінні Полацкай», якое на самай справе носіць больш доўгую назву: «Аповесць жыція і смерці святой і Блажэннай і найпадобнейшай Еўфрасінні, ігуменні манастыра Святога Спаса і Найсвяцейшай Ягонай Маці, што ў горадзе Полацку. Благаславі, ойча!»

Аўтар гэтага з усіх бакоў гарманічнага твора лічыцца невядомым. Спецыялістамі ўстаноўлена амаль дакладна, што напісаны ён у канцы XII ст. Падрабязнасці ж, звязаныя з многімі момантамі жыцця святой ігуменні, не пакідаюць сумненняў у тым, што пісаў «Жыціе» чалавек, безумоўна, блізка знаёмы з Ефрасінняй. «Жыціе» мала расказвае нам аб тым, што адбываецца за сценамі манастыра, але шмат месца ў ім удзяляецца настаўленням ігуменні сестрам у Хрысце, прыводзяцца даслоўна маленні, якія ў тым альбо іншым выпадку ўзносіць Богу будучая святая. Зусім не адлюстраваны ўдзел Ефрасінні ў палітычным жыцці княства. Але аддаецца хвала яе духоўным подзвігам. Дык хто ж быў аўтарам дадзенага твора? Не памылімся, калі скажам, што свецкі чалавек, альбо той, хто ўсё жыццё быў свецкім і толькі ў старасці прыняў духоўнае імя, у аўтары не падыходзіць. Значыць, пісаў манах, які прыняў пострыг яшчэ ў маладым узросце. Дакладней, манашка. Чыста ўжо па-жаноцку зроблены адбор эпізодаў. Пасля суровых аскетычных радкоў роздуму Ефрасінні над філасофіяй чалавечага існавання ідзе амаль меладраматычны эпізод — плач князя Святаслава аб лёсе дачкі, якую замест шлюбнага піру ды мацярынскай радасці чакае жыццё ў пастах і маленнях. І гэта аплакванне маладосці, прайшоўшага міма кахання, немагчымага ўжо мацярынства,

паўтараецца ў «Жыцііі», як у былінах, тройчы. Другі раз пасля эпізоду насільнага пастрыжэння Ефрасінняй роднай сястры Гардзіславы, трэці — пасля пастрыжэння пляменніц Ефрасінні, Вольгі і Кірыяны. Гэта плач аб лёсе жанчын роду Усяслава, гэта гімн іх цвёрдасці і непахіснасці. Так востра адчуваць тое, чым даводзіцца ахвяраваць дзеля ведаў і веры, можа толькі жанчына, што сама прыйшла ў манастыр праз пакуты і адсутнасць іншага выбару. А менавіта так стала манашкай Звеніслава.

Пачытаем жа яшчэ тую частку твора, што датычыцца паломніцтва ў Іерусалім. Яна самая падрабязная. Аўтар не забывае ніводнага факта, пачынаючы ад узнёслага малення Ефрасінні перад далёкай дарогай і канчаючы дакладнай справаздачай пра хваробу ігуменні: «І ляжала ў хваробе сваёй 24 дні, і, даведаўшыся пра сваю смерць, сказала: «Паклічце да мяне прэсвітэра, каб даў мне прычасці святых тайнаў, бо вяшчальнік стаіць ужо блізка, чакаючы наказу Уладара». І прыйшоў прэсвітэр, несучы прычасць. Еўфрасіння ж узнялася і пакланілася тройчы, і, прыняўшы найчысцейшае цела і святую кроў Хрыстовую, лягла на ложак свой і перадала душу сваю ў рукі Бога Жывога 24 дня месяца мая, і ўвайшла ў пакоі нябесныя. Давыд жа з Еўпраксіяй і з іншымі пахавалі цела яе чэсна».

З твора мы даведваемся таксама, каго сустракала Ефрасіння па дарозе ў Іерусалім, якім святыням і як пакланялася там, у якім храме набыла залатое кадзіла і фіміям. Падрабязна апісаны і нягоды спадарожнікаў Полацкай ігуменні па наладжванню яе пахавання. Спачатку па жаданню Ефрасінні яе цела хацелі пакласці ў лаўры святога Савы, але гэтаму вельмі запраціваліся тамтэйшыя манахі: «Маем забарону ад святога Савы: не прымаць ніводнай жанчыны». Урэшце для Ефрасінні знайшлося месца ў манастыры святой Багародзіцы, які быў па тых часах агульнажыццёвым.

Усё гэта гаворыць аб тым, што аўтар «Жыція» разам з Ефрасінняй быў удзельнікам святога паломніцтва. Хто ж гэта іншы, як не «цень» вялікай асветніцы — Еўпраксія?

Яе зорным часам, безумоўна, стаў час напісання «Жыція» — аднаго з першых вядомых нам твораў беларускай літаратуры, які па сваіх годнасцях набліжаецца да твораў Тураўскага «Златавуста» і «Слова пра паход Ігаравы». Мы вельмі спадзяёмся, што і сама Ефрасіння пісала літаратурныя творы, але доказаў гэтаму пакуль, на жаль, няма. Але хіба беларуская культура страчвае нешта ад таго, што Ефрасінню Полацкую нельга назваць літаратарам? Есць жа твор іншай жанчыны, таксама манашкі, таксама птушкі з гнязда Усяслава. І гэта — феномен, характэрны толькі для нашай Радзімы. Бо ні ў адной з

рускіх крыніц не нагадваецца аб жанчыне-пісьменніцы такога старажытнага часу. Пра тое ж, як ацанілі працу Звеніславы-Еўпраксіі яе сучаснікі, можна меркаваць па тым, што Радзівілаўскі летапіс, у якім, дарэчы, няма нават упамінання пра Ефрасінню Полацкую, дакладна адзначае дату смерці Еўпраксіі — 1202 г.

«Тое ж(е) зимы преставис(я) Борисковна въ Кидекшии и положена быс(ть) в ц(е)ркви Бориса Глъба, подлъ о(т)ца и м(а)т(е)р».

Як бачым, Еўпраксія памерла ў даволі старэчым узросце. Кідэкша — гэта сяло на рацэ Нерль у Суздальскай зямлі. Пэўна, да самага скону свайго Еўпраксія працягвала справу асветы сярод святых сясцёр, перададзеную ёй Ефрасінняй. Дзеля гэтага яна наведвала шмат манастыроў па ўсёй Рускай зямлі.

Цела асветніцы было перавезена на радзіму і пахавана ў Бельчыцкім манастыры Барыса і Глеба, заснаваным яе бацькам.

## СЛОВА, ПАЧУТАЕ БОГАМ

### ЕФРАСІННЯ РАГВАЛОДАЎНА (ЕУПРАКСІЯ ПСКОУСКАЯ) (каля 1170—1243 .)

І ўсё гарэла свечка ў цэнтры жаху,
Таму што Бог чакаў сваю дачку.
Ля брамы ў рай…

*Л. Рублеўская. «Смерць мнішкі»*

Ёсць людзі, чые малітвы хутчэй за іншыя даходзяць да Бога. Яны вылучаюцца сярод падобных да сябе незвычайнай дабрынёй, чалавечнасцю, спагадлівасцю і становяцца нават пасля смерці сваёй яркімі паходнямі, якія асвятляюць шлях да духоўнай дасканаласці нашчадкам.

Зайздросны лёс выпаў на долю жанчын полацкага княжацкага роду ў XII-XIII стст. Адну за адной клікаў высакародных жанчын да сябе Бог, і яны ішлі на кліч гэты, кідаючы ўсё асабістае дзеля таго, каб стаць светачам дабра і веры для сваіх суайчыннікаў.

Адной з іх была полацкая князёўна Ефрасіння Рагвалодаўна, дачка князя Рагвалода Барысавіча, пляменніца Ефрасінні Полацкай.

Нарадзілася яна ў апошнія гады жыцця славутай асветніцы. Хутчэй за ўсё Ефрасіння Полацкая стала і яе хроснай маці. Таму, відаць, імя, якое атрымала дзяўчынка пры хрышчэнні, было дадзена ёй у гонар цёткі.

Кажуць, што імёны вельмі часта ўплываюць на лёс людзей. Ці не з-за гэтага ў далейшым малодшая дачка Рагвалода Барысавіча паўтарыла лёс сваёй духоўнай маці?

Усё дзяцінства князёўны Ефрасінні праходзіла ў арэоле святасці цёткі. Гэта, безумоўна ж, не магло не выхаваць у дзяўчыне набожнасці, павагі да старэйшых, дабрыні да людзей. Калі надышоў час вырашаць будучае Ефрасінні, бацька ўсур'ёз задумаўся: у сям'і полацкіх князёў было ўжо на гэты час шэсць манашак. І кожная з іх, прыняўшы рашэнне прысвяціць сябе служэнню Богу, праяўляла велізарную ўпартасць: ніхто не здолеў іх тады адгаварыць. Ці не заявіць хутка і Ефрасіння пра намер прыняць пострыг? А яна ж – любімае дзіця, малодшае, позна народжанае.

І Рагвалод Барысавіч разам са сваёй жонкай, дачкой кіеўскага князя Ізяслава Мсціслававіча, вырашыў, як найхутчэй аддаць яе замуж.

На жаль, зараз нельга ўстанавіць, хто быў гэты муж князёўны.

Шлюб, гледзячы па ўсім, быў нядоўгім і бяздзетным. І вось ужо маладая ўдава вяртаецца ў бацькоўскі дом. Сумна і аднастайна праходзяць гады. Аднаго за адным страчвае Ефрасіння сваіх бацькоў. Яна магла б прыняць пострыг. Але не зрабіла гэтага. Па якіх прычынах, невядома. Ці то выконвала перадсмяротную волю Рагвалода Барысавіча, ці то лічыла сябе не зусім гатовай духоўна прыняць на ўласныя плечы цяжар манаскага жыцця.

Сватаўство ўдаўца, сына пскоўскага князя Уладзіміра — Яраслава выратавала Ефрасінню ад цяжкіх роздумаў і хістанняў. Яна згадзілася падзяліць з гэтым чалавекам свой лёс.

Па падліках А. Мельнікава, аўтара кнігі пра беларускіх святых — «Путь непечален», шлюб гэты адбыўся не раней за 1201 г.

Ефрасіння пражыла з Яраславам больш чым дваццаць гадоў. Але сям'я гэта не была шчаслівай: муж не зрабіў нічога дзеля таго, каб жонка пакахала яго.

Што ж за чалавек быў Яраслаў Уладзіміравіч? Летапісы даюць нам магчымасць уявіць сабе гэту неардынарную і супярэчлівую асобу.

За некалькі гадоў да жаніцьбы з Ефрасінняй, мы бачым яго саюзнікам палачан, які ўдзельнічае разам з імі ў некалькіх паходах на «дзікую Літву». Потым — князем наўгародскім, дарэмна пакрыўджаным і неацэненым грамадзянамі гэтага вольнага горада.

Падчас шлюбу з полацкай князёўнай Яраслаў Уладзіміравіч, прагнаны наўгародцамі, ужо не разлічваў вярнуцца ў Ноўгарад, але шчыра спадзяваўся стаць у хуткім часе князем пскоўскім, бо бацька яго быў ужо вельмі стары і ўсё часцей давяраў яму займацца дзяржаўнымі справамі замест сябе.

Магчыма, у думках прымяраючы на сябе княжацкую шапку пскоўскага ўладара, Яраслаў марыў пра славу свайго прашчура па бацькоўскай лініі, Уладзіміра Манамаха. Але лёс прымусіў яго ўспомніць і зусім аб іншым радстве, па матчынай лініі. Тая, што дала жыццё Яраславу Уладзіміравічу, была немкай, пляменніцай рыжскага епіскапа. Сярод рыцараў-лівонцаў у яго аказалася шмат сваякоў. Яны неаднаразова спрабавалі пераманіць да сябе спачатку бацьку Яраслава, а потым і яго самога, але ён не рашаўся: пэўна, не вельмі давяраўся разважлівым і прадбачлівым немцам.

Але неўзабаве Уладзімір Пскоўскі памірае. І пскавічы, сярод якіх княжацкі сын не карыстаўся асаблівай папулярнасцю, адмаўляюцца ад яго. Гэта настолькі ўражвае мужа Ефрасінні Рагвалодаўны, што ён, урэшце, звяртаецца ў Рыгу за дапамогай. Так быў зроблены першы крок да здрады.

В. Карамзін лічыць, што Ефрасіння разам з Яраславам паехала ў Рыгу. Але шэраг фактаў, якія прыводзяцца ў царкоўнай літаратуры, абвяргаюць гэту думку і даюць нам магчымасць сцвярджаць, што яна ці то была кінута мужам, які ў гэты момант, акрамя ўласнай крыўды, ні пра што іншае не думаў, ці то засталася ў Пскове па сваёй волі. Другое больш верагодна, бо не магла Ефрасіння, сэрца якой балела за пскавічоў, якія неаднойчы ўжо гінулі ад крыжацкіх мячоў, апраўдаць учынак мужа.

Яна засталася сам-насам са сваімі невясёлымі думкамі ў Пскове, у які амаль дваццаць гадоў назад прыйшла чужой, ды так і не стала патрэбнай. Магчыма, толькі шчырая вера ратавала Ефрасінню Рагвалодаўну ў гэты цяжкі час ад адчаю. Ці былі ёй падтрымкай дзеці, якіх, вядома ж, не магла не нарадзіць яна мужу за такі доўгі час сумеснага жыцця? На жаль, мы гэтага не ведаем. Летапісы не называюць нават іх імёнаў. Магло здарыцца і так, што ніхто з іх не дажыў да гэтага часу.

Аднак Ефрасіння вельмі хацела хоць у чымсьці ў гэты нялёгкі для пскавічоў час быць ім карыснай. Таму яна ўсе свае зберажэнні і тое, што засталося пасля Яраслава, кідае на пабудову велічнага храма Іаана Хрысціцеля на рацэ Вялікай, а пасля і жаночага манастыра пры ім. Неўзабаве яна перасяляецца з багатага палаца ў адну з келляў гэтага манастыра. Дабрачыннасць, спагадлівасць, набожнасць — гэта тое, што вельмі хутка надало ёй вялікі аўтарытэт сярод гараджан,

Між тым муж Ефрасінні ў Рызе быў аблашчаны каталіцкім духавенствам. Яму абяцалі багацце, пашану, уладу, калі ён зменіць веру. І Яраслаў згадзіўся. Рускі князь стаў католікам. За гэта яму аддалі ў валоданне горад Одэнпэ. Але думкі пра пскоўскае княжанне не пакідалі Яраслава.

У 1233 г. Яраслаў Уладзіміравіч робіць спробу адваяваць права на яго з дапамогаю лівонцаў. Яму ўдаецца захапіць пскоўскую крэпасць Ізборск, але жаданы Пскоў не даўся. Пскавічы паланілі Яраслава і адправілі ў Пераяслаўль у ссылку.

Учынак мужа яшчэ больш засмуціў няшчасную Ефрасінню. Але чым магла яна загладзіць віну Яраслава перад пскавічамі?

Яшчэ больш горычы ёй дадала вестка пра тое, што Яраслаў Уладзіміравіч збег з Пераяслаўля ў Рыгу. Пры гэтым ён нават і не ўспомніў пра жонку.

Шмат дзён Ефрасіння горача малілася Богу, пытаючыся ва Усявышняга, як ёй далей жыць. І хутка рашэнне знайшлося, пэўна, адзіна магчымае на дадзены момант для сумленнай жанчыны.

Яна прымае пострыг у манастыры, пабудаваным ёю. Ефрасінні Рагвалодаўны не стала, з'явілася Еўпраксія (гэта манаскае імя прыняла полацкая князёўна ў гонар сястры Ефрасінні Полацкай). Вельмі хутка фундатарка пскоўскага манастыра становіцца ігуменняй. Цяпер усе намаганні гэтай набожнай, рахманай жанчыны накіраваны на тое, каб зрабіць жытло святых сясцёр адным з буйнейшых культурных цэнтраў Пскова. Усяго два гады спатрэбілася Еўпраксіі, каб яе манастыр праславіўся гэтак жа, як манастыр у Сяльцы, заснаваны Ефрасінняй Полацкай.

У той час, калі мужная жанчына здзяйсняла свой духоўны подзвіг, яе былы муж у Рызе... жаніўся. Новая жонка была немкай, удвая маладзейшай за Яраслава Уладзіміравіча. Падсунуўшы яму новую жонку, лівонцы чакалі ад былога пскоўскага князя ўдзячнасці. І стары Яраслаў не падвёў сваіх добразычліўцаў. На працягу некалькіх гадоў ён удзельнічаў ва ўсіх паходах рыцараў на рускія землі.

У 1240 г. лівонцы зноў захапілі Ізборск. А праз зусім невялікі час, падкупіўшы пскоўскага пасадніка Цвярдзілу і некалькіх баяр, яны ўвайшлі ў Пскоў.

Што давялося перажыць мірным жыхарам Пскова — мы ведаем з летапісаў. Як перанесла гэта ігумення Еўпраксія — можна толькі здагадвацца.

На шчасце пскавічоў ім на дапамогу прыйшоў наўгародскі князь Аляксандр Неўскі. Ён вызваліў Пскоў. А 5 красавіка 1242 г. нанёс нямецкім рыцарам знішчальны ўдар на Чудскім возеры.

Ігуменні Еўпраксіі, безумоўна ж, было вельмі прыемна, што вызваліцель Пскова князь Аляксандр быў праз жонку пароднены з полацкімі князямі. Юная наўгародская княгіня Аляксандра з'яўлялася сваячкай Ефрасінні-Еўпраксіі.

Старасць няўмольна набліжалася да ігуменні. Але першым адчуў яе подых здраднік Яраслаў. Цяжка сказаць, што прымусіла яго праз дзесяць гадоў разлукі паслаць ганца да былой жонкі з просьбаю неадкладна прыбыць у Одэнпэ. А. Мельнікаў мяркуе, што Яраслаў быццам бы меў намер патрабаваць у Еўпраксіі яе пасаг (манастырскія багацці, ці што? — Аўт.), каб... аднавіць моц Лівонскага ордэна. Але такое тлумачэнне не вытрымлівае ніякай крытыкі. Цяжка ўявіць пскоўскі манастыр багатым пасля таго, як Пскоў пабываў ва ўладзе крыжакоў. Ды і наогул ні адзін манастыр на той час не мог мець такіх багаццяў, каб іх хапіла на «аднаўленне моцы» цэлага рыцарскага ордэна.

Хутчэй за ўсё стары князь, адчуваючы набліжэнне смерці, хацеў нейкім чынам выпрасіць прабачэнне ў пакрыўджанай ім жанчыны. І добрая, рахманая Еўпраксія, разумеючы, што князь-здраднік не можа

без рызыкі для свайго жыцця з'явіцца ў Пскове, сама накіроўваецца ў далёкі шлях, каб, калі яшчэ можна, паспець выратаваць заблукаўшую душу.

У Одэнпэ паміж былымі мужам і жонкай адбылася доўгая размова. Ніхто не ведае, чым яна скончылася. Дакладна вядома толькі тое, што раз'юшаная жонка-немка Яраслава неўзабаве пасля гэтай размовы падаслала свайго сына, каб ён забіў старую ігуменню. Так абарвалася жыццё Ефрасінні-Еўпраксіі.

Цікава, што ў царкоўнай літаратуры забойцам Еўпраксіі называецца сын Яраслава Уладзіміравіча ад жонкі-немкі. Але тады хлопчыку было не больш за дзевяць гадоў. І ўявіць дзевяцігадовага забойцу даволі цяжка. Таму можна з вялікай верагоднасцю сцвярджаць, што гэта быў сын немкі ад першага шлюбу, пасынак Яраслава.

Манашка Сандулія, якая адна суправаджала састарэлую ігуменню ў Одэнпэ, зрабіла ўсё магчымае, каб даставіць цела сваёй настаяцельніцы ў Пскоў. За гэта яна была ўзнагароджана — першая ўбачыла цуд: ад іконы Збавіцеля, пад якой паставілі труну маці Еўпраксіі, пралілося ўніз міра.

Імя полацкай князёўны папоўніла пантэон Пскоўскіх святых.

## МАЧАХА КНЯЗЯ ВЯЧКІ

## СВЯТОХНА КАЗІМІРАЎНА
## (XII—XIII стагоддзі)

Ён... зведаў холад сірочага жыцця, калі на месцы роднай маці... была чужая, незразумелая жорсткая жанчына, як ледзяная зорка ў марозным зімовым небе. Ён ніколі не бачыў усмешкі на прыгожым твары сваёй мачахі Святохны.

*Л. Дайнека. «Меч князя Вячкі»*

Ёсць гістарычныя асобы, звесткі пра якіх падобны на павыдзіраныя з кнігі старонкі. Такі лёс выпаў полацкай княгіні з рэдкім і дзіўным імем Святохна, што жыла ў канцы XII — пачатку XIII ст. Аповед, надобны на кавалак з гісторыі Старажытнай Грэцыі альбо Рыма, галоўнай гераіняй якога з'яўляецца гэта жанчына, дайшоў да нас толькі дзякуючы выпадку. Гэта — адзінае, што захавалася ад славутага Полацкага летапісу, па паданню пачатага Ефрасінняй Полацкай. Апошні экземпляр гэтага летапісу знаходзіўся ў XVIII ст. у прыватнай бібліятэцы архітэктара Яропкіна. Ён вельмі даражыў каштоўным рукапісам і не дазваляў нікому карыстацца ім. Славуты расійскі гісторык В. М. Тацішчаў ледзь упрасіў архітэктара паказаць яму кнігу. І быў да глыбіні душы ўражаны тым, што прачытаў. Асабліва захапіла яго гісторыя «полацкай Федры» Святохны, і ён хуценька занатаваў яе. Неўзабаве ў доме Яропкіна ўспыхнуў пажар, і апошні экземпляр Полацкага летапісу загінуў у ім.

А што ж гісторыя княгіні Святохны? Захаваўшыся толькі ў зробленым наспех запісе Тацішчава, яна была пастаўлена пад сумненне многімі даследчыкамі. Выклікалі сумненні дата, пад якой яна прыводзілася, а таксама імёны некаторых дзеючых асоб. Магчыма, нейкая памылка была дапушчана летапісцам. А можа, нешта было наблытана і самім Тацішчавым пры перапісванні. Тым не менш нельга адмаўляць таго, што амаль дзевяць стагоддзяў таму ў Полацку жыла неардынарная асоба, жанчына ўладная і славалюбівая, з-за якой у свой час ударыў вечавы звон у старажытнай крывіцкай сталіцы...

Святохна была дачкой паморскага (альбо памяранскага — у розных месцах тэксту па-рознаму) князя Казіміра. Яна з'яўлялася зацятай каталічкай і нават тады, калі выйшла замуж у праваслаўны

Полацк, прывезла з сабой святара-лаціняніна. Муж, князь Барыс Давыдавіч, меў ад першай жонкі, славянкі, двух сыноў, Вячку і Усевалада (ва ўрыўку з Полацкага летапісу ён памылкова называецца Васількам, хаця гэта магло быць і хрысціянскім імем Усевалада). Абодва княжычы былі ўжо падлеткамі, калі ў іх з'явілася мачаха. Па апісанні летапісца гэта была прыгожая і хітрая жанчына. Ёй удалося вельмі хутка прывязаць да сябе немаладога князя Барыса. Пры гэтым ён стаў вельмі часта прыслухоўвацца да яе парад не толькі ў асабістым жыцці, але і ў справах дзяржаўных. Дабром гэта не магло скончыцца.

Першыя прыметы буры, што набліжалася, верный баяры Барыса Давыдавіча адчулі ў год, калі Святохна нарадзіла сына. Яму далі імя Уладзімір. Але маці ўпарта называла немаўля на каталіцкі манер Войцэхам. Са з'яўленнем гэтага дзіцяці княгіня пачала таемную барацьбу з пасынкамі за княжацкі прастол.

Трэба было бачыць, якой добрай і ласкавай стала з імі Святохна! Магло падацца, што быццам бы пасля нараджэння ўласнага сына ў сэрцы княгіні прабудзілася матчына любоў і да чужых сыноў.

Неаднойчы ў размовах з Вячкам і Усеваладам Святохна Казіміраўна спрабавала падкрэсліць, што яны ўжо зусім дарослыя і што пара ім ужо заняцца сапраўды дарослымі, мужчынскімі справамі. Малапамалу хітрай жанчыне ўдалося ўсяліць княжычам-пасынкам думку прасіцца ў бацькі на княжанне ў Дзвінскую вобласць. А для таго каб падрыхтаваць да дадзенай сынавай просьбы самога князя Барыса, княгіні шмат часу не спатрэбілася. І князь адпусціў сваіх сыноў.

Пазбавіўшыся ад пасынкаў, Святохна Казіміраўна вырашыла ўстараніць і верных дарадчыкаў князя — баяр, якія маглі б перашкодзіць яе плану. Святохна была цудоўнай артысткай, таму ёй даволі хутка ўдалося ачарніць перад Барысам Давыдавічам некалькіх найбольш уплывовых палачан. Князь адмовіўся ад іх парад і паслуг. Але тыя не збіраліся так проста здавацца. На вуліцах Полацка пакрыўджаныя Барысам баяры перад натоўпам пачалі гаварыць пра тую небяспеку, якая зыходзіць менавіта ад княгіні, бо добра разумелі, праз ласку каго яны трапілі ў апалу.

Становішча ў Полацку абвастраецца да апошняга. Святохна разумее, што ў такой сітуацыі трэба дзейнічаць як мага хутчэй і больш рашуча. І яна піша фальшывае пісьмо ад імя сваіх галоўных ворагаў — тысячніка Сямёна, пасадніка Воіна і ключніка Дабрыні, якое быццам бы адрасавана юным княжычам. І было падстроена так, што фальшыўка гэта трапіла ў рукі князя як выпадкова перахопленая. Барыс Давыдавіч прачытаў і анямеў ад нечаканасці. У пасланні памянё-

ныя вышэй асобы заклікалі княжычаў скінуць князя і забіць яе, мачаху, разам з маленькім Войцэхам. Змова?

Магчыма, Сямёну, Воіну, Дабрыні і ўдалося б апраўдацца перад князем, але Святохна паспяшалася — паслала да іх сваіх верных людзей, якія забілі тысячніка, пасадніка ды ключніка «за здраду князю і княгіні».

Полацк бурліў, людзі не ведалі, каму верыць. Усе напружана чакалі вяртання княжычаў і іх тлумачэнняў. Як хацеў стары князь, каб Вячка і Усевалад аказаліся невінаватымі! Але Святохна прыспешвала мужа як мага хутчэй скончыць з «няўдзячнымі» сынамі, пакуль яны не забілі яго самога. «У цябе ж ёсць яшчэ адзін сын, ёсць каму перадаць уладу, дык чаго ж ты хістаешся?» — гаварыла яму каварная княгіня.

Тым часам верныя людзі перадалі княжычам усё, што адбываецца ў Полацку. І юнакі жахнулся. Яны чакалі ўсяго, акрамя такога каварства. Усевалад, як старэйшы сын, узяў на сябе цяжар высвятлення адносін з бацькам. Ён, развітаўшыся з братам, накіроўваецца ў Полацк.

На жаль, нам невядома, якім чынам удалося апраўдацца Усеваладу перад Барысам Давыдавічам, але бацька паверыў яму. Інтрыгам Святохны Казіміраўны прыйшоў канец. У свята на Спаса ў Полацку ўдарыў вечавы звон. Палачане кінуліся ў княжацкі палац і схапілі княгіню. Вось так скончыла «полацкая Федра» Святохна Казіміраўна, мачаха славутага князя Вячкі.

Запіс гэтай гісторыі ў Полацкім летапісе быў зроблены пад годам 1217. Але, без сумнення, яна адбылася значна раней. Бо ў 1207 г., па хроніках, і Усевалад, і Вячка — ужо князі сталага ўзросту, якія вядуць актыўную барацьбу з крыжакамі, а ў Полацку сядзіць князь Уладзімір, таксама дарослы чалавек. Магчыма, летапісец прыгадаў дадзеную гісторыю ў сувязі з нейкай іншай падзеяй, што адбылася ў 1217 г.? На жаль, гэта так і застанецца для нас таямніцай.

## ЛЕДЗІ МАКБЕТ З НАВАГРАДКА

### МАРТА
### (? — 1262 гг.)

Я думаю, што калі Бог усёведны,
Яму вядомы і цяжкі мой грэх.
*Ю. Марцінкявічус. «Міндаўгас»*

Безумоўна, гэта самая таямнічая асоба ва ўсёй гісторыі Беларускага сярэднявечча — першая і адзіная літоўская каралева, жонка вялікага Міндоўга, Марта.

Сапраўдных, гістарычна пацверджаных сведчанняў пра яе захавалася небагата — адзін сказ у Іпацьеўскім спісе «Аповесці мінулых гадоў», два — у Галіцка-Валынскім летапісе, некалькі разрозненых фактаў у нямецкіх хроніках і іншых дакументах таго часу.

Але той, як кажуць, хто мае вушы,— пачуе, а той, хто мае вочы,— убачыць за імі поўнае драматызму, вартае пяра Шэкспіра, чалавечае жыццё.

Марта нарадзілася дзесьці ў 20-х гг. XIII ст. Кім па паходжанню была будучая каралева? Гэта, на жаль, не высветлена. Адно несумненна, што была яна са знатнай сям'і. Вядома, што літоўскія князі і да, і пасля Міндоўга даволі ахвотна бралі шлюб са славянкамі. Так, напрыклад, дзве жонкі Гедыміна, Ева і Вольга, былі «рускімі», сын яго, Альгерд, быў жанаты спачатку на віцебскай князёўне Марыі, а пасля на цвярской — Ульяне. Жонкай Вітаўта была Ганна, смаленская князёўна. Гэты спіс можна працягваць і далей.

Нам невядома, якое імя было дадзена Марце пры нараджэнні яе бацькамі. Тое, з якім яна ўвайшла ў гісторыю, Марта атрымала пры хрышчэнні (а можа, пры пераходзе ў каталіцтва). Такім было жаданне Міндоўга, яе другога мужа.

Першым жа быў літоўскі князь Вісмант. Калі юная Марта стала яго жонкай, ён быў ужо чалавекам сталага ўзросту.

Літоўскі пісьменнік Ю. Марцінкявічус, які, працуючы над драматычнай паэмай «Міндаўгас», сабраў вялікую колькасць дакументальных матэрыялаў той эпохі, сцвярджае, што, яшчэ будучы жонкай Вісманта, Марта пачала здраджваць яму з Міндоўгам, служылым князем Наваградка. Ці было гэта так у сапраўднасці, цяжка сказаць. Фактычны матэрыял, што маецца на сёння, дазваляе сцвярджаць толькі тое, што дзеля таго, каб завалодаць Мартай, Міндоўг пайшоў на забойства яе мужа. Холмскі летапісец піша: «...его же (Вісманта.—

Аўт.) уби Миндогут и жену его поял». У Галіцка-Валынскім летапісе забойства датуецца 1252 г. Там жа ўдакладняецца, што адбылося гэта пад горадам Цвіраметам.

1252 г. быў даволі цяжкім для Міндоўга. За два гады да гэтага ён распачаў міжусобіцу са сваім дзядзькам Выкантам і яго сынамі Таўцівілам і Едзівілам. Ён паслаў іх у паход на Смаленск і накіраваў услед за імі наёмных забойцаў. Раптоўная гібель князёў падчас бою ні ў кога не выклікала б падазрэнняў. Але родзічы своечасова раскрылі задуму Міндоўга і збеглі ад яго ў Галіч, да князя Данілы, які быў жанаты другім шлюбам на дачцэ і сястры беглякоў. У Галічы склалі план барацьбы супраць «хітрага і жорсткага варвара» Міндоўга. Даніла Галіцкі дамовіўся з Лівонскім ордэнам, а Выкант падкупіў жмудзінаў і яцвягаў. Міндоўг на некаторы час аказаўся з усіх бакоў акружаны ворагамі. Але ён не разгубіўся. Міндоўг прымае каталіцтва і тым самым перацягвае на свой бок лівонцаў. Разам з імі Міндоўг здзейсніў цэлы шэраг баявых паходаў з мэтай захапіць гарады сваіх родзічаў Варуту і Цвірамет. Паходы гэтыя былі не вельмі ўдалымі, але давалі Міндоўгу шанц выстаяць супраць сваіх ворагаў.

У адной з сутычак пад Цвіраметам і загінуў князь Вісмант, які выступаў саюзнікам Міндоўга. Хутчэй за ўсё наёмныя забойцы падчас бітвы нанеслі яму ўдар у спіну. Усе, безумоўна ж, здагадаліся, хто вінаваты ў смерці Вісманта, але прамых улік супраць Міндоўга не было.

Цяжка сказаць, які ўдзел у гэтых падзеях прымала Марта. Кім была яна: невінаватай ахвярай ці саўдзельніцай злачынства?

Адна з пазней складзеных легенд, якую давялося пачуць пад Наваградкам, трактуе падзеі наогул арыгінальна: Марта дамовілася загадзя з Міндоўгам, і перад бітвай Вісманту перадалі яе ліст, у якім няверная жонка прызнавалася ў тым, што яе дзіця — не ад Вісманта, а ад Міндоўга. Вісмант, знішчаны гэтай весткай, шукаў у баі смерці. І знайшоў яе. У гэтай народнай версіі гісторыі гібелі Вісманта адмаўляецца прамое забойства Міндоўгам саперніка. У наяўнасці хутчэй падбухторванне да самагубства. І галоўная віна перакладзена на Марту.

Добра разумеючы, што фальклор не мае нічога агульнага з гісторыяй, мы не можам тым не менш не прызнаць, што ацэнка, дадзеная ў гэтым паданні канкрэтнай гістарычнай асобе, даволі цікавая і ў нечым блізкая да рэчаіснасці.

Сапраўды, хаця мы і не маем ніякіх гістарычных пацверджанняў дачынення Марты да таямнічых злачынстваў, што адбываліся пры двары Наваградскага князя, а потым літоўскага караля Міндоўга, мы ўсё ж такі не можам не заўважыць, што занадта шмат іх было побач з Мартай.

Пасля гібелі Вісманта Міндоўг даволі хутка знішчыў і яго братоў Эдзівіла і Спрудэйку, якія, вядома ж, здагадваліся, хто вінаваты ў смерці брата. Гэтыя двое як маглі працівіліся шлюбу Марты з Міндоўгам. І ў адзін цудоўны дзень яны пры самых таямнічых абставінах гінуць на паляванні...

Цяпер трэба заўважыць, што да пачатку 50-х гг. Міндоўг быў жанатым. Ад першай жонкі ў яго быў сын Войшалк і дачка. І вось што дзіўна. Раптам Міндоўг, амаль што ў адзін год з Мартай, становіцца ўдаўцом!? Хто зможа сцвярджаць, што жонка Міндоўга загінула гвалтоўнай смерцю? Але, згадзіцеся, якое дзіўнае ўсё ж такі супадзенне! Усё гэта падобна на хітра прадуманы і па-жаночаму ўпэўнена выкананы план.

І ці не з-за таго, што ў смерці сваёй маці Войшалк бачыў руку Марты, ён так не любіў сваю мачаху? І ці не з-за сувязі з гэтай жанчынай ён пачаў з непрыязнасцю адносіцца да бацькі? Аб гэтым сведчаць усе летапісы.

Міндоўг заключыў шлюб з Мартай недзе паміж 1252 і 1253 гг. Праз некалькі месяцаў у Наваградку Міндоўг разам з Мартай каранаваўся. Расійскі гісторык П. Бранцаў у сваёй кнізе «История литовского государства съ древнейшихъ времёнъ» піша: «Въ іюлѣ мѣсяцѣ 1253 года кульмскій етскопъ, по прйказанію Иннокентія IV, короновалъ Миндовга и его жену МарѲу королевскимъ вѣнцомъ и утвердилъ въ Литве особую соборную церковь съ етскопомъ во главѣ».

Нельга сцвярджаць, што для «хітрага і жорсткага варвара» Міндоўга карона была самамэтай. Хутчэй за ўсё гэтым ён хацеў замацаваць прыязнасць нямецкіх рыцараў, каб потым кінуць іх супраць жмудзінаў і яцвягаў, якія ніяк не хацелі яму скарыцца.

Тым не менш упершыню ў гісторыі Літвы-Беларусі з'явіліся кароль і каралева. У далейшым будуць каралі польскія і цары і імператары рускія, але не будзе больш ніколі каралёў літоўскіх.

Стаўшы каралевай Літвы, Марта зрабіла ўсё для таго, каб пазбавіцца найперш ад пасынка і падчаркі. Падобна на тое, што менавіта яна падказала Міндоўгу рашэнне замацаваць мір з Галічам праз шлюб яго дачкі з сынам Данілы — Шварнам. Яшчэ раней за сястру Наваградак пакінуў Войшалк. Ён заявіў, што хоча стаць манахам, і накіраваўся дзеля гэтага на Афон. Даехаў ён, праўда, толькі да Балгарыі,— Балканскі паўвостраў быў ахоплены вайной. Вярнуўшыся назад, ён, аднак, не захацеў жыць побач з мачахай, а пабудаваў для сябе манастыр на Немане.

Гэта вельмі задавальняла Марту, бо сваім адыходам ад мірскіх спраў Войшалк вызваляў шлях да кароны яе дзецям. Каралева вельмі хутка нарадзіла Міндоўгу двух сыноў, Рукліса і Рупэка. І яна спадзявалася, што старэйшы з іх пасля смерці бацькі стане каралём.

Але надзеі Марты не спраўдзіліся. Пасля 1260 г. Міндоўг дэманстратыўна адышоў ад хрысціянства і адмовіўся ад кароны. Ён ужо не меў патрэбы ў дапамозе лівонцаў, бо самы сур'ёзны вораг, Даніла Галіцкі, стаў саюзнікам, а з разрэзанай на кавалкі-княствы Літвы Міндоўгу ўдалося «склеіць» адзіную моцную дзяржаву. Цяпер ён хацеў незалежнасці ад немцаў і не жадаў нічым быць ім абавязаны. Сумесна з Данілам Галіцкім і Аляксандрам Неўскім Міндоўг выношвае планы барацьбы з крыжакамі.

Адмова мужа ад кароны і вяртанне яго да язычніцтва даволі моцна падзейнічалі на Марту, хаця адзіна вядомы нам свой добры ўчынак жонка Міндоўга робіць менавіта ў гэты час. У гістарычных дакументах таго перыяду ўпамінаецца манах, брат Зібэрт з Цюрынгіі. Падчас ганенняў у сталіцы Міндоўга на каталікаў Марта ратуе яму жыццё, угаворвае мужа адаслаць манаха назад, у Рыгу. Магчыма, Зібэрт быў яе духоўнікам? Можа, менавіта ён дапамагаў каралеве складаць і выношваць планы аб веліччы і магутнасці Літвы пад кіраўніцтвам новых каралёў — яе нашчадкаў.

Тым не менш славалюбівыя мары Марты былі разбіты. Яна страціла мэту ў жыцці. І розум яе захварэў.

Бы шэкспіраўская ледзі Макбет, жонка Міндоўга павольна ператваралася ў вар'ятку. Міндоўг ніяк не мог зразумець прычын таго, што адбываецца з Мартай, і да самага канца рабіў усё, каб вывесці жонку з гэтага стану.

У 1262 г. Марта памерла, пакінуўшы зусім ужо вар'яцкае завяшчанне мужу. Яна прасіла яго ўзяць на яе месца сваю сястру, бо баялася, што іншая мачаха будзе крыўдзіць яе сыноў, як яна ў свой час крыўдзіла дзяцей першай жонкі Міндоўга.

У многіх летапісах мы знаходзім сведчанні таго, як кахаў Міндоўг сваю Марту і якім горам для яго была яе страта. Але тое, што зрабіў ён пасля яе смерці, нельга апраўдаць нават з гэтага пункту гледжання.

Пэўна, доўгія зносіны з вар'ятам сапраўды могуць моцна паўплываць на псіхіку здаровага чалавека, таму што Міндоўг насуперак цвярозаму розуму вырашыў выканаць перадсмяротную просьбу Марты. Справа ў тым, што сястра былой літоўскай каралевы была на дадзены момант ужо замужам за князем нальшанскім Доўмантам, і гэта, безумоўна ж, павінна было спыніць Міндоўга. Але не спыніла.

Міндоўг пасылае ганца ў Нальшаны з тым, каб запрасіць жонку Доўманта на пахаванне Марты. Жанчына прыехала і літаральна трапіла ў палон. Пры жывым мужы няшчасная стала жонкай іншага. Ёсць сведчанні, што сястра Марты не вынесла сораму свайго становішча і памерла ў гэтым жа годзе. Міндоўг тым не менш не палічыў патрэбным даваць каму-небудзь тлумачэнні, па-ранейшаму вёў сябе дзёрзка і самаўпэўнена. Гэта вырашыла яго лёс і лёс яго сыноў ад Марты. Пакрыўджаны Доўмант адпомсціў свайму крыўдзіцелю. Вось як пішуць аб гэтым летапісы:

«У год 6771 (1263). Паслаў Міндоўг усё сваё войска за Дняпро супраць Рамана, князя бранскага. Доўмант пайшоў разам з імі на вайну, але, выбраўшы зручны час, вярнуўся назад, кажучы: «Варажба паказвае, што мне не трэба ісці разам з вамі». Вярнуўшыся назад, ён шпарка паскакаў, дагнаў Міндоўга і забіў яго і двух яго сыноў, Руклю і Рапека».

Так скончылася эпоха Міндоўга, гэтага Макбета беларуска-літоўскай гісторыі, праслаўленага тым не менш цэлым шэрагам прагрэсіўных дзеянняў. Побач з ім значна больш цёмным сілуэтам выглядае постаць Марты, беларускай ледзі Макбет з Наваградка, зло якой аказалася больш жывучым, чым яе слабае цела.

## АЛЯКСАНДР І АЛЯКСАНДРА

### АЛЯКСАНДРА БРАЧЫСЛАЎНА
### (каля 1220 — і пасля 1263 гг.)

— А я ўжо княжыча Аляксандра сёння бачыла.
— Як жа ты, Санечка, яго запрымеціла?
— Ен быў самы прыгожы з коннікаў, глядзеў толькі на мяне і мне ўсміхнуўся.

*В. Ян. «Юнацтва палкаводца»*

1239 год. У саборнай царкве горада Тарапца адбылося вянчанне наўгародскага князя Аляксандра Яраслaвіча і полацкай прыгажуні, князёўны Аляксандры Брачыслаўны. У гэтым жа горадзе шумна адсвяткавалі іх вяселле. А праз некалькі дзён яно паўтарылася ў Ноўгарадзе. Аўтар наўгародскага летапісу лаканічна адзначыў на старонках свайго твора: «Венчася в Торопци, ту кашу чини, а в Новгороде другую». Спачатку гэта выклікае здзіўленне: навошта адзначаць падзею двойчы? Але не трэба забываць, што дваццацігадовы жаніх княжыў менавіта ў Ноўгарадзе, жыхары якога ва ўсе часы не вельмі добра ставіліся да сваіх князёў, не даравалі ім ніводнага промаху і не ўпускалі магчымасці «павыскаляцца» наконт іх асабістага жыцця.

Аляксандр быў прыгажуном. Бацька яго, пэўна, меркаваў, што нягожа, калі сынава жонка будзе выглядаць горш за яго. Таму і выбраў полацкую князёўну.

Князь Яраслаў і яго сын выйгралі гэту партыю. Наўгародцам не было чым «зачапіць» княгіню. Яна аказалася не толькі прыгожай, але і разумнай, і шчодрай, і даволі набожнай. У першы ж год свайго жыцця ў Ноўгарадзе Аляксандра заваявала ўсіх сваёй добразычлівасцю і дабрачыннымі дзеяннямі. За гэты час наўгародцы змаглі шмат разоў пераканацца, што паводзіны княгіні — не паказныя. Яна сапраўды такая. Даведаліся яны і пра тое, што княгіня вызначалася сваёй набожнасцю і дабратой яшчэ ў Полацку. І нядзіўна, бо духоўным прыкладам для яе была, бясспрэчна, Ефрасіння Полацкая, якая жыла ў Полацку за сто гадоў дагэтуль.

Расійскі даследчык XIX ст. М. Хітроў пісаў: «Не раз во время своего детства она (Аляксандра.— Аўт.) посещала храм преподобной и входила в две тесные келии на хорах. В одной из них жила преподобная и слушала богослужения; а сквозь небольшое, пробитое в стене оконце любовалась на мир Божий, на открывавшиеся во все стороны обширные поля и на вид города». З вялікай пашанай дакранaлася

Аляксандра да святыняў, якія засталіся пасля Ефрасінні Полацкай. Яна захаплялася каштоўным напрастольным крыжом, які быў зроблены па заказу Ефрасінні Лазарам Богшам. Але яшчэ больш прыцягваў княжну абраз Эфескай Божай маці, які, паводле падання, пісаў сам апостал Лука. Княжна цудоўна ведала, што з'явіўся ён у Полацку таксама дзякуючы намаганням Ефрасінні. Менавіта гэтую святыню ўзяла яна з сабой, накіроўваючыся на вянчанне ў горад Тарапец. Там жа, у царкве, дзе даверыла яна свой лёс князю Аляксандру, і застаўся гэты абраз (пазней ён праславіўся пад назваю: абраз Корсуньскай Божай маці). Гэтым актам, хутчэй за ўсё, юная княжна жадала атрымаць благаславенне свайго сямейнага жыцця ад святой Ефрасінні.

Першы год замужжа Аляксандра ўспамінала як салодкі сон. Муж быў уважлівым і пяшчотным. Яны жылі ў традыцыйным месцазнаходжанні наўгародскіх князёў — Рурыкавым гарадзішчы, размешчаным у некалькіх кіламетрах ад Ноўгарада. Кожную раніцу Аляксандра альбо з мужам, альбо, калі той быў у ад'ездзе, адна наведвала царкву. Час ад часу яны разам выязджалі на паляванне ў навакольныя лясы. Вельмі часта маладую сям'ю наведвалі духоўныя асобы або хтосьці з наўгародцаў. Таксама частымі гасцямі князя былі купцы, якія прыязджалі з далёкіх краёў. Яны расказвалі пра свае вандроўкі, пра дзівосных жывёл і птушак, пра вялікую небяспеку, якая падпільноўвала іх у дарозе. Праўда, такія вечары бывалі даволі рэдкімі. Аляксандр амаль увесь час аддаваў няспыннай працы па ўмацаванню заходніх межаў Наўгародскай зямлі, якім пагражалі крыжакі, шведы і інш. То ён кіруе будаўніцтвам крэпасцей на рацэ Шэлоні, то ўмацоўвае адносіны і заключае саюзы з угра-фінскім насельніцтвам Іжорскай зямлі, то шукае папаўнення для сваёй дружыны.

Аляксандра не крыўдавала на мужа. Як палачанка, яна добра разумела, што такое закаваная ў браню крыжацкая кавалерыя. Разумела, што князь павінен клапаціцца не толькі пра сваю сям'ю, але і пра ўсіх наўгародцаў, якія запрасілі яго да сябе. Добрая свякроў Аляксандры, Феадосія, якая жыла разам з сынам і якой адразу спадабалася прыгожая сціплая нявестка, вучыла яе быць заўсёды вясёлай, не сумаваць, калі князь у ад'ездзе.

Даволі хутка маладая княгіня змагла ўпэўніцца, што дзейнасць яе мужа была недарэмнай. На світанку аднаго з ліпеньскіх дзён 1240 г. дазорныя, што размяшчаліся на беразе Фінскага заліва, убачылі шматлікія ветразі. Яны тут жа паслалі ганца ў Ноўгарад. Той назваў і колькасць варожых караблёў. Іх было амаль сто. Паведаміў ён і тое, што ворагі (шведы) увайшлі ў раку Няву, падняліся да месца ўпадзення ў яе ракі Іжоры і спыніліся там. Аляксандр разумеў, што ён не

паспее не толькі атрымаць дапамогу ад бацькі, але нават сабраць наўгародскае апалчэнне.

Да таго ж Біргер, што кіраваў шведамі, «загордился» і накіраваў да Аляксандра паслоў, якія перадалі словы: «Выходзь супраць мяне, калі можаш супраціўляцца. Я ўжо тут і вазьму ў палон зямлю тваю». Аляксандр са сваёй дружынай і атрадамі наўгародцаў, ладажан і іжордаў, што далучыліся да яго па дарозе, накіраваўся насустрач шведам. Ён добра разумеў, што зможа перамагчы толькі ў тым выпадку, калі першым нанясе ўдар.

Бы Яраслаўна, на крапаснай сцяне чакала цяжарная Аляксандра звестак пра мужа. Бітва працягвалася амаль да ночы. Толькі пад раніцу прыскакалі ганцы ад Аляксандра з добрай весткай: шведы пацярпелі страшэннае паражэнне. Нечаканы ўдар конніцы маладога князя выклікаў паніку сярод ворагаў. У той жа час пяхота наўгародская захапіла сходы, перакінутыя на бераг, пачала прабіваць барты і днішчы, тапіць шведскія судны. Паспрыяла паніцы сярод ворагаў і тое, што князь Аляксандр параніў самога Біргера — «возложил печать на лице его».

Аляксандра ганарылася мужам. Узрадавала яе таксама і вестка, што сярод лепшых ваяроў гэтага дня быў названы яе зямляк, Якаў Палачанін. Гэта ён з мячом адзін напаў на цэлы полк шведаў і «мужествовал зело».

Летапісец называе яго лоўчым князя. Гэта сведчыць аб тым, што Якаў быў не дружыннікам і не госцем Ноўгарада, які далучыўся да войска, а ўваходзіў у світу Аляксандра. Хутчэй за ўсё ён быў адным з тых палачан, якія разам з Аляксандрай Брачыслаўнай прыехалі ў Ноўгарад з Полацка.

Пераможцаў сустракалі ў Ноўгарадзе малінавым звонам і ўрачыстым малебнам. Князя Аляксандра пачалі называць заступнікам, надзеяю... Неўскім.

Аляксандра ператварылася ў жонку князя-героя. Яна добра ведала, не магла не ведаць, што гэта значыць для яе. Разумела, што цяпер, больш чым калі-небудзь раней, яна павінна быць вартай яго.

Хутка лёс паслаў княгіні новае выпрабаванне, даў яшчэ магчымасць даказаць мужу сваю вернасць і адданасць.

Рыцары Лівонскага ордэна захапілі Пскоў. Страшэнная небяспека пагражала Ноўгараду Вялікаму. Разумеючы ўсю складанасць становішча, Аляксандр патрабаваў ад наўгародскага баярства грошай на падрыхтоўку да вайны. Але баяры, што было ўжо неаднойчы, засталіся вернымі сабе — пачаліся сварга, грызня паміж групоўкамі. Грошай не далі. Аляксандр вымушаны быў з'ехаць ад наўгародцаў. Ён

забраў маці, жонку, нованароджанага сына Васіля, увесь двор і дружыну і перабраўся ва ўладанні бацькі, у горад Пераяслаў-Залескі. Падзяліўшы з мужам славу і дні радасці, Аляксандра дзяліла цяпер разам з ім тугу і людское непаразуменне.

Вельмі хутка наўгародцы зразумелі, якую памылку зрабілі, адмовіўшыся ад паслуг Аляксандра Неўскага, і зноў запрасілі яго да сябе. І князь вярнуўся, каб абараняць няўдзячны яму горад... Былі перамогі над крыжакамі пад Ноўгарадам і Псковам, праз два гады — нябачанае паражэнне рыцараў, якое ўвайшло ў гісторыю як Лядовае пабоішча, знясільваючая праца па наладжванню дыпламатычных зносін з Залатой Ардой. Аляксандр, які быў не толькі выдатным палкаводцам, але і дальнабачным палітыкам, разумеў, што пакуль змагацца з татарамі немагчыма. Таму аддаў усе свае сілы на тое, каб прадухіліць новыя спусташэнні рускіх зямель з боку татар. Выконваючы гэту задачу, ён, як красамоўна напісаў у кнізе «Сказание о Русской земле» А. Нечваладаў, «не щадил себя, шёл на всякие опасности и труды, и испил до дна горькую чашу унижений от татар; вместе с тем он прошёл также через ряд самых глубоких душевных страданий, так как зачастую не был понят даже своими близкими и родными».

Добра ведаючы пра Аляксандра Неўскага, нашы суайчыннікі, на жаль, нічога ці амаль нічога не могуць сказаць пра яго спадарожніцу, зямлячку нашу, Аляксандру Полацкую. Між тым яе жыццё для жанчыны таго часу было даволі насычаным. Не праходзіла дня, каб у маленнях сваіх Аляксандра не ўспамінала абаронцаў Рускай зямлі. Яна аказвала і больш дзейсную, матэрыяльную дапамогу тым наўгародскім воінам, якія сталі калекамі на ратным полі, суцяшала ўдоў, клапацілася пра сірот.

Будучы вельмі набожнай жанчынай, Аляксандра часта наведвала бліжэйшыя манастыры, была духоўна блізкай да ігуменні Петрапаўлаўскага манастыра, што ў Ноўгарадзе, Харыціны. Гэта жанчына, у мінулым таксама князёўна, дачка літоўскага князя, вымушана была шукаць прытулак ад сваіх ганіцеляў на чужыне. Тут Харыціна пастрыглася ў манашкі і з часам так вылучылася сярод святых сясцёр, што стала ігуменняй. Аляксандра цікавіла Харыціну, пэўна, тым, што наўгародская княгіня была нашчадкам шануемай ужо ў тыя часы святой Ефрасінні Полацкай.

Безумоўна, Аляксандра Брачыслаўна падтрымлівала перапіску і з ігуменняй Пскоўскага манастыра, Еўпраксіяй. Гэтая шырокаадукаваная, вопытная ў справах мірскіх і духоўных жанчына даводзілася блізкай сваячкай полацкай князёўне. Цікава, што ўсе жанчыны, якія з'яўляліся духоўнымі настаўніцамі Аляксандры, з часам былі канані-

заваны праваслаўнай царквой: Харыціна, Еўпраксія, свякроў Аляксандры Феадосія (дарэчы, перад смерцю яна прыняла манаства і атрымала імя святой заступніцы сваёй нявесткі — Ефрасінні). Ці не сведчыць ужо сам па сабе гэты факт пра тое, з якой годнасцю крочыла па сваім жыццёвым шляху жонка Аляксандра Неўскага?

Аляксандра была побач з мужам да самага канца. Яшчэ трох сыноў падарыла яна яму: Дзмітрыя, Андрэя, Данілу і дачку Еўдакію. Цяжкія хвіліны давялося перажыць княгіні, калі раптоўна пачаліся спрэчкі і непаразуменні паміж Аляксандрам і старэйшым сынам Васілём. Але, нягледзячы на сілу мацярынскага пачуцця, Аляксандра заўсёды станавілася на бок мужа, які меў рацыю ў гэтых спрэчках.

У 1263 г. Неўскаму ў чарговы раз давялося ехаць у Залатую Арду. Ён «избавы ради христианския» прабыў там больш як год. Адчуваючы ў Аляксандру сур'ёзнага праціўніка, татары атруцілі яго. Паміраючы князь так і не даехаў да роднага Ноўгарада. Ён сканаў у Фёдараўскім манастыры Ніжняга Ноўгарада. Ні Аляксандра, ні сыны не паспелі пабачыць яго жывым.

Застаўшыся адна, княгіня зрабіла тое, што зрабіла б любая славянская жанчына, каб даказаць сваю вернасць мужу. Яна пастрыглася ў манашкі.

Вось ужо тры стагоддзі спрачаюцца гісторыкі наконт загадкі, зададзенай Аляксандрай нашчадкам. Ва Уладзімірскім Успенскім манастыры ў царкве Раства Хрыстова знаходзяцца тры труны. Надпіс на першай з іх гаворыць аб тым, што ў ёй ляжыць вялікая княгіня Аляксандра, жонка князя Аляксандра Неўскага. Другая труна належыць дачцэ Аляксандра і Аляксандры, Еўдакіі. Трэцяя... На трэцяй значыцца: «Васа, жонка Аляксандра Неўскага». Што гэта? Няўжо летапісцы схлусілі, апавядаючы пра тое, што Аляксандра перажыла свайго мужа? Няўжо Васа — гэта імя другой жанчыны, што стала пасля смерці прыгожай палачанкі жонкай Аляксандра? Але чаму тады надпіс на гэтай труне называе і Васу таксама дачкой князя полацкага? Надпіс на рацы для мошчаў Аляксандра Неўскага, зробленай у Маскве ў 1695 г., дакладна сведчыць, што князь «законному браку сочетаяся со Благоверною Княжною Вассою Полоцкою, от неё же и чада себе рождал и во страстѣ Божием питал».

Гэтага цалкам дастаткова, каб сцвярджаць, што Аляксандра і Васа — адна і тая ж жанчына. Верагодна, што другое імя — Васа княгіня прыняла пры пастрыжэнні. Аднак чаму ж спатрэбіліся дзве труны? Думаецца, што такім было жаданне самой княгіні. Пакідаючы пасля смерці мужа свет, яна гэтым як бы сімвалізавала смерць жонкі

Аляксандра Неўскага. Ёй хацелася, каб жонка не перажыла мужа. Але накласці на сябе рукі нават у парыве вялікага гора — недаравальны грэх. Таму з'яўляецца труна «памёршай ад гора» княгіні. А сама Аляксандра ператвараецца ў сястру Васу і зачыняецца ў сваёй келлі.

Старажытнарускі пісьменнік Ермалай-Еразм напісаў цудоўны ўзнёслы твор пра каханне — «Аповесць пра Пятра і Фяўронію». Галоўныя героі яго — мурамскія князь і княгіня, якія кахалі адзін аднаго да самай смерці. Як шкада, што аўтар «Жыцця святога Аляксандра Неўскага» не быў лірыкам! Інакш усе зачытваліся б не менш прыгожай гісторыяй кахання Аляксандра і Аляксандры.

## СПАДАРОЖНІЦА ВОІНА

## БІРУТЭ ГЕДЫМІНАЎНА
## (? — 1324 гг.)

А ў замку над Нёманам побач акна —
Дачка Гедыміна — Бірутэ.
З паходу Давыда чакае яна —
У вачах яе слёзы і смутак.

*А. Цыхун. «Балада пра Давыда Гарадзенскага»*

Час — няўмольная рэч. Ён адносіць у нябыт не толькі людзей і падзеі, але і самую памяць пра іх. І жорстка расплачваюцца бяспамяцтвам нашчадкі тых, хто не здолеў альбо проста не захацеў даверыць паперы ці пергаменту гэту памяць. Літаральна па кавалках складаем мы зараз для сябе партрэты герояў мінулага: адважных палкаводцаў, мудрых правіцеляў, адданых прапаведнікаў. Некалькіх радкоў з летапісаў і хронік яўна не хапае, каб добра ўявіць сабе, якімі яны былі на самай справе. Што ж датычыць жанчын, дык звесткі пра іх даводзіцца літаральна адваёўваць у змрочнага нябыту. Вышэйшая несправядлівасць: летапісцаў у аноўным цікавілі тыя жанчыны, з якімі былі звязаны нейкія скандальныя гісторыі, і амаль нічога не пісалі пра сціплых, рахманых спадарожніц жыцця вялікіх герояў. Нават імёны жонак нашых беларускіх князёў нам вядомы не ўсе. Тым большая радасць даследчыка, калі міжволі адкрываеш для сябе яшчэ адну светлую постаць з шэрага тых, перад кім схіляліся ў вялікай пашане сучаснікі, тых, каму лёсам было прадвызначана сваім каханнем натхняць на ратныя подзвігі мужоў, братоў...

Адна з іх — Бірутэ, дачка вялікага Гедыміна і жонка славутага Давыда Гарадзенскага.

Старажытная балцкая прыказка гаворыць: «У вялікага воіна павінна быць вялікая сям'я». У Гедыміна было сем сыноў: Монтвід, Любарт, Альгерт, Яўнут, Карыят, Кейстут, Нарымунт і шэсць дачок, якіх падаравалі яму тры яго жонкі, літоўка Віда і дзве славянкі Ева і Вольга. Бірутэ расла сярод сапраўднага кветніка красунь-сясцёр. Але, паводле падання, была самай прыгожай з іх.

Як бы хацелася ў расказе пра гэты перыяд жыцця Бірутэ акружыць яе сонечнымі промнямі, мудрагелістымі мелодыямі літоўскіх дойнаў, таямнічымі прадказаннямі язычніцкіх жрыц-вайдэлотак, вогненнымі вянкамі, што дзяўчаты спускаюць па рацэ, загадваючы пра будучае.

Але гісторыя сціпла маўчыць пра ўсё, што датычыць жыцця Бірутэ ў сям'і Гедыміна, акрамя адной дэталі: Бірутэ была любімай дачкой у бацькі. Ці не з-за гэтага так клапатліва ўстройваў ён яе лёс?

Невядома, што больш прываблівала да дачок Гедыміна высакародных жаніхоў суседніх дзяржаў: гонар парадніцца з вялікім літоўскім князем альбо шчасце займець жонку прыгожую, разумную, сціплую, якімі былі ўсе яны? Таму вельмі хутка пасля таго, як Гедымінаўны станавіліся паўналетнімі, ім даводзілася пакідаць прыветны бацькоўскі палац, каб ісці за мужамі. Своеасаблівым абрадам адрачэння ад мінулага павінна было стаць для кожнай з іх хрышчэнне і прыняцце новых імёнаў, каталіцкіх альбо праваслаўных (у залежнасці ад веравызнання мужа). Ад некаторых з сясцёр Бірутэ ў хроніках засталіся толькі гэтыя, новыя імёны. Дзве сястры трапілі ў Польшчу. Альдона-Ганна стала польскай каралевай, абвянчаўшыся з Казімірам III, Данміла-Альжбета выйшла замуж за мазавецкага князя Вацлава.

Яшчэ тры Гедымінаўны сталі жонкамі рускіх князёў. Аўгусту-Анастасію абраў вялікі князь Маскоўскі Сямён Горды, Офка-Яфімія паехала з мужам, князем Юрыем, у Галіч, князь Дзмітрый Цвярскі атрымаў у жонкі Марыю.

Бірутэ першай давялося прыняць хрост перад замужжам. Але прамяністае светлае імя любімай дачкі Гедыміна так упадабаў адважны воін Давыд Гарадзенскі, што і ў далейшым будзе называць яе імжа.

Наогул, Гедымін даволі спакойна ставіўся да пераходу членаў яго сям'і ў хрысціянства. І сам ён некалькі разоў за жыццё мяняў веравызнанне. Так жа вольна ставіліся да веры і яго сыны. Вера ніколі не была перашкодай для заключэння шлюбаў Гедымінавых дачок. Аб яго поглядах у гэтых адносінах яскрава сведчыць грамата-адказ на пісьмо рымскага папы, тэкст якой прыводзіць У. М. Ігнатоўскі ў кнізе «Кароткі нарыс гісторыі Беларусі»: «Я казаў, што дазволю хрысціянам маліцца па звычаю іх веры, русінам — па іх звычаю, палякам — па іх. А мы, літвіны, будзем маліцца па нашаму звычаю, бо ўсе мы паважаем аднаго Бога».

У 1299 г. у Віленскім палацы Гедыміна ўрачыста адзначылі паўналецце прыгажуні Бірутэ. У гэтым жа годзе ў родных мясцінах свайго бацькі Доўманта, князя нальшанскага, упершыню з'яўляецца юны Давыд. Калісьці Доўмант быў вымушаны пакінуць радзіму, бо меў дачыненне да гібелі Міндоўга. У Пскове князя прынялі на службу, там жа ад шлюбу Доўманта з Марыяй, унучкай Аляксандра Неўскага, і нарадзіўся Давыд. Пасля раптоўнай смерці бацькі і маці ў час мору Давыд, выконваючы апошнюю волю Доўманта, вяртаецца ў Вялікае

княства Літоўскае. Нальшаны ж у гэты час належалі ўжо брату вялікага князя Віценя Гедыміну, якому малады князь і прапанаваў свае паслугі. Прыгледзеўшыся да семнаццацігадовага Давыда, Гедымін з задавальненнем адзначыў для сябе, што юнак валодае выключнымі ваеннымі здольнасцямі. Памятаючы таксама пра тое, якімі слаўнымі палкаводцамі былі бацька Давыда і яго прадзед Аляксандр Неўскі, прадбачлівы і мудры палітык Гедымін, які, дарэчы, неўзабаве пасля смерці Віценя становіцца вялікім князем, давярае яму войска.

На жаль, зараз цяжка сказаць нешта пра тое, якім чынам паміж юнымі Давыдам і Бірутэ ўзнікла прыязнасць і як яна перарасла ў каханне. Вядома толькі, што маладыя людзі ў хуткім часе пасля знаёмства сталі мужам і жонкай. І шлюб гэты вітала ўся сям'я Гедыміна. Праўда, некаторыя з даследчыкаў спрабуюць сцвярджаць, што шлюбам кіравала не столькі каханне, колькі карыслівы разлік: быццам бы Гедымін шукаў такім чынам дапамогі Пскова, грамадзяне якога лічылі Давыда сваім законным князем. Аднак усім добра вядома, што для наўгародцаў і пскавічоў у адносінах да князёў ніколі не існавала вялікіх аўтарытэтаў. Жыхары так званых «вольных гарадоў» успаміналі пра сваіх князёў у асноўным тады, калі над горадам навісала небяспека. Да князя пасылаліся «дэпутаты», якія прасілі яго ўзначаліць войска. У мірны ж час князі адыходзілі на другі план. Улада зноў пераходзіла ў рукі жменькі заможных гараджан. Улада Давыда ў Пскове была, па сутнасці, фармальнай, таму ні на якую дапамогу з боку Пскова Гедыміну разлічваць не даводзілася.

Таксама не зусім дакладным бачыцца нам і меркаванне пра тое, што сваім шлюбам з Бірутэ Давыд імкнуўся набыць моцнага саюзніка-абаронцу. Бо калі аб'ектыўна ўявіць сабе палітычнае становішча магутнага Гедыміна і “князя без княства” Давыда, то становіцца бачна, што ні пра якое саюзніцтва паміж імі гаворка ісці не можа. Усё вышэйсказанае красамоўна сведчыць за тое, што маладых аб'яднала менавіта каханне, якому Гедымін не захацеў перашкаджаць.

Неўзабаве маладая сям'я пераязджае ў Гародню. Гедымін прызначае зяця сваім намеснікам, каштэлянам горада. І з гэтых часоў жыццё Бірутэ, як у сапраўднай спадарожніцы воіна, складваецца з бяссонных трывожных начэй, радасці мужавых перамог і чакання. Вялікага бясконцага чакання, якое іншы раз становіцца пакутліва-нясцерпным.

Каштэляну Давыду даводзілася абараняць горад ад пастаянных нападаў крыжакоў. У 1305 г.— комтур Конрад Ліхтэнхаген прывёў пад Гародню рыцараў з Брандэнбурга. У 1307 г. спробу захапіць го-

рад зрабіў грозны комтур Кёнігсберга Эберхард фон Вірненбург. Дзякуючы воінскаму таленту Давыда, Гародня абодва разы выстаяла.

Акрамя прамых абавязкаў каштэляна, Давыд Гарадзенскі нярэдка выконваў і абавязкі ваяводы. Ён вадзіў сваіх вояў супраць германскіх рыцараў, што асадзілі Наваградак, з'яўляўся пастаянным абаронцам Пскова. Па ўсёй Еўропе пракацілася слава пра прускія паходы Давыда, з якіх ён з вялікай колькасцю ваенных трафеяў заўсёды вяртаўся пераможцам.

Лёсам гэтаму воіну было прадвызначана стаць палкаводцам, што за ўсё жыццё не прайграе ніводнай бітвы, абаронцам, пры жыцці якога нага ворага не ступіць у Гародню. Але Бірутэ не дадзена было зазірнуць у будучыню. І з кожнага баявога паходу чакала яна свайго мужа з непакоем і страхам. Хто ведае, магчыма, каханне гэтай жанчыны і было тым талісманам, што аберагаў у баі мужнага князя?

У Бірутэ і Давыда былі дзеці. На жаль, імёны іх так і не дайшлі да нас. Гарадзенскі каштэлян вельмі ганарыўся сям'ёй. І заўсёды пасля бітваў з радасцю спяшаўся дадому. Стварыць герою-воіну «надзейны тыл», напэўна, не так ужо і цяжка, калі сапраўды кахаеш яго. Але ці шмат вядома нам герояў, у якіх сямейнае жыццё было б удалым? Магчыма, менавіта з-за таго, што жонка гарадзенскага каштэляна прынесла яму ў пасаг сямейнае шчасце, мы ўспамінаем яе імя і да гэтых часоў з падзякай.

1324 г. усё закрэсліў. Крыжакі, напалоханыя Давыдавай смеласцю і яго шматлікімі перамогамі, знайшлі, урэшце, магчымасць адпомсціць яму. Тры германскія рыцары таемна прывялі ў наваколле Гародні атрад у 600 чалавек. Яны нечакана напалі на радавую сядзібу Давыда, дзе знаходзілася ў гэты час княгіня з малодшымі дзецьмі. Сам Давыд Гарадзенскі ў гэты час быў у паходзе, таму не мог прыйсці на дапамогу сваім блізкім. Да апошняга абаранялі сваю гаспадыню слугі і ахоўнікі. Але сілы былі няроўныя.

Мы не маем звестак пра тое, як сустрэла смерць Бірутэ. Але можна меркаваць, што з годнасцю, вартай жонкі героя. Крыжакі забілі ўсіх — 38 чалавек, узялі ўсю жывёлу, абрабавалі сядзібу і спалілі яе.

Хаця загінулі не ўсе члены сям'і Давыда Гарадзенскага (пра гэта сведчыць існаванне радавога герба нашчадкаў князя, выява якога прыводзіцца, дарэчы, у кнізе А. Б. Лакіера «Русская геральдика»), удар для яго быў страшэнным. І боль — вялікім.

Мяркуючы па звестках, прыводзімых летапісцамі, з гэтага часу паходы Давыда становяцца яшчэ больш частымі, канкрэтна накіраванымі і нават жорсткімі. Давыда вядзе ў бой цяпер стоенае жаданне

помсты. Спачатку князь ідзе са сваімі воямі на Мазовію і там б'е ненавісных рыцараў. Потым збірае шматнацыянальнае войска для паходу на Брандэнбург. Палякі, пскавічы, беларусы і літоўцы на чале з Давыдам рушаць у Германію супраць агульнага ворага. Яны даходзяць ажно да Франкфурта-на-Одэры.

Легендарны брандэнбургскі паход Давыду перашкодзіла давесці да канца смерць. Польскі рыцар Анджэй Гост нанёс князю здрадніцкі ўдар кінжалам у спіну. Меркаванні наконт прычыны здрадніцтва ў даследчыкаў самыя розныя. Найбольш верагоднай бачыцца гіпотэза М. Ткачова пра тое, што Гост быў падкуплены крыжакамі, даўнімі ворагамі Давыда.

Увесь шлях да Гародні воіны Давыда неслі цела свайго палкаводца на шчытах.

Пахавалі героя на ўзвышшы ля Немана. Паводле падання, недалёка ад старажытнай Каложы, у зямлі, у якую да гэтага лягла Бірутэ.

## КАРАЛЕВА, ВАРТАЯ ПОЛЬШЧЫ

## АЛЬДОНА ГЕДЫМІНАЎНА
## (каля 1310—1339 гг.)

Прославлять стал молодой певец
Молодость и чары королевы,
И любовь — щедрот ее венец.

*Я. Полонский. «Казимир Великий»*

Для палякаў, чыёй каралевай была гэта жанчына, яна і да гэтых часоў з'яўляецца асобай таямнічай. І гэта пры тым, што біяграфія яе вядома ўся альбо амаль уся. Альдона, дачка Гедыміна і жонка слаўутага польскага караля Казіміра III Вялікага, не адкрывала сваё сэрца ні перад сваякамі, ні перад прыдворнымі. Яна хутчэй за ўсё баялася непаразумення, таму хацела захаваць у чысціні і некранутасці свой душэўны спакой, свае светапогляды язычніцы. Не змяніла гэтых поглядаў і тое, што па волі лёсу яна стала каралевай хрысціянскай краіны і што вымушана была хрысціцца.

Разумная, непасрэдная, незалежная, яна выглядала ў вачах сваіх сучаснікаў вельмі абаяльнай. І пісьмовыя крыніцы данеслі гэта абаянне да нас.

Альдона ўбачыла свет у віленскім палацы прыкладна ў 1310 г. Гэта было не першае і далёка не апошняе дзіця ў вялікай сям'і Гедыміна. Таму наўрад ці бацька ўдзяляў ёй вельмі шмат увагі. Вядома, што яго любімай сярод дачок была старэйшая — Бірутэ. Яна даўно ўжо была замужам за гарадзенскім каштэлянам Давыдам. Аднак бацька па-ранейшаму аддаваў ёй усю сваю пяшчоту. Ды і сыны патрабавалі яго няспыннай увагі. Таму лепшай сяброўкай маленькай Альдоны была яе сястра Офка. Сведчаннем гэтаму з'яўляецца той факт, што менавіта з ёю адной Альдона падтрымлівала сувязі пасля таго, як стала каралевай Польшчы.

У той час, калі яе прасваталі за Казіміра, князёўне было пятнаццаць гадоў. Яе жаніху — столькі ж. Польскія сваты з'явіліся ў Вільні з прапановай выдаць за сына караля Уладзіслава Лакатка адну з дачок вялікага князя літоўскага бы снег на галаву. Віляняне адразу заўважылі дзіўныя паводзіны сватоў. Ганарыстыя палякі прагнымі вачамі сачылі за любой больш-менш прыгожай жанчынай. Яны літаральна млелі ў іх прысутнасці. Хутка стала вядомай і выклікала бурную весялосць сярод гараджан прычына такіх паводзін. Справа ў тым, што ў палякаў узніклі сур'ёзныя праблемы з жаніцьбай. Ката-

страфічна не хапала нявест. А віной таму — іх усходнія суседзі. У час сваіх пастаянных набегаў, наездаў, наскокаў «гэтыя дзікія літвіны» ледзь не за гонар для сябе лічылі звезці і маладых дзяўчат. Прычым працэс гэты быў настолькі масавы, што нявесты (ды яшчэ прыгожыя) сталі сапраўдным дэфіцытам. Зразумела, што каралевіча гэта не датычыла. Яму змаглі б знайсці прыгажуню. Ды, урэшце, і знайшлі. Зусім нядаўна малалетні Казімір заручыўся з каралеўнай Ютай Люксембургскай. Аднак палітыка ёсць палітыка. Дзеля спакою сваіх усходніх меж і палітычнага саюзу з грозным суседам Лакаток вырашыў скасаваць заручыны.

Весткі аб усім гэтым не маглі ўзрадаваць Альдону. Яна, безумоўна ж, марыла не пра дынастычны саюз, а пра шлюб па любві, такі, які быў у яе старэйшай сястры Бірутэ. Але выбіраць для Альдоны ў дадзеным выпадку не прыходзілася — з незамужніх дачок Гедыміна толькі яна адна была паўналетняй. І саюз з Польшчай ва ўмовах няспынных крыжацкіх нападаў быў вельмі выгадным для абодвух краін.

Перагаворы з польскай дэлегацыяй прайшлі паспяхова. Вясной 1326 г. Альдона выехала ў Кракаў. І везла яна ў Польшчу вельмі своеасаблівы пасаг — 24 тыс. вызваленых Гедымінам польскіх вязняў. Праз некалькі дзён пасля яе прыезду ў цэнтральным касцёле горада адбыўся абрад хрышчэння, што было адной з умоў заключэння дадзенага шлюбу, выстаўленых польскім бокам. Язычніца атрымала новае імя Ганна. Яна прыняла чужую веру. Але ў душы засталася вернай спаконвечнай бацькоўскай. А жаніх тым часам выставіў яшчэ адну ўмову: яго нявеста да шлюбу абавязана была вывучыць польскую мову. Верагодна, гэта была маленькая хітрасць. Казімір быў закаханы ў Юту Люксембургскую і такім чынам спрабаваў адцягнуць час заключэння шлюбу з «варваркай-літвінкай». Безумоўна, гэта патрабаванне можна было б і абысці, але каралевіча падтрымала яго маці. Каралеве будучая нявестка таксама прыйшлася не даспадобы.

За князёўну ўступіўся Уладзіслаў Лакаток. Ён узяў яе пад сваю апеку. Прызначыў вопытных настаўнікаў. І дзяўчына вельмі хутка авалодала чужой мовай. Цяпер ніякіх падстаў адцягваць вяселле ўжо не было. Каралевіч вымушаны быў выканаць волю бацькі.

Гэта падзея выклікала ў Польшчы пэўныя надзеі. Палякі добра разумелі карысць такога шлюбу. Храніст Янка з Кракава ахарактарызаваў яго як вельмі важны для дабра і спакою каралеўства Польскага. Цяпер можна было думаць і пра сумесную барацьбу з крыжакамі. І ўжо ў наступным годзе аб'яднанае войска выступіла ў паход. Літоўцаў (1200 вершнікаў) узначальваў Давыд Гарадзенскі. Агнём і мячом прайшлі літоўцы і палякі па землях ненавіснага Ордэна. Бы вострыя

нож увайшлі ў самы цэнтр варожых уладанняў. Вось-вось павінны былі паказацца сцены Брандэнбурга. Можна смела сцвярджаць, што ён быў бы захоплены. Магчыма, што і Ордэн перастаў бы існаваць. Але князя Давыда па-здрадніцку забіў польскі рыцар Анджэй Гост. Смерць палкаводца выклікала разгубленасць у войску і недавер літоўцаў да саюзнікаў-палякаў. Паход быў сарваны.

Агульнавядома, што там, дзе пачынаецца вялікая палітыка, аб лёсах людзей амаль не думаюць. Так здарылася і ў нашым выпадку. Шлюбам злучылі людзей, якія не былі створаны адзін для аднаго. Казімір так і не палюбіў сваю жонку Альдону.

Дачка Гедыміна добра разумела ўсё. І ў гэтай сітуацыі павяла сябе з такой годнасцю і тактоўнасцю, што міжволі выклікала павагу ў палякаў. Яна не надакучвала свайму мужу, імкнулася не раздражняць свякроў, а трымалася як мага бліжэй да караля. Той жа быў для яе надзейным заступнікам. Карацей кажучы, Альдона ў гэты час вяла даволі просты, зусім не каралеўскі, лад жыцця. Яна шмат займалася верхавой яздой, ладзіла невялічкія балі для свайго акружэння, шмат падарожнічала па Польшчы. У час падарожжаў яна спынялася ў розных палацах. Іх гаспадары, звычайна, выдатна ведалі густ і звычкі сваёй госці. Таму прыводзілі для яе музыкаў і танцораў з навакольных вёсак.

Не змяніліся адносіны ў сям'і і пасля таго, як у 1326 г. Альдона нарадзіла дачку Альжбету. У гэты час яна даволі часта бывала ў Познані. Шэраг даследчыкаў нават сцвярджае, што яна там жыла пастаянна.

У 1329 г. каралевіч паехаў у Венгрыю, дзе жонкай тамашняга караля Роберта была яго сястра Альжбета. Яны не бачыліся некалькі гадоў. Таму радасць сустрэчы была вялікая. Пачаліся балі, піры, турніры, паляванні ў гонар госця.

Пышнасць венгерскага каралеўскага двара ўразіла Казіміра. Але больш за ўсё ўразіла яго адна дама са світы Альжбеты — Клара Зах. Сястра заўважыла гэта і зрабіла так, каб яны зблізіліся. Здавалася, што гэты «амур» удасца скрыць ад іншых. Але неўзабаве Клара зацяжарыла. І таемнае стала яўным. Да таго ж аб усім гэтым даведаўся бацька Клары. Ён паходзіў з вельмі знатнай венгерскай сям'і. Таму гэта сувязь пляміла імя і гонар усяго роду. Феліцыян, так звалі бацьку, лічыў, што падобную пляму можа змыць толькі кроў. І ў адзін з майскіх дзён 1330 г. Ён уварваўся з мячом у каралеўскі палац. Вынікі былі страшэнныя. Феліцыян забіў некалькі слуг, параніў караля, каралеве адсек некалькі пальцаў на руцэ. Пры гэтым ён выкрыкваў пагрозы і патрабаванне сустрэцца адзін на адзін з Казімірам. Але той

змог збегчы. Урэшце прыдворныя натоўпам навалiлiся на раз'юшанага Фелiцыяна i забiлi яго.

Дадзенае здарэнне настолькi напалохала каралеўскую сям'ю, што яны вырашылi не спыняцца на гэтым. Мёртвага Фелiцыяна пасадзiлi на кол. Няшчаснай жа Клары адрэзалi нос i вусны. У такiм выглядзе яе вазiлi па гораду, прымушаючы гаварыць: «Так будзе з усiмi, хто па дыме руку на караля». Больш таго, баючыся помсты яшчэ каго-небудзь з сям'i Захаў, замучылi да смерцi сястру Клары i яе мужа. Брата ж разарвалi коньмi i астанкi яго скармiлi сабакам. Такiм чынам была знiшчана альбо выгнана з краiны ўся радня шалёнага Заха аж да трэцяга калена.

Скандал атрымаў шырокую вядомасць. Падрабязнасцi яго абмяркоўвалi не толькi ў Венгрыi, але i ў суседнiх краiнах. Зразумела, што аб гэтым стала вядома i ў Польшчы.

Невядома, як сустрэлi гуляку дома, як адрэагавалi на яго прыгоды бацькi i жонка. Але ў Альдоны, вiдаць, у гэты момант знiклi апошнiя спадзяваннi на сямейнае шчасце.

2 сакавiка 1333 г. адышоў у нябыт апякун Ганны-Альдоны Уладзiслаў Лакаток. Карону атрымаў у спадчыну Казiмiр. Хутка ён павiнен быў каранавацца на прастол i каранаваць сваю жонку. Аднак пры двары ўзнiк скандал. Удава Уладзiслава Ядвiга заявiла, што яна яшчэ жывая i што менавiта яна з'яўляецца каралевай Польшчы. Таму другой каралевы быць не можа. Казiмiру, аднак, удалося пагасiць полымя сямейнай спрэчкi. Ён каранаваўся i каранаваў жонку. Абрад праводзiў архiепiскап Гнезненскi. Таму спробы Ядвiгi аспрэчыць правамернасць гэтай падзеi падтрымкi сярод прыдворных не мелi.

Так пры польскiм двары склалася двухкаралеўе. Знешне ўсё выглядала прыстойна, але ва ўсiм адчувалася патаемная барацьба. У гэтай барацьбе, у адрозненне ад саперніцы, Альдона не магла разлiчваць на шырокую падтрымку. Яе становiшча ўскладнялася яшчэ i тым, што Альдона не магла разлiчваць на дапамогу мужа. Ён амаль не цiкавiўся яе справамi. Больш таго, пайшоў у чарговы разгул. Мяняў адну каханку за адной. «Прыгоды» яго атрымалi шырокую вядомасць у краiне i выклiкалi ўсеагульнае нездавальненне. Тым больш што шмат хто з палякаў не мог дараваць яму яго венгерскiя прыгоды. Дайшло да таго, што яго асудзiла нават царква. Адбылося гэта ў Кракаве ў 1338 г. Кароль зайшоў у касцёл у той час, калi ў iм вёў набажэнства бiскуп кракаўскi Грот. Бiскуп перапынiў набажэнства i заявiў, што не будзе яго весьцi, пакуль гэты грэшнiк, гэты распуснiк, тут ён паказаў на Казiмiра, не пакiне храм Божы.

Аднак і гэта не абразуміла Казіміра. Ён працягваў свой распусны спосаб жыцця. Кароль стаў жыць асобна ад жонкі ў Кракаве, а Альдона з дочкамі (у 1335 г. яна нарадзіла яшчэ адно дзіця — Кунігунду) у каралеўскім палацы на Вавелі.

Так, каралева Ядвіга, іншыя абставіны жыцця аказаліся мацнейшыя за Альдону-Ганну. Але і ў дачкі Гедыміна былі прыхільнікі. Сімпатыям многіх палякаў да Альдоны спрыяла тое, што яна ніколі не страчвала душэўнага спакою і самавалодання. Не іграла ролю няшчаснай, кінутай жонкі і не шукала прыгод у мужчынскім асяроддзі. Простых людзей скарала яе дабрата і міласэрнасць. Іншым падабалася, што Альдона ведае сваё месца і не лезе ў палітыку. «Каралева, вартая Польшчы»,— гаварылі пра яе падданыя. Яны чакалі, што Альдона народзіць у рэшце рэшт спадчынніка Казіміру III. Але гэтага, на жаль, не адбылося.

Каралева памерла ў 1339 г., у маі. Яна амаль не хварэла і, паміраючы, здаецца, не пакутавала. А можа, ёй удалося намаганнем волі зрабіць так, што нікому не стаў бачным яе боль? Ёй не было гэта цяжка,— так яна рабіла ўсё жыццё.

## ВАЙДЭЛОТКА

### БІРУТЭ
### (каля 1340—1416 гг.)

Нашто мяне
Са Жмудзі ў Трокі звёз, як паланянку,
Паганскую багіню і рабыню?
Нашто красу, што чыстай быць хацела,
Пашлюбіў ты сваёй гвалтоўнай воляй?
Нашто зарок парушыў вайдэлоткі?
*М. Арочка. «Крэва»*

У нашых паўночных суседзяў, літоўцаў, гэта гістарычная асоба — адна з самых папулярных. Да яе ставяцца як да сімвала жаноцкасці. Пра княгіню-вайдэлотку Бірутэ напісана вялікая колькасць літаратуры; як гістарычнай, так і мастацкай.

У цэнтры г. Палангі знаходзіцца цудоўная скульптурная выява Бірутэ, ля якой заўсёды — жывыя палявыя кветкі. На першых паштовых марках Літоўскай буржуазнай рэспублікі — яе графічны партрэт побач з партрэтам яе мужа Кейстута. Нават цукеркі і адзін з гатункаў мінеральнай вады літоўцы назвалі «Бірутэ». Чым жа заслужыла гэта асоба такое шанаванне? Чаму цікаўнасць сучасных літоў цаў да яе падобна культу нейкай багіні?

Калі адкінуць усе фальклорныя напластаванні з гісторыі жыцця гэтай жанчыны, стане зразумела, што абяссмерцілі яе не вялікія дзеянні, а ўсяго толькі прыгажосць, якая выклікала да яе бязмежнае, яркае каханне такой неардынарнай асобы, як князь Кейстут.

Як вядома, вялікі князь Гедымін пасаджаў сваіх сыноў на княжанне па розных гарадах. Каго ў Пінск, каго ў Крэва, каго ў Наваградак. Кейстуту ён даў Трокі.

У 1341 г. Гедымін загінуў у бітве з крыжакамі. Велікакняжацкі прастол заняў Яўнут. Гэта вельмі не спадабалася іншым братам, асабліва Кейстуту і Альгерду. З сямі Гедымінавых сыноў толькі гэтыя двое былі дзецьмі Вольгі, іншых нарадзіла князю яго трэцяя жонка Ева. Відаць, па гэтых прычынах Альгерд і Кейстут заўсёды трымаліся разам і не вельмі добра ставіліся да пяцярых іншых Гедымінавічаў.

Пасля нечаканага ўзвышэння Яўнута Альгерд і Кейстут змовіліся выгнаць яго з Вільні і сесці там самім. Прызначылі яны і тэрмін выступу. Але Альгерд, які княжыў у Віцебску, не паспеў да вызначанага часу. Давялося Кейстуту самому з войскам ісці на Вільню. Яўнут было

збег, але яго схапілі і прывезлі назад. Пераможца паслаў насустрач Альгерду ганца з прыемнай весткай. Сам жа чакаў яго ў сталіцы. Калі сустрэча братоў адбылася, Кейстут сказаў Альгерду: «Табе належыць князем вялікім быць у Вільні, бо ты старэйшы брат, а я з табою за адно жыву». Так Кейстут пасадзіў на велікакняжацкі прастол Альгерда. Сыны Вольгі падзялілі паміж сабой землі княства. Альгерд узяў сабе ўсходнюю частку, а Кейстут заходнюю.

Браты былі вельмі розныя па характару, але ў сваёй палітыцы на карысць Вялікага княства вельмі добра дапаўнялі адзін аднаго, дзейнічаючы пры гэтым у рамках вызначаных сфер свайго ўплыву.

Альгерд быў выдатным дыпламатам, дзякуючы чаму здолеў далучыць да княства новыя землі на Усходзе. Ён таксама вёў няспынную барацьбу з Маскоўскай дзяржавай. Кейстут жа, як пішуць у сваёй кніжцы І. А. Заічкін і І. М. Пачкаеў «Русская история»: «...меў рыцарскі характар, вызначаўся адвагай і воінскімі здольнасцямі. Ён быў рэўнасным язычнікам... *Узначаліўшы барацьбу з крыжакамі* (падкрэслена намі.— Аўт.), ён шмат гадоў быў самым папулярным дзяржаўным дзеячам у княстве».

Вышэйназваныя аўтары з гэтай нагоды адзначаюць, што калі, напрыклад, нямецкія хронікі таго часу шмат гавораць пра Кейстута, дык амаль нічога пра яго брата Альгерда. Рускія ж летапісы, наадварот, вельмі грунтоўна паведамляюць пра Альгерда, але мала што гавораць пра Кейстута.

В. Ю. Ластоўскі, як бы ў дадатак да вышэйсказанага, таксама піша: «У часы княжання Віценя, Гедыміна і Ольгерда (а значыць, і яго суправіцеля Кейстута.— Аўт.) край ажыў, аддыхнуў пасьля доўгіх дамовых воен, грабежеств і непарадкаў, звычайных пасьледкаў самавольства і самаўпраўства асобных людзей».

Літоўскае насельніцтва Вялікага княства ў гэтыя часы ў большасці сваёй пакланялася язычніцкім багам. Па ўсёй Літве былі раскінуты іх капішчы. Адно з самых шануемых знаходзілася ў велізарным сасновым лесе, які падступаў ажно да мора (якраз там, дзе зараз знаходзіцца г. Паланга). Прысвечана яно было багіні Праўрыме. Дзень і ноч гарэла перад ідалам гэтай багіні нязгаснае вогнішча. Падтрымлівалі яго жрыцы-вайдэлоткі, што жылі тут жа, ля капішча. Набіраліся яны толькі з прадстаўніц вышэйшых саслоўяў. Усе вайдэлоткі вызначаліся сваёй прыгажосцю і строгасцю паводзін. Апошняе тлумачыцца тым, што тыя, хто прысвяціў сябе служэнню багіні, давалі зарок нявіннасці. Тую ж вайдэлотку, якая парушыла гэты зарок, чакала кара. Яе вешалі голай на высокім дрэве або жывой закопвалі ў зямлю. Існавала яшчэ і больш жахлівае пакаранне. Парушальніцу зашывалі ў скураны

мяшок з каменнем. Разам з ёй туды саджалі сабаку, кошку і некалькі змей. Усю гэту «кампанію» тапілі ў Немане. Крыху інакш каралі за нядбайнасць. Вайдэлотку, па недагляду якой пагасла вогнішча, спальвалі жывой.

У 1355 г. сярод жрыц з'явілася новенькая. Гэту жмудзінку клікалі Бірутэ. Хутка слава пра яе прыгажосць і набожнасць разнеслася па ўсёй краіне. Пачуў пра гэта і Кейстут. Ён адразу ж «загарэўся» паглядзець на красуню-жрыцу ўласнымі вачыма. Цікаўнасць да прыгожых жанчын, якая больш пасуе людзям маладога ўзросту, захавалася і ў сэрцы гэтага ўжо сівога мужчыны, старога ўдаўца, бацькі пяцярых дарослых дзяцей.

Але да капішча не прынята прыходзіць толькі дзеля таго, каб палюбавацца на вайдэлотак. Тым больш заганна гэта для князя. Таму Кейстут пайшоў на хітрасць. Ён сабраўся на паляванне ў тыя мясціны і падчас яго як быццам бы заблудзіўся, адстаў ад сваіх сяброў. Кейстуту ўдалося таемна падглядзець за вайдэлоткамі, якія выконвалі адзін з абрадаў пакланення багіні. Ён адразу зразумеў, якая з іх — Бірутэ. Бо, сапраўды, побач з яе прыгажосцю блякнула краса ўсіх астатніх.

Кажуць, што калі чалавек сталых гадоў па-сапраўднаму закахаецца, то пачуццё гэта будзе значна мацнейшым і больш трывалым, чым у юнака. Сівы Кейстут закахаўся з першага погляду ў юную Бірутэ. Не спыніў яго нават страх перад помслівасцю багіні Праўрымы і яе служак. Кейстут вырашыў ажаніцца з красуняй-вайдэлоткай. Ён выйшаў са свайго схова, адкуль назіраў за жрыцамі, назваў сябе і абвясціў пра свае намеры. Суровыя вайдэлоткі вельмі абурыліся і рашуча патрабавалі, каб Кейстут неадкладна пакінуў свяцілішча. Тады князь вырашыў сілай звезці дзяўчыну. Гэтай жа ноччу ён разам са сваімі вернымі людзьмі напаў на жытло вайдэлотак, схапіў Бірутэ і, кінуўшы яе ўпоперак свайго каня, паскакаў у Трокі. У прыгожым палацы на востраве сярод возера Гальвы сівы воін адкрыў Бірутэ сваё сэрца і падараваў ёй шчасце зямнога кахання. Пасля гэтага ў вайдэлоткі ўжо не было шляху назад. За тое, што яна не зберагла сваю цноту, яе чакала смерць. Кейстут жа прапанаваў ёй шлюб, і Бірутэ згадзілася.

Ішоў час, і яна з кожным днём усё больш і больш захаплялася сваім нечаканым мужам. У яго была высакародная пастава, вельмі выразныя вочы, моцныя рукі. Своеасаблівым упрыгожаннем з'яўлялася доўгая сівая барада, якую Кейстут адпусціў яшчэ ў маладосці. Бірутэ таксама спадабалася смеласць і дабрадушнасць, гасціннасць, адкрытасць, сумленнасць яе мужа. Хутка яна пакахала яго так жа

горача і шчыра, як і ён яе. Праз год прыгажуня-жмудзінка падаравала мужу першае дзіця, сына, якога назвалі Вітаўтам.

Гэта быў самы шчаслівы час у жыцці Кейстута. Мала было людзей у Вялікім княстве Літоўскім, хто б не зайздросціў трокскаму князю, бачачы, як пасля бітваў і цяжкасцей паходнага жыцця ён адпачывае на беразе возера Гальва пад раскідзістым дубам, паклаўшы сівую галаву на калені жонкі-красуні.

Адзін за адным з'яўляліся дзеці ў шчаслівай пары: сыны Таўцівіл і Жыгімонт, дочкі Дайнітэ і Рынгала. Яны раслі, набіраючыся бацькавай адвагі і матчынай прыгажосці. Здавалася, шчасце будзе бясконцым. Але...

У 1377 г. памірае Альгерд. І велікакняжацкі прастол пераходзіць не брату альбо старэйшым сынам, а малодшаму Ягайле, які быў сынам Ульяны Цвярской, другой яго жонкі. Гэта было прамое парушэнне традыцый, што скláліся ў Вялікім княстве. Але адбылося яно менавіта з-за намаганняў вялікай княгіні. Нягледзячы на гэта, Кейстут застаўся верным свайму абяцанню, якое даў калісьці брату. Ён вырашыў жыць у сяброўстве і з пляменнікам. Тым больш што яго ўласны сын Вітаўт вельмі дружыў са сваім стрыечным братам. Але праз пэўны час старому князю стала вядома, што Ягайла задумаў супраць яго нядобрае. Крыжаносец, астрожскі комтур Гунстын, які даводзіўся Кейстуту кумам, бо хрысціў адну з яго дачок, аднойчы расказаў яму: «Ты таго не ведаеш, як князь вялікі Ягайла часта пасылае да нас Вайдылу і ўжо змовіўся з намі, каб цябе пазбавіць тваіх уладанняў, а яму б з маці яны дасталіся».

Кейстут паведаміў пра гэта Вітаўту. Той спачатку не паверыў. Але неўзабаве з'явіліся новыя факты, якія пацвярджалі словы Гунстына. Вітаўт зноў не даваў ім веры. Тады Кейстут сабраў усе свае сілы і ўварваўся ў Вільню. Ён захапіў вялікага князя, яго маці і братоў. У палацы знайшліся граматы, якія даказвалі наяўнасць змовы Ягайлы з крыжакамі. І тут стары князь зрабіў вялікую памылку. Ён не пакараў смерцю пляменніка і, галоўнае, яго маці (гэта яна ўвесь час падбухторвала Ягайлу да злачынства), а вырашыў адаслаць яго ў Віцебск, пакінуўшы яму такім чынам усе землі, якімі валодаў Альгерд. Кейстут задаволіўся толькі тым, што Ягайла прысягнуў на вернасць яму і Вітаўту і што ён ніколі супраць іх не выступіць, а заўсёды і ва ўсім будзе адданы Кейстуту.

Ягайла прысягнуў. Ён быў чалавекам дальнабачным і прытым вельмі каварным. У Віцебску ён неўзабаве зноў пачаў перагаворы з крыжакамі з тым, каб адваяваць велікакняжацкі прастол. Рыцары прыйшлі на дапамогу. Але і Кейстут сабраў моцнае войска. І тады

Ягайла паказаў сваё каварства ва ўсёй, як кажуць, красе. Ён запрасіў Кейстута з Вітаўтам у свой лагер, быццам бы для таго, каб памірыцца. Але калі тыя прыехалі, іх па-здрадніцку схапілі. Кейстута адвезлі ў Крэўскі замак, дзе ў пятую ноч пасля гэтага задушылі.

Бірутэ таксама трапіла ў палон да Ягайлы. Яе абвінавацілі ў яе міжвольным граху, у парушэнні клятвы вайдэлоткі. Суд прыгаварыў Бірутэ да пакарання смерцю ў хвалях Нёмана.

Ягайла тым часам загадаў пакараць смерцю сем блізкіх родзічаў Бірутэ, а таксама аддаў тайны загад задушыць у турме Вітаўта. Але Вітаўту, дзякуючы адвазе і вынаходлівасці жонкі Ганны, у апошні момант удалося ўцячы. Магчыма, вестка аб тым, што Вітаўт на свабодзе, і прымусіла Ягайлу адмяніць смяротнае пакаранне Бірутэ.

Памерла Бірутэ ў глыбокай старасці, уласнай смерцю, на месцы свяцілішча Праўрымы, адкуль была выкрадзена калісьці закаханым Кейстутам. Даследчыкі нават называюць год, калі гэта адбылося — 1416. Відаць, перад смерцю вайдэлотцы даравалі яе праступак, бо вядома, што пахавана яна была з вялікай пашанай недалёка ад свяшчэннага капішча, на адным з прыбярэжных узгоркаў.

## СЛАВА І НЯСЛАЎЕ

## СОФ'Я ВІТАЎТАЎНА
## (1369-1453 гг.)

И словом и движением очей
Распоряжая пылкою толпой,
Она была, казалось, их судьбой.
М. Лермонтов. «Литвинка»

Ніхто з даследчыкаў не можа дакладна сказаць, якім чынам апынуўся ў Залатой Ардзе сын Дзмітрыя Данскога Васіль. Адны сцвярджаюць, што быў ён там заложнікам. Другія кажуць, што княжыча захапілі ў палон і тры гады трымалі ў няволі. Трэція, як, напрыклад, аўтар «Истории государства Литовского с древнейших времён» Д. Бранцаў, пішуць без усялякіх домыслаў: «Навошта ён там быў і чаму збег — крыніцы не гавораць».

Вядома толькі, што княжыч сапраўды ў 1386 г. збег ад татар. Першапачаткова ён знайшоў прытулак у Малдавіі, адкуль паслаў вестку бацьку. Васіль добра разумеў, што дабірацца дадому трэба кружным шляхам і што на гэтым шляху яму не мінуць Вялікага княства Літоўскага. Разумеў гэта і бацька. Таму Дзмітрый Данскі накіраваў насустрач сыну сваіх баяр, якія павінны былі заручыцца прыхільнасцю вялікага князя літоўскага і караля польскага Ягайлы і гарантаваць бяспеку бегляку.

У чаканні маскоўскіх баяр Васіль спыніўся ў гасцінна сустрэўшага яго Вітаўта. Той у гэты час валодаў Валынскай зямлёй. У адным са сваіх гарадоў — Луцку ён і прыняў бегляка. Хутка ў галаве хітруна-гаспадара з'явілася «геніяльная» думка — ажаніць княжыча са сваёй пятнаццацігадовай дачкой Соф'яй. Гледзячы па ўсім, гэта было не вельмі цяжка, бо дзяўчына спадабалася Васілю. Адбыліся заручыны. А неўзабаве ў Луцку з'явіліся і маскоўскія пасланцы. Адпускаючы свайго госця на радзіму, Вітаўт узяў з яго абяцанне, што юнак ажэніцца з Соф'яй, як толькі яна дасягне паўналецця.

Зразумела, узнікае пытанне: навошта гэты шлюб быў патрэбны Вітаўту? Можна з упэўненасцю сцвярджаць, што ім рухала жаданне заручыцца падтрымкай Маскоўскага княства ў барацьбе з Ягайлам. Вітаўт лічыў сябе глыбока абражаным, бо Ягайла, які стаў польскім каралём, прызначыў сваім намеснікам у Вялікім княстве Літоўскім не яго, а Скіргайлу. Князь, безумоўна, выдатна разумеў, які гнеў выкліча вестка аб заручынах у польскага караля. І сапраўды, вельмі хутка з

Кракава прыбылі паслы па тлумачэнні. Вітаўт кляўся-бажыўся, упэўніваў, што ад будучага шлюбу ніякай небяспекі яго сюзерэну не будзе. Аднак яму не паверылі і патрабавалі, каб ён альбо сам прыехаў да караля, альбо паслаў у Кракаў свайго даверанага чалавека. Вітаўт накіраваў баярына Кучку. Таго ж у польскай сталіцы схапілі і пачалі дапытваць пра задумы гаспадара. Прымянілі катаванні, падчас якіх ні ў чым не вінаваты баярын памёр.

Вітаўт зразумеў, што такі ж лёс чакае і яго. Але гэта не напужала Вітаўта, а, наадварот, падштурхнула да больш актыўных дзеянняў.

Да таго ж Ягайла на дадзены момант зрабіў шэраг палітычных памылак. Дзеля атрымання польскай кароны ён не толькі сам прыняў каталіцкую веру, але і пачаў актыўна насаджаць яе ў землях Вялікага княства Літоўскага. Прычым імкнуўся прывесці да «веры сапраўднай» і язычнікаў, якіх у княстве было яшчэ даволі шмат, і праваслаўных хрысціян. А галоўнае — умовы Крэўскай уніі, якія фактычна закрэслівалі самастойнасць Вялікага княства.

Гэта ўсё выклікала ўсеагульнае нездавальненне. Яго і вырашыў выкарыстаць Вітаўт. Ён сабраў у Луцку раду нездаволеных князёў. Было вырашана захапіць Вільню. Але горад узяць не ўдалося. І тады Вітаўт «...пайшоў... са сваёю княгіняю, сваімі князямі і баярамі да магістра» (у Прусію.— Аўт.).

Крыжакі заўсёды хавалі ў сябе і падтрымлівалі князёў-выгнаннікаў. Яны па-майстэрску выкарыстоўвалі іх у сваіх палітычных камбінацыях. Аднак крыжакі памяталі, што Вітаўт ужо аднойчы здраджваў ім, і таму асабліва не давяралі свайму «госцю». Ад яго патрабавалі, каб ён аддаў у якасці заложнікаў сваю жонку Ганну, абодвух малалетніх сыноў, сястру і брата Жыгімонта. Для большай бяспекі гэтых заложнікаў нават рассялілі на розных гарадах.

І вось Вітаўт з дапамогай рыцараў выступае ў паход супраць Ягайлы. Пачалася ўпартая і жорсткая барацьба, якая патрабавала вялікіх намаганняў і ахвяр з абодвух бакоў. У 1389 г., якраз у разгар барацьбы, у сталіцу крыжакоў Марыенбург прыбылі з далёкага Маскоўскага княства баяры Аляксандр Поле, Белевут і Селіван са світай. Іх паслаў да Вітаўта новы вялікі князь маскоўскі Васіль І. Баяры прыехалі па нявесту для свайго князя. Вітаўт адпусціў дачку. Узначаліў «шлюбны караван» князь Іван Гальшанскі. Падарожжа было даволі доўгім. І нядзіўна, маршрут аказаўся дастаткова складаным: «Марыенбург — Данцыг, адтуль морам да Пскова. Пскавічы «...выказалі ім вялікі гонар і праводзілі да Вялікага Ноўгарада». Наўгародцы «...таксама іх ушанавалі і праводзілі з пашанаю да горада Масквы да вялікага князя Васіля Дзмітрыевіча». З Масквы насустрач Соф'і былі

высланы князі, баяры і святары. Яны «сустрэлі яе з пашанаю і з крыжамі». «І ўчынілі шлюб пачэсна і павянчалі вялікага князя Васіля Дзмітрыевіча з вялікаю князёўнай Соф'яй». 1 снежня 1390 г. з «вялікай пышнасцю і ўсеагульным задавальненнем народа» адбылася шлюбная ўрачыстасць.

Соф'я апынулася ў новай сям'і, на чужой зямлі. Але яна выдатна разумела, што цяпер гэта яе краіна. Разумела і тое, што яна, Соф'я, не простая жыхарка, а жонка князя, уладара, якая павінна падтрымліваць свайго мужа ва ўсіх яго намаганнях, тым больш што становішча княства было вельмі цяжкім. Яшчэ паўсюль бачныя былі спусташэнні, нанесеныя ордамі Тахтамыша, які ў 1382 г. (праз два гады пасля Кулікоўскай бітвы) прайшоў па Маскоўскай зямлі і заліў яе крывёю.

Бліжэйшыя суседзі — Цвярское і Разанскае княствы таксама варожа ставіліся да Масквы. Ды і з боку Вялікага княства Літоўскага ўвесь час пагражала небяспека.

Роднасць Васіля Дзмітрыевіча з Вітаўтам зняла цэлы шэраг пытанняў у знешняй палітыцы абодвух княстваў. Цесць і зяць жылі амаль што ў згодзе. Большасць іх канфліктаў адбывалася з-за спрэчак, пад чыім уплывам будуць Пскоўская і Наўгародская феадальныя рэспублікі. Справа ў тым, што ў іх існавалі і варагавалі паміж сабой дзве групоўкі. Адна з іх арыентавалася «на Маскву», а другая — «на Літву». Папераменна перамагала то адна, то другая. І нярэдка для падтрымкі «сваёй» групоўкі то адзін вялікі князь збіраўся ў паход, то другі.

Усё гэта ніякім чынам не паўплывала ні на асабістыя адносіны паміж Вітаўтам і Васілём І, ні на «псіхалагічны клімат» у сям'і вялікага князя Маскоўскага. Спрыялі гэтаму ў першую чаргу тыя цеплыня і ўтульнасць, якія ўтварыла ў сваім палацы Соф'я. Спрыялі і дзеці, якіх Васіль І вельмі любіў,— дачка Вітаўта падаравала мужу двух сыноў — Васіля ды Івана, а таксама дачок Ганну, Марыю і Анастасію. Трэба заўважыць, што амаль увесь цяжар кіравання хатняй гаспадаркай ляжаў на Соф'і. Яе муж больш часу праводзіў у паходах ды раз'ездах, чым дома.

Безумоўна, Соф'я была не толькі жонкай ды гаспадыняй. Цікавілася яна і пытаннямі палітыкі. Можна з упэўненасцю гаварыць аб тым, што выбар мужа для Анастасіі быў справай вялікай княгіні (ім стаў гедымінавіч Алелька, у далейшым заснавальнік славутай дынастыі Алелькавічаў), і што менавіта яна пазней параіла мужу паслаць у рэзідэнцыю Алелькі — Слуцк мітрапаліта Фоція, якому было дадзена нейкае таемнае даручэнне.

Вера маскоўскага князя ў розум жонкі і прыязныя адносіны да цесця прагучалі ў яго духоўных граматах, складзеных незадоўга да смерці. Непаўналетняму спадчынніку Васілю (Іван памёр маленькім) бацька прызначыў апекуноў — менавіта маці і дзеда, Вітаўта. Васіль Дзмітрыевіч памёр у 1426 г. Хлопчыку, які павінен быў замяніць яго на маскоўскім прастоле, споўнілася тады толькі дзесяць гадоў. Таму ўлада ў княстве фактычна перайшла да створанага пры маскоўскім двары баярскага ўрада. Аб гэтым паклапацілася Соф'я. Яна сабрала баяр і заклікала іх «моцна стаяць» за яе сына. Узначаліў урад мітрапаліт Фоцій. Многія даследчыкі сцвярджаюць, што Соф'я і сама прымала актыўны ўдзел у дзейнасці гэтага ўрада. Тым не менш вельмі хутка ёй спатрэбілася дапамога бацькі. Брат Васіля I Юрый, які княжыў у Галічы, не прызнаў пляменніка вялікім князем. Ён адстойваў стары прынцып прастоласпадчыннасці — ад брата да брата. Юрый распачаў барацьбу за прастол вялікага князя. У Маскве даведаліся пра гэта і накіравалі ў Галіч войска. Юрый, які не паспеў сабраць сілы, кінуўся ў Ніжні Ноўгарад. Ён спадзяваўся знайсці там падтрымку сярод тых, хто імкнуўся аднавіць незалежнасць гэтага княства ад Масквы. Але маскоўскае войска накіравалася ўслед за ім. Галіцкі князь не рашыўся на бітву. Ён вярнуўся дадому і прапанаваў заключыць перамір'е на год. Але Маскве патрэбна была не перадышка, а трывалы мір. У гэты момант у Маскве з'явіўся Вітаўт, які ў сваю чаргу прапанаваў пасланць у Галіч мітрапаліта Фоція. На яго думку, толькі гэты чалавек са сваім красамоўствам і аўтарытэтам мог дасягнуць поспеху. Удзел у справе Вітаўта прымусіў Юрыя Галіцкага задумацца. Ён выдатна разумеў, што можа здарыцца, калі на паўночныя межы яго княства абрынецца, бы лавіна, «літоўскае» войска. Аднак пэўнага адказу не даў. Паабяцаў толькі, што прышле ў Маскву баяр. Крыху пазней быў падпісаны мір, але з умовай, што канчаткова пытанне будзе вырашана ў Залатой Ардзе. Хан жа з адказам не спяшаўся, але выказаў нездаволенасць паводзінамі Юрыя. І Вітаўт зрабіў усё, каб яго нездавальненне стала вядома галіцкаму князю. Вынік — афіцыйнае адмаўленне Юрыя Галіцкага ад дамаганняў на велікакняжацкі прастол. Гэта адбылося ў 1528 г. Усе ўздыхнулі з палёгкай. Аднак праз два гады памёр Вітаўт, а яшчэ праз год — мітрапаліт Фоцій. Становішча, што склалася, адразу ж паспрабаваў выкарыстаць Юрый Галіцкі, які зноў заявіў пра свае правы на прастол.

У 1431 г. Соф'я была вымушана накіраваць юнага сына ў Залатую Арду. Туды ж паехаў і яго дзядзька-праціўнік. Юрый Галіцкі быў упэўнены, што яму ўдасца схіліць хана на свой бок. Але ўдава Васіля I Дзмітрыевіча паслала разам з сынам мудрага баярына Всевалаж-

скага. Яна абяцала ў выпадку поспеху ажаніць свайго сына з дачкой баярына. Акрылены такой перспектывай, Всевалажскі зрабіў амаль немагчымае: праз тры месяцы пасля таго, як Васіль II вярнуўся з Арды, да яго прымчаў пасол хана з весткай аб зацвярджэнні за ім права на маскоўскі прастол.

Радасць Соф'і была вялікай. З гэтай нагоды яна хацела адзначыць сваю перамогу як мага больш пышна. Для гэтага вырашыла сумясціць дадзеныя ўрачыстасці з сынавым вяселлем. Але нявесткай стала не дачка вернага баярына Всевалажскага, а іншая. Княгіня-літвінка абрала яе з ліку сваіх родзічаў. Маладая серпухоўская князёўна Марыя Яраслаўна была праўнучкай Альгерда.

Што ж, шчасце вельмі часта засцілае розум, а пачуццё неабмежаванай улады — псуе. Соф'я парушыла дадзенае ёю ж слова, і гэта была яе першая памылка. Яна, праўда, не вельмі паўплывала на яе лёс. Всевалажскі, які ператварыўся з вернага чалавека ў лютага ворага, паспрабаваў адпомсціць, але паплаціўся за гэта ўласнымі вачамі — ён быў аслеплены. Тым не менш лёс пакараў ганарлівую дачку Вітаўта. Адразу пасля першай памылкі яна дапусціла другую, расплачвацца за якую давялося слязьмі і крывёю.

На вяселлі Соф'я ўчыніла грандыёзны скандал. Сярод ганаровых гасцей знаходзіліся сыны Юрыя Галіцкага (Васіль Касы і Дзмітрый Шэмяка). Адзін з баяр убачыў на Васілю Касым залататканы пояс з каштоўнымі камянямі. Пояс гэты калісьці быў дадзены ў якасці пасагу суздальскай князёўне Еўдакіі — жонцы Дзмітрыя Данскога, пасля смерці кананізаванай праваслаўнай царквою. Яго выкралі са скарбніцы. «Праз трэція рукі» ён трапіў да Касога, і той, не думаючы нічога дрэннага, у лепшым сваім убранні, падпяразаны гэтым самым поясам, прыехаў на вяселле да стрыечнага брата. І раптам цётка з крыкамі, з абвінавачваннямі ў злачынстве зрывае з яго гэты пояс. Зразумела, што пасля такога сораму Касы пакінуў не толькі княжацкі палац, але і Маскву.

Чамусьці амаль усе даследчыкі ў дадзеным выпадку апраўдваюць Соф'ю. Яны ў адзін голас заяўляюць, што пояс Еўдакіі з'яўляўся велікакняжацкай рэгаліяй. І маўляў, тое, што Соф'я прылюдна зняла з Васіля Касога гэты знак велікакняжацкай улады, азначала яе пратэст супраць амбіцый удзельных князёў. Аднак залататканы пояс нідзе не прыгадваецца ў якасці рэгаліі гэтай самай улады. Сапраўды, калі б гэта было так, ён павінен быў бы перадавацца ад аднаго вялікага князя да другога, а не давацца дачцэ ў якасці пасагу. Хутчэй за ўсё пояс быў проста сямейнай рэліквіяй. Зразумела, што летапісец, які жыў у Маскве, вымушаны быў абгрунтаваць неяк учынак княгіні-ўдавы. Ён

гэта і зрабіў. Пазнейшыя ж даследчыкі прынялі яго словы пра «рэгаліі» на веру.

Ва ўсякім разе справу з поясам упаўне можна было б уладкаваць мірна і без публічных абвінавачванняў. Ганарлівая Соф'я не пажадала гэтага. І, паводле слоў летапісца, «понеже много зла с того почалося».

Юрый Галіцкі абразіўся не менш за сыноў. Ён хутка сабраў войска і выступіў у паход на Маскву. Малады Васіль II не чакаў такога павароту падзей. Аб набліжэнні ворагаў ён даведаўся толькі тады, калі тыя занялі Пераяслаўль. Вялікі князь паспрабаваў дагаварыцца з Юрыем. Аднак перагаворы скончыліся толькі ўзаемнай лаянкай. У бітве, што неўзабаве адбылася, Васіль II быў разбіты ўшчэнт. Кінуўшы рэшткі войска, ён збег у Маскву, а адтуль з маці і жонкай з'ехаў спачатку ў Цвер, а потым у Кастраму.

Юрый Галіцкі заняў Маскву і абвясціў сябе вялікім князем. Пераможанаму пляменніку ён даў ва ўдзел Каломну. Але той, мабыць, падбухторваемы маці, вырашыў адбіць прастол. Барацьба за ўладу працягвалася. Яна, як і феадальныя войны ў Заходняй Еўропе, суправаджалася шэрагам атручванняў, каварных інтрыг, здрадніцкіх забойстваў. Кроў і слёзы — трыццаць гадоў няспыннай барацьбы.

Улада на час вайны неаднаразова пераходзіла з рук у рукі. Соф'я Вітаўтаўна жыве то ў Маскве і дапамагае сыну ў кіраўніцтве княствам, то едзе ў выгнанне. Яе ссылаюць то ў Каргопаль, то ў Звянігарад, то ў Чухламу. Такі лёс, відаць, быў заслужаны ёю. Гэта яна з'явілася пачынальніцаю разладу! Але ён ударыў і па іншых. Сын Соф'і падчас барацьбы за ўладу быў асеплены Дзмітрыем Шэмякай. Васіль II з-за слепаты ў далейшым атрымаў мянушку Цёмны. Той жа лёс напаткаў і Васіля Касога.

У рэшце рэшт перамог Васіль II. У 1447 г. Ён канчаткова «воссел» на велікакняжацкім прастоле. Соф'я вярнулася з Чухламы. Але гэта была ўжо не тая высакамерная і ганарлівая жанчына. Пакуты і раскаянне змянілі яе. Яна пачынае задумвацца аб уласнай душы і фундуе шмат манастыроў і храмаў. Яна старэе на вачах і не супраціўляецца надыходу старасці. Спакой і Божае дараванне — вось тое, што ёй зараз патрэбна. Але выпрабаванні Соф'і не скончыліся. У 1451 г. Васіль Цёмны накіраваўся ў Паволжа збіраць войскі. І ў гэты момант пад сценамі Масквы з'явіліся татары. Іх прывёў хан Мазаўша. Ён выдатна ведаў, што Васіля II няма ў Маскве, і спадзяваўся лёгка захапіць горад. І тады васьмідзесяцігадовая княгіня выйшла да народа з маленнем не аддаць ворагу Масквы. Яна сама арганізавала абарону. У гэтыя дні гараджане заўжды бачылі старую княгіню побач з сабой на сценах Масквы. Натхнёныя гераізмам Соф'і масквічы адбілі ўсе

штурмы. Татары «з вялікім сорамам» вымушаны былі вярнуцца ў родныя стэпы.

Пасля гэтай падзеі Соф'я стала ў вачах масквічоў гераіняй. Але свечка яе жыцця дагарала. Яна пражыла яшчэ толькі два гады. 16 чэрвеня 1453 г. Вітаўтава дачка Соф'я — вялікая княгіня маскоўская ціха адышла ў нябыт. Магчыма, у рэшце рэшт яна — атрымала дараванне ад нябёсаў...

## ЧАЦВЁРТАЯ ЖОНКА МАНАРХА

## СОФ'Я ГАЛЬШАНСКАЯ
## (каля 1405—1461 гг.)

Дзівосная знойдзена дзева.
Дачка зямлі Беларускай, слынная,
слаўная па ўсіх краінах,
Німфаў, багіняў пераўзыдзе, пекнаты
не адымеш,
Соф'яй яе наракаюць у людзе, аратыя славяць,
Воблік чаруе яе, як і бляск красамоўства.

*Я. Вісліцкі. «Пруская вайна»*

Як гэта ні дзіўна, але ўсе тры шлюбы вялікага князя Літоўскага, а пазней польскага караля Ягайлы не прынеслі яму жаданага спадчынніка. Многія лічылі, што і ў адсутнасці сыноў вінаваты ён сам. Але кароль упарта не падзяляў са сваімі падданымі гэтай думкі.

У 1422 г. сямідзесяцічатырохгадовы манарх надумаў ажаніцца ў чацвёрты раз. У «Хроніцы Быхаўца» даволі падрабязна апісана, як Ягайла прыйшоў да гэтага рашэння.

Са сваёй чарговай абранкай, маладзенькай князёўнай Гальшанскай, кароль сустрэўся даволі выпадкова, падчас гасцявання ў Друцкім палацы яе дзядзькі, брата маці — князя Сямёна. Соф'я не вылучалася той яркай прыгажосцю, якой славілася, напрыклад, каралева Ядвіга. Соф'я Гальшанская прывабіла старога караля хутчэй пяшчотнай свежасцю сваёй маладосці. Падобная больш да духмянай палявой кветкі, чым да пышнай ружы, магчыма, князёўна і не была створана для кароны. Але манарх убачыў, захапіўся і прыняў рашэнне. Сватам Ягайла папрасіў быць свайго стрыечнага брата вялікага князя Літоўскага Вітаўта, з якім адносіны ў яго былі дзіўныя і незразумелыя: то яны сябравалі і кляліся ў вечнай дружбе, то пачыналі ўспамінаць усе ўзаемныя крыўды і ледзь не аб'яўлялі адзін аднаму вайну. Цікавы факт: жонка Вітаўта — Юльянія была стрыечнай сястрой Соф'і Гальшанскай.

Вітаўт, які меў ужо вопыт у справах сватаўства (ён выступаў у адпаведнай ролі, калі палякі прапанавалі Ягайлу руку сваёй маладзенькай каралевы Ядвігі), звярнуўся да Сямёна Друцкага. Але той нечакана ашаламіў яго словамі аб тым, што не можа аддаць Соф'ю замуж. Растлумачыў і прычыну: у Соф'і ёсць сёстры Марыя і Васіліса. Марыю можна не браць пад увагу — яна яшчэ зусім дзіця. А вось Васіліса —

старэйшая з траіх... Яна павінна выйсці замуж першая. Інакш потым яе ніхто не возьме, будуць думаць, што ў дзяўчыны ёсць нейкі недахоп, бо малодшую ўзялі, а старэйшую не захацелі.

Сямён прапанаваў Вітаўту сватаць менавіта Васілісу. Тым больш што яна прыгажэйшая за Соф'ю. Вітаўт пагадзіўся з гэтай прапановай і пачаў угаворваць Ягайлу ўзяць замуж старэйшую Гальшанскую. Але кароль не пажадаў мяняць сваё рашэнне. Ён убіў сабе ў галаву, што са старэйшай пляменніцай князя Сямёна сапраўднай сям'і ў яго не атрымаецца: хаця яна і больш прыгожая, але ў яе ёсць «вус» (ці бо, пушок над вуснамі). Па гэтай прымеце ён вызначыў, што Васіліса — дзяўчына моцная і тэмпераментная. Такой патрэбны муж малады і энергічны. Ягайла баяўся аказацца «не на вышыні» ў сямейным жыцці.

Перагаворы зайшлі ў тупік. І тады было знойдзена кампраміснае рашэнне. Васілісе хуценька падшукалі жаніха. Ім стаў князь Іван Бельскі. Больш перашкод не было. Шаснаццацігадовая Соф'я была выдадзена замуж і стала польскай каралевай. Вянчанне адбылося ў Навагрудскім касцёле.

У хуткім часе Вітаўт пашкадаваў аб тым, што так настойліва дамагаўся ў Гальшанскіх гэтага шлюбу. Ён жа быў проста ўпэўнены, што ў такім старэчым узросце Ягайла не зможа стаць бацькам спадчынніка. Пасля смерці Ягайлы ў такім выпадку Вітаўт мог бы разлічваць на прастол. Але новая жонка старога караля хутка нарадзіла яму спачатку аднаго, а потым і другога сына. Каралевічаў ахрысцілі Уладзіславам і Казімірам. Апошні, праўда, доўга не жыў. Надзеі Вітаўта з трэскам праваліліся. І тады ён распрацаваў вельмі хітры план, які пры поспеху забяспечыў бы яму здзяйсненне шматгадовай мары. Вялый князь вырашыў абвергнуць правы сыноў Соф'і на польскую карону. Пры распрацоўцы каварнага плана Вітаўт улічыў усё. У першую чаргу — раўнівы характар Ягайлы, а яшчэ — непапулярнасць каралевы-беларускі сярод палякаў, якія пастаянна параўноўвалі яе са сваёй няшчаснай каралевай Ядвігай, прыгажуняй, разлучанай з каханым дзеля дынастычнага шлюбу з Ягайлам.

У 1427 г. на Гарадзельскім сойме вялікі князь Літоўскі раптоўна папрасіў слова і з загадкавым тварам спытаўся ў караля, як таму ўдаецца, нягледзячы на свае гады, трымаць сябе ў такой цудоўнай форме? Спадчыннікі з'яўляюцца адзін за адным! Ці не знайшоў у гэтай справе Ягайла сабе памагатага?

Здаецца, каралева збіраецца ў трэці раз стаць маці? Варта заняцца падлікам дзён, і тады лёгка будзе вылічыць сапраўднага бацьку будучага дзіцяці.

Сойм загудзеў, бы растрывожаны вулей. Ганебныя для гонару Соф'і меркаванні папаўзлі па радах. І ніхто з удзельнікаў сойма не ўступіўся за жанчыну: настолькі праўдападобнай аказалася хлусня.

Стары кароль павёў сябе як сапраўдны Атэла. У раз'юшанасці ён кінуўся да ні ў чым не вінаватай жонкі з патрабаваннямі назваць імя каханка. Але што магла сказаць Соф'я, па ўзросту амаль дзяўчынка, сумленная, але нявопытная? Яна толькі плакала, упрошваючы раўніўца паверыць яе словам.

Пасля каралевы Ягайла абрушыў свой гнеў на прыдворных. Ён загадаў арыштаваць усіх больш-менш сімпатычных маладых рыцараў, якія патэнцыяльна маглі б з'яўляцца каханкамі Соф'і. Астатнія ў часы прыёмаў вымушаны былі хаваць вочы пад прыдзірлівым поглядам свайго манарха. Нават прыдворныя больш сталага ўзросту не маглі адчуваць сябе ў бяспецы, бо ў вачах васьмідзесяцігадовага старога яны выглядалі ледзь не юнакамі.

Не дабіўшыся «праўды» ад жонкі, стары раўнівец вырашыў выведаць яе ў Соф'іных фрэйлін. Некалькіх жанчын арыштавалі і падверглі катаванням. Дзве з іх, сёстры Катажына і Альжбета Шчукоўскія, не вытрымалі і абгаварылі каралеву. Яны назвалі імя маладога, прыгожага рыцара Генрыка з Рогава. Кат усур'ёз заняўся гэтым маладым чалавекам. Але высакародны рыцар трымаўся мужна і непахісна. Нават на дыбе, нават пад пагрозай гарачага жалеза, ён паўтараў, бы малітву: «Каралева не здраджвала каралю».

Яго цвёрдасць выратавала каралеву. Суд задаволіўся тым, што Соф'я прынесла ачышчальную прысягу і на Бібліі паклялася ў тым, што не здраджвала мужу. Пасля ўсіх гэтых перыпетый мір у каралеўскай сям'і аднавіўся. І каралева хутка парадавала мужа трэцім сынам. Дарэчы, гэта быў славуты ў далейшым вялікі князь Літоўскі і польскі кароль Казімір.

У 1434 г. Ягайла памёр. Каралём быў абраны дзесяцігадовы сын Соф'і Уладзіслаў. Апякункай малалетняга караля па ўсіх правілах павінна была б стаць яго маці. Але палякі ледзь цярпелі яе. Яны не маглі і не жадалі дараваць каралеве ні яе «літоўскае» (беларускае) паходжанне, ні тое, што сыноў сваіх яна выхоўвала ў духу любові да «Літвы». Нават называлі яны між сабой каралеву не Соф'яй і нават не Зоф'яй (на каталіцкі манер), а Сонкай. Таму апекунамі, а фактычна правіцелямі стала купка польскіх магнатаў. Найбуйнейшымі з іх былі прадстаўнікі радоў Аляснiцкіх і Тэньчыньскіх.

Удовая ж каралева засталася «не ля спраў». Яна назірала, як мужнеюць яе сыны, як становяцца сапраўднымі правіцелямі. Ганарылася імі. Памалу старэла. У 1443 г. старэйшы сын Соф'і Уладзіслаў

Ягелончык, які зусім нядаўна ў дадатак да польскай кароны атрымаў венгерскую, ужо ў якасці венгерскага манарха распачаў ваенныя дзеянні супраць турак, пагроза з боку якіх мадзьярам была пастаяннай і сур'ёзнай. 10 лістапада наступнага года ў бітве пад Варнай кароль-рыцар сам узначаліў атаку супраць турак. Аднак удача адвярнулася ад Уладзіслава. Амаль усе яго воіны загінулі. Сам жа кароль знік. Маці доўга не магла паверыць у яго гібель і да самага скону спадзявалася на цуд. У апошнія гады свайго жыцця Соф'я наблізіла да сябе мужнага Генрыка з Рогава, адзінага, хто адстойваў яе жаночы гонар тады, калі ўся Польшча яе абвінавачвала ў здрадзе. Рыцар Генрык стаў дарадчыкам Соф'інага сына, Казіміра. Пасля ж смерці ўдовай каралевы атрымаў па яе запавету шмат багаццяў.

Соф'я памерла ў 1461 годзе, ціха і непрыметна.

## ШЧАСЦЕ КНЯЗЕЎНЫ КОБРЫНСКАЙ

### ГАННА КОБРЫНСКАЯ (каля 1460—1519 гг.)

Ты меня на рассвете разбудишь,
Проводить, необутая, выйдешь.
Ты меня никогда не забудешь,
Ты меня никогда не увидишь.
Заслоняя тебя от простуды,
Я подумаю: «Боже Всевышний!
Я тебя никогда не забуду,
Я тебя никогда не увижу».

*А. Вознесенский. «Романс»*

Паняцці «каханне», «гонар», «здрада» цесна суседнічаюць у сумным аповедзе пра лёс князёўны Ганны Кобрынскай.

Паходзіла Ганна з сям'і ўладальнікаў невялічкага княства, якое было ў васальнай залежнасці ад Вялікага княства Літоўскага. Радавод сям'я вяла ад Гедыміна. Прозвішча ж Кобрынскія атрымалі па назве сваёй сталіцы. Праўда, да таго часу, калі дзяўчынка з'явілася на свет, ад самастойнасці гэтага княства, як, дарэчы, і большасці іншых з тых, што ўвайшлі ў склад Вялікага княства Літоўскага, амаль нічога не засталося. Уладанні князёў Кобрынскіх з'яўляліся ўсяго толькі самастойнай адміністрацыйна-судовай акругай у складзе новай дзяржавы. Іх улада распаўсюджвалася на Кобрынскую і Прушанскую (як тады называлі Пружанскую) воласці.

Бацька Ганны Сямён доўгі час быў у няміласці. Справа ў тым, што ён з'яўляўся адным з тых, хто падтрымаў барацьбу князя Свідрыгайлы супраць Жыгімонта Кейстутавіча. Паўстанцы дабіваліся ўраўнавання ў правах праваслаўных з католікамі. І хаця гэта паўстанне (а фактычна — міжусобная барацьба паміж правячымі групоўкамі) было падаўлена, таго-сяго ўдалося ўсё ж дабіцца. Былі выдадзены ўказы, якія пашыралі маёмасныя і асабістыя правы праваслаўных феадалаў.

Ганна не магла быць сведкай гэтых падзей. Не мог расказаць ёй пра гэта і бацька, бо ён памёр у 1460 г., калі дзяўчынка была яшчэ зусім маленькай. Але смела можна сцвярджаць, што аповеды пра часы гэтага выступлення неаднойчы гучалі ў залах палаца Кобрынскіх. Успаміналі пра гэта ўдзельнікі бітваў, з гонарам прыгадвалі пачутае ад бацькоў нашчадкі. Ды і нядзіўна, бо і родныя Ганны, і іх госці, якія

паходзілі з таго ж сацыяльнага слоя, адчувалі, як велікакняжацкая адміністрацыя мала-памалу «заціскала іх», абмяжоўвала іх уладу.

Лёс, выпадак ці воля Івана — брата Ганны, які пасля смерці бацькі стаў уладаром княства, распарадзіліся так, што жаніхом дзяўчыны стаў менавіта адзін з такіх пакрыўджаных — князь Фёдар Бельскі. Гэта ён разам з Іванам Гальшанскім і Міхалам Слуцкім вырашылі падняць паўстанне супраць свайго сюзерэна. Яны збіраліся аддзяліць частку Вялікага княства Літоўскага, якую насялялі праваслаўныя беларусы, і далучыць яе да Маскоўскага княства. Паўстанне было прызначана на 1481 г. Выбралі і канкрэтны дзень, калі яно пачнецца,— дзень вяселля Фёдара Бельскага і Ганны.

План быў прадуманы да дробязей. Запрошаны на вяселле прадстаўнікоў такіх дзвюх паважаных сем'яў вялікі князь Літоўскі — Казімір проста не мог не прыехаць у палац Кобрынскіх. А там падчас вясельнай гульбы, магчыма, за вясельным сталом ці на паляванні, з ім адбудзецца няшчасны выпадак...

Невядома, ці кахаў сваю будучую жонку Фёдар Бельскі. Калі кахаў, то вельмі цяжка зразумець, як згадзіўся ён на такое жорсткае для яе выпрабаванне. Таму што нават у выпадку ўдачы змоўшчыкаў пяшчотная дзяўчына даволі доўга не магла б апамятацца ад відовішча мёртвага цела ды яшчэ вялікага князя Літоўскага на ўласным вяселлі, у родным палацы.

Але ж ні Бельскі, ні яго паплечнікі не маглі гарантаваць сабе поспеху. Яны рызыкавалі галавою і ведалі гэта. Маладая княгіня Бельская цалкам магла, не паспеўшы адчуць сябе жонкай, ператварыцца ва ўдаву.

Можна з вялікай верагоднасцю сцвярджаць, што даючы згоду змоўшчыкам выкарыстаць дзень яго асабістай урачыстасці для пачатку паўстання, Бельскі з характэрнай для большасці мужчын самаўпэўненасцю пачуцці жанчыны, якая кахала яго, палічыў нявартымі ўвагі. А Ганна кахала шчыра, апантана, так, як можна кахаць толькі аднойчы ў жыцці.

У той дзень яна была самай шчаслівай. І, абменьваючыся пярсцёнкам з жаніхом сваім ля алтара, нават не падазравала, што шчасце гэта будзе такім нядоўгім — усяго толькі адзін дзень.

Раніцай маладому мужу давялося ўцякаць — ратаваць уласнае жыццё ад гневу Казіміра. Адбылася здрада. Вялікаму князю Літоўскаму нехта выдаў імёны змоўшчыкаў.

Іван Гальшанскі і Міхал Слуцкі былі схоплены адразу ж. Фёдару Бельскаму ўдалося схавацца. Ён накіраваўся ў гасціную для права-

слаўных беларусаў Маскву. Бегляка прыняў і прылашчыў вялікі князь Маскоўскі Іван III. Ён падарыў Бельскаму гарады Дземен і Мораў.

Хутка да князя Фёдара дайшла вестка пра жахлівую расправу Казіміра над яго сябрамі. Гальшанскі і Алелькавіч узышлі на эшафот. Найвядомейшыя магнаты княства былі прысуджаны да пакарання смерцю. Ім адсеклі галовы.

Цяпер ужо шляху назад у Бельскага не было. Але ў Літве засталася маладая жонка князя. Бягляк не змог узяць яе з сабой. І зараз Ганну Кобрынскую ў якасці заложніцы трымаў Казімір. Вялікі князь Літоўскі спадзяваўся, што яго асабісты вораг абавязкова вернецца за красуняй-жонкай.

Фёдар жа абжываўся ў Маскве. Іншыя звычаі, іншае асяроддзе. Праўда, акрамя яго, было тут яшчэ нямала выхадцаў з княства, але ўсё ж даводзілася даказваць сваю годнасць. Так, у 1485 г. Ён удзельнічае ў паходзе на Цвер. Здаецца, усё складвалася добра. Але родная зямля заве — цягне да сябе. І Бельскі робіць спробу вярнуцца на радзіму. Але яго схапілі і пакаралі, саслалі ў далёкі Галіч. Аднак праз пэўны час Іван III загадаў вярнуць князя ў Маскву. Ён дараваў яму і шчодра адарыў.

Увесь гэты час Фёдар не мог забыць жонку. Ён успамінаў сустрэчы з ёй, вянчальную службу ў храме, шлюбную ноч... Пытанне аб тым, каб Ганну адпусцілі з Літвы, абмяркоўваецца літоўскім і маскоўскім дварамі і абавязкова прысутыічае ў карэспандэнцыі, якую дасылалі адзін аднаму абодва манархі.

Фёдар доўга спадзяваўся. Чакала Казіміравага даравання і Ганна. Неаднойчы вялікі князь Літоўскі прапаноўваў: «Прыязджай і забірай!» Але ўсе разумелі, што гэта немагчыма. Бо князя Бельскага чакала тое ж, што і яго паплечнікаў,— плаха. Мала-памалу ён страціў надзею. Апошні раз імя Ганны сустракаецца ў грамаце, якую даслалі з Масквы вялікаму князю Літоўскаму, ужо не Казіміру, а Аляксандру, у 1495 г. Але, пэўна, нянавісць да таго, хто рыхтаваў забойства, была ў Казіміра настолькі моцнай, што ён перадаў яе ў спадчыну свайму сыну. Адказ Бельскаму з Літвы быў ранейшым. Фёдар пачаў задумвацца пра неабходнасць працягу роду. У рэшце рэшт ён вырашыў ажаніцца. Вяселле адбылося ў 1498 г. у Разані. Жонкай Бельскага стала князёўна Разанская, пляменніца вялікага князя Івана III. Яна вельмі хутка падаравала яму трох сыноў, Дзмітрыя, Івана і Сямёна. Князь Фёдар ацаніў давер маскоўскага гаспадара. Ён аддзячыў Івана III сваёй адданасцю. У наступным годзе ваявода Бельскі ў якасці начальніка вялікага коннага палка быў пасланы на дапамогу Казанскаму хану. У 1502 г. удзельнічаў у вайне супраць Вялікага княства Літоўскага. У

1506 г. разам з іншымі ваяводамі Івана III вядзе войскі на Казань. Гэта апошняе ўпамінанне пра князя Фёдара ў хроніках. Хутчэй за ўсё адразу пасля казанскага паходу ён памёр.

Бельскі змагаўся за Ганну семнаццаць гадоў, амаль трэць свайго жыцця…

А што ж Ганна? Яна прагна лавіла кожную вестку аб ім, кахала яго па-ранейшаму, не маючы магчымасці нават напісаць некалькі слоў чалавеку, саюз з якім быў замацаваны перад Богам і людзьмі. За кожным яе рухам пільна сачылі спачатку людзі Казіміра, пасля — Аляксандра. Дарэчы, жанчыне прапаноўвалі абраць сабе другога мужа. Але яна не згаджалася. У 1491 г. памёр брат Ганны, і яна стала адзінай уладальніцай Кобрынскага княства. Але жыццё яе не палепшылася. У адчаі ад сваёй адзіноты, ад становішча арыштанткі ва ўласным замку, ад раўнівых думак пра Фёдара Бельскага, які звязаў свой лёс з іншай, Ганна адчула, што губляе розум. Ёй неабходна была чалавечая спагадлівасць, разуменне, цеплыня.

У 1502 г. Ганна рашаецца на другое замужжа з маршалкам Вацлавам Касцевічам. І гэты шлюб не даў ёй шчасця. Вестка пра смерць Фёдара Бельскага зрабіла Ганну абыякавай да жыцця.

У 1519 г. князёўна Кобрынская памерла.

## ЖАНЧЫНА — ЛЕГЕНДА

## АНАСТАСІЯ АЛЕЛЬКАВІЧ
## (каля 1475—1524 гг.)

Дома княгіні, князёўны ў святліцах не чахлі —
Дзейсныя, мудрыя, цвёрдыя, што камяні.
Вось адкуль з'явіцца сімвал
На фрэсцы, на кафлі —
Вобраз жанчыны з мячом вярхом на кані.

*Д. Бічэль-Загнетава. «Жанчына з мячом»*

Яе жыццё нагадвае прыгожую легенду. І тым не менш ні адзін з фактаў, прыведзеных ніжэй, не мае нічога агульнага з гераічным эпасам. Гэта — гісторыя, якой можна і трэба ганарыцца.

Жыў у XVI ст. у Слуцку князь Сямён Алелькавіч. І была ў яго прыгажуня-жонка Анастасія. Яны кахалі адзін аднаго. Вера іх была аднолькавая — праваслаўная, мелі агульнага продка — Альгерда; абое ў дзяцінстве прайшлі праз цяжкае выпрабаванне — сіроцтва. Князь Іван Мсціслаўскі, бацька Анастасіі, памёр у 1483 г. Дзяўчынцы тады было не больш за дзесяць гадоў. Прыкладна ў такім жа ўзросце страціў свайго бацьку, Міхала Алелькавіча, яе будучы муж Сямён. Але смерць гэта была больш жахлівай. Князь Міхал быў прысуджаны да пакарання смерцю за ўдзел у змове супраць вялікага князя літоўскага, караля польскага Казіміра IV. Паклаў ён сваю галаву на плаху. Цудам удалося адмаліць-адплакаць Міхалавай жонцы Ганне Мсціслаўскай у Казіміра IV права на спадчыну сыну. Адшкадаваў кароль Сямёну Міхайлавічу Слуцк і Капыль, частку ўладанняў бацькі.

Да паўналецця сына ціха жыла княгіня-ўдава, памятала, што сям'я яе ў апале. Але надышоў час шукаць Сямёну нявесту. Знатных радоў на Белай Русі шмат. Ды трэба выбраць тую, адзіную, якая здолее зрабіць шчаслівым яе сына. Якая ніколі не папракне бацькам-«здраднікам». Успомніла княгіня, што ў яе ёсць дзве юныя пляменніцы, дочкі нябожчыка князя Івана — Ульяна і Анастасія. Абранай Сямёна стала апошняя. Ніколі князь слуцкі не шкадаваў аб гэтым.

У 1492 г. у маладой пары нарадзіўся сын Юрый. Яго нараджэнне яшчэ больш прывязала мужа да жонкі.

Здавалася б, лёс прыгатаваў прыгожай Анастасіі ціхае сямейнае шчасце. Ды, пэўна, і ўвайшло б яе імя ў гісторыю толькі як імя адной з бязлікіх княжацкіх жонак, галоўнае прызначэнне якіх — працягваць род сваіх мужоў, калі б не варожая навала.

Гэта былі крымскія татары. Першая сутычка князя Сямёна Алелькавіча з імі адбылася летам 1502 г. А. Грыцкевіч у кнізе «Древний город на Случи» піша: «Татары віхурай пранесліся праз украінскія землі, фарсіравалі Прыпяць і пачалі рабаваць воласці на поўнач ад ракі. Аб'яднаны атрад слуцкага князя Сямёна Міхайлавіча Алелькавіча і велікакняжацкіх баяр і гусар поўнасцю разбіў татар на рацэ Ушы, за Бабруйскам. Былі вызвалены палонныя і вернута нарабаванае татарамі дабро».

Але гэта быў толькі пачатак. 30 жніўня гэтага ж года сын крымскага хана Баты-Гірэй прывёў шасцітысячнае войска да Слуцка. Татары ўзялі горад, але замак, у які кінуліся ратавацца случчане, вытрымаў іх штурм. Татары папалілі і разрабавалі наваколлі Слуцка, Капыля, Койданава, Клецка і Нясвіжа і з багатай здабычаю вярнуліся ў Крым.

Ці не пасля гэтых падзей маладая слуцкая княгіня загадала збройніку выкаваць ёй кальчугу?

Зіма і вясна прайшлі ў напружанай падрыхтоўцы. Інтуіцыя не падманула: новы татарскі набег адбыўся наступным летам. Ворагі палілі Нясвіж, Клецк і Наваградак. Асобныя атрады іх накіраваліся да Мінска і Лагойска. Раптоўна трохтысячны атрад з'явіўся пад Слуцкам. Тут усё было загадзя падрыхтавана для адпору. Праўда, князь Сямён быў у ад'ездзе. Яго месца заняла Анастасія. К. Тарасаў, аўтар кнігі «Памяць пра легенды», піша: «Слуцкая княгіня Анастасія, жонка Сямёна Міхайлавіча, сама ўзначальвала абарону горада і, надзеўшы даспехі, вывела полк супраць татараў у поле».

Быццам былінная Настасся Мікулічна, яна адкінула ворагаў ад свайго горада. А за Прыпяццю, каля Давыд-Гарадка, іх дагнаў падаспеўшы князь Сямён і, як піша літапісец, «идеже погромиша их и полон отъяша».

Заваёўнікі баяліся халадоў, таму набегі свае рабілі летам. Ці не таму палюбіла Анастасія зіму? У гэты час ёй ніхто не перашкаджаў кахаць мужа, выхоўваць сына. У адзін са спакойных месяцаў свайго жыцця слуцкая княгіня нарадзіла другое дзіця, дзяўчынку, якой далі ваяўнічае імя Аляксандра.

У сярэдзіне жніўня 1505 г. стары знаёмы Баты-Гірэй зноў наведаўся «ў госці» да случчан. М. Ткачоў у кнізе «Замкі і людзі» так апісвае гэтыя падзеі: «...Жыхары, атрымаўшы звесткі пра паход татар, добра падрыхтаваліся да абароны. Яны адбілі некалькі штурмаў. Татары рабілі падкопы, спрабавалі ўзарваць умацаванні і падпаліць горад, але жыхары мужна абараняліся. Як адзначалася ў Іпацьеўскім

летапісе, «и хотяху Татаре взяти Случеск и не могоша, биша бо их из града крепко».

Баты-Гірэй вымушаны быў зняць асаду. Нарабаваўшыся, татары вярнуліся ў Крым. На гэты раз яны пакінулі пасля сябе не толькі разбураныя гарады і вёскі, але і страшную хваробу. На землях Белай Русі ўспыхнула эпідэмія, якая забрала шмат людзей. Захварэў і князь Сямён. Не дапамаглі ні маленні, ні знахарскае майстэрства. Анастасія аўдавела. Усе справы Слуцкага княства ляглі на яе плечы, бо сын, спадчыннік Алелькавічаў, быў зусім дзіцём. Будучы яшчэ ў жалобе, княгіні давялося адбіваць чарговы напад татар у ліпені 1506 г. На гэты раз Баты-Гірэй прыйшоў не адзін, а з братам, перакопскім царэвічам Бурнашом. Дваццацітысячнае войска татар неаднаразова хадзіла на штурм, «подметы чинечи и огонь подкладаючи». Са сцен асаджанага Слуцка ўдава князя Сямёна, адзетая ў даспехі, кіравала абаронай. І зноў татары адышлі ні з чым. Але Анастасія не расслаблялася. Яна пільна сачыла, куды накіроўваюцца чужынцы. А яны пайшлі да Клецка. Там спыніліся і паставілі галоўны лагер. Адтуль распаўзліся невялікія атрады рабаўнікоў у розныя бакі. Адзін з такіх атрадаў зрабіў замах на капыльскія ўладанні Анастасіі. Гісторык XVI ст. Мацей Стрыйкоўскі ў сваёй «Хронікі Польскай, Літоўскай, Жамойцкай і ўсяе Русі» так апісаў у вершах капыльскія падзеі:

Настасся, княгіня Слуцкая, сваіх баяр
Паслала перахапіць палахлівых татар.
Шмат іх пад Капылём было забіта
І горлам ля Пятровіч заплаціла мыта.

Гэты эпізод адбыўся якраз напярэдадні сакрушальнага разгрому татар пад Клецкам, які ўчыніў князь Міхал Глінскі.

Мужнасць і адвага слуцкай княгіні ўразілі яе сучаснікаў. А Глінскі нават захапіўся ёю. Звязаць жыццё з яшчэ даволі маладой, прыгожай жанчынай, якая б падзяліла з ім яго славу, было даволі прыцягальна для не маючага жонкі князя Міхала. Да таго ж уладалюбівага Глінскага п'яніла думка пра тое, што ў выпадку згоды абшырныя землі Слуцкага княства пяройдуць яму ва ўладанне. Са слуцкай жа крэпасцю ў Глінскага былі звязаны і іншыя планы: яму патрэбна была такая цвярдыня, каб выкарыстаць яе ў абарончых мэтах падчас мяцяжу, які ён рыхтаваў супраць Жыгімонта І Старога. У 1508 г., будучы «праездам» у Слуцку, Міхал Глінскі, ужо мяцежнік, пасватаўся. Але яму адмовілі. Чым не задавальняла слуцкую княгіню яго кандыдатура — невядома. Даследчыкі выказваюць розныя меркаванні. Магчыма, Анастасія жадала захаваць вернасць мужу. Яе мог непакоіць і лёс сына, які страчваў бы правы на княства, калі б у яго з'явіўся

малодшы брат ад айчыма. Верагодна і тое, што княгіню бянтэжыла паходжанне жаніха. Глінскі быў нашчадкам хана Мамая, сын якога — Мансур пасля паражэння на Куліковым полі збег у Літву. Анастасія магла інстынктыўна адчуваць непрыязь да татар, нават беларускіх. Можа, адмова была выклікана нязгодай з дзеяннямі мяцежніка. Але хутчэй за ўсё Глінскі проста не падабаўся ёй як мужчына. Выходзіць жа замуж без кахання княгіня не жадала.

Як бы там ні было, але Глінскі адчуў сябе абражаным. Ён вырашыў адпомсціць і ўзяць Слуцк сілаю. Двойчы войска князя Міхала падыходзіла да Слуцка, брала горад, штурмавала замак, спрабавала запаліць умацаванні. Але без поспеху. Непрыступная для татар крэпасць не здалася і на міласць іх пераможца. Летапісы пра гэта распавядаюць так: «В сие лето Глинский некто в Литве много зла починил... и Слуцка хоте взяти под Анастасиею княгинею Симеоновою, но не може, только волость ея якоже Татаре поплени и Копыль, и Туров доста и Мозыр».

У гэтым жа 1508 г. недалёка ад Слуцка войска княгіні разбіла яшчэ адзін невялічкі атрад татар.

Час ішоў. Непрыкметна стаў дарослым сын Анастасіі Юрый. І яна перадала яму кіраванне княствам. Але характар у сына быў неспакойны. Маладая гарачая кроў клікала ў бітву. Ужо само слова «татары» дзейнічала на юнака, як чырвоны колер на быка. У 1511 г. Юрый б'е іх пад Кіевам, у 1514 — пад Оршай. Маючы ў душы трывогу за сына, княгіня Анастасія спрабавала ўтаймаваць яго, прывязаць да дома жаніцьбаю. Нявестай стала князёўна Алена Радзівіл. Але нават гэта не дапамагло. У часы доўгіх сынавых адлучак маці зноў прымала на сябе ролю слуцкай гаспадыні.

У 1521 г. татары ў апошні раз паспрабавалі авалодаць Слуцкам. Але развеяць міф пра яго неперамажнасць ім так і не ўдалося. Гэта здарылася за чатыры гады да смерці княгіні Анастасіі.

Яна паспела яшчэ ўладкаваць лёс дачкі, выдала яе замуж за высакароднага князя, гетмана Канстанціна Астрожскага, удаўца, які ўрачыста абяцаў берагчы і любіць сваю маладую жонку. Гэта была бліскучая партыя для Александры Сямёнаўны. Маці адчула, што выкапала ў гэтым жыцці ўсё, што павінна была.

Яна адышла ў нябыт ціха і лагодна, як маюць шчасце памерці толькі людзі з чыстым сумлспиом.

Прыгожай легендай увайшло ў беларускую гісторыю жыццё слуцкай волаткі Анастасіі Алелькавіч. Рысы яе характару і фрагменты лёсу праступаюць ва ўсходнеславянскіх былінах пра «адважную паляніцу Настассю Мікулічну». І магчыма, ствараючы сваю славутую «Гражыну», Адам Міцкевіч успамінаў пра княгіню-амазонку з сям'і Алелькавічаў, якая, як і яго гераіні, прысвяціла сваё жыццё самаадданаму служэнню Радзіме.

## ЧУЖАЯ

## АЛЕНА ІВАНАЎНА
## (1476—1513 гг.)

Ой ты, батюшка родимый!
Ты за что, за что прогневался
На своё ли дитя милое,
На свою ли дочь родимую,
Что отдать хочешь в чужи люди,
В чужи люди незнакомые,
На чужу, дальню сторону?!.

*Старинная русская песня*

Ёсць людзі, чые лёсы можна параўнаць з асеннім лісцем, якое сарвана з дрэва і якое гоніць вецер некуды ў невядомасць і непазбежнасць. Яны заўсёды і паўсюль адчуваюць сябе чужымі. Такі лёс выпаў на долю жанчыны, якая шаснаццаць гадоў была вялікай княгіняй Літоўскай. Імя гэтай жанчыны — прыгожай, разумнай, добрай і няшчаснай — Алена Іванаўна.

Яна нарадзілася вясной 1476 г. у Маскве. Бацькам Алены быў вялікі князь Маскоўскі Іван III, славалюбівы і хітры ўладар, якому падабалася называць сябе царом Маскоўскім і ўсяе Русі. Маці — прыгажуня-візантыйка Зоя Палеолаг, жанчына страсная і каварная.

Алена, здаецца, не атрымала ад іх у спадчыну гэтыя рысы характару. У сваёй святліцы яна расла казачнай царэўнай — сціплай, рахманай, з тонкімі пачуццямі.

У 1496 г. Алену Іванаўну змовілі замуж за аднаго з найбольш моцных супраціўнікаў Масквы — вялікага князя Літоўскага Аляксандра Казіміравіча, якога дзяўчына павінна была ўспрымаць як ворага яе бацькі.

Жаніцьбай гэтай замацоўваўся мірны дагавор дзвюх дзяржаў, да якога прыйшлі яны пасля няўдалай для «Літвы» двухгадовай вайны з Масковіяй. Паводле гэтага дагавора, да Масквы адыходзілі землі ў вярхоўі ракі Акі, а таксама Вязьма, Дарагабуж і іншыя гарады ўсходняй Смаленшчыны. Шлюбам з дачкой Івана III Аляксандр імкнуўся абараніць сваю дзяржаву ад агрэсіўных дзеянняў вялікага князя Маскоўскага, аб якой, дарэчы, красамоўна сведчаць словы апошняга: «Ано не то одна наша отчина, кои городы и волости ныне за нами: и вся Русская земля, Киев и Смоленск и иные городы, которые

он (Александр.— Аут.) за собой держит к Литовской земле, с Божьею волею из старины от наших прародителей наша отчина».

Іван III ж, пэўна, марыў праз Алену падпарадкаваць сабе суседнюю дзяржаву. Ён рабіў стаўку на праваслаўных беларускіх магнатаў, якія павінны былі б падтрымаць гаспадыню-адзінаверку. Таму галоўнай умовай пры заключэнні шлюбу Аляксандра і Алены, высунутай Масквой, было захаванне дачкі Івана III у праваслаўнай веры. Літва згадзілася.

У «Хроніцы Быхаўца» ёсць цікавыя звесткі пра тое, як праходзілі ў Маскве агледзіны нявесты вялікага князя Літоўскага: «Выйшла панна да бацькі свайго і стала, пакланіўшыся. А калі ўбачылі яе паслы, падумалі, што гэта анёл у чалавечым абліччы, і, разгубіўшыся ад такое пекнаты, сталі як укапаныя. А потым упалі да яе ног, просячы, каб князя і гаспадара іх у ласцы сваёй захавала, а яна заплакала».

Згаворанае без кахання, няшчаснае, перапалоханае дзяўчо зараней аплаквала сваю долю. Іншы раз людзям дадзена адчуваць будучыню.

Толькі партрэт Аляксандра, які прывезлі з сабой у Маскву віленскія паслы, трохі супакоіў Алену, бо на ім «быў той вялікі князь Літоўскі, вельмі пекны, твару белага, шчок румяных, вока чорнага, а вус толькі-толькі яшчэ засеяўся». Гэта была выява Аляксандра ў юнацкім узросце, але і ў год сватаўства жаніх не быў старым, ён меў толькі 35 гадоў.

Агледзіны скончыліся паспешлівым эфектным жэстам Івана III: «Мне няхай застаецца гэты партрэт, а дачку маю Алену хай жывы князь Літоўскі бярэ на ўсё жыццё».

Хутка пасля гэтага Алена Іванаўна назаўсёды пакінула Маскву. Перад самым ад'ездам бацька блаславіў яе і даў строгі наказ ні ў якім разе не пераходзіць у каталіцтва, каб не загубіць душу: «И хоти будет тебе, дочка, про то и до крови пострадати, и ты бы пострадала, а того бы еси не учинила». З Аляксандра ж было ўзята слова, што ён пабудуе ў Вільні для жонкі праваслаўную царкву.

На шляху ў сталіцу Вялікага княства Літоўскага літвіны шчыра віталі сваю будучую гаспадыню. Асабліва пышна сустрэлі Алену Іванаўну палачане і віцьбічы. Прыгожая нявеста ва ўсіх гарадах і мястэчках, праз якія яе везлі, спынялася дзеля таго, каб папрысутнічаць на богаслужэннях у праваслаўных цэрквах. Яе так напалохалі мужамлацінянінам, ад якога можа «до крови пострадати» за сваю веру, што яна не магла нават радавацца шчырасці і сардэчнасці сваіх будучых падданых.

Гэткі настрой нявесты падтрымлівалі таксама сваімі змрочнымі прадказаннямі праваслаўныя мітрапаліты Макарый і Фама, якія неўзабаве далучыліся да вясельнага картэжу. Ім належала ў далейшым стаць духоўнікамі Алены Іванаўны.

Як бы там ні было, літвінаў насцярожылі паводзіны нявесты. Аляксандр выехаў з Вільні ёй насустрач, прыдзірліва выбраўшы для цырымоніі знаёмства з вялікай колькасці людзей мажных чатырох прадстаўнікоў: Канстанціна Астрожскага, Івана Глінскага і дзвюх першых каталіцкіх дам Літвы — пані Радзівіл і пані Гаштольд.

Сустрэча ўсхвалявала вялікага князя. Яму спадабалася і знешнасць нявесты, і яе характар (па словах Аляксандра, Алена была «pogodna, łagodna i posłuszna»). Але ўзніклі апаскі наконт дрэннага ўплыву людзей, што прыбылі з ёю, усіх гэтых святароў, баяраў, баярынь, нават прыслугі. Іх злосныя нашэптванні маглі сапсаваць асабістае жыццё маладых.

Яшчэ большую неабходнасць разлучыць жонку з імі Аляксандр адчуў пасля вянчання, якое было ў пэўнай меры скандальным. Падчас абраду, які праходзіў у цэнтральным каталіцкім храме Вільні, выступілі наперад рускія мітрапаліты і пачалі правіць праваслаўныя маленні, заглушаючы ксяндза. Яны настаялі на праве трымаць вянец нявесты і благаслаўляць яе. Такім чынам, увесь абрад вянчання выглядаў падазрона як з пункту гледжання католікаў, так і з пункту гледжання праваслаўных.

Вельмі хутка вялікі князь знайшоў прычыны адправіць назад у Маскву баяр і апантаных святароў Макарыя і Фаму. Гэтых людзей абвінавацілі ў шпіёнстве і, магчыма, не беспадстаўна. Іван III, кіруючыся «клопатам аб дачцэ», якой «неабходны свой двор з праваслаўных і праваслаўны духоўнік», паспрабаваў замяніць іх іншымі. Але Аляксандр уголас заявіў, што няма сэнсу везці з Масквы двор, бо ў Літве шмат праваслаўнай шляхты. Што ж датычыць духоўніка — яго падбяруць з ліку мясцовых праваслаўных святароў.

Тым не менш небяспека «дрэннага ўплыву» на вялікую княгіню Літоўскую яшчэ існавала. Іван III стаў выкарыстоўваць асабістую перапіску з дачкой для палітычных мэт. Аляксандр не мог не зразумець: пакуль Алена лічыць сябе маскавіткай, яна не зможа палюбіць Літву, не стане тут сапраўднай гаспадыняй.

Родзічы вялікага князя Літоўскага параілі яму паспрабаваць дзеля гэтага пераканаць Алену ў неабходнасці прыняць каталіцтва. Трэба заўважыць, што яшчэ раней, калі агаворваўся пункт шлюбнага дагавора, па якому Алену не будуць прымушаць пераходзіць «у веру лацінскую», хітраму віленскаму паслу Аляксандру Гальшанскаму ўдалося

дабіцца дапаўнення: «Алена Іванаўна можа стаць каталічкай па ўласнаму жаданню».

Гэты пункт даваў зараз нейкую надзею вялікаму князю Літоўскаму. І Алену атакавалі ксяндзы. Прыехалі з Польшчы маці і брат Аляксандра. Першая была фанатычнай каталічкай, другі, Фрыдэрык Ягелончык,— кардыналам. Яны завялі дачку Івана III у касцёл і там усяляк спрабавалі прымусіць прымаць удзел у набажэнстве. Цэлы дзень працягваліся ўгаворы і запэўніванні; усе моцна выматаліся, але нічога не дабіліся ад вялікай княгіні. Алена трымалася з зайздроснай стойкасцю, паўтараючы: «Я без воли батюшки моего учинить такое не могу».

Хутка пасля гэтага ў Маскве атрымалі вестку пра тое, як католікі вымушаюць вялікую княгіню змяніць веру і як Аляксандр адмаўляецца выконваць сваё абяцанне наконт праваслаўнай царквы ў Вільні. Між іншым, у пісьмах Алены бацьку наконт гэтага нічога не паведамлялася. Наадварот, яна падкрэслівала, што ніхто яе не прымушае стаць каталічкай, але муж і свякроў толькі спрабуюць пераканаць у тым, што гэтая вера больш вартая.

Хутчэй за ўсё, акрамя высланых баяр, Маскоўскі гаспадар меў у Літоўскім княстве іншых шпіёнаў, якія падрабязна інфармавалі яго. Віленскія падзеі далі падставу Івану III парваць мірныя адносіны з зяцем і паспрабаваць адхапіць ад Літвы яшчэ кавалак тэрыторыі.

Новая вайна пачалася ў 1500 г. і цягнулася ажно да 1503 г. 14 ліпеня 1500 г. літоўскія войскі пацярпелі сур'ёзнае паражэнне. Трапілі ў палон галоўнакамандуючы Канстанцін Астрожскі, князь Радзівіл, граф Храптовіч, князі Друцкія. Усе абозы і гарматы былі захоплены маскавітамі.

Калі вестка гэта дайшла да Вільні, Алена Іванаўна адчула сябе ў гэтай краіне не толькі чужой, але і ненавіснай. Яе муж стаў раптам халодным і непрыступным. Нават праваслаўная беларуская шляхта, якая спачатку быццам бы пацягнулася да гаспадыні-адзінаверкі, адвярнулася ад Алены.

У 1501 г. Аляксандр стаў польскім каралём, але каранаваць яго жонку святары адмовіліся. Афіцыйна — з-за яе веравызнання, на самай справе — з-за ваеннага канфлікту, распачатага бацькам Алены. Палякі лічылі яе ва ўсім вінаватай.

Тым не менш жонцы новаспечанага караля яшчэ раз прапанавалі стаць каталічкай. Папа рымскі спадзяваўся такім чынам скончыць вайну дзвюх дзяржаў, прычынай якой стала пытанне веравызнання адной жанчыны. 26 кастрычніка 1501 г. кардынал Фрыдэрык Ягелончык атрымаў ад яго распарадзіцельную грамату, у якой папа

пагражаў дачцэ Івана III разводам, калі яна не пяройдзе ў «рымскі закон». Алена плакала, падала перад мужам на калені, упрошваючы яго не губіць яе душу. У адчаі яна напісала ваяўнічаму бацьку ліст, у якім маліла спыніць кровапраліцце: «Король его милость и матка его, вси надеялися, что со мною с Москвы в Литву пришло всё доброе, вечный мир, любовь кровная, дружба, помочь на поганство; ино, отче, видят вси, что со мною все лихо им вышло...» Аналагічныя пасланні былі падрыхтаваны для маці і братоў. Іван Сапега, праваслаўны канцлер Вялікага княства Літоўскага, павёз іх у Маскву.

Адчай Алены і дыпламатычныя здольнасці канцлера дапамаглі. У 1503 г. Іван III у рэшце рэшт згадзіўся на шасцігадовае перамір'е. Але і пасля гэтага Алена не набыла папулярнасці сярод сваіх падданых. Бо за мір давялося дорага плаціць. Старадубскае і Ноўгарад-Северскае княствы, а таксама 25 гарадоў, сярод якіх былі Бранск, Мцэнск, Тарапец, Белы, адышлі да Маскоўскага княства. Гэта была трэць тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага.

Пасля заключэння міру з Масквой абодва бакі не-не ды і звярталіся да Алены Іванаўны з дыпламатычнымі місіямі. Так аўдавелы якраз у дні заключэння дагавора Іван III просіць дачку дапамагчы выбраць нявесту для брата Васіля. Алена добрасумленна пералічыла ўсе магчымыя кандыдатуры — ад сясцёр мужа да французскіх прынцэсаў. Лепшым жа варыянтам для брата яна лічыла прасватаць адну з брандэнбургскіх маркграфінь. Але Васіль у рэшце рэшт, «не мудрствуя лукаво», спыніўся на маскоўскай прыгажуні Саламоніі Сабуравай.

У 1495 г. Іван III спрабаваў праз дачку дабіцца дазволу для турэцкага пасла, які спяшаўся ў Маскву, праехаць праз землі Вялікага княства. Але і гэтая дыпламатычная місія Алене не ўдалася. Аляксандр згаджаўся на гэткую паслугу толькі пры ўмовах сканчэння татарскіх набегаў па Літву. Вядома, што татар для гэтага субсідзіраваў менавіта Іван III.

Нацягнутыя сямейныя адносіны Алены і Аляксандра, магчыма, можна было б яшчэ падправіць, калі б у іх з'явіліся дзеці. Але маскоўская красуня аказалася бясплоднай. Яна маліла Бога паслаць ёй дзіця, выпрасіла ў мужа дазвол на заснаванне Супрасльскага манастыра, абнавіла сабор Прачыстай Багародзіцы ў Вільні. Але нічога не дапамагло. У кастрычніку 1505 г. памёр Іван III, апошні з тых, хто любіў Алену. Праз год хвароба звяла ў магілу караля Аляксандра.

З пераемнікам памерлага караля Жыгімонтам I Старым ва ўдавы адразу ж не скаліся адносіны.

З Масквой таксама пачаліся разлады. Брат Алены Васіль, які стаў пасля смерці бацькі вялікім князем Маскоўскім Васілём III, прасіў

сястру паклапаціцца аб тым, каб яму заняць яшчэ і літоўскі велікакняжацкі прастол. Але жанчына адмовілася, бо «это было супротив воли покойного мужа».

Некалькі гадоў удава караля правіла амаль у поўнай ізаляцыі. Яе пазбягалі, да яе праяўлялі адкрытую варожасць. Алену моцна пацягнула на радзіму. Яна мела права пакінуць Вільню. Але яшчэ маладой, прыгожай жанчыне не хацелася вяртацца на радзіму, каб скончыць жыццё ў адным з манастыроў. Яна прывыкла да раскошы, ёй патрэбны былі яе багацці там, у Маскве. Ды і брат хутчэй забудзе ўсе крыўды, калі яна шчодра адорыць яго. І Алена Іванаўна стала распрадаваць свае землі. Цэлы караван скарбаў наважвалася вывезці з Літвы ў Маскву каралеўская ўдава. Гэтага не мог дапусціць Жыгімонт І Стары. На граніцы Алену спынілі і патрабавалі альбо вяртацца, альбо ехаць далей, пакінуўшы багацці. Жанчына не згадзілася губляць свой каштоўны багаж. І таму амаль пад канвоем вярнулася ў Вільню.

Васіль ІІІ, як раней гэта рабіў і яго бацька, убачыў тут падставу для вайны. Яна пачалася ў 1512 г.

Злосць і раздражненне вакол Алены Іванаўны ўсё згушчаліся. На Літве яна была непатрэбнай, чужой. Ад яе трэба было пазбавіцца.

У студзені 1513 г. каралева нечакана памерла. Гэта здарылася ў Браславе на банкеце, наладжаным з нагоды яе прыбыцця туды. Сучаснікі Алены Іванаўны сцвярджаюць, што яна была атручана...

## ГАСПАДЫНЯ МАСКОВІІ

## АЛЕНА ГЛІНСКАЯ
## (1508—1538 гг.)

Елена, грозного героя
Великая делами мать,
Среди врагов ты грады строя,
Россию тщилась защищать.

*М. Ломоносов. «Ода на день восшествия на престол императрицы Елисаветы Петровны»*

«Круглатварыя і пышнацелыя, з доўгай русай касой і румянцам «на всю шчеку», нешматслоўныя ў прысутнасці мужчын, нясмелыя...». Менавіта гэтага тыпу прыгажунь збіралі пры двары вялікіх князёў (а пасля і цароў) Маскоўскіх падчас чарговага выбару нявесты правіцелю альбо камусьці з яго сыноў. Такой традыцыі Масква прытрымлівалася на працягу амаль чатырох стагоддзяў. Але былі і выключэнні. Тыя, з-за каго яны адбываліся, бударажылі розум сучаснікаў. Імёны іх абрасталі легендай. Памяць аб іх захоўвалася на працягу стагоддзяў. Нават у нашы часы не сціхаюць спрэчкі наконт таго, кім яны былі сапраўды, гэтыя таямнічыя прыгажуні, што так чужародна выглядалі на фоне звычаяў і прымхаў сярэдневяковай Масковіі. Здаецца, ніколі не сціхнуць спрэчкі гісторыкаў і вакол імя Алены Глінскай, вялікай княгіні Маскоўскай, жонкі Васіля III.

Стройная, з чорнымі вачамі і з доўгімі чорнымі, як ноч, валасамі. Скура яе не баялася загару, бо была смуглявай ад прыроды. Пад промнямі сонейка яна набывала пяшчотны колер спелага персіка. Гэткая незвычайная прыгажосць адразу кідалася ў вочы. Калі ж дадаць розум і раскаванасць, смеласць паводзін і ўменне весці лёгкую, натуральную размову на любую тэму, то становіцца відавочным, як выгадна вылучалася з натоўпу дамастроеўскіх маскоўскіх баярышань Алена. Пышнай ружай сярод сціплых палявых кветак выглядала ў іх асяроддзі юная літвінка.

Якія ж вятры занеслі ў гэтыя землі прадстаўніцу княжацкага роду Глінскіх, роду, які вёў сваё паходжанне ад хана Мамая, а тытул і славу набыў у Вялікім княстве Літоўскім?

Гісторыя расказвае, што Глінскія мелі вялікую вагу ў княстве Літоўскім. Бацька Алены, Васіль, займаў пасады ваяводы брэсцкага і падстолія літоўскага. Адзін з дзядзяў — Іван — быў кіеўскім ваяводам, а другі — Міхал — з'яўляўся не толькі надворным маршалкам літоў-

скім, кіраўнікам манетнага двара, пераможцам татар у бітве пад Клецкам, але і першым дарадчыкам вялікага князя Літоўскага Аляксандра. Але пасля смерці апошняга сітуацыя змянілася. Ворагі Міхала Глінскага здолелі зняславіць яго ў вачах новага правіцеля краіны Жыгімонта І Старога. Той ад першапачатковага недаверу перайшоў да адкрытай варожасці. Міхала пазбаўляюць пасад. Ён абвінавачваецца ў дзяржаўнай здрадзе. Спробы Глінскага дабіцца разбору гэтай справы ў судзе заканчваюцца няўдачай. І тады Міхал падымае мяцеж, пасля падаўлення якога вымушаны з сям'ёй і паплечнікамі выехаць у Маскоўскае княства.

На чужыне давялося вырасці і расквітнець маленькай князёўне Алене. Але выхавана яна была бацькамі ўсё ж такі ў літоўскіх традыцыях.

Можна меркаваць, што знатныя маскавіцяне, якія з самага пачатку з насцярожанасцю адносіліся да чужынцаў Глінскіх, не дазвалялі сваім дочкам сябраваць з Аленай, і таму расла яна, не ўбіраючы ў сябе ўсе тыя прымхі і страхі, плёткі і байкі, якімі былі напоўнены пакоі баярскіх дачок. Гэта паспрыяла яшчэ больш рэзкаму кантрасту паміж ёю і імі. Адрозненне гэта і прыцягнула ўвагу самога вялікага князя Маскоўскага. Зацікавіўшыся асобай маладой Глінскай, Васіль III захацеў пазнаёміцца з ёй бліжэй. І не заўважыў, як закахаўся настолькі моцна, што вырашыў пасадзіць Алену побач з сабою на велікакняжацкі прастол. Праўда, вялікі князь меў ужо жонку, але шлюб гэты шчаслівым не быў. Выбраная ім калісьці з паўтары тысячы маскоўскіх красунь, Саламонія Сабурава аказалася няздольнай мець дзяцей. Васіль III быў цярплівым чалавекам. Ён чакаў дваццаць гадоў. Зараз жа вялікі князь пачаў настойваць на пастрыжэнні Саламоніі ў манашкі. Трэба заўважыць, што Васіля III ніяк нельга абвінаваціць у жорсткасці. Кіраўнік дзяржавы павінен думаць аб будучым, аб тым, каму ён зможа перадаць стырно ўлады. Зразумеўшы, што шлюб яго так і застанецца бяздзетным, Васіль III усё роўна вымушаны быў бы скасаваць яго. Каханне да Алены, якое ўспыхнула так раптоўна, толькі паскорыла развязку.

Заўважым, што выбар Васіля III прыйшоўся шмат каму не даспадобы. Маскоўскае баярства крыўдзілася, што новая вялікая княгіня была выбрана не з прадстаўніц іх колаў, а з роду якіхсьці перабеглых з Літвы князёў. Белаазерскія манахі абвясцілі гэты шлюб блудадзействам. Не далі на яго згоду і стаўпы праваслаўнай царквы. Васіль паслаў прашэнне аб благаславенні новага шлюбу патрыярхам Іерусалімскаму, Канстанцінопальскаму і Александрыйскаму. Але тыя, бы згаварыўшыся, адмовілі яму. Прычына гэтага не высветлена. Пазней з'яві-

лася меркаванне, быццам бы святары прадбачылі з'яўленне ад кахання Васіля і Алены крыважэрнага Івана IV Грознага.

Вялікі князь настолькі страціў галаву ад прыгажосці васемнаццацігадовай нявесты, што адмовіўся прыслухоўвацца да чыіх бы там ні было меркаванняў. Сведчаннем гэтай незвычайнай страсці з'яўляюцца словы летапісца пра тое, што Алену абраў Васіль «лепоты ради лица ея и благообразия възраста, наипаче ж целомудрия ради». Яшчэ адным доказам пачуццяў немаладога ўжо князя да юнай літвінкі з'яўляецца тое, што Васіль не пабаяўся парушыць старадаўнія звычкі і... пагаліўся. Больш таго, ён згадзіўся на яе просьбу і выпусціў з турмы яе дзядзьку Міхала Глінскага, які сядзеў за спробу збегчы да Жыгімонта I.

Так у 1526 г. дачка былога старасты брэсцкага васемнаццацігадовая Алена Глінская стала вялікай княгіняй Маскоўскай.

Яшчэ больш узмацніліся пачуцці Васіля III пасля радаснай для сям'і падзеі. 25 жніўня 1530 г. нарадзіўся першынец Іван. З'яўленне дзіцяці напоўніла велікакняжацкія харомы звычайнымі ў час падобных здарэнняў клопатамі. Шчаслівы бацька імкнуўся як мага больш знаходзіцца дома. Калі ж ён вымушаны быў ад'язджаць па справах, то рэгулярна дасылаў «жене Олене» лісты з патрабаваннем паведаміць, як адчувае сябе «сын Іван», як і што ён есць. Алена ж штодня паведамляла мужу аб усіх падзеях, якія адбываліся дома.

Яшчэ больш узрадавала велікакняжацкую сям'ю нараджэнне другога сына — Юрыя. Пазней высветлілася, што дзіця гэтае было непаўнацэнным. Але Васіль III аб гэтым так і не даведаўся. У верасні 1533 г. Ён моцна захварэў. Адны з даследчыкаў сцвярджаюць, што гэта адбылося пры вяртанні са свята цудатворца Сергія, якое праводзілася ў Траецкім манастыры, другія — што ён злёг падчас восеньскіх ловаў пад Валакаламскам. На яго левым сцягне з'явілася і пачала ледзь не на вачах павялічвацца барвовая балячка. З яе ўвесь час цёк гной. Даведаўшыся ад лекараў, што жыць яму засталося нядоўга, Васіль III загадаў «от великой княгини крыющеся» прывезці завяшчанне. Паміраючага князя даставілі ў Маскву. Баярства пачало радзіцца аб будучыні. Іх хвалявала, хто ж стане кіраваць краінай, пакуль княжацкія дзеці яшчэ маленькія? Хто стане апекуном княжычаў? Р. Скрыннікаў, аўтар кнігі «Далёкі век», сцвярджае, што паміраючы не жадаў бачыць жонку. І быццам бы толькі перад самым сконам, ды і то дзякуючы таму, што баяры пачалі яго прымушаць, паслаў па яе. Тая са слязьмі звярнулася да мужа: «Государь, на кого ты меня покидаешь, и кому, государь, детей приказываешь?» Васіль адказаў: «Благословил я сына своего Ивана государством и великим княже-

нием, а тебе есми написал в духовной своей грамоте, как н прежних духовных грамотах отцов наших и прародителей по достоянию, как прежним великим нашим княгиням».

Цяжка сказаць, чаму так адбылося. Можа, Васіль не давяраў маладосці жонкі (ён быў старэйшы за яе на 25 гадоў), не спадзяваўся на яе вопытнасць у дзяржаўных справах? Можа, на яго «ціснуў» звычай не дапускаць удзелу жанчыны ў кіраўніцтве дзяржавай? Але ж ранейшыя падзеі паказалі, што ён не заўжды прытрымліваўся старых звычаяў і мог пайсці ім насуперак. Хутчэй за ўсё вялікі князь Маскоўскі, які выдатна ведаў сваіх баяр і іх нянавісць да Алены, прымаючы сваё рашэнне, жадаў зберагчы любімую жонку ад іх зласлівасці і каварства. У адхіленні Алены ад улады ён імкнуўся даць ёй магчымасць жыць хай сабе і ціха, але спакойна. Такім чынам рэгентам была прызначана не Алена, а купка яго прыбліжаных баяр. Пскоўскі летапісец адзначыў, што Васіль «...приказал княжение сыну своему большему Ивану и нарече его сам при животе великим князем и приказа его беречи до пятнадцати лет своим боярам немногим». На карысць вышэйназваным меркаванням можа служыць і той факт, што паміраючы князь зноў парушыў традыцыі. У апякунскі савет быў уведзены Міхал Глінскі. Прызначэнне гэта адбылося нягледзячы на тое, што Глінскі выглядаў у вачах маскоўскага баярскага худародным чужаземцам, які, да таго ж з дваццаці гадоў, што пражыў у Маскоўскім княстве, трынаццаць прасядзеў у турме як дзяржаўны злачынца. Васіль, пэўна, спадзяваўся, што Міхал Глінскі з яго адвагай, розумам, энергічнасцю і асцярожнасцю зможа абараніць сваю пляменніцу ад замахаў на яе жыццё з боку магутнай удзельна-княжацкай арыстакратыі і баярства. Дабіваючыся гэтага, Васіль падкрэсліваў сваяцтва Міхала з вялікай княгіняй.

Васіль III памёр. Кіраўніцтва краінай перайшло ў рукі прызначаных ім апекуноў. Іх намаганнямі малалетняга Івана ў хуткім часе каранавалі. Такая паспешлівасць была звязана з імкненнем не дапусціць мяцяжу. Справа ў тым, што родны брат Васіля III удзельны князь Юрый шмат гадоў выношваў надзею стаць вялікім князем пасля смерці яго бяздзетнага брата. Апекуны баяліся, што ён паспрабуе ажыццявіць сваю мару, і вырашылі апярэдзіць яго. Юрыя схапілі і кінулі ў цямніцу. Правёў ён там тры гады і ў пакутах памёр. Яго проста замарылі голадам.

Тым часам у Маскве выспявала нездаволенасць. Члены галоўнага органа дзяржаўнай улады Маскоўскага княства — Баярскай думы — былі абураны тым, што страцілі ўладу. Да ўсяго ж даваў пра сябе ведаць абражаны гонар. Шмат хто з думцаў лічыў сябе больш

важным па паходжанні і становішчы, чым апекуны. Адзін з тагачасных польскіх агентаў так апісаў гэта: «...баяры там ледзь не рэжуць адзін аднаго нажамі; крыніца раздораў тыя акалічнасці, што ўсімі справамі запраўляюць асобы, якія прызначаны вялікім князем; галоўныя баяры — Бельскі і Аўчына — старэйшыя за апекуноў па становішчы, але нічога не вырашаюць».

Справа ўскладнялася яшчэ і таму, што апошні з названых у гэтым данясенні — князь Іван Аўчына-Целяпнёў-Абаленскі стаў фаварытам удавы Алены. Гэта быў рослы шыракаплечы мужчына. Ён набыў шырокую вядомасць як ваяр і военачальнік. Князь удзельнічаў ва ўсіх значных паходах маскоўскага войска. Прычым ён пастаянна займаў пасаду перадавога ваяводы. Усё гэта сведчыла аб яго адвазе і воінскай доблесці. Менавіта за гэта ён атрымаў ад Васіля III тытул канюшага — старэйшага баярына Думы. Ды і паходзіў ён са знатнай і блізкай да княжацкага двара сям'і. А яго сястры Васіль III даверыў самае дарагое, што ў яго было,— сына Івана. Перад сваёй смерцю вялікі князь перадаў дзіця з рук на рукі і наказаў жанчыне «ні пядзі не адступаць» ад княжыча (яна была мамкаю Івана).

Такім чынам, у Маскве склаліся дзве варожыя групоўкі. Барацьба паміж імі была немінучай. Перад Аленай паўстаў цяжкі выбар: чый бок прыняць — роднага дзядзькі ці фаварыта? Калі абаперціся на дзядзьку, то ён абароніць яе жыццё. Але тады неабходна будзе ўстараніць каханка. А галоўнае — усё жыццё давядзецца падпарадкоўвацца апякунскаму савету і зміріцца з вартым жалю становішчам княгіні на ўдовіным удзеле. Калі ж яна даверыцца фаварыту, то будзе паўнапраўнай правіцельніцай дзяржавы. А тут яшчэ дзядзька пачаў умешвацца ў яе асабістае жыццё. Ён не адзін раз ужо наракаў на Алену за сувязь з князем Іванам. І выбар быў зроблены. Міхал Глінскі зноў апынуўся ў турме. Зноў тое ж самае абвінавачванне — у дзяржаўнай здрадзе. Пайшлі плёткі па Маскве, што ён атруціў Васіля III і збіраўся выдаць сям'ю вялікага князя палякам. Зразумела, што ўсё гэта было выдумана. Баярам неабходна была толькі прычына, каб расправіцца з ненавісным «літоўцам». Міхал так і не выйшаў з цямніцы...

На правах рэгенткі пры сыне, малалетнім княжычы Іване, Алена стала адзінай правіцельніцай княства. Як адчувала сябе ў ролі гаспадыні Масковіі дваццаціпяцігадовая жанчына, набыўшая ўладу цаною крыві? Ці мучылі Алену дакоры сумлення? Ці сніліся ёй страшныя сны? Пасля расправы над родным дзядзькам — Міхалам Глінскім у маладой удавы дабавілася нядобразычліўцаў. І яна, вядома, не магла не заўважыць гэтага. Магчыма, таму энергічная і не па-жаночы ра-

зумная Алена імкнулася паказаць сябе добрай, памяркоўнай правіцельніцай. Нават каханне, нават клопат аб дзецях часова адышлі на другі план перад дзяржаўнымі справамі.

Алена Глінская правіла Масковіяй пяць гадоў. І зрабіла, як заўважыў адзін з сучасных даследчыкаў, столькі, колькі не кожны мужчына-правіцель паспявае за дзесяцігоддзі. Ёй удалося раскрыць некалькі змоў, якія ставілі за мэту яе звяржэнне. У знешняй палітыцы ўрад пад яе кіраўніцтвам праводзіў тонкую палітыку. Гэта было відаць як у дзеяннях супраць Жыгімонта І Старога, так і супраць казанскіх і крымскіх ханаў. Прычым была Алена не марыянеткай у руках баярства, а сапраўднай гаспадыняй — правіцельніцай княства. Яна сама вяла перагаворы з замежнымі пасламі, сама, выслухаўшы парады верных ёй прыдворных, прымала рашэнні. Толькі дзякуючы яе дальнабачнай палітыцы Маскоўскае княства змагло заключыць у 1537 г. выгадны дагавор са Швецыяй, які прадугледжваў свабодны гандаль і, галоўнае, нейтралітэт Швецыі ў выпадку ваеннага канфлікту з кім-небудзь з суседзяў.

Не меншую актыўнасць праяўляла Алена і ў пытаннях унутранай палітыкі. Па яе ўказу былі адбудаваны Усцюг і Яраслаўль, пабудаваны шэраг гарадоў у землях, якія межавалі з Вялікім княствам Літоўскім. У самой Маскве быў закладзены Кітай-горад. Будучы сама чужаземкай, Алена не баялася чужаземнага ўплыву на гандаль і рамёствы, наадварот, яна запрашала з-за мяжы вайскоўцаў, рамеснікаў, гандляроў. Толькі з беларускіх зямель пры ёй выехалі ў Маскву больш за 300 сем'яў.

Сярод розных яе пераўтварэнняў найбольш важным для дзяржавы большасць даследчыкаў называюць грашовую рэформу 1535 г. Да гэтага часу ў абарачэнні знаходзіліся манеты самых разнастайных удзельных (і былых удзельных) княстваў. Грошы тыя мелі розны знешні выгляд, вагу і пробу. Урад Алены Глінскай перачаканіў іх па адзінаму ўзору. Прычым за аснову была ўзята не легкаважная маскоўская «сабляніца» (называлася яна так з-за змешчанай на ёй выявы вершніка з шабляй), а паўнаважкая «наўгародка». Паколькі ж на апошніх змяшчалі выяву вершніка з кап'ём, то і манеты гэтыя атрымалі назву «капейкі».

Зрабіла Алена і спробу змяніць сістэму мясцовага ўпраўлення. Абавязак весці барацьбу з ліхімі людзьмі — разбойнікамі, усклалі на губных старастаў. Тыя ж выбіраліся са свайго асяроддзя дваранамі кожнай губы (акругі). Каб не дапусціць выхаду зямель «са службы», Алена забараніла купляць зямлю ў служылых людзей. Яе ўрад узмацніў кантроль за ростам манастырскага землеўладання. Ён прыняў шэраг мер па звужэнню падатнага і судовага імунітэту царквы.

У 1537 г. Алена адчула, што здароўе яе пагоршылася. На працягу ўсяго гэтага і пачатку наступнага гадоў вялікая княгіня шмат ездзіла на багамоллі ў розныя манастыры. 4 красавіка 1538 г. яна памерла. В. Іпатава ў артыкуле «Алена Глінская — маці Івана Грознага», спасылаючыся на меркаванні некаторых гісторыкаў, адзначае, што яе атруцілі. Што ж, такое выказвалася і сучаснікамі. Аўстрыйскі дыпламат Герберштэйн пісаў аб падобных чутках. Але ён жа сам упэўніўся ў іх недакладнасці. І ў другім выданні сваёй кнігі не прыгадваў ужо аб гвалтоўнай смерці Алены. Больш таго, нават Іван Грозны, які ўсё жыццё ўспамінаў баярам іх непавагу да яго маці і помсціў ім за гэта, ніводнага разу не кінуў нікому абвінавачвання ў такім злачынстве. Таму можна сцвярджаць, што памерла вялікая княгіня Алена сваёй смерцю.

У наш час да асобы Алены Глінскай адносіны вельмі разнастайныя. Адны бачаць яе ўсяго толькі бязвольнай лялькай у руках Баярскай думы, другія ўспрымаюць як бездакорную мудрую правіцельніцу. Большасць успамінае пра Алену Глінскую толькі як пра маці Івана Грознага.

Хаця трэба быць справядлівымі. У тым, што сусветная гісторыя атрымала такую страшную фігуру, як Іван IV Грозны, няма ніякай віны з боку яго маці. Псіхічная хвароба першага рускага цара не была перададзена яму ў спадчыну ад бацькоў, і не Аленіна выхаванне зрабіла з хлопчыка пачвару. Ёсць шмат іншых прычын, якія не маюць дачынення да нашай гераіні.

Дык як жа, сапраўды, належыць расцэньваць зараз асобу гэтай неардынарнай жанчыны? Можа, трэба звярнуцца да памяці, якую пакінула па сабе Алена Глінская ў народзе?

У мінулым стагоддзі вядомы збіральнік рускага фальклору А. Афанасьеў у розных рэгіёнах Расіі запісаў цэлы шэраг казак, галоўнай гераіняй якіх з'яўляецца Алена Прамудрая, каралеўна-чараўніца, якая сілай розуму свайго і дзякуючы вялікім ведам кіруе Рускай зямлёй замест памёршага цара. Усе гэтыя казкі датуюцца XVI ст. Ні раней, ні пазней такая гераіня ў рускім фальклоры больш не з'яўлялася (да Алены Прамудрай там панавала Настасся Прыўкрасная. Пасля XVI ст. упершыню з'яўляецца знаёмая нам усім Васіліса). Лагічна было б меркаваць, што з'яўленню Алены Прамудрай паспрыяла княжанне на Русі Алены Глінскай, пра якую, дарэчы, таксама ішлі чуткі, што яна чараўніца. Казкі не называюць Алену Прамудрую ні добрай, ні злой. Яна проста разумная і прыгожая, што само па сабе не так ужо і мала. Менавіта такой, на наш погляд, і была Алена Глінская.

## КАХАННЕ І СМЕРЦЬ КАРАЛЕВЫ БАРБАРЫ

### БАРБАРА РАДЗІВІЛ
### (1520-1551 гг.)

...ён быў маім!
Маім! І што карона?!
Нас звязвала бяздонне нашых губ...
*Р. Баравікова. «Барбара Радзівіл».*

Ёсць штосьці чароўнае ў старажытных парсунах. Ад іх зыходзіць своеасаблівая цеплыня, ад чаго ўзнікае дзіўнае адчуванне, быццам ці то тыя, хто змешчаны на іх, ці то мастакі-стваральнікі спрабуюць аб нечым вельмі важным паведаміць, расказаць. Заключаныя ў багатыя багеты альбо ў просценькія драўляныя рамы, яны зачароўваюць, гіпнатызуюць. Вось так і гэты партрэт...

З палатна на нас глядзіць маладая прыгожая жанчына. Правільныя рысы твару, роўны нос, прыгожы абрыс броваў, глыбокія бяздонныя вочы. Яна ў тым узросце, калі звычайна не бывае яшчэ ні бед, ні суму, ні турбот. Але чаму выгляд прыгажуні нараджае ў нашай душы незразумелы сум, пачуццё небяспекі? Чаму міжволі з'яўляюцца думкі аб недаўгавечнасці шчасця і прыгажосці на Зямлі? Хто яна, чыё аблічча так вабіць і хвалюе?

Вялікая княгіня Барбара, каралева Барбара, Барбара Радзівіл, нарадзілася ў 1520 г. у сям'і магната, прадстаўніка аднаго з самых магутных радоў Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага, славутага военачальніка, празванага за шматлікія перамогі Геркулесам. Дзяцінства яе прайшло таксама, як і ў іншых дзяўчынак гэтага саслоўя,— у атачэнні мамак, нянек, настаўнікаў. Хіба толькі гэтыя самыя настаўнікі былі лепшымі, чым у іншых. Чаму ж вучылі яны? Роднай і замежнай мовам, сярод якіх абавязковымі былі класічная латынь і гамераўская грэчаская мова, гісторыі, маляванню, каліграфіі, майстэрству складаць вершы, музыцы і танцам, верхавой яздзе. Атрымлівала яна таксама веды па геаграфіі і матэматыцы. Без сумнення, вывучала Барбара і Закон Божы. Зразумела, што ёй было даступна ўсё лепшае, што існавала ў той час, час трыумфу Рэнесанса, у еўрапейскай мастацкай літаратуры. Не выключана, што яна азнаёмілася і з «Дэкамеронам», і з санетамі Дантэ, і з паэзіяй Петраркі. Магла яна чытаць і вядомы ўсёй Еўропе, перакладзены прыкладна ў той жа час на беларускую мову «Раман аб Трыстане і Ізольдзе».

Усё гэта магчыма, тым больш што выхаванне Барбары, як і яе старэйшага брата Мікалая, меўшага мянушку Руды, паводле некаторых звестак, праходзіла ў Нясвіжы, горадзе, які ў тыя часы быў адным з буйнейшых навуковых і культурных цэнтраў Вялікага княства Літоўскага. Нам вядома пра цеснае сяброўства паміж Барбарай, Мікалаем Рудым і іх стрыечным братам, сынам тагачаснага ўладара Нясвіжа, Мікалаем Радзівілам Чорным.

Харошанькая дзяўчынка з шаўковымі залацістымі кудзеркаміператварылася ў семнаццацігадовую прыгажуню. Цяпер яна падоўгу праседжвае над любімымі кнігамі, параўноўвашчы сябе з іх прыгожымі гераінямі; яна марыць аб тым адзіным, што зробіць яе жыццё падобным на жыццё кніжных гераінь. Але лёс дзяўчыны быў вырашаны без яе. У 1538 г. Барбару выдалі замуж за ваяводу наваградскага, графа Станіслава Гаштольда.

У гэты перыяд свайго жыцця Барбара мела мала радасці. У 1539 г. памірае стары Альбрэхт; у 1541 г. адыходзіць у нябыт бацька Барбары. Не паспела яна зняць жалобу, як у 1542 г. памірае яе муж. Паколькі дзяцей у іх не было, то род Гаштольдаў скончыўся. Маладая ўдава перабіраецца да сваіх родных у Вільню і яшчэ доўгі час, прытрымліваючыся этыкету, пазбягае свету і носіць чорнае адзенне.

Праз пэўны час Барбара пачала наведваць свецкія балі. Часцей за ўсё яны праводзіліся ў каралеўскім замку, які належаў вялікаму князю Літоўскаму Жыгімонту Аўгусту, сыну польскага караля Жыгімонта І Старога і каралевы Боны Сфорца. У замку гэтым дзень і ноч грымела музыка. Танцы змяняліся маскарадамі, а маскарады — танцамі. Тут збіралася ўся краса грамадства Вільні, а ўрэшце, і княства. Князю кожны такі вечар каштаваў ад 1000 да 1500 рублёў. На адным з такіх баляў удаву Гаштольда заўважыў гаспадар. Уражаны прыгажосцю маладой жанчыны і яе грацыяй, ён усур'ёз захапіўся ёю. Каб мець магчымасць бесперашкодна сустракацца з Барбарай, Жыгімонт Аўгуст хутка прызначыў яе фрэйлінай сваёй жонкі Элізабэт Аўстрыйскай. Элізабэт была жанчынай хваравітай, невялікага розуму, з невыразнай знешнасцю. Яна многа губляла ў параўнанні з прыгажосцю і розумам Барбары. Хутка Элізабэт памірае. Становішча былой фрэйліны, якой вялікі князь адкрыта робіць перавагу перад іншымі прыдворнымі дамамі, становіцца двухсэнсоўным. Каб не запляміць сваё імя ў вачах свету, Барбара вымушана перастаць наведваць княжацкі двор. Тым самым яна адмаўляецца ад сустрэч з чалавекам, пачуцці якога ўжо знаходзяць водгук у яе сэрцы. Яна жыве то ў віленскім палацы свайго брата, то ў Геранёнскім замку. Замак гэты, размешчаны на тэрыторыі сучаснага Іўеўскага раёна, належаў ёй пасля

смерці мужа. Але Жыгімонт знаходзіць магчымасці наведваць яе і там. Яны ўсё больш збліжаюцца, знаходзяць шмат агульнага ў звычаях і інтарэсах: паляванні, калекцыяніраванні каштоўных камянёў. Хіба можа пакінуць раўнадушнай любую жанчыну гарачы тэмперамент і галантныя манеры маладога каралевіча? Хіба знойдзецца мужчына, якога б не кранула яркая прыгажосць Барбары? На акварэлі мастака Я. Матэйкі, як і на карціне А. Марачкіна «Чорная дама Нясвіжа», Барбара намалявана брунеткай. На партрэтах XVI ст. мы не маем магчымасці бачыць колер валасоў гэтай прыгажуні — іх хавае ад нас густы вэлюм, які калісьці быў такім модным сярод знатных жанчын Вялікага княства Літоўскага. Магчыма, уяўленні аб тым, што Барбара была чорнавалосая, склаліся пад уражаннем яе чорных броваў і веек, якія рэдка маюць такі колер у бялянак. Але ўспомнім мянушку роднага брата Барбары — Руды. Яна дадзена была менавіта за колер яго валасоў. Лагічна дапусціць, што і ў яго сястры валасы былі таксама светлымі. А ў спалучэнні з чорнымі, бы смоль, бровамі і вейкамі, з цёмнымі, «колеру сапраўднага піва», вачамі мы атрымліваем прыклад сапраўды рэдкай прыгажосці. Гэта якраз той тып красуні, які ў Расіі ў XIX ст. памылкова назвалі «польскім».

Скораны прыгажосцю Барбары, вялікі князь Жыгімонт Аўгуст пачаў рабіць усё магчымае, каб бачыцца з ёю як мага часцей. Сустрэчы пераважна былі таемнымі. Але шыла ў мяху не схаваеш. Па Вільні пайшлі чуткі... І браты — Руды ды Чорны ўказалі вялікаму князю, што яго паводзіны кідаюць цень на гонар іх сястры, а значыць, і на іх гонар. Яны патрабавалі ад Жыгімонта слова, што той больш не будзе сустракацца з Барбарай. Жыгімонт Аўгуст пакляўся, але...

Захапленне ўжо даўно перайшло ў каханне. Без Барбары Жыгімонта Аўгуста адразу ахапілі сум і адчай. Цяпер ніштo не магло больш прагнаць змрочны настрой вялікага князя. Куды падзеліся яго ранейшая весялосць і бестурботнасць?

Сумавала і Барбара. Яна нечакана для сябе ўбачыла каралеўскага сына зусім іншым... Ён быў добрым і здольным тонка адчуваць, шчырым і... па-свойму няшчасным. Гэты чалавек, які пасля смерці бацькі павінен быў стаць польскім каралём, з'яўляўся асобай слабай, бесхарактарнай, не здольнай не толькі на рызыку, але і нават на прыняцце самастойнага рашэння. Барбара зразумела, што яго слабавольнасць была вынікам выхавання, што маці Жыгімонта Аўгуста — каралеве Боне неабходны быў менавіта такі сын. І яшчэ Барбара адчула, што яна можа станоўча паўплываць... Але галоўнае з таго, што зразумела наша гераіня,— гэта тое, што да яе, у рэшце рэшт, прыйшло каханне.

Сваім адкрыццём Барбара падзялілася з самымі блізкімі людзьмі — братамі. І пачула ад іх нечаканае. Тым якраз у гэты час стала вядома, што вялікі князь рассылае па замежных краінах ганцоў-агентаў. Даведаліся яны і аб заданні, якое атрымалі гэтыя ганцы: знайсці кандыдатуру жонкі Жыгімонту і правесці перагаворы аб шлюбе. Мікалаі Руды ды Чорны зразумелі, што за ўсім гэтым стаіць каралева Бона, супраць волі якой сын ніколі яшчэ не ішоў. Браты паставілі перад Барбарай выбар: альбо забыцца пра сваё каханне, альбо змагацца за яго. Перамагла ідэя змагання. Сямейнай радай быў распрацаваны хітры план.

Жыгімонту Аўгусту «зусім выпадкова» стала вядома, што браты Радзівілы збіраюцца з'ехаць на некалькі дзён на паляванне. Ён тут жа паспяшаўся да каханай... Ноччу, у самы непадыходзячы момант, дзверы спальні Барбары расчыніліся, і ў пакой уварваліся ўзброеныя шаблямі Руды ды Чорны. Вялікаму князю прыгадалі і аб яго слове гонару, і аб парушэнні гэтага слова. У яго пацікавіліся, якім чынам ён жадае змыць сорам і са свайго імя, і з імя шматшаноўных Радзівілаў. Карацей, Жыгімонту не заставалася нічога іншага, як папрасіць руку іх сястры. Тут жа з'явіліся і ксёндз, і сведкі: родная сястра Барбары і Рудога Ганна з мужам. Адзіная ўмова, якую паставіў жаніх,— каб шлюб быў таемным. Радзівілаў гэта задавальняла. Для сваёй сям'і і дзяржавы Жыгімонт заставаўся ўдаўцом.

Калі б падобная сітуацыя адбылася яшчэ ў XV ст., то больш верагодна, што ў Радзівілаў іх дзёрзкі план жаніцьбы нават бы не ўзнік. Хутчэй за ўсё яны проста-напроста адвезлі б сястру куды-небудзь у свае далёкія ўладанні. Да пачатку эпохі Адраджэння манарх у Еўропе меў права на абмежаваны выбар сярод прэтэндэнтак. Гісторыя не ведае ні аднаго выпадку, калі б заходнееўрапейскі манарх да XVI ст. ажаніўся з асобай некаралеўскай крыві. Больш таго, вядомы цэлы шэраг выпадкаў, калі шлюб, які быў заключаны паміж дваранамі і прадстаўнікамі іншых саслоўяў, царква прызнавала несапраўдным. Але Адраджэнне зрабіла пераварот не толькі ў мастацтве, культуры, але і ў адносінах паміж людзьмі. Літаратура гэтай эпохі падрыхтавала выбух у свядомасці прадстаўнікоў вышэйшых класаў, якія пачалі змагацца за свае права на асабістае жыццё. На фоне шматлікіх перамог, атрыманых канкрэтнымі дваранамі над забабонамі свайго грамадства, стала магчымым, каб і асоба каралеўскай крыві пры правільным правядзенні абраду вянчання змагла ўзаконіць свае адносіны з ... каханай.

Але, верагодна, у Жыгімонта была боязь, якая тычыла менавіта самога абраду вянчання. Перад тым як аб'явіць аб сваім выбары, ён

хацеў параіцца з прадстаўнікамі вышэйшага духавенства. Перш за ўсё, пэўна, ён асцерагаўся таго, што калі будзе хоць якаясьці зачэпка, фармальная дробязь для аб'яўлення вянчальнага абраду несапраўдным, то каралева Бона абавязкова даб'ецца скасавання шлюбу. Хутчэй за ўсё менавіта з гэтай мэтай накіраваўся ён да бацькі ў Польшчу. Будучы ў Кракаве, жаніх звяртаецца да святароў. Святары запэўнілі яго, што шлюбны абрад, а значыць, і шлюб, законныя. Узрадаваны Жыгімонт Аўгуст паехаў у Вільню.

Барбара ж увесь гэты час жыла ў замку ў Дубінках, на адлегласці 50 вёрст ад Вільні, на гары сярод сасновага лесу.

Але як Жыгімонт не імкнуўся захаваць свой сакрэт, пра шлюб стала вядома і ў Вялікім княстве Літоўскім, і ў Польшчы. У княстве вестцы гэтай вельмі ўзрадаваліся, бо ў шлюбе вялікага князя з прадстаўніцай беларуска-літоўскага роду бачылі залог больш цеснай сувязі Жыгімонта з іх дзяржавай. Зусім іншыя пачуцці выклікала навіна сярод польскай шляхты. Ды гэта і не дзіўна. Жаніцьба Жыгімонта нічога не прынесла Польшчы. Шлюб гэты з пункту гледжання польскай шляхты быў бессэнсоўны. Такі каралеўскі саюз яны палічылі за абразу свайго гонару. Да таго ж узнікла небяспека, што княства аддзеліцца ад Польшчы. І нават калі не аддзеліцца, то атрымае перавагу. Найбольш жа ўражана ўчынкам сына была Бона. Каралева шукала яму такую жонку, якая б была цалкам аддадзена ёй. Барбара ж, паводле меркаванняў Боны, не падыходзіла на гэтую ролю. Мала таго, што ў нечаканай нявесткі быў цвёрды характар, да таго ж яна мела ў Вільні двух магутных братоў, якія нікому не дазволяць крыўдзіць сястру. Бона пачала дзейнічаць праз мужа і найбольш адданых польскіх магнатаў. Кароль і яна выказалі сыну незадавальненне і патрабаваліануляваць шлюб. Але Жыгімонт Аўгуст нікога не хацеў слухаць.

Вясной 1548 г. кароль Жыгімонт Стары паехаў на сейм у Петрыкаў, дзе 1 красавіка яго напаткала смерць. Вестка пра гэта хутка даляцела да сына. Пасля кароткай жалобы 17 красавіка ён склікаў у Вільні сейм, дзе афіцыйна паведаміў пра свой шлюб і папрасіў прызнаць Барбару Вялікай княгіняй. Сейм з вялікай радасцю выканаў гэтую просьбу. Праз некалькі дзён Жыгімонт Аўгуст разам з жонкай накіраваўся ў Петрыкаў для каранацыі. Тут ён зрабіў тое ж, што і ў Вільні,— першай справай паведаміў удзельнікам сейма аб уступленні ў шлюб з Барбарай. Але ж як толькі гэта было зроблена, сярод удзельнікаў пачалося моцнае хваляванне. Затым выступілі тры найбольш магутныя магнаты Польшчы: каронны гетман Пётр Кміта, граф Анджэй Гурко і ваявода сендамірскі Ян Тэньчыньскі, які ў парыве гневу выкрыкнуў нават: «Я хутчэй згаджуся бачыць на польскім

прастоле султана турэцкага, чым Барбару Радзівіл!» Усе яны малілі Жыгімонта Аўгуста развесціся і ажаніцца з іншай. Жыгімонт адмовіўся. Тады ўсе ўдзельнікі сейма ўкленчылі, але і гэта не дапамагло. Паводзіны Жыгімонта былі вельмі незвычайнымі. Бязвольны, ён звычайна лёгка паддаваўся любому ўплыву, паказваў усё жыццё слабасць характару. Але на гэты раз каралевіч праявіў незвычайную цвёрдасць. На ўсе довады і патрабаванні членаў сейма ён у рэшце рэшт адказаў: «Тое, што адбылося, перамяніць нельга, і вам належыць прасіць мяне не аб тым, каб я парушыў слова, якое даў жонцы, а аб тым, каб захаваць слова, якое дадзена кожнаму з нас. Я даў слова быць верным жонцы і не парушу яго, пакуль Гасподзь Бог будзе захоўваць мяне на гэтым свеце. Для мяне даражэй слова гонару, чым усе дзяржавы ў свеце».

Да гэтых часоў неразгаданым застаецца пытанне, адкуль узялося ў Жыгімонта столькі непахіснасці і настойлівасці. Хочацца верыць, што сілы яму дало яго каханне і што прысутнасць Барбары дапамагла стаць хаця б на некалькі гадзін сапраўдным уладаром.

Можна меркаваць, што Барбара і не вельмі імкнулася стаць каралевай. Ёй, нягледзячы на ўсё, было дастаткова знаходзіцца побач з каханым на правах законнай жонкі. Але непавага да яе, якую праявіла польская вярхушка, адкрытая варожасць абразілі яе лепшыя пачуцці. Гордая прыгажуня прыгадала аб сваіх правах. Так 1 снежня 1550 г. яна была каранавана і абвешчана каралевай польскай дзяржавы. Здавалася б, Барбара Радзівіл дасягнула ўсяго: каханы муж, улада, багацце. Цяпер бы і жыць. Але ... 8 мая наступнага года Барбара памірае. Паводле афіцыйнай версіі, ад рака. Але шмат хто з яе сучаснікаў і большасць даследчыкаў пазнейшых часоў схіляюцца да думкі, што Барбара была атручана Бонай. Такое дапушчальна. Асабліва калі прыгадаць, што жонка Жыгімонта Старога паходзіла з Італіі. Знатныя італьянкі тых часоў славіліся менавіта як спецыялісткі па атрутах. Ускосным пацвярджэннем такога меркавання можа служыць і сведчанне італьянскага лекара Монці, які ўваходзіў у світу каралевы Боны. У час расследавання Радзівіламі прычыны смерці іх сястры, ён паказаў, што Барбара вельмі злоўжывала лекамі ад бясплоддзя. Атрымлівала яна іх і ад самога Монці. Ці не такім шляхам удалося ворагам Барбары атруціць яе?

Хвароба, што звяла ў магілу маладую квітнеючую прыгажуню, калі верыць хронікам і сведчанням сучаснікаў каралевы, была надзвычай дзіўнай. Усё цела Барбары пакрылася гнойнымі нарывамі. Яны лопаліся і распаўсюджвалі непрыемны пах. Каралева пакутавала ад нясцерпнага болю. У апошнія яе дні той непрыемны пах адагнаў ад

Барбары нават самых адданых служанак. І толькі Жыгімонт Аўгуст заставаўся побач з каханай жанчынай да самага канца. Ён трымаў Барбару за руку і ў час, калі душа яе пакідала цела.

«Ні адзін паэт» ні адзін пісьменнік ці гісторык не маглі апісаць гора і пакуты караля. Адчай і смяротны боль ахапілі Жыгімонта пасля смерці Барбары»,— піша ў сваёй манаграфіі «Чорная дама Нясвіжскага замка» беларуская даследчыца К. Шышыгіна-Патоцкая. Два тыдні кароль не дазваляў хаваць сваю каханую. А пасля аддаў загад весці цела каралевы ў Вільню. Такой была апошняя воля Барбары. І жаданне самога Жыгімонта, смяротна пакрыўджанага на сваіх суайчыннікаў-палякаў.

«Там, дзе жывой выказалі няўдзячнасць, не прыстала пакідаць і мёртвую сярод такіх людзей»,— вось словы Жыгімонта Аўгуста.

Тая ж К. Шышыгіна-Патоцкая падрабязна апісвае сумны шлях прыгажуні-літвінкі ў Вільню: «Змешчаную на спецыяльным катафалку труну з целам Барбары везлі коні чорнай масці. Калі яны трацілі сілы, замест іх куплялі новых любым коштам. За труной ехаў на кані апрануты ва ўсё чорнае зламаны няшчасцем кароль. У кожным горадзе ці маленькай вёсачцы ён сыходзіў з каня і ішоў пешшу».

Пахавана Барбара была ля касцёла св. Станіслава ў Вільні. Але Жыгімонт працягваў кахаць сваю Барбару і пакутаваць без яе. Сведчаннем таму можа быць факт, што кароль загадаў увекавечыць памяць пра каханую, намаляваўшы з яе партрэта абраз Маткі Боскай. У гісторыю ён увайшоў як абраз Маткі Боскай Астрабрамскай. Зараз гэта — адна з найбольш шануемых каталіцкіх святыняў. Жыгімонт памятаў пра Барбару ўсё жыццё. І напэўна, тыя змяненні ў яго характары, якія з'явіліся пад уплывам каханай, былі настолькі вялікімі, што маці не змагла кіраваць сынам, як раней. І ці не таму пакінула Бона Польшчу і ад'ехала на радзіму?

Ускосным пацвярджэннем таго, што кароль працягваў кахаць сваю каралеву, з'яўляецца і паданне пра Чорную даму, якая з'яўлялася ні чым іншым, як духам Барбары Радзівіл, выкліканым з таго свету для самотнага Жыгімонта Аўгуста чарнакніжнікам панам Твардоўскім. Паводле падання, гэта адбылося ў Нясвіжы, дзе Барбару любілі, памяталі і дзе прывід бесперашкодна мог блукаць па начах у чаканні часу, калі смерць злучыць з ёй яе каханага.

Пэўна, духоўную блізкасць каханай жанчыны да атмасферы Нясвіжа адчуваў і сам Жыгімонт Аўгуст. Ён неаднаразова пасля смерці Барбары наведваў Нясвіж, і настрой пры гэтым у яго быў самым меланхалічным.

## СВЯТЛО ДАЛЁКАЙ ЗОРКІ

### СОФ'Я АЛЕЛЬКАВІЧ
### (1585—1612 гг.)

Звёздочка! Ты сохранилась в созвездии Слуцком едина,
Между литовскими славой ярчайшая, первая дочь!
Разве ты менее рыцарь, чем гордый супруг твой великий?

*С. Рысинский. «Кирмпенстум»*

Жыццё чалавечае — няўлоўна кароткае і нярэдка трагічнае.

У Мінскім Свята-Духавым кафедральным саборы, справа ад алтара, стаіць свінцовая труна. На труне выбіты словы з Евангелля: «Шчасныя тыя, што плачуць, бо яны суцешацца». Тут пакояцца астанкі маладой і прыгожай жанчыны. У праваслаўныя святцы яе імя было занесена як імя святой. У гісторыю ж яна ўвайшла як апошняя прадстаўніца некалі магутнага магнацкага роду Алелькавічаў. Паданні захавалі для нас чароўны вобраз юнай красуні, што марыла пра ціхае жаночае шчасце і памерла, не зведаўшы яго ў поўнай меры.

Соф'я Слуцкая... Імя знаёмае і незнаёмае адначасова. Жанчына, лёс якой ўзрушае... Цікава, ці жадала калісьці сама Соф'я такой славы? Ці імкнулася да яе? Пэўна, не.

Маленькая дзяўчынка, дачка князя Юрыя Алелькавіча і прыгажуні Кацярыны Кішкі, нарадзілася ў маі 1585 г. Вясновы Слуцк сустрэў гэту падзею царкоўным звонам і птушынымі спевамі. Здавалася, сама прырода дае добры знак нованароджанай. Хто мог думаць у той дзень пра бяду? Тым не менш яна здарылася вельмі хутка. У наступным годзе адзін за адным адышлі ў нябыт маладыя бацькі Соф'і. Шлюбу Юрыя і Кацярыны не споўнілася і года.

Па тых часах Слуцкае княства і нават сам горад Слуцк былі падзелены на тры тэрытарыяльныя больш-менш роўныя часткі. У кожнай з іх уладарыў свой князь. Яны не сварыліся паміж сабой; яны даводзіліся адзін аднаму братамі. Гэтак перад смерцю распарадзіўся спадчынай іх бацька. Ён не хацеў абдзяліць нікога з сыноў. Пасля смерці Юрыя Алелькавіча Соф'я адразу ж стала спадчынніцай трэцяй часткі радавога багацця. Але на працягу літаральна некалькіх гадоў паміраюць і дзядзькі Соф'і — Аляксандр і Ян Сымон. Дзяцей у іх не было. І таму Соф'я ператвараецца ў самую багатую нявесту Вялікага

княства Літоўскага. Праўда, нявесце ўсяго толькі шэсць гадоў. Але гэта не страшна. Хутка ў бок слуцкай спадчынніцы, дакладней, у бок яе багаццяў, пачынаюць накіроўвацца прагныя позіркі рыцараў Вялікага княства. Яны марылі «прыбраць да рук» слуцкія скарбы, распараджацца імі. Але да паўналецця Соф'і абавязак яе апекуна ўзяў на сябе Юрый Хадкевіч. Ён адвёз дзяўчынку ў Вільню, сам жа ад яе імя пачаў ісіраваць Слуцкім княствам. Пагаворвалі, што падчас свайго апякунства Юрый Хадкевіч паклаў сабе ў кішэню нямала грошай са спадчыны няшчаснай сіроткі. Калі гэты чалавек памёр, шэфства над дзяўчынкай узяў яго брат Іеранім, які таксама не пазбягаў нажывы.

А як жа жылося маленькай Соф'і ў Хадкевічаў? Князёўна не мела да свайго апекуна ніякіх прэтэнзій наконт задавальнення матэрыяльных патрэб. Яна была апранута і сыта накормлена, аб яе здароўі клапаціліся лепшыя лекары княства, ёй нанялі лепшых настаўнікаў. Але побач з дзяўчынкай не знаходзілася нікога, хто б мог сагрэць сваёй любоўю сэрца сіроткі. Яна была пазбаўлена шчасця і шчырага, сапраўднага сяброўства. Хадкевічам было глыбока абыякава ўсё, што датычыла яе пачуццяў.

Магчыма, яшчэ тады Соф'я пацягнулася ўсёй душой да Бога, адзінага, які не адштурхнуў яе. Убачыўшы набожнасць дзяўчынкі, праваслаўныя святары зрабілі ўсё, каб развіць яе рэлігійныя пачуцці. Гэта давала пэўныя гарантыі ўсяму праваслаўнаму насельніцтву Случчыны, якое з усіх сіл супраціўлялася ўвядзенню на землях княства уніі.

Непрыкметна ляцелі гады. Соф'я падрастала і расцвітала непаўторнай, дзіўнай прыгажосцю. Цяпер ужо не толькі Слуцк, які, па ўспамінах сучасніка, маскоўскага дыпламата Карабейнікава, быў «горада Менска больши и лутчи», а і Соф'іна краса станавілася для Хадкевічаў выгадным таварам. «Пакупніка» на яго апякун князёўны знайшоў самага вернага — князя Януша Радзівіла. Яго бацьку ён лічыў сваім лепшым сябрам. Жаніх быў маладым (дзевятнаццаць гадоў), выдатнага паходжання, прыемнай знешнасці. Свой клопат аб сіраце Іеранім наўсюль выстаўляў нанаказ.

Князёўна пачала з нецярпеннем чакаць вяселля, якое павінна было адбыцца, як толькі яна стане паўналетняй. Становішча нявесты ўсё больш падабаецца ёй, бо Януш, зачараваны прыгажосцю юнай Алелькавіч, становіцца частым госцем у палацы Хадкевічаў. Яго галантныя заляцанні амаль зусім знішчаюць у душы Соф'і непрыемны асадак, выкліканы нярыцарскімі паводзінамі Хадкевіча перад заручынамі.

Але пакуль надышоў тэрмін вяселля, Іеранім пасварыўся з сябрам. Аб'ектам канфлікту стаў нейкі маёнтак, які Хадкевічу вельмі не хацелася ўключаць у спіс нерухомасці, што перадавалася нявесце ў якасці пасагу. Скончылася ж справа тым, што Хадкевіч рашыўся скасаваць заручыны. І зноў думкі Соф'і наконт яе ўласнага лёсу Іераніма не цікавілі.

Аднак Радзівілы былі зусім не тымі людзьмі, з якімі можна было б так абысціся. Яны рашуча заявілі, што не жадаюць адмаўляцца ад багатай і прыгожай нявесты, і падалі ў суд на Хадкевічаў. Рашэнне суда было на карысць Радзівілаў; Іераніма асудзілі да выплаты велізарнай няўстойкі, а ў выпадку адмовы — да пазбаўлення правоў і выгнання.

Гэта вельмі ўдарыла па гонару апекуна Соф'і. Вярнуўшыся ў свой палац пасля таго, як рашэнне суда было абвешчана, Іеранім Хадкевіч загадаў сваім людзям «спусціць з лесвіцы» Януша Радзівіла, які як раз у гэты час з'явіўся да Соф'і, каб даведацца, як яна ставіцца да выбрыкаў свайго апекуна. Наказ Хадкевіча быў выкананы слугамі літаральна. Пасля такой абразы Радзівілы пачалі збіраць войска, каб сілаю захапіць Соф'ю. На заклік бацькі Януша, віленскага ваяводы і літоўскага гетмана Крыштафа Радзівіла Перуна, адгукнуліся тры сыны Канстанціна Астрожскага, смаленскі ваявода Абрамовіч і шмат шляхцічаў. Сабралася шасцітысячнае войска.

Хадкевіч рыхтаваўся да абароны. Яму ўдалося сабраць 1600 вершнікаў і 600 пехацінцаў. З такім войскам яго ўжо не палохала перспектыва ўзброенай сустрэчы з Радзівіламі. Бо віленскае жытло Іераніма можна было пры неабходнасці з поспехам выкарыстоўваць у якасці крэпасці. Адбіцца ад ворагаў насельнікам палаца дапамаглі б таксама і гарматы. Іх было ў Іераніма ажно дваццаць чатыры. Віленцы ў тыя дні жылі як на парахавой бочцы. Усё Вялікае княства Літоўскае з нецярпеннем чакала, чым жа скончацца гэтыя падзеі. Кароль сур'ёзна занепакоіўся. Да ўдзельнікаў Віленскай драмы былі накіраваны яго паслы. Кароль заклікаў ваяўнічых магнатаў да міру, але голас цвярозага розуму не быў пачуты.

Перад пагрозай унутранай вайны ў дзяржаве здолелі знайсці агульную мову нават дзеячы розных рэлігійных канфесій, якія варагавалі. Так, напярэдадні падзей уніяцкі мітрапаліт Іпаці Пацей піша ліст настаяцелю Слуцкага праваслаўнага манастыра Ісаю Сабалеўскаму. У лісце гэтым ён заклікае слуцкае духавенства шчыра маліцца за мірнае вырашэнне Віленскай справы і нават прапануе сумесны трохдзённы пост.

Калі ўсё было падрыхтавана да бітвы, здарылася нешта дзіўнае. Вопытны палкаводзец Радзівіл Пярун раптоўна скамандаваў адступленне, так і не пачаўшы ваенных дзеянняў.

Гісторыкі згодны бачыць тут воінскую мудрасць. Радзівіл быццам бы адчуў, што пры такім раскладзе сіл перамога будзе не на яго баку. Ён улічыў таксама і тое, што яму будзе даволі цяжка разварнуць свае войска на вузкіх вуліцах Вільні і, відаць, таму не захацеў дарэмна губіць цвет рыцарства Беларусі.

Людзі веруючыя трактуюць падзеі інакш. Юнай князёўне Соф'і, чыстай і добрай дзяўчыне, здавалася брыдкай нават сама думка пра тое, што з-за яе адбудзецца кровапраліцце. Яна звярнулася да Бога са шчырым маленнем і прасіла ва ўсявышняга альбо абразуміць тых, хто імкнецца з-за яе пасагу да забойстваў, альбо паслаць ёй смерць. Бог пачуў гэта маленне, і войскі Радзівілаў пакінулі Вільню. Мала таго, Іеранім Хадкевіч і Радзівіл Пярун здолелі, у рэшце рэшт, дамовіцца паміж сабою. Па гэтай дамоўленасці Соф'я станавілася жонкаю Януша, а Радзівілы абяцалі не прад'яўляць прэтэнзій гэтаму сямейству наконт грошай Соф'і, прысвоеных яе апекунамі раней. Каму дастаўся маёнтак, з-за якога і разгарэўся канфлікт,— невядома.

Так у пагожы кастрычніцкі дзень 1600 г. апошняя прадстаўніца роду Алелькавічаў уручыла свой лёс маладому рыцару з роду Радзівілаў.

Дарэчы, перад шлюбам яна таксама здолела выставіць жаніху пэўныя ўмовы. Соф'я пажадала, каб яе дзеці, калі Бог дасць іх, былі хрышчаны ў праваслаўе. Дзяўчына вельмі талкова растлумачыла сваё патрабаванне. Род Алелькавічаў заўсёды быў аплотам праваслаўнай веры на Беларусі. Паку ль жывы хаця б адзін прадстаўнік роду, яго духоўная спадчына павінна захоўвацца. Слава Алелькавічаў, якія не здрадзілі аднойчы абранай веры, павінна перайсці пасля Соф'і яе дзецям. Януш Радзівіл згадзіўся на такія ўмовы.

Па-рознаму апісваюць гэты гістарычны эпізод беларускія даследчыкі. Рыгор Родчанка ў кнізе «Слуцкая старасветчына», напрыклад, адмаўляе той факт, што захаванне праваслаўнай веры для сваіх нашчадкаў было сапраўды жаданнем Соф'і. Ён лічыць, што ўмову гэту выпрацавала не сама князёўна. Што за яе спінаю стаялі праваслаўныя вярхі тагачаснай Случчыны, якія Брэсцкую унію не прынялі.

Сапраўды, як мы ўжо заўважылі вышэй, праваслаўныя святары воляю лёсу аказаліся адзінымі духоўнымі настаўнікамі маленькай сіроткі. А да іх парад Соф'я заўсёды прыслухоўвалася. Аднак усё гэта не дае нам падстаў адмаўляць Соф'і ва ўласным розуме. Хутчэй за ўсё

ў дадзеным выпадку жаданне князёўны проста супадала з жаданнем духоўных настаўнікаў.

Аляксей Мельнікаў, у ад рознен не ад скептыцызму Р. Родчанкі, занадта драмагызуе сітуацыю. Ён вельмі эмацыянальна апісвае, як князёўну прымушалі здрадзіць веры сваіх бацькоў дзеля таго, каб Радзівіл мог павесці яе пад вянец, як мужна трымалася Соф'я і як у справу ўмяшаўся папа рымскі, Апошні, нарэшце, дазволіў той шлюб.

На самай справе ніхто не мог прымушаць Соф'ю да пераходу ў іншую веру. Радзівілы, кальвіністы па тых часах (а не каталікі, як піша А. Мельнікаў), былі даволі верацярпімай сям'ёй. Крыштаф Радзівіл, свёкар Соф'і, браў шлюб з яе бабкай — Катажынай Тэньчыньскай, якая была каталічкай, не настойваючы на яе пераходзе ў кальвінізм. Пазней пляменнік Януша Радзівіла, таксама Януш, ажаніўся з ярай каталічкай Катажынай Патоцкай. Калі ж яна памерла, узяў шлюб з праваслаўнай малдаванкай Марыяй, дачкой князя Лупула.

Пытанне пра веравызнанне будучых дзяцей Соф'і і Януша сапраўды ўзнімалася. Бо звычайна дзеці хрысціліся ў веру бацькі. Але Януш даволі хутка згадзіўся на такі пункт шлюбнага кантракта.

Як жа склалася сямейнае жыццё Януша і Соф'і? Той жа А. Мельнікаў паведамляе, што вельмі дрэнна. Бо Януш марнаваў жыццё ў пустых клопатах і забавах, а гэта звыш меры засмучала Соф'ю. Узнікае пытанне: што шаноўны аўтар называв пустымі клопатамі і забавамі? Адразу пасля шлюбу малады муж накіраваўся на шведскую, а пазней — на маскоўскую войны. Такім быў яго рыцарскі доўг перад каралём і радзімай. Доблесці, праяўленай Янушам Радзівілам на ваеннай ніве, прысвечана паэма яго сучасніка, лацінамоўнага беларускага паэта Саламона Рысінскага «Кірмпенстум». Вось радкі з гэтага твора ў рускім перакладзе:

Сломлено не было мужество князя ни вражеским строем,
Ядрами, сталью, огнём и угрозами он не сражён,
Меч не поверг или копий ужасных нещадные жала,
Тлением не испугала в глазах промелькнувшая смерть.

Як бачым, не такім ужо адпетым грэшнікам быў Януш Радзівіл.

А што ж Соф'я? Соф'і даводзіцца падоўгу заставацца адной. Княгіня прысвячае ўсю сябе дабрачыннай дзейнасці. Здаецца, ёй дастаўляе асабістую радасць раздаваць грошы бедным, дапамагаць хворым, апекаваць ганімых адзінаверцаў. Яна шмат ахвяруе на праваслаўныя манастыры і храмы, матэрыяльна падтрымлівае царкоўныя брацтвы, пачынае будаўніцтва некалькіх бальніц для бедных, робіць паломніцтвы па святых мясцінах. Слуцкія цэрквы атрым-

ліваюць ад Соф'і некалькі шыкоўных залатых рыз. Іх княгіня вышывае ўласнымі рукамі.

У сваіх маленнях Соф'я просіць Бога хутчэй скончыць вайну, у якой вымушаны прымаць удзел і яе муж. І каб вярнуліся ўсе воіны да сем'яў. Яна бачыць вакол сябе ганенні на праваслаўных беларусаў. Бачыць, як гвалтоўна людзей адной з ёй веры робяць уніятамі. Як у былых храмах незалежнай беларускай царквы пачынаюць весці службу па новай модзе і гэтым пазбаўляюць храмы душы. Соф'і становіцца страшна ад адной толькі думкі, што такі гвалт могуць учыніць і над яе Случчынай.

І кволая маладая жанчына вырашае абараняць да апошняга тых, хто даверыўся ёй. Не, яна не стала бязвольнай лялькай у руках палітыкаў ад духавенства. Яна асэнсавана выбрала свой шлях.

У адзін з кароткачасовых прыездаў мужа Соф'я шчыра дзеліцца з ім сваім болем. Словы яе выклікаюць здзіўленне. Аказваецца, Януш зусім нічога не ведае пра духоўныя запатрабаванні сваёй жонкі. Яму ўяўляецца там, на полі бою, што ў радавым палацы яго чакае сціплая, ціхая істота.

Але Соф'я — асоба, сапраўдны палітык і гатовы дыпламат! Януш пачынае ганарыцца сваёй жонкай. Ён абяцае Соф'і зрабіць усё, каб дабіцца каралеўскага рашэння аб забароне гвалтоўнага далучэння слуцкіх праваслаўных да уніі.

Януш Радзівіл быў рыцарам, словы якога не разыходзіліся са справамі. І хутка Соф'я атрымала каралеўскую грамату, юрыдычны дакумент, які абараняў правы яе адзінаверцаў.

Ці не з гэтых часін яна адчула ўсю паўнату свайго кахання да Януша? Ці не ў час гэтага духоўнага адзінства Соф'і і яе мужа маладая княгіня адзначыла для сябе, што няма на зямлі большага шчасця?

Неўзабаве да першай радасці далучылася другая: Соф'я адчула, што хутка стане маці. З якім спадзяваннем насіла яна пад сэрцам гэтае дзіця кахання! З нецярпеннем чакаў з'яўлення яго і Януш. Але не было дадзена лёсам здзейсніцца гэтым спадзяванням. 19 сакавіка 1612 г. княгіня памерла, нарадзіўшы нежывое дзіця.

Увесь Слуцк аплакваў добрую сваю гаспадыню, князь быў няўцешным.

Апошнюю з роду Алелькавічаў пахавалі ў Слуцкім Свята-Троіцкім манастыры. Хутка сярод гараджан папаўзлі чуткі пра дзівосы, якія быццам бы адбываюцца ля труны Соф'і. Няшчасная нябожчыца, якая і сама пры жыцці была даволі хваравітай, пасля смерці стала пазбаўляць ад хваробаў іншых жанчын. Цуду ахвотна паверылі, бо памяталі, як слабай Соф'і ўдалося зрабіць для Слуцка тое, што не

кожнаму мужчыне было па сілах. Але кананізавалі слуцкую княгіню значна пазней, пасля Вялікай Айчыннай вайны. Гэты акт быў сімвалічным, бо ім царква прызнала заслугі перад Богам усяго роду Алелькавічаў, які на працягу стагоддзяў, па сутнасці, быў сям'ёй рыцараў праваслаўя. Апошнім з рыцараў гэтых была кволая жанчына. Яна адышла ў нябыт, завяршаючы справу, пачатую яе продкамі. Апошняя зорка ў сузор'і Алелькавічаў згасла, але так, што святло яе назаўсёды засталося ў чалавечай памяці.

## ЦАРЫЦА НА ДЗЕВЯЦЬ ДЗЁН
## МАРЫНА МНІШАК
## (каля 1588—1614 гг.)

В самборском замке, в спальне девичьей
Лукавит римская Мадонна
С Мариной Мнишек о царевиче...
П. Антокольский. «Смута»

Як вядома, цар Іван IV Грозны пакінуў пасля сябе кволае, нежыццяздольнае патомства. Апошнім спадзяваннем рускіх быў царэвіч Дзмітрый, які загінуў у маленстве пры таямнічых, нявысветленых абставінах. На ім абрывалася дынастыя Рурыкавічаў. Да ўлады прыйшоў цар Барыс Гадуноў, які, па чутках тых часоў, нібыта і падаслаў да маленькага царэвіча забойцаў.

У народзе верылі, што Дзмітрый не загінуў, а быў выратаваны добрымі людзьмі і перапраўлены за мяжу. А хутка і сапраўды ў Літве аб'явіўся царэвіч. Гэта быў самазванец, якому воляю лёсу ў далейшым было наканавана цэлы год правіць Расіяй на правах цара.

Большасць расійскіх і савецкіх даследчыкаў цалкам прыпісвае адказнасць за гэта палякам. З'яўленне на рускім прастоле Ілжэдзмітрыя і расцэньваецца як польская інтэрвенцыя. Але факты сведчаць супраць такога меркавання. Па-першае, галоўнымі дзеючымі асобамі гэтых падзей з'яўляліся магнаты Вішнявецкія, Сапегі і Астрожскія. Палякі Мнішкі трапілі ў авантуру даволі выпадкова. Па-другое, польскі кароль Жыгімонт III толькі на словах меў прыхільнасць да самазванца. Паводле сведчання храністаў, кароль зусім не імкнуўся дапамагчы матэрыяльна ці войскам дзёрзкаму плану літоўскіх магнатаў. У барацьбу за рускую карону Жыгімонт уступіў значна пазней, калі Ілжэдзмітрыя I ужо не было ў жывых. Па-трэцяе, калі даверыцца інфармадыі гісторыка Паўла Шастакова, які напісаў цікавае даследаванне пра першага самазванца, то атрымліваецца, што большая частка палякаў, прыведзеных Ілжэдзмітрыем I у Маскву, не з'яўляліся каталікамі. Што ж гэта былі за палякі? Безумоўна, шляхціцы з беларускіх і ўкраінскіх зямель складалі асноўную ўдарную сілу войска самазванца.

Ды і сам самазванец. Хто ён быў? Ні адзін з даследчыкаў не называе яго палякам. Карамзін і Салаўёў схіляюцца да думкі, што пад імем царэвіча Дзмітрыя ў Маскву прыйшоў авантурыст і збеглы манах Грышка Атрэп'еў. Аднак нават яны не настойваюць на гэтай версіі, прыводзячы і іншую, па якой атрымлівалася, што самазванец

— «літовец» па паходжанні, спецыяльна падрыхтаваны езуітамі для таго, каб заняць рускі прастол. Настаўнікамі рыхтуемага кандыдата ў цары называлі і Васіля Канстанціна Астрожскага, і Льва Сапегу, і братоў Вішнявецкіх.

Карамзін, дарэчы, прыводзіць цікавы факт: у адным са сваіх маніфестаў да Жыгімонта III Ілжэдзмітрый даводзіць да ведама польскага манарха, што ён таемна выхоўваўся ў Беларусі ў канцлера Сапегі. Леў Сапега, сапраўды, быў зацікаўлены пасадзіць на рускі прастол свайш цара, каб потым з яго дапамогай вярнуць сабе смаленскія землі, што некалі належалі роду Сапегаў. З гэтай жа мэтай значна пазней састарэлы магнат выхоўваў яшчэ аднаго самазванца, якога марыў аб'явіць сынам Ілжэдзмітрыя I.

Магчыма, Сапега сапраўды быў галоўным натхніцелем разумнага юнака-літвіна, які прыняў імя рускага царэвіча Дзмітрыя. А вось наконт удзелу ў авантуры Вішнявецкіх і Астрожскіх усё дакладна вядома. Канстанцін Васіль Астрожскі, у якога служыў пэўны час самазванец, накіраваў яго ў школу ў мястэчка Гаца, дзе юнак трэніраваўся, каб лепш валодаць канём і мячом. Да падрыхтоўкі новага рускага цара прыклаў руку і Адам Вішнявецкі ў сваім палацы ў Брагіне. Вядома, што самазванец добра разбіраўся ў генеалогіі родаў рускай знаці і гісторыі, быў добрым прамоўцам, спрытным дыпламатам, хутка і прыгожа пісаў, ведаў польскую і рускую мовы, трошкі латынь. Даследчык I. Шэр указвае, што па-руску Ілжэдзмітрый размаўляў з польскім акцэнтам і з прымессю многіх польскіх слоў. Гэта служыць лішнім сведчаннем супраць афіцыйнай версіі, што Самазванец — Грышка Атрэп'еў. Апошні, калі б нарадзіўся і да дваццаці гадоў пражыў на Русі, павінен быў добра валодаць рускай мовай.

Змова супраць Масковіі была гатова. Але на авансцэну падзей уварвалася яшчэ адна асоба — малодшая дачка сандамірскага ваяводы Юрыя Мнішка — Марына. Дарэчы, старэйшая дачка — Урсула была замужам за Канстанцінам Вішнявецкім. Нечакана для многіх Марына стала галоўнай гераіняй добра напісанай літоўскімі магнатамі п'есы.

Расійскія гісторыкі пазней абвясцілі Марыну Мнішак бязвольнай выканаўцай планаў польскага караля і езуітаў. Але гэта меркаванне памылковае. Бо прыгажуня Марына была смелай індывідуалісткай, адзінай паўнапраўнай польскай удзельніцай літоўскай авантуры.

Марына добра ведала пра сваю прыгажосць і таму марыла пра славу і ўсеагульнае пакланенне. Авантурызм быў у гэтай дзяўчыны ў крыві. Яшчэ яе бацька ў часы сваёй маладосці скандальна праславіўся тым, што зводзіў аўдавелага караля Жыгімонта II Аўгуста з ва-

ражбіткамі і неўзабаве прадставіў яму чарнакніжніка Твардоўскага, які быццам спрабаваў выклікаць з таго свету дух памёршай жонкі — Барбары Радзівіл.

З Ілжэдзмітрыем Марына пазнаёмілася ў Самборы (зараз — Львоўская вобласць), у палацы бацькі, куды стары Мнішак запрасіў самазванца ў госці.

Бацька расказаў Марыне пра планы родзічаў Вішнявецкіх, звязаныя з гэтым юнаком, пра тое, што, нягледзячы на нязнатнае, нешляхетнае паходжанне, ён можа хутка сесці на рускі трон. Са слоў бацькі Марына даведалася, што да самазванца ўжо пачынаюць сцякацца з усяго Вялікага княства Літоўскага адчайныя галовы. Тойсёй і з польскіх шляхціцаў, спадзеючыся на багатую здабычу, паспяшаўся ўстаць пад сцягі «царэвіча Дзмітрыя». Мнішку, які заграз па вушы ў даўгах, не было чаго страчваць. Але чым жа, акрамя Марыны, мог ваявода сандамірскі, стараста львоўскі і кіраўнік каралеўскіх эканомій у Самборы (пасады гучныя, але нікчэмныя), заахвоціць чалавека, які, магчыма, хутка стане царом? Марына зразумела ўсё з паўслова.

Пакідаючы пасля нядоўгага гасцявання Самбор, Ілжэдзмітрый ужо не ўяўляў сябе без Марыны. Яна зрабіла ўсё, каб будучы рускі цар страціў галаву.

Вельмі хутка, нягледзячы на папярэджванні сваіх літоўскіх сяброў, Ілжэдзмітрый аб'яўляе дачку Мнішка сваёй нявестай. Ён прыспешвае з вяселлем. Марына ж не хоча прагадаць. Яна ведае, што ставіць на бязроднага авантурыста. Але аддаць сябе яна згодна толькі цару. На афіцыйных заручынах, якія, паводле падання, адбыліся ў маі 1604 г. у рэзідэнцыі Астрожскіх — Астрозе, Марына ставіць умову свайму жаніху: шлюб адбудзецца толькі ў Маскве пасля прызнання рускімі свайго «законнага цара Дзмітрыя».

Мнішак жа патрабаваў ад будучага зяця падпісаць загадзя падрыхтаваны ім шлюбны дагавор, у які, дарэчы, увахodзілі пункты, што абавязвалі Ілжэдзмітрыя пры ўступленні на трон неадкладна выдаць мільён злотых на ўплату даўгоў Мнішка і на дарогу сваёй нявесты да Масквы, выслаць Марыне ў якасці шлюбнага падарунка славутае царскае срэбра з маскоўскай скарбніцы. Яшчэ будучы цар павінен быў падарыць Марыне старыя крывіцкія гарады Ноўгарад і Пскоў з усімі паветамі і прыгарадамі, каб «яна магла разважаць ды меркаваць у іх самаўладна». Другой граматай, падпісанай 12 чэрвеня гэтага ж года, канчаткова зачараваны Марынай «царэвіч» у парыве ўдзячнасці аддаваў Юрыю Мнішку ў спадчыннае ўладанне Смаленскае і Северскае княствы.

Апошні дакумент выклікаў выбух незадаволенасці ў Льва Сапегі, які зараз не мог ужо ў выпадку ўдачы Ілжэдзмітрыя разлічваць на вельмі жаданы ім Смаленск. Ён адкрыта абвінаваціў Мнішкаў ва ўсіх смяротных грахах і адышоў ад паплечнікаў самазванца. Апошні страціў надзейнага апекуна і дарадчыка.

23 кастрычніка 1604 г. пачалося ажыццяўленне добра прадуманай авантуры. Невялічкае войска самазванца, якое налічвала 15 тысяч воінаў, перайшло Днепр вышэй Кіева і хутка ўступіла на рускія землі. Тут да яго далучыліся рускія. Яшчэ больш павялічылі войска Дзмітрыя данскія і запарожскія казакі.

На працягу некалькіх месяцаў самазванец змагаўся за прастол. Канчаткова справа вырашылася на яго карысць пасля раптоўнай смерці цара Барыса Гадунова.

12 чэрвеня 1605 г. новы цар трыумфальна ўехаў у Маскву, папярэдне загадаўшы задушыць членаў сям'і Барыса Гадунова, акрамя юнай Ксеніі, дачкі нябожчыка. Яе ён зрабіў сваёй наложніцай.

Нельга сказаць, што Марыну Мнішак не шакіравала апошняя навіна. Гэта была не рэўнасць, але звычайная грэблівасць. Марыну не маглі не адштурхнуць падобныя паводзіны жаніха. Ды, урэшце, яна ніколі яго не любіла.

Гордая шляхцянка змагалася з сабою, вагаючыся паміж жаданнем неадкладна сарвацца з месца, каб кінуцца ў абдымкі чалавека, які здабыў для яе карону, і паслаць яму поўную годнасці адмову, бо яго сувязь з Ксеніяй Гадуновай пляміла яе, Марыны, гонар. Так і не вырашыўшы нічога, дачка Юрыя Мнішка напісала ліст жаніху. Яна патрабавала выслаць з Масквы Ксенію. Марына была непахіснай, нягледзячы на довады бацькі і маленні Ілжэдзмітрыя, якія даносіліся з Масквы. Перагаворы наконт лёсу Гадуновай цягнуліся каля года. Невядома, чаму Ілжэдзмітрый вагаўся, прымаючы рашэнне пастрыгчы Ксенію ў манастыр. Можа, прадчуваў крывавую развязку, якую наблізіла з'яўленне ў Маскве царскай нявесты.

Марына Мнішак абставіла яго з вялікай помпай. Яна ехала ў карэце, што была абабіта чырвоным атласам і заслана вышытымі жэмчугам аксамітнымі падушкамі. У карэту былі запрэжаны дванаццаць коней. Суправаджала будучую царыцу шматлікая світа і некалькі тысяч багата апранутых узброеных гусараў. Пад Вязьмай царскую нявесту сустрэў прадстаўнік жаніха, дыпламат Афанасьеў, які ўручыў ёй алмазную карону.

У той дзень Марына была шчаслівай, слава кружыла ёй галаву. Яна не падазравала, што сама вязе сабе суровы прыгавор; на каленях у яе ў той дзень ляжаў віншавальны ліст ад самога папы рымскага,

які яна з гонарам хацела прадэманстраваць жаніху. У лісце гэтым, між іншым, былі словы: «Хай будзеш ты, дачка, Богам блаславёная, ды народзяцца ад цябе сыны блаславёныя, якіх жадае святая маці наша царква, якіх абяцае набожнасць бацькоўская, самыя старанныя распаўсюджвальнікі веры Хрыстовай».

Невядома як, але гэты ліст трапіць у рукі баярына Шуйскага, гэтаксама, як і дакумент, што гарантаваў Мнішкам уладу над рускімі гарадамі.

Прыезд Марыны ў Маскву стане пачаткам канца. Яна адразу не спадабалася рускім. Саманадзейная, ганарлівая, не валодаючая рускай мовай, чужая... Дзмітрыя ўспрынялі як свайго, але навошта рускаму цару жаніцца з чужаземкай. Па рускіх звычаях царыцу трэба было выбіраць сярод найпрыгажэйшых баярскіх дачок, сярод праваслаўных. Марына ж для рускіх была басурманка, рымская ерэтычка, што значна горш за язычніцу.

А яшчэ яна патрабавала абавязковай каранацыі. Зноў — непаразуменне, бо ніколі яшчэ тут не каранавалі жонак цароў. Марына пажадала вянчацца ў раскошнай французскай сукенцы. Рускія адхрышчваліся ад гэткай непрыстойнасці і патрабавалі, каб нявеста апранула сарафан і какошнік. І дарэмна Ілжэдзмітрый І і Марына прыводзілі аргументы на карысць больш прыгожага і больш зручнага адзення.

Да таго ж жаніх вельмі няўдала выбраў дзень вянчання, у пятніцу, на Міколаў дзень. Гэта было супраць звычаяў рускай праваслаўнай царквы. У Маскве наспяваў мяцеж.

Пачаўся ён праз дзевяць дзён пасля вянчання Дзмітрыя і Марыны. Яшчэ не скончыліся вясельныя піры. Марына літаральна ап'янела ад славы, улады, ліслівага шанавання, калі раптоўна ў Крэмль уварваўся раз'юшаны натоўп.

Стары Юрый Мнішак, яго юны сын, шляхціцы, якія аказаліся побач, да апошняга абаранялі ўваход у пакой, куды кінулася хавацца ад народнага гневу спалоханая Марына разам са сваімі фрэйлінамі. Ілжэдзмітрый з шабляю ў руках, у суправаджэнні нешматлікіх верных слуг, кінуўся насустрач нападаючым. Ён загінуў з годнасцю рыцара.

Марыну выратавала ад смерці старая обер-гофмайстэрына. Яна схавала дарыцу пад сваю шырокую спадніцу. Значна пазней, калі страсці ўжо больш-менш супакоіліся, Марына трапілася некаму з мяцежнікаў на вочы. Натоўп доўга здзекаваўся з прыгожай «царыцы». Разам са сваімі вернымі фрэйлінамі яна зазнала ў той дзень гвалт і прыніжэнні. Але жыццё ім было захавана.

Марыну разам з бацькам і братам, якія таксама трапілі ў палон, саслалі ў Яраслаўль. Праз пэўны час прыгожай чужаземцы прапанавалі волю ўзамен адрачэння ад царскага тытула. Яна наадрэз адмовілася. У сэрцы яе незагойнай ранай жыла крыўда. Але турэмшчыкі зноў і зноў напаміналі аб сваёй прапанове. І аднойчы паланянка здалася. Магчыма, здрадзіць самой сабе Марыну прымусіла адказнасць за жыццё родных, якіх трымалі ў той жа турме. Марына падпісала адрачэнне, і Мнішкаў адпусцілі. Яны заспяшаліся ў Літву.

Як жа развіваліся падзеі далей? У гісторыі існуюць дзве версіі. Паводле адной, сям'я авантурыстаў паспяхова дабралася да Самбора. Але хутка да Юрыя звярнуліся адчайныя казакі Ісая Балотнікава. Гэты атаман быў адным з першых, хто прысягнуў на вернасць Ілжэдзмітрыю. І ён заставаўся верным сваёй клятве нават пасля яго гібелі. Казакі лічылі незаконным выбранне новага цара-баярына Васілія Шуйскага. Яны распусцілі чуткі, быццам цар не загінуў. І яго імем пачалі змагацца супраць Шуйскага. Але казакам быў патрэбны чалавек, які прыняў бы на сябе імя Дзмітрыя. І яны паслалі ганца да Мнішкаў з просьбаю знайсці такога. Стары Юрый нядоўга разважаў. Ён параіўся з Вішнявецкімі і Астрожскімі, і Ілжэдзмітрый II знайшоўся. Ён быў школьным настаўнікам са Шклова. У лагер паўстанцаў ён прыбыў разам з Марынай, якая публічна пацвердзіла, што гэта — яе муж.

Паводле другой версіі, Ілжэдзмітрый II з'явіўся без дапамогі Мнішкаў, самастойна і значна раней, чым Юрый і Марына атрымалі свабоду. Даведаўшыся пра гэта, прыгажуня Мнішак і яе бацька з паўдарогі збеглі ад аховы, якая павінна была канваіраваць былых палонных да літоўскай граніцы, і накіравалі сваіх коней у Тушына, дзе знаходзіўся штаб новага Ілжэдзмітрыя.

«Тушынскі злодзей» (так афіцыйныя ўлады ахрысцілі новага самазванца) насцярожыўся, даведаўшыся, што ў яго лагеры з'явіліся цесць і жонка папярэдніка. Ён не ведаў, як паставяцца Мнішкі да яго асобы, і баяўся выкрыцця. Але першыя ж хвіліны сустрэчы рассеялі ўсе яго страхі. Юрый Мнішак «прызнаў» у самазванцы зяця і ўрачыста «вярнуў» яму «законную жонку». «Тушынскі злодзей» ледзь не ашалеў ад радасці, бо зараз яго дамаганні набывалі выгляд законных.

Ілжэдзмітрый II быў прамой супрацьлегласцю першаму. Гісторык А. С. Трачэўскі апісвае яго як «бяздарнага, некультурнага мужыка, бруднага і брыдкаслоўнага, якога палякі дарэмна навучалі добрым манерам». Калі першага самазванца Марына не кахала, дык другім яна проста грэбавала. Але зганьбаваны гонар жанчыны патрабаваў помсты. І Марына таемна абвянчалася з гэтым брыдкім чалавекам.

Праз пэўны час яна нават нарадзіла яму сына, якога назвалі Іванам. З лёгкай рукі цара Шуйскага гэтае дзіця паўсюдна сталі клікаць «зладзюшкам».

Авантура «тушынскага злодзея» не ўдалася. Неўзабаве яго войска было разбіта Шуйскім. І прыкладна ў гэты ж час у барацьбу за рускую карону ўступіў Жыгімонт III. Ілжэдзмітрый II з купкай сваіх паплечнікаў збег у Калугу. Марына доўга не магла паверыць, што гэта — канец.

Пакідаючы Тушына ў 1610 г., апранутая ў воінскае адзенне, з лукам за плячыма, яна паспела адправіць ліст у Літву. У ім гэтая жанчына пісала:

«Воляю Божай, маскоўская царыца, уладарка многіх народаў, не магу вярнуцца ў званне польскай шляхцянкі, ніколі не захачу гэтага».

З адной служанкай і некалькімі казакамі Марына спяшаецца ў Калугу, каб ізноў далучыцца да чалавека, які ніколі не быў ёй жаданым і які зараз больш не меў ніякай апоры ні ў Маскве, ні ў Літве.

Даследчык рускай гісторыі П. Шастакоў піша: «Лёс даў ёй апошнюю магчымасць. У непраглядную мяцеліцу Марына збілася са шляху, і дарога вывела яе ў бок супрацьлеглы, да Дзмітрава, дзе засеў, адбіваючыся ад войскаў князя Куракіна, Ян Сапега, пляменнік канцлера Льва, адчайны шукальнік прыгод, высланы за буянства з уласнай айчыны».

Верны сваёй прысязе самазванцу, ён маліў «пані царыцу» пакінуць гэту «варварскую краіну», пакуль не позна. Ян Сапега абяцаў даць Марыне сваіх людзей, якія даставяць яе на радзіму, абяцаў сам як рыцар абараняць жонку свайго сюзерэна, прыкрываць яе адыход, калі за ёю пагоняцца. Марына адмовілася. Яна жадала памерці ў зямлі, царыцай якой была аднойчы абрана.

Яшчэ амаль год Марына разам з Ілжэдзмітрыем II змагалася за ўладу. За гэты час нездаволеныя рускія паспелі скінуць Шуйскага, дамовіцца з Жыгімонтам III аб закліку на рускі прастол польскага каралевіча Уладзіслава, упусціць палякаў у Маскву. Літоўская авантура заканчвалася, пачыналася польская інтэрвенцыя.

У верасні 1610 г. Ілжэдзмітрый II быў забіты ў Калузе падчас палявання князем Пятром Урусавым. Марына зноў засталася адна.

І тут з'явілася каханне, адзінае і горкае. Малады казак Іван Мартынавіч Заруцкі быў адным з самых верных паплечнікаў «тушынскага злодзея». Пасля яго гібелі Заруцкі адкрыў свае пачуцці Марыне, якой было яшчэ толькі дваццаць два гады. Ён прапанаваў царыцы руку і сэрца, хаця гэта быў не зорны час славы, але час няшчасця і пакутлівых роздумаў. Марына не магла не адгукнуцца на покліч сапраўд-

нага пачуцця. Заруцкі пакляўся зрабіць усё магчымае, каб вярнуць Марыне прастол. Яна ж — маці «законнага спадчынніка», «царэвіча Івана».

Новы муж Марыны Мнішак, на гэты раз неафіцыйны, павёз яе ў Паўночна-Усходнія стэпы, дзе пачаў збіраць пад сцягі «царэвіча Івана» людзей адчайных, якім не было чаш страчваць і якія заўсёды шукалі прыгод. Намаганнямі менавіта Заруцкага ў час, калі Масква прысягала Уладзіславу, некаторыя рускія гарады давалі клятву вернасці Івану Дзмітрыевічу.

Але хутка Мінін і Пажарскі ўзнялі барацьбу за вызваленне Радзімы і гэтым паспрыялі ўзыходжанню на прастол Міхаіла Раманава. У 1613 г. мяцежны атаман Іван Заруцкі пацярпеў паражэнне пад Варонежам і пасля гэтага збег з Марынай і яе сынам у Астрахань.

І ўсё ж Заруцкі не страчваў надзеі зрабіць сваю каханую царыцай. Малады атаман спрабуе стварыць нешта накшталт Астраханскай дзяржавы. З гэтай мэтай ён уваходзіць у зносіны з персідскім шахам, дабіваецца яго заступніцтва. Адначасова Заруцкі і Мнішак заключаюць дыпламатычныя дагаворы з нагайскімі татарамі і туркамі, рассылаюць «прелестные» лісты волжскім і данскім казакам. Але лесам не дадзена было мужу і жонцы давесці да канца сваю дзёрзкую задуму. У 1614 г. у Астрахані ўспыхнула народнае паўстанне. Заруцкі і Марына ратаваліся ад яго на Яіку. А там мясцовыя казакі выдалі іх маскоўскім уладам.

Дзяржаўных злачынцаў чакала смерць. Заруцкі прыняў яе на эшафоце. Гэты мужны чалавек быў пасаджаны на кол. Апошнім яго словам было імя каханай жанчыны.

Чатырохгадовага сына Марыны задушылі, а пасля павесілі на гарадской браме.

Наконт канца Марыны даследчыкі спрачаюцца. Паводле адных звестак, яна была гвалтоўна пастрыжана ў манашкі і заключана ў адзін з маскоўскіх манастыроў; паводле другіх — кінута ў турму, дзе і памерла ў тым жа 1614 г.

Ёсць версія, што гордая дачка Юрыя Мнішка ўзышла на эшафот разам з Іванам Заруцкім, і кат адсек ёй галаву, якую яна так і не схіліла ні перад кім. Цікава, якімі былі апошнія словы жанчыны, што дзевяць дзён была рускай царыцай, а пасля дзевяць гадоў змагалася за свае правы? Маўчыць гісторыя...

## НЕЙБУРГСКАЯ ПФАЛЬЦГРАФІНЯ

## ЛЮДВІКА КАРАЛІНА РАДЗІВІЛ (1687—1695 гг.)

Прыгажосцю жанчыны мужчын паланяюць.
Сілай духоўнай долю мяняюць.
Край наш трымаецца на апантаных.
*Д. Бічэль-Загнетава. «Птахамі продкі былі»*

З сярэдзіны XVII і ўсё наступнае стагоддзе Германія «пастаўляла» нявест для знатных дваранскіх радоў усёй Еўропы. Маладыя немкі, шматлікія герцагіні і прынцэсы ласкутнай Германіі іншы раз воляю лёсу станавіліся самаўладнымі гаспадынямі зялікіх дзяржаў (так, дарэчы, здарылася ў Расіі з прынцэсай Сафі Фрыдэрыкай Ангальт-Цэрбскай, якая ўвайшла ў гісторыю пад імем Кацярыны II). Нямецкія нявесты тых часоў карысталіся попытам не толькі таму, што дзякуючы феадальнай раздробленасці гэтай дзяржавы існаваў вялікі выбар іх, але і сваім выхаваннем. Многія з іх — жонкі еўрапейскіх дваран і манархаў — праславіліся сваім розумам, эрудыцыяй, добрым густам, шчаслівым для сямейнага жыцця характарам. Германія па праву ганарыцца гэтымі жанчынамі.

Але не меншым павінен быць гонар беларусаў за сваю зямлячку, якая, менавіта ў гэты час трапіла ў слаўную адукаванасцю жанчын Германію ў якасці нявесты. Сваімі справамі беларуская князёўна Людвіка Караліна Радзівіл прыраўняла сябе да тых немак, пра якіх мы і зараз успамінаем з павагай. Германія прыняла яе як сваю, бо яна цудоўна ўпісвалася ў размераны, памяркоўны рытм жыцця краіны філосафаў. І тым не менш Людвіка Караліна была прадстаўніцай іншай культуры, дачкой іншага народа.

Нарадзілася яна 27 лютага 1667 г. у сям'і магната так званай Біржаўскай лініі Радзівілаў — Багуслава. Немаўля адразу ж страціла маці. Жонка Багуслава, Ганна Марыя, не вынесла цяжкіх родаў. Праз два гады памёр і малады прыгажун Багуслаў. Людвіка Караліна засталася сіратою. На шчасце, пра лёс дзяўчынкі вырашылі паклапаціцца яе родзічы ў Германіі. Так маленькая князёўна трапіла ў Берлін, у сям'ю брандэнбургскага курфюрста. Яе маяратам (радавым намесцем), пакуль Людвіка Караліна не вырасце, па завяшчанні Багуслава Радзівіла, павінны былі кіраваць два аканомы Слуцкага княства. Ім дапамагала калегія саветнікаў і вялікая колькасць чыноўнікаў. «Ваенным губернатарам» з'яўляўся старэйшы аканом. Яму падпарадкоў-

валіся каменданты і гарнізоны гарадоў. Фінансавымі справамі займаўся камермайстар»,— піша А. П. Грыдкевіч у сваёй кнізе «Древний город на Случи».

Сістэма кіравання маяратам маЗіенькай спадчынніцы, як бачым, была даволі дасканалай, і таму яе падданыя маглі не хваляваццa наконт свайго лесу. Але яны ўсё ж марылі, каб іх гаспадыня знаходзілася бліжэй да іх. Усе вельмі шкадавалі маленькую сіротку і хацелі быць ёй карыснымі. У Слуцку знаходзілі падабенства паміж лесам Людвіка Караліны і Соф'і Алелькавіч, якая таксама вельмі рана страціла бацькоў. У далейшым падабенства лёсаў Слуцкай святой-асветніцы і спадчынніцы Багуслава Радзівіла стане яшчэ большым.

Ішлі гады. Князёўна вырасла і папрыгажэла. Да таго ж яна выклікала сімпатыю ўсіх, хто знаёміўся з ёю, сваім розумам і памяркоўнасцю. Нямецкія родзічы Людвікі Караліны вельмі прывязаліся да добрай, паслухмянай дзяўчыны і не захацелі расставацца з ёю. Таму паспяшаліся выдаць яе замуж за маркграфа брандэнбургскага.

Але, застаўшыся жыць у Германіі, Людвіка Караліна не забывала пра Радзіму. З Берліна яна вядзе перапіску з аканомамі, клапоціцца пра жыхароў Слуцка, Копыся, Капыля, Любчы, Кейданаў, Біржы, Койданава, Смалявіч, Невеля, Себежа — гарадоў, якія знаходзіліся ў яе ўладаннях.

Вядома, што ў 1686 г. дэлегацыя капылян ездзіла ў Берлін, каб дабіцца нейкіх прывілей. Дзевятнаццацігадовая гаспадыня азнаёмілася з іх хадайніцтвам і не адмовіла ім.

Неўзабаве маладая маркграфіня аўдавела. Але ўдаўство гэта было нядоўгім. На прывабную жанчыну звярнуў увагу пфальцграф нейбургскі Карл Філіп. Шлюбны саюз, заключаны паміж імі, вельмі занепакоіў буйнейшых магнатаў Літвы і Беларусі. Іншыя з іх гатовы былі расцэньваць учынак дачкі Радзівіла ледзь не як здраду. Першы шлюб з немцам яшчэ можна было дараваць, бо адбыўся ён усё ж больш па ініцыятыве апекуноў Людвікі Караліны; другі ж поўнасцю залежаў ад рашэння маладой жанчыны. Дык навошта яна ізноў абрала іншаземца? Пагроза таго, што беларускія землі пасля смерці Людвікі Караліны пяройдуць ва ўладанне немцаў, была яўнай. Занепакоіліся Радзівілы нясвіжскай лініі, а таксама Сапегі. Абодва сямейства сталі рабіць пэўныя захады, каб завалодаць Слуцкам і Капылём. На гэтай глебе паміж імі сталі ўсё часцей узнікаць канфліктныя сітуацыі. Людвіку Караліну ўсё гэта непрыемна здзіўляла. Яна не жадала, каб іншыя ўмешваліся ў яе асабістае жыццё, таксама, як і ў справы кіравання.

На Радзіме яе заўсёды сустракалі з непадробнай радасцю. Спецыяльна для любімай гаспадыні магістрат Слуцка збіраў з гараджан

асаблівы налог на «ўязны падарунак». Людвіка Караліна была ў курсе ўсіх спраў сваіх падданых і заўсёды імкнулася быць з імі добрай і справядлівай.

Асабліва многа ўвагі нейбургская пфальцграфіня ўдзяляла справе асветы і адукацыі. Яна пры мала вельмі блізка да сэрца патрэбы вернікаў. І, што асабліва сімпатычна, дапамагала не толькі сваім аднаверцам-кальвіністам, але і праваслаўным. Як і яе папярэдніца Соф'я Алелькавіч, Людвіка Караліна шмат сродкаў ахвяравала на Слуцкую царкву і праваслаўны манастыр. Дарэчы, у 1690 г, ёй давялося падмацаваць прывілеі, здабытыя для праваслаўнага насельніцтва намаганнямі Соф'і Алелькавіч. Прыхільнікі уніі, якія зноў рабілі намаганні ўвесці яе ў Слуцку і Капылі, атрымалі рашучую адмову з вуснаў Людвікі Караліны. За гэта архімандрыт Серапіён Волхаўскі ад імя ўсіх праваслаўных Слуціса дзякаваў ёй.

У далёкім Гейдэльбергу, сталіцы яе мужа, Людвіка Караліна ўсімі сіламі падтрымлівала рэфармацкі рух у Беларусь Яна выступала апякункай кальвінісцкіх збораў Слуцка, Мінска і Койданава. Маладая жанчына лічыла неабходным, каб яе землякі мелі магчымасць карыстацца паслугамі шырокаадукаваных пастараў-кальвіністаў. І каб гэтыя пастары былі не з ліку чужаземцаў. За яе грошы (дванаццаць стыпендый) беларускія кальвіністы атрымалі магчымасць накіроўваць у Кёнігсбергскі універсітэт для навучання тых, хто бачыў сваім прызваннем несці святло веры людзям.

Каб павялічыць колькасць высокаадукаваных людзей з ліку сваіх беларускіх падданых, Людвіка Караліна накіроўвала грашовую дапамогу здольным да навук юнакам, выпускнікам Слуцкай кальвінісцкай гімназіі. Гэтыя грошы яны выкарыстоўвалі для працягу навучання на больш высокім узроўні ў Оксфардзе, Берліне, Франкфурце-на-Одэры.

Магчыма, мадэль квітнеючай Слуцкай дзяржавы, створаная ў думках Людвікай Каралінай, і нагадвала ў чымсьці ідэал нямецкіх філосафаў. Гэта было не так важна, як тая карысць, якую прынеслі біржаўскім уладанням гады кіраўніцтва імі дачкой Багуслава Радзівіла.

Людвіка Караліна павольна ператварала свае беларускія ўладанні ў княства навукоўцаў і філосафаў.

Яна была занадта маладой, каб убачыць тую небяспеку, што ўбачылі нясвіжскія Радзівілы і Сапегі. А можа, проста з уласцівай маладосці самаўпэўненасцю не магла нават уявіць сабе, што калісьці яе не стане, і лёс Слуцка, Капыля і іншых гарадоў і вёсак пяройдзе ў рукі людзей абыякавых. Яна збіралася жыць доўга. Але памерла 23 сакавіка 1695 г. у свае дваццаць восем гадоў...

Уладальніцай біржаўскіх зямель стала маленькая дачка Людвікі Караліны Элізабэта Аўгуста. Маці не дадзена было выхаваць яе ў павазе да Беларусі: калі Людвіка Караліна памерла, яе дачцэ было толькі два гады. Таму сувязь з радзімай маці ў Элізабэты Аўгусты перарвалася. Яе ж дзеці наогул былі абыякавымі да сваіх беларускіх падданых.

Толькі ў 1744 г. беларускія ўладанні нейбургскай пфальцграфіні здолелі выкупіць нясвіжскія Радзівілы. У кіраванні імі яны павялі ўжо некалькі іншую палітыку. З іх боку таксама было шмат добрых пачынанняў, але нішто не магло прымусіць жыхароў Слуцка, Капыля, Койданава забыць дзёрзкасць задум і маладую энергію Людвікі Караліны.

## УЗЫХОДЖАННЕ

## МАРТА СКАЎРОНСКАЯ (КАЦЯРЫНА I) (1686—1727 гг.)

...Екатеринин лик
Был щедр и кроток и прекрасен.
*М. Ломоносов. «Ода на день восшествия на престол императрицы Елисаветы Петровны»*

Прынц альбо кароль пакахаў бедную сялянку і ажаніўся з ёй. Гэты сюжэт даволі распаўсюджаны ў казках. А ў жыцці? Успомнім словы адной шырокавядомай песні. Той самай, у якой гаворыцца, што каралі могуць усё, акрамя шлюбу па каханню. А між тым адна наша зямлячка, якая нарадзілася ў сялянскай сям'і, стала жонкай манарха. Прычым нават не караля, а імператара. Звалі яго Пётр, а яе Марта.

Нарадзілася Марта 5 красавіка 1686 г. на Віцебшчыне. Бацька яе Самуіл Скаўронскі (паводле іншых звестак Скаўрон) быў католікам. Таму і дачка атрымала пры хрышчэнні каталіцкае імя. У хуткім часе Самуіл памёр. Яго жонка з дзецьмі перабралася ў Ліфляндыю, якая ў той час належала Швецыі. Там яна ўладкавалася прыслугай да пратэстандкага пастара Даўта. Падчас эпідэміі чумы пастар і большасць яго дамачадцаў, у тым ліку маці Марты, памерлі. Пастар Глюк, які наведаў праз пэўны час жытло свайго памерлага калегі, знайшоў там цудам выжыўшую дзяўчынку. Ён узяў яе пад сваю апеку. Марту выхоўвалі разам з пастарскімі дзецьмі, аднак не як роўную ім, а як служанку. Выхаванне абмяжоўвалася навучанню майстэрству весці гаспадарку ды рукадзеллю. Марта не навучылася нават пісаць. У шаснаццаць гадоў дзяўчына выйшла замуж за зухаватага шведскага драгуна. А на другі дзень пасля вяселля капрала Іагана Раабе — яе мужа адазвалі ў полк у сувязі з выступленнем у паход. Саламяная ўдава засталася жыць у пастара.

У гэты час Пётр I ваяваў са шведамі за Прыбалтыку. У 1702 г. рускія войскі наблізіліся да Марыенбурга. Шведскі камендант здае яго без бою. Сярод здабычы, якую захапілі пераможцы, апынулася і Марта. З гэтага моманту і пачынаецца яе ўзлёт. Праўда, спачатку было падзенне, бо яна трапіла ў рукі унтэр-афіцэра. У час гулянкі, якую закацілі ў гонар перамогі, Марту ўбачыў фельдмаршал Б. П. Шарамецьеў. У гэтага састарэлага аматара маладых дзяўчат прыгажуня

прабыла таксама нядоўга. Звёў яе прайдзісвет і праныра Аляксашка Меншыкаў. Ён быў зачараваны сваёй здабычай. Невядома, як бы разгортваліся далейшыя падзеі, але ў 1703 г. у госці да вернага паплечніка прыязджае Пётр I. Ён заўсёды быў аматарам добра паесці. Таму ўсюды, куды прыязджаў, яго чакаў накрыты стол. Гэтак жа было і цяпер. Паміж прыёмам чаркі і закускай цар заўважыў сярод тых дзяўчат, якія прыслужвалі за сталом, Марту. А самадзержац усерасійскі любіў не толькі паесці. Ён быў, як пісаў яго асабісты доктар Арэскін, «...одержимъ легіономъ духовъ сластолюбія». Дык ці трэба здзіўляцца, што Пётр звярнуў у вагу на прыгажуню і вырашыў заначаваць у Меншыкава? Пасля вячэры цар загадаў гаспадару, каб Марта пасвяціла яму ў спальні. Што заставалася беднаму святлейшаму князю? Выканаць загад...

Здавалася б, мімалётны амур... Тым больш што на развітанне Пётр даў дзяўчыне залатую манету. Але на гэтым справа не скончылася. Пры наступнай сустрэчы яна ўразіла яго сваёй знаходлівасцю і розумам. Ён забраў Марту ў «мін херца» і ў хуткім часе адправіў з надзейным гвардзейскім афіцэрам у Маскву. Марту пасялілі на ўскраіне. Дом, у якім яна жыла, быў вельмі сціплы звонку і пышна абстаўлены знутры.

Спачатку Пётр ездзіў да сваёй каханкі таемна. Але мала-памалу яго захапленне перарасло ў значна больш глыбокае і сур'ёзнае пачуццё. Ён перастаў хавацца. Ды ў рэшце рэшт доўга ўтойваць гэта было немагчыма.

У 1708 г. Марта прымае праваслаўную веру. Яе новае імя — Кацярына. Паколькі хросным яе быў царэвіч Аляксей (сын Пятра ад першага шлюбу), то імя па бацьку новахрышчанай дасталося «Аляксееўна». У тым жа годзе яна нараджае дачку Ганну; у наступным — Лізавету. Гэтыя падзеі яшчэ больш звязваюць каханых. Пётр, які даўно перастаў хаваць свае адносіны з Кацярынай, даволі часта прыязджае ў яе дом не адзін, а з цэлай світай паплечнікаў. Яны абмяркоўваюць пры ёй свае праблемы, вырашаюць справы. Нярэдка ўдзел у гэтых размовах прымае і гаспадыня. Яе выказванні заўсёды напоўнены логікай, розумам; меркаванні — дакладныя і трапныя. Яны, на здзіўленне саноўнікаў, прымушаюць глядзець на тое ці іншае пытанне, якое абмяркоўвалася ў дадзены момант, зусім з іншага боку. Прычым цар, які звычайна не пераносіў, калі жанчыны ўмешваюцца са сваімі прапановамі ў мужчынскую размову, улазяць у сур'ёзныя справы, быў вельмі задаволены і паводзінамі Кацярыны, і ўражаннем, якое яе розум і памяркоўнасць робяць на гасцей.

З гэтага часу Кацярына зрабілася настолькі неабходнай Пятру, што ён амаль не разлучаецца з ёю. Зразумела, што не толькі прыгажосцю сваёю прывязала гэта жанчына цара, але і асаблівасцямі характару. Аўтар кнігі «Петр Великий и женщины» С. Лібровіч заўважае: «... Кацярына ... была прыдатным Пятру чалавекам: хутчэй сэрцам, чым розумам, адчувала яна ўсе густы, погляды і задачы Пятра, адгукалася на ўсё, што цікавіла мужа, і з вялікай энергіяй умела быць усюды, дзе быў муж, пераносіць усё, што пераносіў ён. Яна з'яўлялася ў поўным сэнсе рахманай наплечніцай Пятра; да тонкасці вывучыўшы характар цара, яна ўмела дагадзіць свайму велічнаму сябру ... умела ўзрадаваць яго, падбадзёрыць, яна адна валодала здольнасцю супакоіць і ўтаймаваць яго». Сапраўды, Пятру І з яго няўрымслівым характерам, з яго натрэбнасцю ўсё рабіць самому неабходна была менавіта такая жанчына, якая б магла раздзяліць з ім і цяжар далёкіх надарожжаў, і неўладкаванасць вандроўнага быту. Такая, якая б зразумела альбо зрабіла выгляд, што зразумела яго мары і імкненні. На гэта не была здатна якая-небудзь выхаваная ў цераме баярская дачка. А вось дзяўчына з народа, якая да таго не паепытала ў жыцці ўсялякага ліха, надышла. Розум жа яе і жаночая інтуіцыя вельмі дапамаглі цару і рускай арміі ў час гэтак званага Пруцкага паходу, падчас якога яна знаходзілася побач з Пятром.

Не меншым, чым Швецыя, а можа, нават і большым ворагам Расіі тых часоў была Турцыя, якая афіцыйна падтрымлівала мір, але цішком рыхтавалася да барацьбы. Турэцкія войскі маглі абрынуцца на паўночнага суседа ў той час, калі вялася вайна з Карлам XII. Але султан не пажадаў гэтага. Ён чакаў, калі і рускія, і шведы вычарпаюць свае сілы ва ўзаемнай барацьбе. Перамога рускай арміі пад Палтавай была нечаканасцю. Узмацненне Расіі выклікала нездавальненне, бо султан не жадаў, каб яшчэ больш пашырыўся ўплыў маскавітаў на Рэч Паспалітую. Да таго ж падбухторвалі туркаў да нападу на Расію Аўстрыя, Францыя і Карл XII, які пасля паражэння пад Палтавай знайшоў прыстанішча ў Турцыі.

У снежні 1710 г. Турцыя абвясціла вайну. У той жа месяц васалы султана — крымскія татары ажыццявілі набег на Харкаў і Белую Цэркаў. Гарадоў гэтых яны не змаглі захапіць, але край спустошылі ўшчэнт.

Пётр выступіў супраць ворагаў. Ён накіраваўся да Дуная. Рускі цар разлічваў падняць на паўстанне валахаў, чарнагорцаў, сербаў, малдаван, якія знаходзіліся пад прыгнётам Турэцкай імперыі. Яшчэ абнадзейвала і тое, што гаспадары Малдавіі — Дзмітрый Кантэмір і Валахіі — Бранкаван абяцалі сваю дапамогу. Аднак паўстанне не

адбылося. Бранкаван парушыў слова і перайшоў на бок туркаў. Ён сваёй арміяй затрымаў шматтысячны атрад сербаў, які ішоў на дапамогу Пятру. Да таго ж харчы і фураж, якія валахі абяцалі рускай арміі, былі аддадзены туркам. Кантэмір жа, хоць і далучыўся да рускага войска, дапамагчы не мог, бо сіл меў ужо мала, а харчоў і зусім не было ў яго.

У выніку туркі першымі пераправіліся дераз Дунай. Руская армія па шляху ад Дняпра да Прута знясільвалася ад гарачыні і смагі. Пачаўся падзеж коней. 9 чэрвеня 1709 г. адбылася бітва. 40 тысяч рускіх былі акружаны 180 тысячамі туркаў і крымскіх татар. Туркі некалькі разоў кідаліся ў атаку. Кожны раз іх сустраісалі гарматнымі залпамі. Вечар і стомленасць спынілі бітву. Рускае войска знаходзілася ў катастрафічным становішчы. Пётр чакаў або гібелі, або палону. І тут у справу ўмяшалася Кацярына. Яна ахвяравала ўсе свае ўпрыгажэнні і каштоўнасці. Потым аб'ехала лагер і звярнулася да войск са словамі аб тым, што мёртвым і палонным каштоўнасці не будуць патрэбны. А тых, хто ахвяруе, айчына аддзячыць. У выніку было сабрана мноства грошай і каштоўнасцей. Сабранае на наступны дзень паднеслі візіру, які ўзначальваў турэцкае войска. Хабар зрабіў сваю справу. Быў падпісаны мір, і руская армія выратавалася.

Пётр выкарыстаў гэта здарэнне, каб абвясціць каханую выратавальніцай арміі. Яе пачалі праслаўляць. Яе імя зрабілася папулярным у вайсковых колах. Больш таго, у памяць пра гэтыя падзеі была ўстаноўлена новая ўзнагарода — ордэн Святой Кацярыны. Першым кавалерам яго стала, зразумела, сама Кацярына.

Узнікае пытанне: навошта гэта рабілася? Адказ просты. Пётр вырашыў ажаніцца і падрыхтоўваў да гэтай падзеі публіку. Вяселле адбылося 19 сакавіка 1712 г. Цар прызнаў сваіх пазашлюбных дачок. Ганна і Лізавета сталі законнымі членамі царскай сям'і.

На першы погляд пры двары Пятра I пасля гэтай падзеі нічога не змянілася. Працягваліся тыя ж падарожжы, паходы, асамблеі і піры, якія пераасталі ва ўсеагульныя п'янкі. Цар, як і раней, не заводзіў ні камергераў, ні камер-юнкераў. Аднак для жонкі ён стварыў вялікі бліскучы двор. В. В. Ключэўскі пісаў, што двор гэты быў абсталяваны на нямецкі лад і не саступаў у пышнасці ніводнаму двару тагачаснай Германіі. Пётр паводзіў сябе, бы юнак пры першым каханні. І Кацярына адказвала яму тым жа. Сучаснікаў здзіўлялі яе паводзіны. Ды і нядзіўна, бо жанчына, якая засталася такой жа простай і рахманай, як і раней, якую хуткае ўзвышэнне не зрабіла фанабэрыстай, не прымусіла забыць, кім яна была. Цар браў сваю жонку і ў замежныя ваяжы, і ў паход на Персію, і ў шматлікія

падарожжы па Расіі. У рэдкія часы, калі абставіны прымушалі Пятра ехаць аднаму, ён літаральна засыпаў жонку пісьмамі. І наколькі ж пяшчотным выступае ў іх гэты суровы чалавек: «Катеринушка, друг мой сердечный, здравствуй!., только в палаты войдешь, так бежать хочетца — всё пусто без тебя».

Якраз да гэтага перыяду жыцця Кацярыны I адносяцца лепшыя напісаныя яе партрэты. Адзін з даследчыкаў на аснове гэтага іканаграфічнага матэрыялу так апісаў яе знешнасць: «...на алых поўных вуснах — прыемная ўсмешка, чорныя вочы бліщчаць полымем, гараць страсцю; нос злёгку прыўзняты, поўныя шчокі, гарачыя румянцам, поўны падбародак, пяшчотная белізна шыі, плячэй, высока пад пятых грудзей — усё разам рабіла з Кацярыны жанчыну бліскучай знешнасці». Праўда, французскі пасол у Расіі Кампрэдон сцвярджаў, што твар у рускай царыцы быў просты і грубы. Але ці трэба прыслухоўвацца да яго? Хто ведае, які тып прыгажосці лічыўся ў той час эталонам у Францыі?

За доўгае сумеснае жыццё Пятра з Кацярынай у іх нарадзілася 11 дзяцей. Але ў жывых засталіся толькі двое — Ганна і Лізавета. Найбольшай трагедыяй для сям'і была смерць малалетняга сына Пятра. Памёр ён у 1719 г. Перад Пятром I устала складанае пытанне — хто зменіць яго на прастоле? Яго сын ад першага шлюбу Аляксей бы ў не здольны на гэта. Больш таго, ён стаў удзельнікам змовы супраць бацькі і ягоных спраў. І, як вядома, быў пакараны смерцю. І вось у 1722 г. быў абвешчаны новы статут аб наследаванні прастола. Ён адмяняў звычай, па якім прастол аўтаматычна наследаваў старэйшы сын. Цяпер жа цар сам вызначаў пераемніка. Прычым ён у любы момант мог змяніць сваё ўласнае рашэнне. Пётр, здароўе якога пахіснулася ад няспынных турбот ды гульбішчаў, вырашыў, што пераемніцай яго будзе Кацярына.

Каранацыя адбылася 7 мая 1724 г. ва Успенскім саборы Маскоўскага Крамля. Падрыхтоўка да рытуала была праведзена велізарная. Карэту для царскай сям'і заказалі ажно ў Парыжы. Для Кацярыны спецыяльна зрабілі карону, якая так і называлася каранацыйнай. Каштавала яна паўтара мільёна рублёў (тагачасных). Пётр быў у блакітным кафтане са срэбнай вышыўкай, чырвоных шаўковых панчохах, шыракаполым капелюшы з белым пяром. Мантыю, якую павінны былі ўскласці на плечы будучай імператрыцы, неслі 4 саноўнікі. Шлейф жа яе сукенкі падтрымлівалі 5 стац-дам.

Але на змену радаснай падзеі ішла бяда. Справа ў тым, што цар даўно адчуваў хваробу. Прыдворныя медыкі паставілі дыягназ — урэмія (ныркавая недастатковасць). Ведаючы сваё становішча, Пётр ус-

трымліваўся ад моцнага піцця. Але на святах шчаслівы супруг забыўся на хваробу і праз некалькі дзён адчуў яе абвастрэнне. Яна настолькі скруціла цара, што ў пачатку чэрвеня ён вымушаны быў паехаць на мінеральныя воды. Там яму стала лягчэй. Але, адчуўшы паляпшэнне, Пётр узяўся каваць на мясцовым заводзе жалезныя палосы. Лекары раілі яму адпачываць, лячыцца. А ён імкнуўся ўсё ўбачыць сваімі вачамі, да ўсяго прыкласці ўласную руку. А гэта — дарогі, скразнякі, мокрае ад дажджоў адзенне. Нядзіўна, што здароўе яго ўсё больш і больш пагаршалася.

Кацярына ж была ў росквіце. Ёй было толькі 38 гадоў. Прырода дала ёй моцнае здароўе. Сямейнае жыццё, якое складалася з вечных раз'ездаў мужа і яго хвароб, калі ён зрэдзьчасу быў дома, не магло не выклікаць стомленасць і пачуццё прыкрасці. І аднойчы, магчыма, нават нечакана для сябе самой, Кацярына заўважыла, што вакол яе шмат маладых, здаровых, галантных кавалераў, якія глядзяць на яе не толькі як на імператрыцу, але і як на прывабную жанчыну. Сярод іншых асабліва вылучаўся прыгажун і залётнік камер-юнкер Вілім Монс. Гэты немец нарадзіўся ў Расіі; паходзіў жа з сям'і аднаго з тых іншаземцаў, у якіх Пётр любіў бываць з дзяцінства. Сястра Віліма Ганна была першай каханай цара. Ён нават збіраўся ажаніцца з ёй і адмовіўся ад гэтага з-за яе нявернасці. Як там было на самай справе, сказаць цяжка. Вядома толькі, што канчаткова іх адносіны разладзіліся пасля таго, як рукі прыгожай немкі папрасіў прускі пасланец. І вось новы «падарунак» гэтай сям'і. Мала таго, што пра адносіны паміж Кацярынай і Вілімам даведаўся ўвесь Пецярбург, дык гэты немец разам са сваёй сястрой Матронай пачаў браць хабар ад тых, хто звяртаўся да іх з просьбай аб хадайніцтве перад імператрыцай.

Вядома, Пётр сам не быў святым: пра яго цягу да асоб процілеглага полу добра вядома, ён не рабіў сакрэту са сваіх незлічоных «амураў». Але каб яго Кацюша магла здрадзіць яму? Гэта не ўмяшчалася ў галаве цара.

У ноч з 8 на 9 лістапада 1724 г. Монс быў арыштаваны. Цар не давяраў нікому ў гэтай справе і допыты вёў сам. Над галавой Кацярыны згушчаліся навальнічныя хмары. Невядома, чым бы ўсё гэта скончылася, але двое з верных паплечнікаў цара — П. А. Талстой і А. І. Остэрман ледзь не са слязьмі на вачах упрасілі яго замяць гэту справу. Яны спасылаліся на тое, што публічны скандал кіне цень на будучыню дачок Пятра. Даводзілі, што царэўны будуць знясланы і не змогуць разлічваць у далейшым на прыстойных жаніхоў. Яны добра ведалі, як любіць цар сваіх дзяўчынак. І дабіліся свайго. Праўда, цару

прыходзілі думкі аб тым, што яму маглі здраджваць і раней. І аб тым, што Ганна і Лізавета не яго дочкі. Сведчаннем гэтага можа быць здарэнне, якое апісаў у сваёй кнізе «Представители власти в России после Петра I» рускі гісторык В. Андрэеў. Аднойчы цёмным восеньскім вечарам Пётр прыехаў да сваіх дачок. Ён быў страшна бледны. Вочы гарэлі гневам. Ён доўга ўглядваўся ў іх твары. Потым пачаў хадзіць па пакоі вялікімі крокамі і кідаць час ад часу грозныя погляды на дзяўчынак. Пры ім быў, як звычайна, вялікі сцізорык. І ён разоў дваццаць вымаў яго з кішэні, раскрываў і зноў закрываў. З'явіўся Пётр якраз падчас урока французскай мовы. Выгляд яго быў настолькі жахлівы, што ўсе прысутныя хутка пакінулі гэты пакой. Француженка ж наогул схавалася пад стол. З яе слоў і вядомы далейшыя падзеі. Пётр хадзіў з кута ў кут, грукаў кулаком па стале і сценах. У рэшце рэшт ён кінуў свой капялюш на падлогу і выйшаў з пакоя. Пры гэтым так моцна грукнуў дзвярыма, што яны трэснулі.

Тым не менш Пётр прыняў рашэнне: Монса судзілі толькі за хабар. Але цар вагаўся наконт Кацярыны. Ён не ведаў, як абысціся з жонкай. Сведчаннем гэтага можа быць прыводзімы амаль ва ўсіх кнігах аб ім выпадак, калі Кацярына быццам бы ўпрошвала пашкадаваць Матрону. Раз'юшаны Пётр стукнуў кулаком па люстэрку з венецыянскага шкла і разбіў яго. «Бачыш,— звярнуўся ён да жонкі,— аднаго ўдару было дастаткова, каб разбіць гэту каштоўнасць: аднаго слова будзе дастаткова, каб ператварыць цябе ў прах, з якога я цябе ўзвысіў». Хто ведае, як бы паводзіў цар сябе ў далейшым, каб Кацярына страціла прысутнасць духу. Але тая засталася спакойнай. Яна адказала: «Вы разбілі цудоўнае ўпрыгажэнне свайго палаца. Няўжо вы думаеце, што палац стаў ад гэтага лепшым?»

Пакаранне Монса адбылося 16 лістапада 1724 г. Пётр сказаў Віліму, што шкадуе аб тым, што вымушаны страціць яго, але што рашэнне прыгавору павінна быць выканана. Монс трымаўся мужна. Перад смерцю ён падарыў пастару, які спавядаў яго, кішэнны гадзіннік з партрэтам Кацярыны, папрасіў ката, каб той адсек галаву адным ударам, і схіліўся на плаху... Кат па існаваўшаму ў тыя часы звычаю ўткнуў адсечаную галаву на шост.

Вечарам таго ж дня Пётр правёз сваю жонку ля гэтага месца. Яго вельмі цікавіла, як яна будзе сябе паводзіць. Кацярына ж не выдала сябе ні слязьмі, ні ўздыхам, ні поглядам. Муж вырашыў памучыць яе яшчэ больш. Пасля таго як галаву Монса знялі з шаста, ён загадаў змясціць яе ў шкляны посуд са спіртам і паставіць на начны столік у пакоі жонкі. Толькі праз некалькі тыдняў Пётр загадаў забраць гэты страшэнны «сувенір» і аддаць яго на захаванне ў акадэ-

мічны музей. Можна ўявіць, як адчувала сябе ўвесь гэты час Кацярына! Нават калі яе пачуцці да Монса былі не каханнем, а толькі мімалётным захапленнем.

І ўсё ж Пётр не дараваў жонцы яе здраду. Мала таго, што ён парваў завяшчанне, па якому яна павінна была стаць яго пераемніцай на царскім прастоле, дык і наогул перастаў сустракацца з ёй. Доступ Кацярыне да яго быў забаронены. Толькі аднойчы, па настойлівай просьбе Лізаветы, ён згадзіўся паабедаць усёй сям'ёй.

Магчыма, нервовае ўзрушэнне, якое перажыў Пётр, і паўплывала на пагаршэнне яго здароўя. Цар злёг. Амаль увесь час знаходзіўся ў ложку. Калі ж уставаў, то ненадоўга. Напрыклад, гэта было ў дні заручын яго дачкі Ганны з герцагам Карлам Фрыдрыхам Гальштэйн-Гатторнскім. Пётр з кожным днём слабеў усё больш і больш. У пачатку студзеня 1725 г. пачаўся крызіс. Хвароба ўступіла ў завяршальную стадыю. Боль быў настолькі моцны, што цар увесь час альбо крычаў, альбо глуха стагнаў. Але і ў такім становішчы ён не жадаў бачыць Кацярыну — Марту — гэтую здрадніцу. 28 студзеня 1725 г. смерць абарвала пакуты.

Усе гэтыя акалічнасці далі падставу некаторым з даследчыкаў сцвярджаць, быццам бы Пятра атруціліу М. Кўзняцоў, аўтар змешчанага ў газеце «Звязда» за 29 кастрычніка 1992 г. артыкула «Беларускаімператрыца», лічыць, што гіпотэза ўзнікла не без падставы. Ён схіляецца да думкі, што цара атруцілі Кацярына і Меншыкаў. А аргументуе свае думкі тым, што быццам бы ў Кацярыны наладзіліся, ці, можна сказаць, аднавіліся вельмі прыязныя адносіны са святлейшым. І што быццам бы страх перад пакараннем прымусіў іх паспяшацца.

Паўстае пытанне, што гэта за атрута, якая толькі праз два месяцы пасля яе прыёму прыводзіць да смерці. Менавіта ж столькі часу фактычна не ўставаў з ложка паміраючы цар. Калі б была прычына баяцца, што па спінах змоўшчыкаў пагуляе пятроўская важкая палка ці палашчыць шыю вострая сякера ката, то атруту знайшлі б хутка і, вядома, моцную.

Есць і яшчэ адзін довад супраць вышэйназванай гіпотэзы. Толькі-толькі пакаралі смерцю Монса. Яго страшэнны адыход не мог не ўразіць, не напалохаць Кацярыну. Тым больш што яна сама ледзь пазбегла лёсу свайго прыгажуна-каханка. Ці да «амураў» тут было? Ды і паводзіны Кацярыны сведчаць аб тым, што яна сапраўды кахала Пятра і не магла быць яго забойцам. Праўда, можна меркаваць аб тым, што яна лічыла сябе вінаватай, бо перажыванні, выкліканыя яе здрадай, паскорылі смерць мужа. На карысць гэтага сведчыць той факт, што яна на цэлыя сорак дзён пакінула цела Пятра непахаваным і што

кожны з гэтых дзён зранку і ўвечары прыходзіла аплакваць нябожчыка.

Гвардзейцы богатварылі нябожчыка-імператара. Гэта ж пачуццё яны пераносілі і на яго жонку. Тым больш што яна даволі часта дапамагала афіцэрам і аказвала ім пратэкцыю. І гвардыя ўзвяла яе на прастол. Праўленне яе было вельмі кароткім. Яно прайшло ў чаканні хуткай смерці, якой, пэўна, міжволі хацела царыца і ў якой бачыла адплату за свой грэх. Па начах Кацярына сніла дзіўныя сны, у якіх нябожчык Пётр клікаў яе да сябе, моцна абдымаў і ўзносіўся разам з ёю да аблокаў. Але ўсё гэта ніяк не адбівалася на яе выглядзе і паводзінах днём, калі даводзілася вырашаць справы дзяржаўнай важнасці. Да самага канца імператрыца заставалася чалавекам мужным і мэтанакіраваным. Пра гэта сведчыць і тое, што калі ў 1726 г. ля Рэвеля з'явілася англа-французская эскадра, яна пажадала ўзначаліць рускі флот. Паказальным бачыцца і другое здарэнне, якое адбылося незадоўга да яе смерці. Кацярына ў мундзіры палкоўніка праводзіла ваенны агляд. Падчас яго нехта стрэліў у імператрыцу. Куля забіла купца, што стаяў недалёка. А мужная жанчына нават не здрыганулася і не пабляднела. Яна як ні ў чым не бывала працягвала агляд. А можа, чакала другой кулі, якая перарве яе жыццё?

Памерла Кацярына I у красавіку 1727 г. Шмат што дае права сцвярджаць, што імператрыцу звяло ў магілу вялікае нервовае напружанне. Найлепшай эпітафіяй з'яўляюцца словы гісторыка В. Андрэева: «Да гонару яе, як не змяняліся яе імёны і тытулы, яна заставалася пастаянна той жа. А гэта можна сказаць далёка не пра ўсіх».

## НЯСВІЖСКАЯ МЕЛЬПАМЕНА

## ФРАНЦІШКА УРСУЛА РАДЗІВІЛ (ВІШНЯВЕЦКАЯ) (1705—1753 гг.)

...А Міхал жа Радзівіл,
Што па мянушцы Рыбанька, навекі
У Урсулу, у Францішку, закахаўся.
Князёўну, Вішнявецкую, дачку —
Гарэзу Кракаўскага ваяводы.

*У. Дзюба. «На Радзівіліішчы»*

Адной з адметных рыс літаратуры і мастацтва еўрапейскага сярэднявечча з'яўляецца тое, што сярод бясконцага спісу славутых мужчынскіх імёнаў вельмі рэдка сустракаюцца жаночыя. З канца XVII — пачатку XVIII ст. гэта становішча істотна мяняецца. У дакументах тых часоў мы знаходзім успаміны пра жанчын-літаратараў, мастакоў, філосафаў, артыстаў, музыкантаў. Назавём некаторыя імёны. Гэта: вялікія артысткі Андрыена Лекуўрэр і Праскоўя Жамчугова, мастачка Анжэліка Каўфман, спявачка і музыкант Анна Магдалена Бах, філосаф і навуковец Кацярына Дашкова, пісьменніца і журналіст Кацярына II, драматург Урсула Радзівіл...

Гонарам беларускай літаратуры таго часу з'яўляецца яркі талент пісьменніцы Францішкі Урсулы Радзівіл. Ён яшчэ па-сапраўднаму не ацэнены, не асэнсаваны намі да канца.

Нарадзілася Францішка Урсула ў 1705 г. у сям'і прадстаўніка княжацкага роду Вішнявецкіх. Атрымала бліскучую адукацыю. Да таго ж ад прыроды мела літаратурныя здольнасці. Пры знаёмстве з яе партрэтамі адразу звяртаеш увагу на вочы, у якіх свеціцца розум, на высокі лоб, наўмысна ніколі не прыкрываемы валасамі. Адзенне яе, хоць і багатае, але вельмі сціплае; сваё цела, занадта пышнае, каб адпавядаць густам таго часу, яна не зацягвае ў жорсткі гарсэт. Нельга не заўважыць, што для яе галоўнае — не пагоня за ўсімі бязглуздасцямі і недарэчнасцямі моды, а набыццё каштоўнасцей духоўных. Урсула з самага дзяцінства вызначаецца ў сваім асяроддзі незвычайнай дапытлівасцю і начытанасцю. У яе характары гарманічна спалучаліся, з аднаго боку, прага да ведаў, а з другога — набожнасць. Яшчэ ў дзіцячым узросце яна пачала пісаць вершы. Вершы пісаліся на польскай мове, бо польская мова панавала ў сям'і Вішнявецкіх. Магчыма, з-за прагі да літаратурнай дзейнасці, да ведаў бацькі не прыспешвалі Урсулу з замужжам. Да таго ж Вішнявецкія жадалі ўручыць жамчужыну сваёй сям'і самаму дастойнаму і санавітаму з прэтэндэнтаў.

Францішка Урсула выйшла замуж у дваццацігадовым узросце. Яе мужам стаў князь Міхал Казімір Радзівіл, які насіў мянушку Рыбанька. Урсуле вельмі падабаўся яе малады і прыгожы муж. Яна раўнавала яго да ўсіх харошанькіх жанчын. Для таго каб больш прывязаць мужа да сябе, ёй прыходзілася выкарыстоўваць усё сваё абаянне. У чым жа яно заключалася? Канешне, у розуме і літаратурным таленте. Рыбанька часта адлучаўся з Нясвіжа, куды адразу пасля вяселля перавёз маладую жонку. Тая ж літаральна засыпала яго лістамі. Былі яны вершаванымі і настолькі дасканалымі, што муж захаваў іх усе да аднаго. Значна пазней яны былі выдадзены асобнай кніжкай пад назвай «Лісты да мужа».

Трэба заўважыць, што Міхал Казімір з'яўляўся таксама высокаадукаваным чалавекам. Ён добра разумеў, якім скарбам валодае, і таму рабіў усё магчымае, каб Урсула адчувала сябе шчаслівай. Рэўнасць маладой жанчыны была дарэмнай. Міхал Казімір не прамяняў бы яе, разумную і таленавітую, ні на адну прыгожанькую пустышку.

У хуткім часе ў іх з'явіўся сын Мікалай Крыштаф. Але праз два гады ён захварэў і памёр. Для Урсулы гэта было велізарным ударам. Яна доўга бедавала. Перажыванні тыя выліваліся не толькі ў слёзы, але і ў вершы.

Наогул, гэту сям'ю бы праследаваў рок. У дзіцячым узросце памірае і другі сын Урсулы і Міхала — Януш Тадэвуш. Трэцяе дзіця — Караль Станіслаў — расло хваравітым хлопчыкам. Бацькі вельмі баяліся страціць і яго. Яны прыставілі да спадчынніка роду не толькі вялікую колькасць выхавальнікаў і настаўнікаў, а і некалькі лекараў. Міхал Казімір у час адной са сваіх паездак сустрэўся з незвычайнай парай. У Расію накіроўвалі свой шлях былы турэцкі палонны (аўстрыец па паходжанні) прапаршчык Фартунат Піхльштэйн і жанчына, якая выкупіла яго з палону. Прапаршчык у знак падзякі ажаніўся з ёй. Звалі гэту жанчыну Саламея Русецкая. Гэта яна была ў свой час вядомай лекаркай. І Рыбанька, які шмат чуў пра здольнасці Саламеі, вырашыў, што добра б атрымаць такога лекара для свайго сына. Ён прымае маладую пару да сябе на службу. Фартунат прызначаецца харунжым, а Саламея — «дакторкаю». Князь забірае іх у Нясвіж. Урсула адразу звярнула ўвагу на новую лекарку. Ды і не дзіва. Саламея шмат дзе пабывала, шмат пабачыла. Яна была выключнай расказчыцай. Да ўсяго — яе вызначалі рашучасць, упартасць, схільнасць да авантур. Гаспадыня і госця былі поўнай процілегласцю адна адной. Кіпучая прага да дзейнасці, актыўнае ўспрыняцце рэчаіснасці — вось яны, тыя рысы характару, якіх не хапала Урсуле і якія наблізілі яе да новай знаёмай. Саламея таксама не магла не зацікавіцца гаспадыняй Нясвіжа. Зда-

валася, што жанчыны знайшлі адна адну, што паміж імі ўстанавіліся блізкія адносіны, але... Саламея Русецкая знікла. Яна пакінула сваю маленькую дачку ў бенедыкцінскім кляштары і накіравалася ў Санкт-Пецярбург. Лекарцы стала проста-такі сумна на адным месцы. Да таго ж яна прывыкла працаваць самастойна. Для яе не існавала іншых аўтарытэтаў. А ў Нясвіжы цэлы кансіліум калег.

Такі ўчынак Саламеі вельмі пакрыўдзіў Урсулу і Рыбаньку. Але хутка ў Міхала Казіміра з'явілася магчымасць нагадаць лекарцы яе няўдзячнасць. Прыкладна праз палову года Русецкая вярталася з Расіі ў Турцыю. Яе шлях ляжаў праз Беларусь. Гетман (Рыбанька ў той час займаў пасаду гетмана вялікага літоўскага) перахапіў бяглянку і накіраваў яе да мужа на Палессе ў вёску Ляхва (на тэрыторыі сучаснага Лунінецкага раёна), дзе служыў Фартунат. Але Саламея змагла збегчы і адтуль. Нагода, якая дала ёй магчымасць выехаць за мяжу, была простай і арыгінальнай. Русецкая накіравалася да родных мужа, каб атрымаць грошы, якія яна выкарыстала на выкуп яго з турэцкай няволі.

А крыху пазней сям'ю Радзівілаў зноў напаткала бяда. Васьмігадовы Караль Станіслаў захварэў на воспу. Якімсьці цудам яго выратавалі. Але лекары забаранілі яму вучыцца: яны баяліся, што перанапружанні, звязаныя з вучобай, канчаткова падарвуць слабы арганізм. Хлопчык і да таго быў моцна разбалаваны ўсеагульнай увагай, а тут наогул згультаіўся. Шмат намаганняў давялося прыкласці настаўнікам і бацькам, каб іх дзіця не вырасла разбэшчаным. Для ажыццяўлення гэтай справы быў выкарыстаны нават аматарскі тэатр, які існаваў пры іх двары.

Захапленне Радзівілаў тэатрам, мяркуючы па ўсім, пачалося ў 1740 г. Менавіта ў той год іншаземная трупа паставіла ў Нясвіжскім замку п'есу «Прыклад справядлівасці». У далейшым пастаноўкі праводзіліся сваімі сіламі. Спачатку паказвалі камедыі Мальера, «Заіру» Вальтэра, творы іншых еўрапейскіх аўтараў. Прыдворны тэатр быў аматарскім. У спектаклях разам з прыгоннымі артыстамі, спевакамі, танцорамі, музыкамі ўдзельнічалі члены княжацкай сям'і, шляхта, выхаванцы кадэцкай школы, якая існавала тады ў Нясвіжы. П'есы першапачаткова ставіліся або ў замку, або ў прыгарадзе Нясвіжа Альбе, або ў гэтак званым «зялёным» тэатры — «Кансаляцыі», які знаходзіўся за замкавым ровам. Адным бокам ён выходзіў на гарадскі рынак, другім — на пагорак, на адным са схілаў якога былі абсталяваны месцы для гледачоў. Тут маглі размясціцца тысяча чалавек. Фактычна «Кансаляцыя» была першым стацыянарным тэатрам на Беларусі.

Радзівілаўскі тэатр набыў шырокую вядомасць у Рэчы Паспалітай. Але найбольш поўным жыццём ён пачаў жыць пасля 1746 г. Менавіта тады кіраўніцтва тэатра узяла ў свае рукі Францішка Урсула Радзівіл. Тады ж яна пачала пісаць камедыі і трагедыі. У далейшым на працягу ўсяго яе жыцця нясвіжскі тэатр ставіў галоўным чынам п'есы свайго кіраўніка альбо яе пераробкі французскіх камедый і трагедый. Для сваіх твораў княгіня выкарыстоўвала сюжэты са славянскіх паданняў, твораў антычных аўтараў, зборніка арабскіх казак «Тысяча і адна ноч». У некаторых з яе п'ес з'яўляліся турэцкія матывы. Апошнія, магчыма, былі навеяны ўспамінамі аб прыгодах Саламеі Русецкай і аб яе расказах, якія калісьці так хвалявалі Урсулу.

Ва ўсёй Еўропе тых часоў п'есы мелі павучальны характар. Бачым мы гэта і ў творах Францішкі Урсулы. Так, напрыклад, у камедыі «Каханне — ідэальная майстрыха» расказваецца пра сына Дэмакрыта Галезія. З трох сыноў Дэмакрыта толькі ён грэбаваў навукай. Бацька, які саромеўся невука-сына, адаслаў яго ў вёску. Там юнак быў прызначаны пастухом. Аднойчы Галезій убачыў прыгожую дзяўчыну, калі тая спала на лузе. Юнак адразу закахаўся. Але разбуджаная ім прыгажуня збегла: ёй не падабаліся манеры новага знаёмага. Перад тым як знікнуць, яна выказала юнаку ўсё, што думае пра яго. Галезій ледзь не згарэў ад сораму. Але ён вырашыў дабіцца рукі каханай. І таму пачаў вучыцца, дзеля чаго наняў сабе процьму настаўнікаў. Дзякуючы ўзаемным намаганням, Галезій хутка нібы нарадзіўся. І вось выхаваны і адукаваны юнак з'яўляецца перад каханай. Поспех яму забяспечаны. Без сумнення гэта камедыя была разлічана на Караля Станіслава. Той даўно пёрарос сваю хваробу, а вось каб вучыцца, то асаблівага жадання не меў. Магчыма, гэты намёк рабіўся і для іншых дзяцей княгіні, якім вельмі падабалася ўдзельнічаць у спектаклях. Асабліва гэта датычылася дачкі Тэафілі. Яна ўся аддавалася ролі. Здавалася, што дзяўчына прымярае чарговую ролю на сабе, жыве жыццём сваіх гераінь. Шэраг жаночых роляў быў, пэўна, напісаны маці менавіта з разлікам, што выконваць іх будзе Тэафіля. З дзённіка Рыбанькі вядома, што ў 1758 г. яна іграла ў п'есе «Каханне нараджаецца з погляду». Вобраз рамантычнай гераіні названай п'есы, ролю якой маці «падаравала» дачцэ, настолькі прывабіў юную Тэафілю, што яна праз шэсць гадоў, ужо ў жыцці, а не на сцэне, паўтарыла яе ўчынак — выйшла замуж па каханню. А было гэта так. У 1764 г. дзяўчына ўдзельнічала ў бітве, якую Караль Станіслаў Радзівіл даў пад Слонімам удзельнікам Літоўскай канфедэрацыі, У гэтай бітве вызначыўся сваёю мужнасцю бедны юнак Ігнацы Мараўскі. Яго адвага зачаравала

дзяўчыну. Тэафіля праз восем дзён пасля гэтай бітвы згадзілася стаць жонкай Мараўскага.

Многія творы княгіні мелі і іншы аб'ект для маральнага ўздзеяння. Гераіні шматлікіх напісаных ёю камедый і трагедый — ахвяры мужчынскага падману. Гэта пяшчотныя, цудоўныя істоты, якія пакутуюць ад вераломства каханых. Яны самааддана кахаюць сваіх мужоў, тыя ж здраджваюць ім пры першай магчымасці. Пра зместы гэтых п'ее сведчаць і іх назвы «Несумленнасць у пастцы», «Дасціпнае каханне», «Суцяшэнне пасля турбот», «Каханне — ідэальная майстрыха» і іншыя. Францішка Урсула, як адзначалася вышэй, вельмі раўнавала свайго мужа з прычыны таго, што ён часта адсутнічаў у Нясвіжы. Яго пастаянныя раз'езды па службовых, ды і не толькі службовых, справах вельмі хвалявалі яе. Таму зместам сваіх твораў княгіня жадала запэўніць мужа, што сямейная вернасць заўжды атрымае ўзнагароду ад лёсу, а здрада будзе жорстка пакарана.

Падзеі гэтых п'ес адбываліся ў сівой мінуўшчыне, альбо ў далёкіх экзатычных краінах. Але гледачы, гэтаксама як і ўдзельнікі, выдатна ўсё разумелі.

Урсула знаходзілася ў росквіце творчых сіл. Яна паспрабавала свае магчымасці нават у напісанні оперных лібрэта. Гэта было нашмат цяжэй, чым пісаць пісьмы-вершы ці тыя ж п'есы. У той час оперы былі больш падобны на сучасную аперэту. Арыі, ансамблі і хоры перарываліся празаічнымі дыялогамі. Нярэдка адна з дзей оперы была цалкам танцавальнай.

Хвалявала княгіню і развіццё Нясвіжа. Так, яна падгаварыла Рыбаньку, каб ён адшукаў і загадаў аднавіць забытую замкавую друкарню. Магчыма, менавіта ў ёй выходзіла газета, рэдактарам якой была пані Радзівіл. Дакладна вядома, што тут гравёр Гірш Ляйбовіч выдаў унікальную нават у тыя часы «Кнігу партрэтаў Радзівілаў». Гаспадыня замка клапацілася аб павелічэнні багацця замкавай бібліятэкі. Кніжны фонд тады вырас да 20 тысяч тамоў. Па жаданню Урсулы ў 1748 г. на беразе аднаго са штучных азёр, што былі размешчаны на рацэ Уша, было ўзведзена спецыяльнае памяшканне тэатра — «Камедыхаўз».

Пані Радзівіл магла б, без сумнення, зрабіць яшчэ больш. Але лёс вызначыў ёй кароткае жыццё. У 1753 г. Урсула памірае. Прыхільнікі яе таленту не далі забыццю паглынуць імя кіраўніцы тэатра і драматурга. Адзін з акцёраў-аматараў, які жыў у Нясвіжы, сабраў усе драматычныя творы Урсулы і ўжо ў наступным годзе пасля яе смерці выдаў асобнай кнігай. Зборнік быў упрыгожаны гравюрамі М. Жукоўскага. У яго ўвайшлі 16 п'ес і 7 лібрэта.

## ПАЧАТАК ЗАЛАТОГА ВЕКУ

## ЛІЗАВЕТА ПЯТРОЎНА РАМАНАВА (ЛІЗАВЕТА І) (1709—1760 гг.)

Всех жен хвала Елисавет
Сладчайший музам век дает.
В ней зрятся истинны доброты,
Геройство, красота, щедроты.

*М. Ломоносов. «Ода на день восшествия на престол императрицы Елисаветы Петровны»*

Жанчына з легенды, прадаўжальніца пачынанняў Пятра І, царыца, за дваццаць гадоў праўлення якой не быў пакараны смерцю ніводзін яе падданы. Ці ж толькі расіяне, якім пашчасціла мець Лізавету сваёй гаспадыняй, павінны ганарыцца ёю? Пэўна, і беларусы таксама. Бо ніколі не забывала гэтая царыца пра паходжанне сваёй маці, віцебскай сялянкі Марты Скаўронскай. І ганарылася гэтым.

Яна нарадзілася ў год Пятровай перамогі пад Палтавай, 19 снежня 1709 г. Гэта была ўжо другая незаконнанароджаная дачка расійскага манарха. Афіцыйна шлюб з Мартай Скаўронскай цар заключыў значна пазней, і таму да самай іх смерці ў адрас дачок Пятра Ганны і Лізаветы гучалі злыя галасы зайздроснікаў.

З самага дзяцінства сёстры былі пазбаўлены матчынай ласкі. Марта не магла разарвацца паміж свавольным, рэзкім Пятром і дзецьмі. Яна заўсёды ішла на кліч цара, і той звозіў яе з сабою ў далёкія вандроўкі, небяспечныя паходы. Дзяўчынак выхоўвалі дзве нянькі-іншаземкі: карэлка і немка. Асяроддзе вельмі ўплывала на фарміраванне іх асоб. Першыя словы, якія навучылася гаварыць Лізавета, былі: «мама», «тата», «салдат».

Але калі Марта стала царыцай, яна ўсур'ёз задумалася пра лёс дачок. Яны абавязкова павінны выйсці замуж за іншаземных прынцаў.

У дзяўчатак з'явіліся шматлікія настаўнікі, гувернантка-францужанка. Асабліва рабілася стаўка на ўдалае замужжа Лізаветы, якая расла вельмі прыгожай. Пётр І і яго жонка выбралі мэту — ні больш, ні менш, як французскі дафін Людовік, сын Караля-Сонца павінен быць побач іх дачкі. З гэтай нагоды найбольш ўпор у навучанні Лізаветы рабіўся на французскую мову і танцы. Але дзяўчынка вучылася і іншаму: размаўляць па-нямецку і па-італьянску, пісаць вершы, ез-

дзіць вярхом. Спецыяльна да яе была прыстаўлена жанчына, якая вучыла царэўну таінствам касметыкі і гігіены.

План французскага замужжа Лізаветы сарваўся. Пётр I памёр, царыца ж не змагла дамовіцца з французамі. Але старэйшую дачку яна аддала замуж за прынца Галштынскага, адначасова спяшалася зрабіць шчаслівай і малодшую. Магчыма, маці адчувала ўжо свой хуткі канец? Рука Лізаветы прапаноўвалася герцагу Арлеанскаму, прэтэндэнту на курляндскі прастол Морыцу, малодшаму брату герцага галштынскага Карлу-Аўгусту. Ды дзе там! Першы адмовіўся, нават не зірнуўшы на дзявочы партрэт. Другі палічыў за лепшае пасватацца да стрыечнай сястры Лізаветы, Ганны Іванаўны, удавы курляндскага герцага (дарэчы, гэты план у яго не ажыццявіўся). Трэці, страсна закаханы ў Лізавету, раптам захварэў і памёр...

У васемнаццаць гадоў царэўна стала круглай сіратой. Царом пасля смерці яе маці быў названы Пётр II, сын царэвіча Аляксея, унук Пятра I, хаця Лізавета мела на прастол значна больш правоў.

Юны Пётр II меў няшчасце закахацца ў сваю маладзенькую цётку. Ён прысвячаў ёй вершы, выязджаў з ёю на паляванні, якія былі любімым заняткам абаіх, на балях заўсёды танцаваў з Лізаветай. Сімпатыі чатырнаццацігадовага манарха да прыгожай сваячкі былі заўважаны, і паплечнік Пятра I Остэрман прапанаваў іх шлюб. Магчыма, ён і быў бы ўдалым, калі б не інтрыгі князёў Далгарукіх, якія вырашылі ажаніць Пятра са сваёй сястрой. Раптоўна малады цар захварэў на воспу і памёр. Расіяне запрасілі на прастол Ганну Іванаўну. Але яна адчувала, што не ёй павінна цараваць, і таму блізкасць Лізаветы яе трывожыла. Тым больш што «расійскай Венерай» зацікавіўся ўсур'ёз Ганнін каханак Бірон. Для Лізаветы насталі цяжкія часы. Усё, што яна любіла, было ёй забаронена. Ёй рэзка ўрэзалі сродкі на ўтрыманне. Царэўна цяпер не магла ўдзельнічаць у балях і маскарадах, якія ладзіла Ганна: ёй не хапала грошай ні на адзенне, якое б адпавядала яе становішчу, ні на экіпаж. Потым па волі Ганны Лізавету пасялілі ў доме на краі Пецярбурга. Там яна знаходзілася пад пастаянным наглядам. Суседкі-гараджанкі і салдаты, якія памяталі і любілі Пятра I, былі адзінымі яе сябрамі. Нягледзячы на ўсе цяжкасці, Лізавета не страціла свой вясёлы, добразычлівы нораў.

Гісторык К. Валішэўскі піша: «У Аляксандраўскай Слабадзе яна абыходзілася з сялянскімі дзяўчатамі амаль як з роўнымі, каталася з імі на санях альбо частавала іх разынкамі, арэхамі і персікамі і прымала ўдзел у іх гульнях і танцах. У Пецярбургу яна напоўніла свой дом гвардзейскімі салдатамі. Яна раздавала ім маленькія падарункі, хрысціла іх дзяцей і зачароўвала іх усмешкамі і поглядамі».

Менавіта ў гэты час Лізавета сустрэлася з першым сапраўдным каханнем. Прыгожы прапаршчык Аляксей Шубін адкрыў сваё сэрца апальнай царэўне. Лізавета не была ганарлівай і ў людзях цаніла не паходжанне, а чалавечыя вартасці. Аляксей Шубін захапіў яе сілаю сваёй страсці. Яна не адмовіла яму. Салдаты Сямёнаўскага палка, за якім лічыўся і Шубін, успрынялі гэту падзею «на ўра». Лізавету Пятроўну пачалі называць «матухнай». Гэта занепакоіла Ганну Іванаўну, якая ўжо бачыла Лізавету на чале змоўшчыкаў, што ідуць скідваць яе з прастола. Аляксей Шубін трапіў у засценкі Тайнай канцылярыі. Пасля доўгіх катаванняў яго саслалі на Камчатку, папярэдне змяніўшы імя, каб знайсці яго было немагчыма, і гвалтоўна ажанілі з камчадалкай.

Лізавета была ў роспачы. Яна пісала вершы, поўныя тугі, і рыхтавалася прыняць схіму ў адным з бліжэйшых манастыроў.

Яшчэ яе існаванне ўскладняла пачуццё адказнасці за лёс родзічаў, Скаўронскіх, якія атрымалі падчас узвышэння Марты гучныя тытулы, а зараз гібелі ў беднасці. За свой кошт Лізавета вымушана была ўтрымліваць дзвюх цётак і выхоўваць дзвюх стрыечных сёстраў, дачок Карла Скаўронскага. Гэтыя клопаты пра родзічаў перашкодзілі Лізавеце стаць манашкай.

А тут новае захапленне, якое выцесніла з сэрца вобраз няшчаснага Шубіна. У прыдворным хоры з'явіўся новы пеўчы, малады прыгажун — украінец Аляксей Розум. Спачатку Лізавета хадзіла толькі слухаць яго дзіўны голас, а потым выпрасіла юнака ў обер-гофмаршала сабе ў світу. Хлопец атрымаў новае прозвішча — на «літоўскі» манер: Разумоўскі. З кожным днём Лізавета ўсё больш прывязвалася да яго. Калі Аляксей Разумоўскі страціў голас, ён атрымаў пасаду прыдворнага бандурыста, потым стаў аканомам у маёнтках Лізаветы, потым...

Але ўсё на парадку. У 1740 г. памерла Ганна Іванаўна. Бірон у якасці рэгента пратрымаўся ля ўлады толькі 20 дзён. Дзякуючы прыдворным інтрыгам прастол заняла пляменніца Ганны Іванаўны Анна Леапольдаўна. Яна аказалася вельмі бяздарнай правіцельніцай. Аўтарытэт жа Лізаветы ў народзе быў ужо вельмі высокім. Сябры царэўны пачалі агітаваць яе, каб тая заявіла, у рэшце рэшт, аб сваіх правах на карону. Але яна не рашалася...

Аднак хутка папаўзлі чуткі, што, занепакоеная знаходжаннем побач з сабою прэтэндэнткі на прастол, Ганна Леапольдаўна рыхтуе дачцэ Пятра I пастрыжэнне ў манашкі. Гэта вестка перапоўніла чашу цярпення ў прыхільнікаў царэўны. Адзін з іх, немец-хірург Лесток, намаляваў дзве карцінкі і прынёс іх Лізавеце. На адной яна была ў

кароне, са скіпетрам і іншымі сімваламі ўлады; на другой — у манаскім клабуку ў атачэнні прылад для катаванняў. Лізавета зразумела, што перад ёю толькі два шляхі. І хаця пасля таго, як у яе адабралі Шубіна, яна ўжо падумвала пра манастыр, аднак манаства, якое магла ёй прапанаваць Ганна Леапольдаўна, палохала. Яно было б больш падобна не на служэнне Богу, а на зняволенне. Ужо шмат маладых дваранак, сучасніц Лізаветы, былі устаранёны саперніцамі са свайго шляху менавіта гэтак. Жыццё іх пасля пастрыжэння было жахлівым. Іх не выпускалі за межы сырой, змрочнай келлі нават у трапезную да іншых святых сёстраў, нават на богаслужэнні; не дазвалялі ні з кім сустракацца, ні з кім размаўляць.

Лізавета рашылася на пераварот. Тым хутчэй, што даведалася пра новую акцыю супраць яе. Ганна Леапольдаўна аддала загад вывесці з Пецярбурга гвардзейскія палкі, якія любілі Лізавету і маглі дапамагчы ёй прыйсці да ўлады. Прынята лічыць, што вялікая частка заслугі ў тым, што пераварот удаўся, належыць маладому французскаму паслу Шэтардзі, які ў патрэбны момант дапамог царэўне матэрыяльна. Але такое маглі прыдумаць іншаземцы. Шэтардзі браўся за справу ўладкавання гэтага пытання з Францыяй. Але за дапамогу Лізавета павінна была падараваць іншаземцам частку тэрыторыі Расіі. Але царэўна не згадзілася на прапанову.

Вечарам 25 лістапада 1741 г. Лізавета Пятроўна схілілася перад іконай Багародзіцы ў сваім пакоі і доўга малілася. Яна збіралася з сіламі перад рашучым крокам; яна дала зарок Прасвятой Дзеве. Калі Бог палічыць патрэбным даць ёй карону, у яе краіне, дзе будзе яна цараваць, не будзе смяротных пакаранняў. Потым дачка Пятра загадала везці яе ў казармы. Там не было ніводнага афіцэра. З непаразуменнем салдаты глядзелі на маладую арыстакратку, якая саскочыла да іх з саней.

— Мяне хочуць зняволіць у манастыр. Ці гатовы вы пайсці за мною, мяне абараніць? — спыталася Лізавета.

— Гатовы, матухна, усіх пераб'ём! — адказалі салдаты.

Але царэўна патрабавала, каб яны пакляліся, што крыві не будзе. І сама дала клятву салдатам на крыжы:

— Клянуся ў тым, што памру за вас.

Лізавета павяла адданых ёй людзей да Зімняга палаца. Ляжаў глыбокі снег, яе маленькія ногі вязлі ў сумётах. Тады грэнадзёры ўзнялі яе на рукі. Так яна была ўнесена і ў палац. Гвардзейцы арыштавалі Ганну Леапольдаўну і яе сям'ю. На прастол ўзышла царыца Лізавета I. Падчас перавароту не было праліта ні кроплі крыві. Так Лізавета пачала спраўджваць сваё абяцанне. Працягам яго была

замена смяротнага пакарання яе ворагам на ссылку ў Сібір. Большасць немцаў, прывезеных Біронам у Расію для таго, каб заняць тут вышэйшыя пасады, былі адпраўлены на радзіму.

Скончыўшы з пранямецкім рэжымам у сістэме кіравання, Лізавета пачала збіраць вакол сябе здольных у палітычных і эканамічных пытаннях рускіх, прычым не толькі вяльможаў, але і дробнамаёмасных дваран. Былі ўзвышаны тыя, хто дапамог царыцы ў ноч з 25 на 26 лістапада. Гвардзейцы сталі дваранамі, дваране — важнымі саноўнікамі. Першымі людзьмі ў дзяржаве зрабіліся браты Шувалавы, А. Бястужаў-Румін, Міхаіл Варанцоў (які пазней ажаніўся з адной з сям'і Скаўронскіх), лейбхірург Лесток. Што ж датычыць Аляксея Разумоўскага, дык яму манархіня адвяла асаблівую ролю. Адразу ж пасля каранацыі, якая адбылася 25 красавіка 1742 г., Лізавета ўступіла з ім у таемны шлюб. Яна на свае вочы пабачыла, наколькі больш надзейнымі і адданымі бываюць людзі простага паходжання. І таму вырашыла, што лепш уступіць у марганатычны (г. зн. без права прастоласпадчыннасці для дзяцей) шлюб з чалавекам вартым і добрым, чым у дынастычны — з брыдкім і нягодным.

Існуе прыгожая легенда, паводле якой Лізавета, успомніўшы пра сваё першае каханне, пра Аляксея Шубіна, адчула сябе вінаватай перад ім. Яна паслала кур'ера на Камчатку шукаць Шубіна. Былога каханага царыцы знайшлі з вялікай цяжкасцю. Лізавета адкрылася перад ім у тым, што больш не кахае яго і што хоча зрабіць мужам іншага.

Але з-за таго, што калісьці дала клятву вернасці Шубіну, яна не магла без яго дазволу парушыць яе. Шубін супакоіў Лізавету, нагадаўшы, што хаця і супраць волі, але ён жанаты з іншай. Царыца шчодра ўзнагародзіла сваё першае каханне і абвянчалася з Разумоўскім. Ці быў сапраўдны такі факт, зараз устанавіць немагчыма.

Але дакладна тое, што Лізавета даўно ўжо абдумвала план свайго замужжа. Яна добра разумела, што дзеці яе ад Разумоўскага не будуць мець правоў на прастол, і таму папярэдне паклапацілася аб расійскай прастоласпадчыннасці. Лізавета загадала прывезці з Галштыніі сірату-пляменніка, сына старэйшай дачкі Пятра І, Ганны. 15 лістапада 1742 г. царыца ўрачыста абвясціла гэтага хлопчыка сваім пераемнікам.

Але выбар аказаўся няўдалым. Лізавету падвяла яе любоў да памерлай сястры. Пляменнік Пётр быў маларазвітым і кволым хлопчыкам. Сірату дрэнна выхоўвалі, пакаранні, якім у Галштыніі падвяргалі Пятра за любую дробязь, за самы нязначны праступак, прыніжалі яго годнасць. Усё гэта не магло не сфарміраваць асобу слабую, закам-

плексаваную, злосную. Але энергічная Лізавета загадала прыставіць да пляменніка добрых настаўнікаў і абкружыць яго раскошай і павагай. Яна не страчвала надзеі адагрэць сваёй любоўю сына Мілай Ганны.

Першыя гады праўлення Лізаветы былі самымі цяжкімі. Папярэднікі пакінулі ёй Расію ў стане палітычнага і духоўнага крызісу, з якога трэба было неадкладна выводзіць дзяржаву. У першую чаргу Лізавета паспяшалася вярнуць да жыцця дзяржаўныя органы, якія паспяхова дзейнічалі пры бацьку, але пасля яго смерці былі скасаваны. Лізавета замяніла кабінет міністраў, які не апраўдаў сябе, і аднавіла сенат. Для назірання за дзейнасцю зноў утвораных гарадскіх магістратаў быў адноўлены таксама Галоўны магістрат, Мануфактурі Берг-калегія. Для абмеркавання ў прысутнасці царыцы найважнейшых замежных спраў была створана Канферэнцыя.

Прадаставіўшы надзейным людзям кіраванне ўсімі палітычнымі органамі, Лізавета ўсур'ёз занялася судовымі рэформамі. Акрамя адмены смяротнага пакарання, яна палічыла неабходным адмовіцца таксама і ад кляймення твараў і вырывання ноздраў жанчынам-злачынцам.

Адначасова была прыпынена жахлівая дзейнасць Тайнай канцылярыі. Царыца пайшла на такія меры, калі даведалася, якія жудасныя катаванні для людзей прыдуманы ў засценках дадзенай установы.

Яшчэ больш напружаным было становішча знешняй палітыкі Расіі. Пры Ганне Леапольдаўне ўспыхнуў чарговы ўзброены канфлікт са Швецыяй. Шведскі кароль разлічваў вярнуць сабе землі, што адышлі да Расіі па Ніштацкаму мірнаму дагавору.

Вялікая частка бюджэту Расіі павінна была ісці на гэту вайну. Але Лізавеце ўдалося даволі хутка скончыць са шведскай агрэсіяй і заключыць у горадзе Або (Турку) выгадны мірны дагавор. Пачаткам перамогі стала бітва пры Вільманстрандэ 23 жніўня 1744 г., дзе рускія войскі на чале генерал-фельдмаршала Пятра Лосі разбілі дваццацітысячную шведскую армію.

У выніку чарговай перамогі над шведамі руска-шведская граніца ў Фінляндыі цяпер стала праходзіць па рацэ Кюмене. Расія атрымала дзве правінцыі з двума ўмацаванымі гарадамі і адной крэпасцю.

За ўсімі гэтымі справамі расійская Венера не забывалася і пра забавы. Лізавета Пятроўна была яшчэ даволі маладой жанчынай і пасля гадоў марнення ў галечы імкнулася навярстаць упушчанае.

Ніколі яшчэ ў Расіі не было такіх пышных асамблей і баляў. Царскі двор стаў настолькі еўрапейскім, што яго ўжо параўноўвалі з Версалем, аддаючы перавагу першаму. Імператрыца з'яўлялася перад

сваімі падданымі то ў касцюме неапалітанскай рыбачкі, то ў адзенні німфы, то апранутая мужчынам (што, дарэчы, ёй вельмі пасавала). Але за еўрапейскай формай правядзення царскіх забаў стаялі рускія традыцыі, руская культура, на якія Лізавета ў адрозненне ад Пятра I ніколі не рабіла замах.

У 1744 г. Аляксей Разумоўскі вырашыў звазіць жонку на сваю радзіму — у Маларосію. Прычыну ён выбраў самую бязвінную: паглядзець горад княгіні Вольгі і Уладзіміра і пакаштаваць галушак. Але асноўнай мэтай, пэўна, было іншае. Бо ў Кіеве да Лізаветы Пятроўны кінулася ў ногі дэлегацыя маларасіян, якія слёзна малілі імператрыцу вярнуць ім іх вольнасць і аднавіць гетманства.

Як аказалася, дачка Пятра вельмі чулліва ставілася да праблем іншых славянскіх народаў на тэрыторыі Расіі. Магчыма, гэта была духоўная спадчына маці? І хаця рашэнне Пятра I пасля здрады Мазепы разагнаць запарожскае казацтва і забараніць гетманства здавалася ёй справядлівым, яна добра разумела, што з-за гэтага цяпер велікаросы маюць магчымасць прыцясняць маларасіян. І яна паабяцала сур'ёзна падумаць аб прашэнні ўкраінцаў. Сапраўды, даволі хутка, у 1750 г., Украіна атрымала гетмана — малодшага брата Аляксея Разумоўскага — Кірылу. Лізавета праверыла яго на адданасць, калі даверыла папярэдне пасаду прэзідэнта Санкт-Пецярбургскай Акадэміі навук. Кірыла Разумоўскі выявіў шэраг непарадкаў і недарэчнасцей у гэтай вышэйшай навучальнай установе і ліквідаваў іх, чым заслужыў давер царыцы.

Але калі паездка Лізаветы ў Кіеў прынесла маларасіянам значнае паляпшэнне іх становішча, Аляксей Разумоўскі прывёз з яе толькі расчараванні. Яго таемнай жонцы настолькі спадабалася ўкраінская кухня, што яна выказала жаданне сама навучыцца гатаваць боршч і галушкі. Стаўшы любімымі стравамі царыцы, яны вельмі сапсавалі яе знешнасць. Усяго за якісьці год Лізавета расплылася і патаўсцела.

Развязаўшыся з найбольш важнымі дзяржаўнымі справамі, Лізавета Пятроўна ўсур'ёз звярнула ўвагу на свайго пляменніка. І жахнулася. Любімым заняткам шаснаццацігадовага юнака, будучага расійскага цара, была... гульня ў салдацікі. Цётка вырашыла паправіць такое становішча неадкладнай жаніцьбай Пятра.

З усіх прэтэндэнтак найбольш падыходзячай ёй падалася маладзенькая немачка, прынцэса Ангальт-Цэрбская. Яна, на думку Лізаветы, была дастаткова разумнай і прыгожай, каб паўплываць на пляменніка. У 1745 г. нявеста царэвіча Пятра прыехала ў Расію. Ёй адразу ўдалося выклікаць да сябе сімпатыю гасударыні, але жаніха яна не зацікавіла. Тым не менш немку ахрысцілі ў праваслаўе, далі ёй імя,

якое насіла яе маці (Марта Скаўронская) — Кацярына. Хутка адбылося і вяселле, якое ніяк не паўплывала на адносіны Пятра і Кацярыны.

Але Лізавета ўпарта чакала нараджэння дзіцяці. Яна ўжо зразумела, што з Пятра не атрымаецца цар, і таму хацела на выпадак сваёй смерці пакінуць іншага спадчынніка. Яна стала раздражняльнай, рэзкай, неаднаразова накідвалася на Кацярыну з абвінавачваннямі ў тым, што яна не робіць ніякіх намаганняў спадабацца мужу. Кацярына толькі плакала. Будучы замужам ужо даволі доўгі час, яна заставалася дзяўчынай.

У рэшце рэшт Лізавеце надакучыла барацьба з аморфным, тупым Пятром. І яна вырашыла, што цудоўна зможа абысціся без яго. І вось харошанькай Кацярыне прапанавалі на выбар некалькі маладых дваран. Яе позірк спыніўся на прыгожым Сяргею Салтыкове. Ён і стаў бацькам спадчынніка Паўла.

Цікава, што менавіта ў гэты час адбыліся змяненні і ў асабістым жыцці Лізаветы Пятроўны. Безумоўна, Разумоўскі быў для яе даволі падыходзячым мужам. Ён ніколі не прэтэндаваў на большае, не ўмешваўся ў палітыку, не ганяўся за чынамі. Але гады ішлі, і муж Лізаветы старэў, станавіўся ўсё больш меланхалічным і надакучлівым. Да таго ж ён прыахвоціўся да спіртнога. І Лізавета пакінула яго дзеля дваццацігадовага прыдворнага Івана Шувалава. Не было ні скандалаў, ні сямейных сцэн. Проста сумны муж ціхмяна саступіў перад бліскучым фаварытам. Тым больш што Разумоўскі па-ранейшаму заставаўся ля імператрыцы і жыў у той жа раскошы і павазе.

Як бы там ні было, але для дзяржавы прыбліжэнне Шувалава да імператрыцы было шчаслівым шанцам. Гады адчувальна падзейнічалі не толькі на знешнасць Лізаветы, але і на яе стан здароўя. Дачка Пятра I усё часцей хварэла, энергія пакідала яе. Расіі ж патрэбен быў менавіта энергічны правіцель. Шувалаў паспрыяў таму, што старасць Лізаветы ва ўсіх сэнсах наступіла на некалькі гадоў пазней. Дзякуючы яго таленту дарадчыка, імператрыца зрабіла яшчэ шмат карыснага для сваёй дзяржавы. У першую чаргу гэта былі эканамічныя рэформы. Так, у 1754 г. Лізавета адкрывае ў Пецярбургу Дваранскі пазыковы банк і яго аддзяленне ў Маскве. Банк даваў дваранам недарагі (6 працэнтаў гадавых ад атрыманай сумы) крэдыт пад заклад маёнтка. Гэта мера выратавала не адну сям'ю ад разарэння.

У гэтым жа годзе царыцай ліквідаваны ўнутраныя мытні і адменены ўнутраныя пошліны. На іншаземныя ж тавары пошліны былі павялічаны. Такое рашэнне значна падмацавала дзяржаўную экано-

міку і паслужыла інтарэсам расійскіх купцоў, якія ў падзяку за яго падарылі Лізавеце велізарны алмаз.

Адначасова з эканамічнымі рэформамі імператрыца працягвае займацца іншымі немалаважнымі для яе дзяржавы справамі: засяленнем паўночна-прычарнаморскіх зямель, выратаванымі ёю ад турка ў сербамі, асваеннем сібірскіх абшараў, падтрыманнем палітычных адносін з Аўстрыяй і Англіяй супраць Швецыі і Францыі, справамі культуры і асветы. Дарэчы, саюзу Лізаветы і Шувалава Расія абавязана адкрыццём Маскоўскага універсітэта, у праекце стварэння якога ўдзельнічаў М. В. Ламаносаў. Цікава, што пры гэтым універсітэце была арганізавана і друкарня, у якой выпускалася вялікая колькасць кніг і нават першая грамадская газета ў Расіі «Маскоўскія ведамасці».

Шувалаў падаў царыцы таксама ідэю заснавання Акадэміі мастацтваў у Пецярбургу і гімназіі ў Казані. Ён жа падказаў, што нядрэнна было б заказаць Вальтэру напісаць гістарычную працу пра Пятра I (на жаль, яна атрымалася не вельмі цікавай).

У 1755 г. зноў абвастрылася палітычнае становішча ў Еўропе. Запахла новай вайной, вайной драпежнікаў, кожны з якіх імкнецца адарваць ад тэрыторыі суседа як мага большы кавалак. Пачалася вайна ў наступным годзе, і Англія (з ёй у Расіі, дарэчы, былі даволі нядрэнныя адносіны) узяла ў саюзнікі Прусію, якая марыла пра тое, каб адрэзаць частку зямель ад Прыбалтыкі, што належала Расіі. З-за гэтага Лізавета прыняла рашэнне ваяваць супраць Англіі і Прусіі ў саюзніцтве з Францыяй і Аўстрыяй. Імператрыцы ўжо было вельмі цяжка спраўляцца са сваімі абавязкамі. У 1757 г. яна так сур'ёзна захварэла, што ўсе ўжо чакалі яе смерці. З-за гэтага нават прыпынілі ваенныя дзеянні. Пераемнік Лізаветы Пётр па-дзіцячы схіляўся перад прускім каралём Фрыдрыхам II, і палкаводцы баяліся, што новы цар пакарае іх за тое, што яны выступаюць супраць яго куміра.

Але Лізавета паправілася. У 1758 г. рускія войскі занялі ўсю Прусію і аб'явілі яе далучанай да Расіі. У наступным годзе Фрыдрых быў ушчэнт разбіты пры Кунерсдорфе. У 1760 г. рускія дайшлі да Берліна і занялі яго. Канчатковая перамога была блізкай. Яна абяцала Расіі новыя землі і новую славу. Але памерла Лізавета, так і не паспеўшы памяняць сваё завяшчанне на карысць маленькага царэвіча Паўла. І новы цар Пётр III загадаў неадкладна вярнуць войскі ў Расію.

Адно за адным ён ліквідаваў усе пачынанні сваёй цёткі і вельмі хутка ледзь зноў не давёў Расію да крызісу. Але справу Лізаветы своечасова і рашуча ўзяла ў свае рукі Кацярына II. Яна захавала спадчыннасць вялікай жанчыны, якую шмат крытыкавалі і зайздроснікі, і ворагі, і сябры пры жыцці.

## ЦАРСКАЯ НЯВЕСТА

## МАРЫЯ АДЯКСАНДРАЎНА МЕНШЫКАВА (1711—1729 гг.)

И дочь твоя в императрицы
уже почти проведена.
*Я. Смеляков. «Меншиков»*

Дзіўна, як на Русі Пятроўскай любілі і ўмелі рабіць таямніцу з уласнага паходжання. Асноўнай прычынай таму з'яўляўся факт, што Пётр I прыблізіў да сябе велізарную колькасць людзей ніжэйшых саслоўяў. Атрымаўшы за сваю службу гучныя тытулы, многія з іх пачалі саромецца сваіх нязнатных продкаў і відавочна таму пайшлі па шляху «выпраўлення мінулага». Велізарная колькасць фальшывых радаводаў стваралася ў той час, каб задаволіць амбіцыі Пятроўскіх выхаванцаў.

Аб паходжанні самага блізкага паплечніка Пятра I Аляксандра Меншыкава таксама цікава паназіраць. Паводле адной з версій, ён — сын селяніна з-пад Уладзіміра; па другой — конюха, які служыў у цара Аляксея Міхайлавіча; па трэцяй, самай нечаканай і цікавай, бацька Меншыкава, Даніла Меншык трапіў на Русь з Літвы падчас руска-польскай вайны 1664 г. Тут ён, католік, змяніў веру, «выправіў» прозвішча на рускі манер, жаніўся і паступіў на службу да цара.

Дарэчы, сам Аляксандр Меншыкаў не адмаўляў і, наадварот, паўсюль падкрэсліваў сваё літоўскае паходжанне. Але яму хацелася быць не проста літвінам, а нашчадкам каго-небудзь з высакародных. І ў гэтым імкненні ён настолькі перабаршчыў, што многія палічылі не вартым веры нічога з таго, што Меншыкаў гаворыць пра сваіх продкаў.

Сапраўды, генеалагічная табліца, зробленая па заказу гэтага хітрага царадворца, абсурдна. Сучаснікі-іншаземцы ўсе як адзін сцвярджаюць, што Меншыкаў быў вельмі нязнатнага паходжання. Але пры ўсім гэтым у снежні 1707 г. з'езд літоўскай шляхты складае дакумент, у якім 46 даволі ўплывовых нашых суайчыннікаў засведчваюць, што «Аляксандр Меншык нашай айчыны княства Літоўскага сын».

Беларусы Меншыкава не любілі пры жыцці і не шанавалі пасля смерці. І мелі рацыю. Пакінуў гэты чалавек аб сабе нядобрую памяць на радзіме сваіх продкаў падчас Паўночнай вайны. Можа, таму не спяшаюцца і зараз нашы даследчыкі прызнаць яго сваім. Але гісторыя — гэта навука, а не палітыка, і яна патрабуе справядлівых адно-

сін да мінулага. Тым больш што да сям'і неабаяльнага Меншыкава належыць асоба светлая, якой захапляліся сучаснікі і ганарыліся расіяне, што жылі пазней, прыгажуня і разумніца Марыя Аляксандраўна.

Пра трагічны лёс гэтай жанчыны, якая ледзь не стала расійскай царыцай, наш аповед.

Марыя Аляксандраўна была старэйшай дачкой Меншыкава. Яна нарадзілася ў 1711 г. у зеніце славы бацькі. Яе выхоўвалі так, як, на думку Аляксандра Данілавіча, павінна была выхоўвацца знатная літвінка. Яна належала да першага пакалення расіян, якія ўспрымалі Пятроўскія рэформы як нешта спрадвечнае, бо нарадзіліся ўжо пасля іх прыняцця. Таму еўрапейскія сукенкі сядзелі на юнай Марыі, як на парыжанцы, менуэты на асамблеях і піццё кофе па раніцах давалі задавальненне.

Ужо ў дзесяцігадовым узросце было бачна, што з Машы Меншыкавай вырасце прыгажуня. Кічлівы бацька пачаў рыхтаваць ёй бліскучую будучыню. У пятнаццаць гадоў дзяўчына была ўжо прасватана за маладога Сапегу (на жаль, нам пакуль не вядома яго імя), які з'явіўся пры двары пасля смерці Пятра I і вельмі хутка сваёй галантнасцш, сваім вострым розумам пакарыў імператрыцу Кацярыну I. Меншыкаў паспяшаўся скласці шлюбны кантракт з гэтым прадстаўніком аднаго з самых славутых магнацкіх радоў Літвы. Гэты саюз мог бы стаць яшчэ адным козырам у славалюбівым імкненні Меншыкава даказаць усім сваю прыналежнасць да найвышэйшай знаці Літвы.

Марыя Аляксандраўна, па апісанні сучаснікаў, была дзяўчынаю з прыемнымі манерамі, з прыгожым тварам, з чорнымі вогненнымі вачыма і локанамі, пакрытымі па звычаі таго часу пудраю. Здаецца, яна закахалася ў свайго жаніха, але каханне гэта было яшчэ дзіцячым. Марыі падабалася знешнасць маладога Сапегі, яго ўменне звярнуць на сябе ўвагу, яго смелыя заляцанні і яго майстэрства субяседніка. Дарэчы, Сапега ўскружыў галаву не толькі маладзенькай Меншыкавай.

Тым не менш бацька Марыі, Аляксандр Данілавіч, пры ўсёй выгаднасці гэтага шлюбу для сваёй сям'і трымаў у тайне нешта яшчэ больш ганаровае для сваёй старэйшай дачкі. Ён абдумваў план, як бы зрабіць Марыю царыцай. Але тут было ўсё так няпэўна, што прыйшлося прыняць прапанову Сапегі, каб у выпадку няўдачы з больш грандыёзным планам мець неблагі запасны варыянт.

Перш за ўсё хітры Аляксандр Данілавіч зрабіў усё магчымае, каб Кацярына I, якая заўсёды вельмі давярала яму і якую інтуітыўна цягнула да земляка, аб'явіла сваім пераемнікам хлопчыка-князя Пятра

Аляксеевіча, сына пакаранага Пятром І царэвіча Аляксея. Потым настаяў на запісе ў завяшчанні імператрыцы наступнага пункта: «зрабіць усё магчымае, каб уладкаваць шлюб паміж Пятром II і адною з дачок Меншыкава». Магчыма, калі б Аляксандр Данілавіч упісаў у гэты дакумент імя сваёй малодшай дачкі, Аляксандры, лёс Марыі не склаўся б так сумна. Але, на думку Меншыкава, удакладняць імя было яшчэ вельмі рана. Старэйшай была Марыя, значыць, спачатку трэба думаць пра яе будучыню.

Між тым тэрмін жаніхоўства Сапегі скончваўся. Заставалася літаральна некалькі месяцаў да вянчання. І тут памірае імператрыца. Царом становіцца юны Пётр II, рэгентам — Меншыкаў. Шлюбны дагавор з Сапегам імгненна скасоўваецца, і Марыя Аляксандраўна абвяшчаецца царскай нявестай.

Гэта было нечаканым для ўсіх. Пётр II, дванаццацігадовы хлопчык, якому прапанавалі шаснаццацігадовую дзяўчыну, пачынае ненавідзець свайго рэгента. Ён саромеецца сваёй занадта дарослай нявесты, яна яму не падабаецца. З дзіцячай наіўнасцю царэвіч пытаецца ў міністра Остэрмана, на якіх правах у Расіі жэняць супраць волі. І са слязьмі ўпрошвае сваю родную сястру Наталлю Аляксееўну, дарэчы, не на шмат старэйшую за яго, разладзіць гэты шлюб.

Сапега пасля бурнай сцэны, устроенай Меншыкаву, згаджаецца адступіцца ад нявесты пры выкананні трох умоў. Ён патрабуе выплаты яму той сумы, якая была абяцана як пасаг за Марыяй, яму патрэбны таксама ў якасці ўладанняў некалькі вёсак у Расіі, і ён жадае іншую нявесту, не менш знатную, не менш прыбліжаную да расійскага прастола, прытым літоўскага паходжання. Магчыма, Сапега, разлічвэў на тое, што Меншыкаў прапануе яму малодшую дачку. Але якраз у гэты час Аляксандр Данілавіч атрымаў прапанову выдаць Аляксандру за наследнага прынца Ангальт-Дэсаўскага. І Сапега ажаніўся з пляменніцай нябожчыцы-імператрыцы — Соф'яй Карлаўнай Скаўронскай. Наконт жа грошай і маёнткаў нічога не вядома. Хутчэй за ўсё Сапега іх не атрымаў.

Марыя Аляксандраўна, пакрыўджаная тым, што яе жаніх так лёгка ўступіў яе іншаму, толькі горка плача па начах. Яна зусім не славалюбівая. І ў новым расійскім цару бачыць толькі хлопчыка, які ніколі не зразумее яе і якога яна ніколі не ўспрыме як мужа. Тым больш што кічлівы Аляксандр Данілавіч ненаўмысна зрабіў ўсё, каб яго дачку, прыгожую, разумную і няшчасную, ўзненавідзелі. Меншыкаў прыдумаў для Марыі гучны тытул: «Яе імператарскае Высочаства Гасударыня-Нявеста» і загадаў усім навакольным звяртацца да дзяў-

чыны толькі гэтак. Таксама ўсе, нават члены царскай сям'і, павінны былі цалаваць будучай імператрыцы руку.

Каб паскорыць жаніцьбу Пятра II і Марыі, Меншыкаў паспяшаўся аб'явіць дванаццацігадовага цара паўналетнім. Але хлопчык заявіў, што да 25 гадоў жаніцца не згодны. І ў рэшце рэшт, адчуўшы сябе сапраўды паўналетнім, юны цар пачаў рашучую барацьбу супраць царадворца, які зрабіў замах на яго асабістае жыццё. Пятру II дапамаглі ў гэтым Далгарукавы (яны самі марылі парадніцца з царом праз сваю сястру), Остэрман, які ненавідзеў Меншыкава, таму што бачыў у ім саперніка, і настаўнік цара — Феафан Пракаповіч.

Афіцыйных абвінавачанняў, каб змясціць Меншыкава, шукаць было не трэба: Аляксандр Данілавіч заўсёды нахабна запускаў руку ў царскую казну. Вельмі хутка ў Вярхоўным савеце атрымалі ўказ Пятра II, які забараняў выконваць распараджэнні Меншыкава. Потым з'явіўся ўказ аб адабранні з загадвання Меншыкава дзяржаўных кас. Аляксандру Данілавічу быў аб'яўлены хатні арышт. Праз некалькі дзён усю сям'ю Меншыкава адправілі ў Раненбург, у ссылку. Члены яго сям'і апрануліся ў жалобу. Апынулася ў ссылцы і царская нявеста, цяпер ужо былая. Перад ад'ездам з пальца Марыі прылюдна знялі заручальны пярсцёнак.

Аляксандр Данілавіч разумеў, што Раненбург — гэта толькі этап і што яго сям'ю чакаюць яшчэ горшыя выпрабаванні. Таму паслаў Пятру II слязлівае пісьмо з просьбаю даць яму магчымасць скончыць жыццё ў Раненбурзе, удалечыні ад дзяржаўных спраў. Хадайнічала аб лёсе сваіх дзяцей і жонка Меншыкава, Дар'я Міхайлаўна Арсеньева. Але нічога ўжо не магло дапамагчы.

У лютым 1728 г. у Маскве каранаваўся Пётр II, а праз месяц лёс Аляксандра Данілавіча быў ужо вырашаны канчаткова: Сібір, Бярозава, з канфіскацыяй усіх багаццяў.

Страціўшы зрок ад нервовага ўзрушэння, Дар'я Міхайлаўна памерла, не даехаўшы да Бярозава. У ссылцы Марыя была добрым анёлам бацькі.

Есць сведчанні пра тое, што Меншыкаў вельмі мужна пераносіў сваё няшчасце. Ён стаў філосафам, адпусціў бараду і ўсё прападаў на будоўлі царквы, якую ўзводзіў пры дапамозе дзесяці слуг, якіх яму дазволілі трымаць на грошы, прызначаныя ў якасці ўтрымання (10 рублёў у дзень). У сваёй царкве Аляксандр Данілавіч па памерлай жонцы служыў адну за адной памінальныя службы, падчас якіх выконваў абавязкі дыякана і прычэтніка.

Жыццё Марыі было бескаляровым і аднастайным: слуханне пропаведзяў, якія чытаў кожны дзень пасля абедні бацька, чытанне

Біблії, рукадзелле ды начное прыслухоўванне да завывання ветру за акном. Каб адагнаць сум, яна ўзялася запісваць за бацькам яго ўспаміны. Да работы далучыліся брат і сястра, Аляксандр і Аляксандра. Дзеці Меншыкава разлічвалі на тое, што калі-небудзь людзей зацікавіць складаная, поўная нечаканасцей, узлётаў і падзенняў біяграфія бацькі. На жаль, каштоўны манускрыпт да нас не дайшоў.

Час цягнуўся бясконца. Марыя думала, што ў Маскве і Пецярбургу ўжо забыліся пра бліскучую царскую нявесту. Але яна памылялася.

Аднойчы ў Бярозаве таемна з'явіўся малады сімпатычны Фёдар Далгарукаў. Ён быў членам вялікага сямейства цяперашніх сяброў Пятра II. Далгарукавы былі ў фаворы, і Фёдар мог разлічваць на любую нявесту. Але ён не мог забыцца пра прыгажосць Марыі Аляксандраўны, якая некалі вельмі ўразіла яго. Тады малады чалавек не мог прызнацца ў каханні. Але цяпер, калі чаша шаляў схілілася ў бок яго сям'і, ён рызыкнуў прасіць узаемнасці ў прыгажуні.

Меншыкаў, у якога з'явілася надзея вярнуць з ссылкі хаця б любімую сваю дачку, стаў угаворваць Марыю згадзіцца на шлюб з Фёдарам Далгарукавым. Ды і сама дзяўчына, уражаная такім учынкам, не магла не адказаць яму ўзаемнасцю.

Таемны шлюб, па паданню, здзейсніўся ноччу ў царкве, пабудаванай Меншыкавым.

Далгарукаў праз дзень паехаў назад, каб выпрасіць у цара дазвол для Марыі Аляксандраўны вярнуцца ў Маскву. Са страхам і спадзяваннем чакала таемная жонка вестак. А іх усё не было. Хутка Марыя адчула, што стане маці. Бацька, брат і сястра — усе вельмі берaглі яе спакой. Але лёс аказаўся жорсткім для прыгажуні. Яна памерла ў 1729 г. падчас родаў, бо не знайшлося спавівальнай бабкі, каб дапамагчы ёй. Двое немаўлят, з'яўленне якіх на свет каштавала жыцця няшчаснай Марыі Аляксандраўны, таксама пражылі нядоўга.

Меншыкаў (пасівелы за адзін дзень) сваімі рукамі зрабіў тры труны, сам пахаваў васемнаццацігадовую дачку, паклаўшы на яе труну дзве маленькія — дзіцячыя.

Ён ненамнога перажыў любімую дачку, памёр праз некалькі месяцаў, у кастрычніку 1729 г. У апошнія дні амаль нічога не еў і ўсё ўспамінаў «Машеньку».

А літаральна праз год Далгарукавы таксама трапілі ў Бярозава, бо Пётр II памёр, так і не паспеўшы ажаніцца з іх дачкой і сястрой. А да ўлады прыйшла помслівая Ганна Іаанаўна.

Сястра і брат Марыі Меншыкавай усё ж атрымалі права вярнуцца. Дачаснікам спатрэбіліся грошы Аляксандра Данілавіча, якія ка-

лісьці былі пакладзены ім у Лонданскі і Амстэрдамскі банкі і якія банкіры згаджаліся вярнуць толькі нашчадкам Меншыкава.

З мэтай атрымаць гэтыя багацці Бірон ажаніў свайго брата Гюстава з Аляксандрай. Грошы з Лондана і Амстэрдама падзялілі Ганна Іаанаўна і браты Бірона. Сын Меншыкава не атрымаў нічога, акрамя чына паручніка Прэабражэнскага палка. Аляксандра, якая больш нікому не была патрэбная, правяла некалькі гадоў у слязах, успамінаючы пра старэйшую сястру, лёс якой цяпер ёй бачыўся зайздросным. Яна памерла ў 24 гады, не пакінуўшы пасля сябе нашчадкаў.

Так дзеці Меншыкава разлічваліся за справы бацькі.

## ЛЕКАРКА МАНАРХАЎ

## САЛАМЕЯ РЭГІНА РУСЕЦКАЯ
## (1718 — пасля 1760 гг.)

...май літасці болей і
Ты над лесам няўдалым, над маёю
нікчэмнаю доляй,
Бо грахі мне прынеслі столькі пакутаў,
І нястач, і нягод, і душы маёй мукаў.

*С. Русецкая. «Песня»*

Жанчына — пяшчотнае, слабае стварэнне, дэкаратыўная кветка, якая вырошчваецца ва ўмовах раскошы і бяздзейнасці, якой можна ганарыцца, паказваючы яе саноўным гасцям у час баляў і прыёмаў. Такой ва ўяўленні нашых продкаў павінна быць шляхцянка. Жанчына — гэта дамаседка, клапатлівая гаспадыня, маці і паслухмяная жонка. Такой хацелі бачыць продкі прадстаўніцу ніжэйшых саслоўяў.

Нарадзілася Саламея ў 1718 г. на Навагрудчыне. Бацька яе, Яўхім Русецкі, хутчэй за ўсё быў прадстаўніком так званага трэцяга саслоўя, г. зн. мешчанінам. У 1731 г. чатырнаццацігадовую дзяўчыну выдалі замуж за лекара-немца Якуба Хальпіру. Маладажоны ў тым жа годзе накіраваліся ў Стамбул, дзе ў хуткім часе Хальпір распачаў лекарскую дзейнасць. Жонка нечакана для яго праявіла да заняткаў мужа вялікую цікавасць і неўзабаве пачала дапамагаць яму. А паколькі яна вызначалася назіральнасцю, розумам і даволі вялікімі здольнасцямі, то ў хуткім часе пачала працаваць самастойна. Выпадак зводзіць Саламею з іракскім лекарам, які, заўважыўшы цікавасць маладой жанчыны да медыцыны, навучыў яе лячыць некаторыя хваробы вачэй. Мала-памалу Саламея набыла столькі ведаў і вопыту, што атрымала дазвол самастойна практыкаваць. Па мусульманскіх звычаях мужчына, нават лекар, не мог наведваць гарэмы. А прававерныя мусульманкі не мелі права лекаваць пацыентаў-мужчын. Саламея ж магла практыкаваць і сярод мужчын, і сярод жанчын. Гэта зрабіла яе вельмі папулярнай.

Неўзабаве ў яе мужа здарылася вялікая непрыемнасць. Пасля прыняцця чарговай дозы мікстуры, якую выпісаў Хальпір, яго пацыент (важны саноўнік) нечакана памёр. Якубу пагражала пакаранне смерцю. Але ўмяшалася Саламея. Яна абвінаваціла ва ўсім канкурэнта свайго мужа лейб-медыка султана Даніэля Фансеку, які ў час прыгатавання мікстуры знаходзіўся ў тым жа памяшканні і быццам бы той знарок падмяшаў у мікстуру атруту. Так гэта было ці не — ска-

заць цяжка. Але Фансека спалохаўся і без пярэчанняў згадзіўся заплаціць велізарныя грошы сям'і нябожчыка ў якасці кампенсацыі. Саламея святкавала перамогу. Лейб-медык жа вырашыў адпомсціць ёй. Ён дабіўся таго, каб Саламеі забаранілі лячыць мужчын. У жанчын жа ёй дазвалялася лячыць толькі захворванні вачэй.

Вышэйпамянёны ўказ моцна ўдарыў па яе матэрыяльным становішчы. А яшчэ больш па самалюбству. Маладая лекарка пачала шукаць шляхі, якія далі б ёй магчымасць дабіцца адмены абмежаванняў. Дапамог выпадак. Адзін з прыбліжаных султана звярнуўся да яе з просьбай вылечыць сваяка. У таго была мочакаменная хвароба. Саламея згадзілася. Яна ўдала правяла лячэнне, і абмежаванні ў дзейнасці былі зняты.

Дзесьці ў гэты час ускладніліся адносіны з мужам. Паспрыяла таму раптоўная нервовая хвароба маладой жанчыны. У яе пачаліся істэрыкі, якія суправаджаў параліч. Саламея скардзілася на тое, быццам на яе наслалі чары зайздроснікі. Абстаноўка ў доме стала невыноснай, і Якуб збег у Боснію, пакінуўшы жонку з маленькай дачкой у Стамбуле.

Ачуняўшы, Саламея накіроўваедца следам за ім. Яна марыць памірыцца. Грошай у яе, пэўна, было няшмат, таму жанчына вымушана была падзарабляць па дарозе. Можна меркаваць, што пацыенты плацілі ёй нядрэнна. Пра гэта сведчыць тое, што са Стамбула яна выехала толькі на павозцы і толькі з адным слугой. У горадзе ж Філіпбеі ўжо змагла наняць яшчэ двух слуг і дзесятак коней.

Шлях ляжаў праз Балканы, дзе яе падвяла яе ж вядомасць. Разбойніку Рудому Хусейну, які панаваў са сваёй шайкай у гэтых мясцінах, паведамілі, што з гандлёвым караванам, які накіроўваецца да перавалу, едзе лекарка Саламея, пераапранутая ў мужчынскае адзенне. Караван быў захоплены, усе спадарожнікі перабіты, а самой лекарцы разбойнікі загадалі ехаць з імі ў горад Карлава. Атаман пажадаў, каб Саламея занялася здароўем яго сваяка. Дарэчы, ён выказаў здзіўленне, чаму такая славутасць, як яго палонная, падарожнічае без канвою? Саламея зноў паказала свой розум і веданне чалавечай псіхалогіі. Яна адказала: «О, эфендзі, нават калі б у мяне быў канвой з пяцісот коннікаў, яны б не ўтрымалі націску воінаў храбрага віцязя Сары-Хусейна». Зразумела, што такі адказ узрушыў разбойніка.

Сваякі атамана сустрэлі лекарку як ганаровую госцю. Яе пасялілі ў асобным доме і прадаставілі ўсё неабходнае. Саламея цалкам задаволіла спадзяваннем яе захопніка. Пацыент адчуў сябе лепей настолькі, што змог хадзіць, праўда, пры дапамозе мыліц.

Больш таго, маладая лекарка пазбавіла і самога Сары-Хусейна ад хваробы, якую ў сваім дзённіку, апублікаваным пазней, называла «чырвоныя вочы». Хутчэй за ўсё, гэта быў запушчаны кан'юнктывіт. Разбойнікі шчодра аддзячылі яе і адпусцілі, прыбавіўшы для праводаў і аховы ад «калег» Сары-Хусейна яго ганаровы канвой.

У Сафіі яна нечакана сустрэла мужа. Якуб прыехаў падлячыць свае суставы на мінеральных водах. Але радасці гэта сустрэча не прынесла ні яму, ні Саламеі.

Значна больш, чым муж, яе зацікавіў ці то слуга, ці то раб, які прыехаў разам з Хальпірам. Італьянец па паходжанні, ён служыў лекарам на караблі рыцараў-мальтыйцаў. За той час, які ён з Хальпірам правёў на мінеральных водах, італьянец паспеў значна пашырыць веды сваёй новай знаёмай. Дзякуючы яму, Саламея набыла, у рэшце рэшт, больш-менш сістэматычную медыцынскую адукацыю. Итальянец навучыў яе асновам латыні, прынамсі,— выпісцы рэцэптаў. У хуткім часе яго адпусцілі на волю і дазволілі вярнуцца на радзіму. На развітанне і ў знак падзякі італьянец падарыў вучаніцы набор кніг па медыцыне і фармакалогіі.

У сямейным жа жыцці Хальпіраў не адбылося ніякіх змяненняў. Пасля заканчэння курсу лячэння Якуб паехаў назад у Боснію. Саламея ж, якая у гэты час была ўжо лекаркай шматлікіх жонак сафійскага пашы Купру-улу, засталася.

Канец сямейным сваркам паклала раптоўная смерць Хальпіра. Перад дзевятнаццацігадовай удавой адкрываліся шырокія перспектывы. Тым больш што грошы і маёмасць Якуба, якія належалі Саламеі па праву спадчынніцы, давалі ёй магчымасць на больш-менш забяспечанае існаванне.

Але ўсе планы перакрэсліла вайна, якую ў гэты час Турцыя вяла з Расіяй. Правіцелі Аўстрыі і Венгрыі выкарысталі такую сітуацыю для ажыццяўлення сваіх захопніцкіх планаў. Яны справакавалі паўстанне прыгнечаных туркамі сербаў і балгар. Больш таго, яшчэ і ўступілі ў вайну на баку Расіі. Але пышныя парадныя генералы аўстрыйскага і венгерскага манархаў аказаліся бяздарнымі палкаводцамі. Яны пацярпелі паражэнне і адступілі, а няшчасныя сербы і балгары, што даверыліся ім і падтрымалі, былі жорстка пакараны туркамі. На працягу трох сутак салдаты турэцкага султана забівалі ўсіх знойдзеных імі мужчын ад 18 да 60 гадоў. Жахі, сведкай якіх аказалася Саламея ў тыя дні, настолькі ўразілі яе, што яна вырашыла пакінуць службу ў пашы (дарэчы, вельмі выгадную для яе). Саламея пераапранулася ў адзенне янычара, узяла дачку і слугу і збегла з Сафіі.

Лёс прывёў яе ў Відзін — горад, які быў галоўным фарпостам туркаў на некаторай частцы Балгарыі. Тут яна ўбачыла вартую жалю карціну — тысячы закутых у кайданы аўстрыйскіх салдат і афіцэраў. Яна ведала, што большасць з іх чакае рабства. Сэрца яе напоўнілася жалем, і Саламея выкупіла чатырох афіцэраў і адну афіцэрскую ўдаву. Пасяліліся яны ў доме выратавальніцы. Саламея, аднак, разлічвала на тое, што ёй кампенсуюць панесеныя расходы. І вось у Аўстрыю пайшлі лісты. Родныя большасці з выкупленых Саламеяй адгукнуліся вельмі хутка. Толькі ад родзічаў прапаршчыка Фартуната-Ежэфа дэ Пільштына ніякіх вестак не прыйшло. І ён пакуль вымушаны быў застацца з Саламеяй.

У гэты час лекарку напаткала новая непрыемнасць. Відзенскі паша Хайваз Мехмет загадаў ёй вылечыць трансільванскага князя Хожэфа Ракачы. Туркі былі вельмі зацікаўлены ў яго здароўі, бо мелі намер зрабіць яго венгерскім каралём. Лекарка выканала загад. Пацыент нечакана захапіўся ёю і пачаў заляцацца. Ды і нядзіўна. Саламея была вельмі прыгожай жанчынай. Тым не менш усе заляцанні аказаліся марнымі. Тады Ракачы вырашыў пакараць непрыступную прыгажуню. Ён настрачыў данос, абвінаваціўшы Саламею ў шпіёнстве на карысць Аўстрыі. І жанчыне давялося бегчы над пагрозай смерці. Разам з дачкой, слугамі і апошнім выкупленым палонным на выпадковым караблі яна адплывае ўніз па Дунаі. Саламея так спяшалася, што не ўзяла нават пашпарт. З-за гэтага ў горадзе Рушчуку яе арыштавалі. Зноў ёй пагражае смерць. І зноў Саламею выратоўвае яе майстэрства. Якраз у тую ноч, калі яе схапілі, захварэў сын мясцовага скарбніка. Ніводзін лекар не змог дапамагчы яму. Тады арыштаваная прапанавала свае паслугі. На трэці дзень хворы адкрыў вочы, а пасля поўнага курсу лячэння (сорак дзён) цалкам ачуняў.

Турэцкі скарбнік аказаўся больш удзячным, чым трансільванскі князь — і Саламея атрымала волю і нават дазвол ехаць у Расію. Прычыну для выезду яна знайшла вельмі хутка — пад Азовам у рускі палон трапіла некалькі турэцкіх афіцэраў, якія паходзілі з Русы. Саламея паабяцала вызваліць іх. На тэрыторыі Рэчы Паспалітай лекарка выйшла замуж за Пільштына. Муж яе паступіў на службу да вялікага гетмана літоўскага Міхала Радзівіла Рыбанькі. Русецкая нядоўгі час папрацавала ў Нясвіжы доктаркай, а затым, пакінуўшы мужа і дачку, якую ўладкавала да манахінь бенедыктынак, накіравалася праз Рыгу і Нарву ў Пецярбург.

Але патрапіць на прыём да імператрыцы Ганны Іванаўны аказалася вельмі цяжка. А без гэтага вызваліць туркаў было немагчыма. Не дапамаглі ні рэкамендацыі, ні тое, што Саламея вылечыла некаторых

з саноўнікаў. Цікавасць імператрыцы да лекаркі ўзнікла, як ні дзіўна, дзякуючы плёткам, што ішлі сярод слуг. Тыя былі сведкамі аперацыі па выдаленню катаракты, якую правяла Саламея. Лекарка выратавала ад слепаты простую дзяўчыну, што працавала ў доме старога бандурыста. У той жа вечар лекарку запрасілі да імператрыцы. Тая адразу прыняла лекарку ў штат прыдворнай абслугі. Да Саламеі адразу пачалі звяртацца прыдворныя дамы. Можа, зайздрасць, а можа, антынавуковыя метады, якімі карысталася новая лекарка, выклікалі незадавальненне яе калег. Пачаліся інтрыгі. Аднак Саламея, дзякуючы сваім здольнасцям і жывому розуму, падабалася імператрыцы. Да ўсяго ж тую вельмі цікавілі расказы прыхільніцы пра яе жыццё ў Турцыі, пра звычаі і норавы, якія бытавалі там. Карыстаючыся такімі адносінамі, лекарка папрасіла падарыць ёй двух палонных туркаў. Імператрыца расшчодрылася і падарыла чатырох. А на развітанне наказала выдаць тысячу рублёў, набор срэбраных кубкаў, адрэзы тканіны і сурвэткі з гербамі.

Па ўказу імператрыцы Саламеі аддалі чатырох туркаў — двух янычараў і двух афіцэраў-сіпахаў. Да мяжы Рэчы Паспалітай дабраліся спадарожнікі амаль без прыгод. Праўда, у адной карчме прыйшлося адбівацца ад нападу разбойнікаў. Але ўсё скончылася добра. А вось на Беларускай зямлі... Тут Саламея пабедавала. Рыбанька, які памятаў, як уцякла ад яго лекарка, забраў туркаў і адправіў на радзіму, а нашу гераіню паслаў да мужа. Той служыў у гэты час у глухой палескай вёсцы Лахва, размешчанай на тэрыторыі цяперашняга Лунінецкага раёна. Ціхае, размеранае жыццё не спадабалася Саламеі. Ды і Пільштын пачаў расчароўваць яе. Хутка яна засумавала і стала шукаць падставу пакінуць гэтыя мясціны. Аднойчы Саламея заявіла, што едзе да бацькоў мужа, каб спагнаць з іх тыя грошы, якія заплаціла за яго ў якасьці выкупу. Ёй дазволілі. І вось, нягледзячы на тое, што яна чакае дзіця, яна едзе ў Аўстрыю. Дарэчы, дачку сваю прыгодніца зноў пакінула. Толькі на гэты раз не ў кляштары, а ў жонкі смаленскага каштэляна Шчыта.

Бацькі Фартуната сустрэлі нечаканую госцю вельмі цёпла. Праўда, аддалі ёй толькі трэць сумы, якую яна затраціла на выкуп. З размоў Саламея зразумела, што бацькі яе мужа былі ім вельмі не задаволены. Той з дзяцінства вызначаўся непаслухмянасцю, растраціў шмат грошай, а галоўнае — насуперак волі бацькі паступіў на ваенную службу.

Спадарожніца накіроўваецца ў Вену і пачынае хадайнічаць, каб імператарская казна вярнула ёй грошы. Яна дайшла да імператара Карла VI. Той паабяцаў выканаць просьбу, але падмануў. У роспачы

Саламея звярнулася да імператрыцы і атрымала ад яе... 5 залатых дукатаў. У рэшце рэшт прасіцелька зразумела, што ўсе яе намаганні марныя. Трэба было вяртацца дадому. Але грошы скончыліся. Ды яшчэ і час родаў набліжаўся. Адчай прымусіў яе звярнуцца да пасла Турцыі Джані-бея Алі-эфендзі з прапановай сваіх паслуг у якасці лекаркі членаў пасольства. Той згадзіўся: новая лекарка выдатна ведала турэцкую мову і магла абыходзіцца без перакладчыка. Хутка яе майстэрства стала вядома і жыхарам Вены. Да Саламеі пачалі звяртацца і аўстрыйцы.

Тут, у Вене, яна нарадзіла хлопчыка, які атрымаў імя Францішак-Ксаверый. Здавалася б, усё ідзе добра. Але зямлячку нашу зноў пацягнула ў дарогу. Не спыніла нават тое, што шлях яе пралягаў па ахопленых вайною землях. Якраз перад гэтым памёр Карл VI, і яго сусед — прускі кароль Фрыдрых II — вырашыў скарыстаць гэты момант для павелічэння тэрыторыі свайго каралеўства. Дарэчы, прыгодніца змагла прабіцца на прыём да ваяўнічага Фрыдрыха. І нават ён не ўстаяў перад яе абаяннем і дазволіў выехаць з захопленай ім Сілезіі.

Дома Саламея са здзіўленнем даведалася, што Фартунат забраў сваю падчарку і выхоўвае яе сам. «Добрыя людзі» паведамілі ёй таксама, што ў яе мужа былі «амуры». У адчаі Саламея вырашае схавацца ў кляштары ў Львове. Фартунату ўдаецца на гэты раз вярнуць яе ў сям'ю. Аднак, нягледзячы на ўсе яго намаганні, сямейнае жыццё так і не наладзілася.

Хутка Саламея зноў вырашае кінуць мужа і выехаць за мяжу. Падстава — неабходнасць атрымаць выкуп ад турэцкіх афіцэраў, якіх яна вызваліла калісьці з рускага палону. Усё было амаль як і ў мінулы раз. Зноў падарожжа па выкуп. Зноў за мяжу. Зноў яна чакае дзіця. Дачку, праўда, яна пакінула на айчыма, але двухгадовага сына чамусьці даверыла не яму, а ўдаве брацлаўскага каштэляна. Зноў недахоп грошай. Зноў Саламея займаецца лячэннем у кожным сустрэчным горадзе. У адным з іх — Бухарэсце нараджае сына, якога называе Станіслаў Костка.

А з атрыманнем грошай зноў клопаты. Янычары адразу заплацілі названую ёю суму, а вось сіпахі адмовіліся. Яны спасылаліся на тое, што з няволі іх адпусціў Радзівіл, потым пачалі сцвярджаць, што нібыта самі збеглі з палону, а лекарка, маўляў, толькі дапамагла ім перабрацца з Расіі. Каб не плаціць, сіпахі звярнуліся ў стамбульскі дыван. Але Саламея аказалася хітрэйшай. Яна звязалася з былым паслом Турцыі ў Расіі. Ях'я-паша ведаў яе яшчэ па Пецярбургу. І вось саноўнік атрымаў ад султана фірман, у якім гаварылася аб вырашэнні справы на карысць Саламеі.

І вось суд у Русе. Сіпахі падаюць суддзі рашэнне дывана, паводле якога яны павінны вярнуць лекарцы толькі выдаткі за праезд ад Нарвы да Беларусі. Усе, як кажуць, задаволены. Але тут Саламея паказвае фірман. Агульная разгубленасць. Ніхто не чакаў такога павароту справы. Адзін сіпах згаджаецца тут жа аддаць грошы. А вось другі пачынае пагражаць Саламеі, больш таго — заяўляе, што хутчэй расправіцца з ёю з дапамогай слуг, чым аддасць грошы. Нечакана і для яго, і для іншых удзельнікаў дваццацідвухгадовая танклявая жанчына выхоплівае невядома адкуль пару пісталетаў і заяўляе: «І ў мяне хопіць пораху на тваіх слуг. Аддай мне тое, што належыць, а пасля няхай будзе, што Бог дасць». Пад дуламі гэтых пісталетаў сіпах вымушаны быў аддаць грошы. Адкуль яму, бедалазе, было ведаць, з кім ён звязаўся? Ды і хто мог падумаць, што грацыёзная жанчына з дзяцінства любіць стральбу?

Пасля гэтых падзей Саламея яшчэ два гады пражыла ў Турцыі. Затым перабралася ў Рэч Паспалітую. Усю сям'ю сабрала ў Камянцы-Падольскім. Здавалася, што ў рэшце рэшт пачнецца ціхае сямейнае жыццё. Але тут жа амаль адначасова на яе абрынуліся два няшчасці. Яе кінуў Фартунат Пільштын. Да таго ж камендант мясцовага замка Бякерскі арыштаваў яе, а маёмасць апячатаў. Зрабіў ён гэта для таго, каб не аддаваць пазычаныя ў лекаркі грошы. Аднак Саламеі ўдалося збегчы. Праз пэўны час яна змагла сустрэцца з вялікім каронным (польскім) гетманам Юзэфам Патоцкім. Аповед дваццаціпяцігадовай жанчыны аб яе бедах, аб той беззаконнасці, якую праявіў Бякерскі, расчуліў Патоцкага. Маёмасць была вернута.

Авантурыстка, лекарка, падарожніца, Саламея ўсё ж заставалася жанчынай, не застрахаванай ад чараў кахання. Яе страснасць накладвала адбітак на ўсе яе справы. Можа, таму, мяркуем мы зараз, праз 200 гадоў пасля таго, як адбываліся ўсе гэтыя падзеі, не ўдалося давесці гэтай таленавітай жанчыне да канца ніводнай са сваіх задум? Яна змагла стаць вельмі добрай і нават моднай у вышэйшых колах лекаркай, але залішняя страснасць і нецярплівасць яе чыста жаночага характару не дазволілі ёй у поўнай меры прысвяціць жыццё медыцыне. Няўрымслівая натура Саламеі прымушала яе часта мяняць месцажыхарства. Вандроўніцтва прыносіла маладой жанчыне вялікае задавальненне. Яна нават вяла дзённік, запісваючы ў яго ўсё ўбачанае і пачутае. Але сістэмнасці, як у сапраўднага падарожніка, у яе пераездах не было. Саламею вельмі цягнула на авантуры. Яна любавалася сабою, апранаючыся ў мужчынскае адзенне і распіхваючы па кішэнях пісталеты. У крытычных сітуацыях яна са сваёй вынаходлівасцю

выглядала больш прывабнай, чым у ціхія перыяды свайго жыцця. Але ніякай мэты ў пагоні за прыгодамі перад сабою Саламея не ставіла.

Магчыма, такое дзіўнае спалучэнне моцы са слабасцю, яркага розуму і таленту з легкадумнасцю робіць асабліва прывабным для нас яе вобраз.

Усе гэтыя думкі прыходзяць у галаву, калі знаёмішся з усімі падзеямі, якія былі звязаны з першым у яе жыцці каханнем; калі бачыш, як вялікае вельмі моцнае і... сумнае пачуццё прыносіць ёй боль і гора. А прыйшло ўсё гэта пасля знаёмства з вельмі прыгожым афіцэрам. Заўважым, што гэты васемнаццацігадовы войт быў ужо закаранелым мотам і сэрцаедам. Ён выкарыстоўваў частыя ад'езды лекаркі то да аднаго хворага, то да другога, для чарговых гулянак. Мала таго, што каханак прамотваў усе грошы Саламеі, дык яшчэ аднойчы закрыў старэйшага сына яе ў сырым склепе. Зрабіў ён гэта, каб хлопчык не ўбачыў і не расказаў маці аб яго п'янках і аб пасіях. Дзіця застудзілася і памерла ад запалення лёгкіх.

Саламея вырашыла пакінуць пасля ўсіх гэтых падзей Польшчу і пераехаць у Расію. Яна спадзявалася стаць лекаркай пры двары рускай імператрыцы Лізаветы Пятроўны, якая змяніла на прастоле Ганну Іванаўну. Саламея была ўпэўнена, што ўлады дазволяць ёй выехаць, таму ў чарговы раз змясціла дачку ў кляштар. Але падарожную ёй не выдалі. Да таго ж Расія ўвяла саракадзённы каранцін для ўсіх, хто перасякаў яе мяжу. Наша ж гераіня, абмінаючы перашкоды, таемна едзе ў Кіеў, дзе трапляе на прыём да генерал-губернатара. Зноў яна прымяніла сваё абаянне, і сэрца чарговага аб'екта не вытрымала яе псіхічнай атакі. Губернатар дараваў Саламеі яе ўчынак і дазволіў жыць у горадзе. Саламея звярнулася да імператрыцы з просьбай дазволіць прыехаць у Пецярбург і ўладкавацца лекаркаю пры двары. У чаканні мінуў амаль год. І вось — станоўчы адказ. Пачаліся зборы. І якраз у гэты час у Кіеве з'явіўся былы каханак з сябрам. Ён сустрэўся з лекаркай, нагаварыў ёй кучу прыгожых слоў, і яна... растала. Дзіўнае жаночае сэрца! Але каханак нядоўга гасцяваў у сваёй «адзінай». Ён абакраў яе і на яе ж санях збег у Рэч Паспалітую. Саламея кінулася са скаргай да генерал-губернатара. Той даў ёй дваццаць кавалерыстаў, каб злавіць злодзея. Але каханак раней іх паспеў да граніцы. Кавалерыстам засталося толькі скрыгатаць зубамі ад злосці, мацюкацца ды прыгаворваць: «Ах, ... збег лях, хахол, злодзей...»

Лекарка паехала па сваю маёмасць у Камянец-Падольскі. Там яна збіралася падаць у суд. Ды і «каханаму-любаму» хацела паглядзець у вочы. Але ёй паведамілі, што той схаваўся ў кляштары. Праз некалькі дзён наша зямлячка зайшла ў касцёл на споведзь і нечакана

для сябе сустрэла там каханка. Ён са слязьмі на вачах прасіў Саламею не губіць яго, не ўзбуджаць судовай справы. Пры гэтым зноў прыгадваў аб сваім каханні, даваў абяцанні вярнуць усё, што ўкраў. Жанчына, як ні дзіўна, зноў паверыла яму. І зразумела, зноў падманулася. Ёй вярнулі далёка не ўсё.

Усё гэта настолькі выматала бедную Саламею, што яна і думаць не магла аб тым, каб кудысьці ехаць альбо чагосьці дабівацца. Злодзей са сваім сябрам так і не быў пакараны. Ды і ад вандроўкі ў Пецярбург давялося адмовіцца. Саламея пасялілася ў Дубне. Яна забрала з кляштара дачку і хутка выдала яе замуж. Сына, які ў гэты час вучыўся ў школе, перавезла з Львова ў Камянец-Падольскі, бліжэй да сябе.

Мінула некалькі гадоў. Але характар вечнай вандроўніцы зноў заварушыўся. Саламея перабіраецца ў іншае месца. Яна пасялілася ў турэцкіх уладаннях у Малдавіі. Пра гэта даволі хутка даведваецца вялікі янычар-ага (галоўнакамандуючы янычарскім войскам), у якога была хворая пляменніца. Яна страціла зрок у маладыя гады. І вось Саламею запрашаюць у Стамбул. Для гарантавання ж бяспекі накіравалі да яе восем янычараў.

Так лекарка зноў апынулася ў горадзе, дзе прайшло яе юнацтва. Яна вылечыла пляменніцу янычар-агі. Таксама паспяхова прайшло лячэнне і іншых хворых, сярод якіх былі турэцкія саноўнікі, сёстры султана Айшэ і Асма, яго ж жонкі і наложніцы. Праз пэўны час Саламея стала лекаркай султанскага гарэма.

Здаецца, што ў рэшце рэшт жыццё вечнай вандроўніцы наладзілася. Усеагульная павага, пастаяннае месца працы, добрыя грошы, спакой. Але ў 1760 г. у Стамбул прыязджае польскае пасольства. У яго склад уваходзіў сябра былога каханка С. Завадскі і ... васемнаццацігадовы сын Саламеі Станіслаў. Яна вельмі ўзрадавалася, хацела, каб ён застаўся з ёю. Але той ці то па свайму жаданню, ці то па парадзе Завадскага, які настройваў юнака супраць маці, адмовіўся і паехаў дадому. Гэта вельмі яе засмуціла. Каб забыць такое здарэнне, Саламея зноў адправілася ў падарожжа. На гэты раз яна збіраецца пабываць у «Святой зямлі». У яе планы ўваходзіла наведаць не толькі Палесціну, але і Егіпет.

Ажыццявіла яна свой намер ці не, невядома, як невядомы і далейшы яе лес. Аб папярэднім, ужо расказаным на гэтых старонках бурным, поўным прыгод і самых неверагодных здарэнняў жыцці Саламеі Русецкай мы даведваемся дзякуючы яе дзённіку. Напісаны ён па-польску. Рукапіс знаходзіцца ў Кракаве, у Нацыянальным музеі.

Беларускі чытач змог пазнаёміцца з гэтым дзённікам у 1998 г., калі выдавецтва «Мастацкая літаратура» выпусціла ў свет беларускі пераклад кнігі пад назвай: Саламея Пільштынова «Авантуры майго жыцця».

## БАЛЕРЫНА І КАРОЛЬ

## АПАЛОНІЯ ДАРЭЎСКАЯ
## (Другая палова XVIII ст.)

...пан Тызенгаўз прыслаў танцорак —
Увесь кардэбалет, дзяўчатак мо пад сорак...
*А. Міцкевіч. «Пан Тадэвуш»*

Апалоніі Дарэўскай, прыгоннай танцоўшчыцы Антонія Тызенгаўза, пашанцавала: у архівах захаваліся дакументы, па якіх можна з большай ці меншай дакладнасцю прасачыць яе шлях ад маленькай навучэнкі Гродзенскай тэатральнай школы да бліскучай прыма-балерыны прыдворнага тэатра. Дзякуючы гэтаму, яшчэ адзін эпізод нашага мінулага набыў жывы, чалавечы твар. Апалонія Дарэўская — адна з тысячаў безыменных постацей, хто паклаў сваё жыццё на алтар мастацтва, хто стаяў ля вытокаў з'явы агульнаеўранейскага маштабу, імя якой — беларускі балет.

Гісторыя каралеўскай сільфіды пачалася ў 1774 г. у Гародні, калі саракагадоваму падскарбію надворнаму літоўскаму, вялікаму аматару мастацтва Антонію Тызенгаўзу прыйшло ў галаву адкрыць сваю тэатральную школу. У ёй павінны былі выхоўваць з таленавітых сялянскіх дзяцей артыстаў для оперна-балетнай трупы тэатра Тызенгаўза. Тэатр гэты з'явіўся ў Гародні яшчэ раней — у 1769 г. Шмат у чым Антоній Тызенгаўз быў ахвярай моды, якая нарадзіла ў Заходняй Еўропе цэлы шэраг цудоўных прыватных тэатраў. Спачатку ў тэатры падскарбія надворнага літоўскага выступалі пераважна іншаземныя артысты, якіх Тызенгаўз запрашаў у Гародню, каб прыемна праводзіць свой вольны час і дастаўляць задавальненне гасцям, якія даволі часта наведвалі яго велікапышны палац. Але ён быў не толькі меламанам, а і ў поўнай меры патрыётам (і гэта — нягледзячы на сваё іншаземнае паходжанне!). Ён даволі хутка зразумеў, што тэатральныя пастаноўкі не пагоршацца ад таго, што італьянцаў у іх заменяць беларусы. З прыгонных можна будзе скласці пастаянную трупу, працаваць з якой будзе значна лягчэй. Так узнікла ў Гародні тэатральная школа.

У яе пачалі набіраць сялянскіх дзяцей з васьмігадовага ўзросту. У першы набор трапіла і маленькая Апалонія. Развітваючыся з ёю, бацькі галасілі, як па нябожчыцы. Палохалі панскія выбрыкі. У вёсках Тызенгаўза хадзілі чуткі, што ў школе збіраюцца зрабіць з дзяцей бязбожнікаў, навучыць распусце, загубіць чыстыя дзіцячыя душы.

Неадукаваныя бацькі Апалоніі не маглі зразумець, што чакае іх дачку, але адчувалі, што ёй будзе вельмі цяжка.

Дзяўчынка была залічана ў клас танца. Акрамя яго, існавалі яшчэ два: клас спеваў і клас музыкі, у якім дзяцей вучылі ігры на розных музычных інструментах. Агульнымі для ўсіх вучняў былі такія дысцыпліны, як нотная грамата, тэорыя музыкі, пісьмо, маляванне, французская і англійская мовы, арыфметыка. Дзяўчынкам выкладалі яшчэ і рукадзелле.

Заняткі цягнуліся ўвесь дзень — дванаццаць гадзін. Напачатку дзеці хутка стамляліся і пераставалі ўспрымаць тое, што ім выкладаюць. За гэта іх сурова каралі. Пасля цяжкая праца стала звычнай.

Любімым настаўнікам Апалоніі быў харэограф-італьянец Гаэтана Петынеці. Ёй было цікава ўсё, што расказваў і паказваў гэты чалавек. Сам цудоўны танцоўшчык, Петынеці знаёміў сваіх вучняў з усім тым прагрэсіўным, што адбывалася ў свеце танца. Ад яго даведалася дзяўчынка пра тое, як у Італіі трыста гадоў назад узнік упершыню новы тып тэатральнага мастацтва — балет; як змяняліся, станавіліся больш лёгкімі і раскаванымі з цягам часу рухі танцоўшчыкаў; як зусім нядаўна ў Францыі артысты балета ўсталі на высокія паўпальцы, што стварыла незвычайны для танцаў усіх часоў і народаў эфект лёгкасці, паветранасці. Цяпер балерына сваім вялікім падабенствам можа паказаць у танцы лятучую паходку німфы альбо сільфіды.

Пасля гэткіх аповедаў хацелася працаваць з яшчэ большай стараннасцю. У Апалоніі аказалася вельмі гібкае цела і вялікая вынослівасць, што фарміравала ў ёй стройную, тоненькую і ладную дзяўчыну. У адзінаццаць гадоў яна ўжо была зачаравана танцам настолькі, што ні аб чым іншым, акрамя сцэны, не магла і марыць. Менавіта ў гэтым узросце ёй упершыню была даверана невялічкая роля ў школьным спектаклі «Вясковы балет» — адной з маленькіх сялянак, сяброўак галоўнай гераіні. Тым не менш Апалонія адчувала сябе на сцэне вельмі ўпэўнена. «Вясковы балет» быў задуманы Петынеці як своеасаблівая справаздача перад Тызенгаўзам. Падчас спектакля харэограф-настаўнік, які выконваў галоўную ролю, найбольш цяжкую, папераменна прадстаўляў пану сваіх вучняў, паказваў, што яны могуць.

Пан застаўся задаволены. Пасля было яшчэ некалькі вучэбных спектакляў: «Квартэт дудароў», «Балет пекараў». Петынеці эксперыментаваў. Ён рабіў свае балеты на мясцовыя сюжэты, выкарыстоўваючы не толькі нацыянальны каларыт, але і пэўныя рухі народнага танца.

Вырашыўшы, урэшце, што вучні яго гатовы для сур'ёзнай работы, харэограф з дазволу Тызенгаўза вывеў іх на сцэну сапраўднага

тэатра. Цяпер падлеткі-танцоўшчыкі ўпрыгожвалі сваім мастацтвам многія спектаклі. Але для галоўных роляў яны былі яшчэ недастаткова дарослымі. Іх выконваў настаўнік і абаяльная пара танцоўшчыкаў-французаў Марэлі, якія неўзабаве атабарыліся ў Гародні.

У 1779 г. адбылася першая асабістая трагедыя Апалоніі. Яе любімы настаўнік вырашыў пакінуць Гародню. Гаэтана Петынеці перацягнуў у свой нясвіжскі тэатр Караль Станіслаў Радзівіл. Перад ад'ездам італьянец прадказаў маленькай танцоўшчыцы вялікую будучыню, як, дарэчы, і іншым сваім вучням: Бжазінскаму, Рымінскаму, Валінскаму, Малінскай і Пякарскай.

Першае пакаленне беларускіх артыстаў балета ўжо нарадзілася. Пасля Петынеці гарадзенскай балетнай трупай, у складзе якой было цяпер больш за 30 прафесійна падрыхтаваных артыстаў, пачалі кіраваць Марэлі — сям'я італьянскіх танцораў.

Але ў наступным годзе адбылася падзея, якая ўскалыхнула адносна спакойнае жыццё прыгонных артыстаў. Антоній Тызенгаўз стаў ахвярай інтрыг сваіх нядобразычліўцаў і трапіў у апалу да караля. Яго абвінавацілі ў палітычнай бяздарнасці, няўдалай гаспадарчай дзейнасці і адхілілі ад кіравання каралеўскімі эканоміямі.

Апальны магнат рэзка адчуў матэрыяльныя цяжкасці, у выніку чаго давялося прадаць будынак тэатра, а артыстаў перавезці ў Паставы, якія належалі ў той час таксама Тызенгаўзу. Маленькі пастаўскі тэатр стаў, па сутнасці, тэатрам балета, бо танцоўшчыкі Тызенгаўза былі больш прафесійна падрыхтаваны, чым спевакі. Іх не сорамна было паказаць нават на каралеўскай сцэне. Пра гэта апальны пан думаў усё настойлівей. Магчыма, кароль, калі яму даставіць задавальненне, зноў наблізіць Тызенгаўза да сябе?

У Паставах Апалонія блізка сышлася з дзвюма таленавітымі дзяўчатамі, Магдаленай Карніцкай і Марыянай Чаклінскай, такімі ж вучаніцамі балетнай школы, як і яна сама. Дзяўчаты ўжо даўно прыглядаліся адна да адной і, урэшце, адчулі сябе здольнымі на сапраўднае сяброўства. У далейшым гэтыя тры выдатныя балерыны былі разлучаны лёсам, але заўсёды з цікаўнасцю сачылі адна за адной. Цяжкі ж шлях станаўлення ім давялося падзяліць на траіх.

У Паставах Апалонію чакала тое ж, што было ў Гародні: доўгія, знясільваючыя практыкаванні і кароткія бліскучыя хвіліны поспеху. Танец выкладалі цяпер француз Ле Ду і танцоўшчык з прыгонных — Рымінскі. Яны вылучылі Апалонію сярод іншых. Дзяўчыне пачалі давяраць галоўныя ролі.

У 1785 г. мара Тызенгаўза пра паказ свайго балета ў Варшаве збылася. Гэта быў спектакль «Гілас і Сільвія», створаны Ле Ду. На

жаль, нам невядома дакладна, хто з дзяўчат выконваў тады галоўную ролю. Можа, яна — васемнаццагадовая Апалонія іграла Сільвію?

Як бы там ні было, але польскі кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі прыйшоў у захапленне.

У гэтым жа 1785 г. Тызенгаўз памёр. Перад смерцю ён паспеў скласці завяшчанне, у якім перадаваў артыстаў у каралеўскую ўласнасць.

Так Дарэўская трапіла на Варшаўскую сцэну.

Трупа, першай салісткай якой стала Апалонія, насіла гучную назву «Таварыства танцоўшчыкаў яго каралеўскай вялікасці». Гэта была першая польская трупа. А існавала яна з 1780 г. Усе артысты, што ўваходзілі ў яе, былі сялянскага паходжання. Амаль трэць танцоўшчыкаў трапіла сюды з Беларусі. Гэта іх вельмі збліжала паміж сабой.

Станіславу Аўгусту Панятоўскаму, які лічыў сябе «літвінам знатнага паходжання», бо нарадзіўся і прыняў хрост на літоўскіх землях, пэўна, было вельмі прыемна, што славу Польшчы ствараюць яго землякі. Ён усяляк заахвочваў і вылучаў іх.

Яго вялікасць адразу заўважыў яркую знешнасць Апалоніі і сказаў, што ёй вельмі падыдуць ролі гераінь тэмпераментных, жывых, вясёлых. І харэографы, каб дагадзіць манарху, пачынаюць складаць рэпертуар «пад Апалонію». Дарэўская з вялікім поспехам танцуе ў балетах «Мірза і Ліндор», «Рыбакі», «Лукас і Калінета». Дарэчы, у апошнім знайшліся выгадныя ролі і для яе сяброўак Чаклінскай і Карніцкай. Акрамя каралеўскіх сцэн, усе тры дзяўчыны выступаюць і ў Тэатры паспалітым. Неўзабаве Апалонія Дарэўская становіцца папулярнай асобай. Яе ведаюць і любяць.

1794 год, які карэнным чынам паўплываў на лёс Польшчы, змяніў і жыццё каралеўскай прыма-балерыны. Другі падзел слабай Рэчы Паспалітай драпежнікамі (Аўстрыяй, Прусіяй і Расіяй) ускалыхнуў народныя масы. Пачалося паўстанне. Армію паўстанцаў узначаліў генерал Тадэвуш Касцюшка.

Панятоўскі апынуўся ў няпэўным становішчы. З аднаго боку, ён не мог хаця б на словах не падтрымаць дзеянні сваіх падданых, з другога ж — добра памятаў, што ўзышоў на прастол па волі расійскай імператрыцы Кацярыны II.

Калі ў 1764 г. перад Расіяй паўстала пытанне, чыю кандыдатуру падтрымліваць на польскую карону, Кацярына ўспомніла сваё даўняе каханне, маладога сакратара англійскага пасольства Станіслава Панятоўскага, ад сувязі з якім у яе была нават дачка Ганна.

Стаўшы польскім каралём, Панятоўскі заўсёды прымаў такія рашэнні, якія маглі быць патрэбны расійскай імператрыцы.

На гэты раз ён даволі доўга хістаўся, але ў рэшце рэшт зноў аддаўся на волю ўладнай Кацярыны II. Паўстанне Касцюшкі было задушана. У 1795 г. Аўстрыя, Прусія і Расія здзейснілі трэці, і апошні, падзел суседняй дзяржавы, пасля якога Рэч Паспалітая перастала існаваць. Станіслаў Аўгуст быў вымушаны адмовіцца ад прастола. Кацярына пасяліла экс-караля ў Пецярбургу, дзе ён жыў у дастатку, але, вядома, без пашаны.

Падчас названых падзей танцоўшчыкі яго вялікасці раптам аказаліся без гаспадара. Але цяпер ужо слава працавала на Апалонію. З 1794 па 1797 г. яна танцуе ў прыватных антрэпрызах Варшавы і Гданьска і пад уласным імем, і пад псеўданімам — Дарота. Магдалена Карніцкая выбрала такі ж шлях, але працавала ў іншых антрэпрызах. Яна выйшла замуж і змяніла прозвішча на мужава — Дырэнталь. Марыяна Чаклінская, атрымаўшы волю, пасля 1797 г. пакінула сцэну.

Ці часта ўспамінала Апалонія Дарэўская пра свайго караля? Шкадавала ці асуджала яго ў душы?

Многія ў тыя часы наракалі на Панятоўскага, бо з-за яго бесхрыбетнасці Польшчы давялося перажыць не толькі тры ганебныя падзелы, але і нечуваную абразу ўласнага гонару — сімвал каралеўскай улады, трон, які ў якасці трафея быў дастаўлены з Варшавы ў Пецярбург, Кацярына II прыстасавала пад начны гаршчок. Праўда, імператрыца якраз седзячы на гэтым гаршку — польскім троне, хутка памерла, што палякі расцанілі як помсту ёй з боку ўсявышняга.

Не раз успомніў былы кароль пра шчаслівы час, калі ён знаходзіў задавальненне ў наведванні варшаўскіх тэатраў. Неяк Панятоўскі загадаў знайсці Апалонію і прывезці яе ў Пецярбург. Ён хацеў мець побач з сабой жывы напамін пра радзіму. І яна паспела прыехаць і суцешыць таго, хто быў яшчэ зусім нядаўна яе манархам. Праз год Станіслаў Аўгуст памёр (1798). Апалоніі было тады больш за трыццаць. Не жадаючы перажыць уласную славу, яна пакінула сцэну. Далейшы яе лёс невядомы.

У розны час у Расію трапілі і многія іншыя беларускія танцоўшчыкі, сярод якіх найбольшую вядомасць атрымалі дынастыі Ніжынскіх і Кшысінскіх. Сваёй творчасцю яны прымнажалі славу рускага балета, яшчэ заклаўшы раней фундамент беларускага, які зараз, безумоўна, перажывае час свайго росквіту і міжнароднага прызнання.

## ЛІТАРАТУРА


Алексеев Л. В. Полоцкая земля: Очерки по истории Советской Белоруссии в IX—XIII вв. М., 1966.
Андреев В. Представители власти в России после Петра І. М., 1990.
Аповесць жыція і смерці святой Еўфрасінні Полацкай //Спадчына. 1989. №1.
Арлоў У. Асветніца з роду Усяслава. Мн., 1991.
Арлоў У. Еўфрасіння Полацкая. Мн., 1992.
Брянцев П. Д. Исторія Литовского государства съ дрѣвнейшихъ времёнъ. Вильно, 1889.
Буссов К. Московская хроника. У зб.: Стояти за одно. М., 1983.
Валишевский К. Дочь Петра Великого. Мн., 1990.
Вольф Ю. Князі на абшарах Вялікага княства Літоўскага да канца XIV ст. // Спадчына. 1993. № 4.
Герберштэйнъ С. Записки о Московии. СПб., 1866.
Гісторыя беларускага тэатра. Т. 1. Мн., 1982.
Грицкевич А. П. Древний город на Случи. Мн., 1985.
Грицкевич А. П. Путешествия наших земляков. Мн., 1968.
Грыцкевіч В. П. Адысея наваградскай лекаркі. Мн., 1989.
Грушевський М. Історыя Украіни. Киів, 1992.
Дадиомова О. В. Музыкальная культура городов Белоруссии в XVIII веке. Мн., 1992.
Долгоруков В. П. Время императора Петра II и императрицы Анны Иоанновны. У кн.: Вокруг трона. Волгоград, 1986.
Житіе преподобной Ефросиніи Игумены Полоцкой. СПб., 1992.
Ермаловіч М. Старажытная Беларусь. Полацкі і навагародскі перыяды. Мн., 1990
Загорульский Э. М. Древняя история Белоруссии. Мн., 1977.
Заичкин И. А., Почкаев И. Н. Русская история. Популярный очерк IX — середины XVIII ст. М., 1992.
Зимин А. А. Витязь на распутье. Феодальная война в России XV в. Мн., 1991.
Ігнатоўскі У. Кароткі нарыс гісторыі Беларусь Мн., 1991.
Іпатава В. Алена Глінская // Работніца і сялянка. 1992. № 1.
Іпатава В. Дачка вялікага Вітаўта // Работніца і сялянка. 1991. № 9.
Іпатава В. Прадслава // Работніца і сялянка. 1990. № 1.
Іпатава В. Соф'я Гальшанская // Работніца і сялянка. 1992. № 12.
История Белорусской ССР. Т. 1. Мн., 1961.
История Венгрии. Т. 1. М., 1971.
Казлоў Л. Р. З дазволу караля і вялікага князя. Мн., 1992.
Кайдаш С. Сила слабых. Женщины в истории России (XI — XIX вв.) М., 1989.
Каралюк В. Д. История Польши. Т. 1. М., 1952.
Карамзин Н. М. История государства Российского. Т. 1. М., 1989.
Карамзин И. М. История государства Российского. Т. 2—3. М., 1991.
Карамзин Н. М. Предания веков. М., 1988.

Ключевский В. О. Исторические портреты. М., 1990. Ключевский В. О. Курс русской истории (лекции). У зб.: Стояти за одно. М., 1983.
Конинский Г. История русовъ или Малой России. М., 1846. Костомаров Н. И. Русская история в жизнеописаниях ее главных деятелей. М., 1990.
Крип'якевич І. Історія Українй. Львів, 1992.
Лакиеръ А. Б. Русская геральдика. СПб., 1885.
Ластоўскі В. Гісторыя Беларускай (Крэўскай) кнігі. Спроба паясніцельнай кнігапісі ад канца X да пачатку XIX ст. Коўна. 1926.
Ластоўскі В. Ю. Кароткая гісторыя Беларусі. Вільня, 1910.
Лебедев Т. С. Эпоха викингов в Северной Европе. Л., 1985.
Летапіс вялікіх князёў літоўскіх // Спадчына. 1991. № 1.
Летапісная аповесць пра Міндоўга і Войшалка // Спадчына. 1990. № 3.
Либрович С. Петр Великий и женщины. Л., 1991.
Лихоталь Т. Повесть о славных Богатырях, златом граде Киеве и великой напасти на землю русскую. М., 1974.
Ловмянский X. Русь и норманы. М., 1985.
Лотоцький А. Княжа слава. Киів, 1991.
Мальдзіс А. Беларусь у люстэрку мемуарнай літаратуры XVIII ст. Мн., 1982.
Мальдзіс А. На скрыжаваннях славянскіх традыцый. Мн., 1980.
Марціновіч А. Ля Каменкі бруістай. Мн., 1992.
Манусевич А. Я. Очерки по истории Польши. М., 1952.
Мельнікаў А. Найпадобная Еўпраксія ў манастве Еўфрасіння, князёўна полацкая, княгіня пскоўская // Беларусь. 1992. № 5.
Мельнікаў А. Помнік беларускай агіяграфіі // Спадчына. 1989. № 1.
Мельнікаў А. Праведная Софія, княгіня Слуццая // Беларусь. 1992. № 8.
Мельцер Д. Б. Белоруссия и Болгария: дружба вечная, нерушимая. Мн., 1981.
Нечволодов А. Сказания о Русской земле. Т. 1. М., 1991.
Нечволодов А. Сказания о Русской земле. Т. 2. М., 1991.
Повесть временных лет (по Лаврентьевской летописи). Т. 1-2. М.-Л.— 1950.
Полное собрание русских летописей. Т. 1. М., 1962.
Полное собрание русских летописей. Т. 2. М., 1962.
Полное собрание русских летописей. Т. 35. М., 1980.
Пилипенко М. Ф. Этнография Белоруссии. Мн., 1981.
Пушкарева Н. Л. Женщины Древней Руси. М., 1989.
Ричка В. М. За літопйснйм рядком. Киів, 1991.
Родчанка Р. Слуцкая старасветчына (факты і разважанні). Мн., 1991.
Рыбаков Б. А. Первые века русской истории. М., 1964.
Сабатини Р. Встреча с историком (Лжедмитрий). У кн.: Сабатини Р. Собрание сочинений. Т. 1. СПб., 1993.
Саверчанка І. В. Канцлер Вялікага княства. Мн., 1992.
Сагановіч Г. М. Айчыну сваю баронячы. Мн., 1992.
Святый благоверный великій князь Александр Ярославичъ. Подробное жизнеописаніе съ рисунками, планами и картами. М., 1991.
Седов В. В. Восточные славяне в VI—VIII вв. М., 1982.
Селицкий А. А. Живопись Полоцкой земли XI—XII вв. Мн., 1992.

Семевский М. И. Царица Катерина Алексеевна, Анна и Виллим Монс. Л., 1990
Семенов П. П. Живописная Россия. Литовское и белорусское Полесье. Мн., 1993
Сент-Эмур К. Анна Русинка. Львів, 1909.
Серно-Соловьёвичъ Ф. Древнерусский город Слуцкъ и его святыни. Вильно, 1986
Скрынников Р. Г. Иван Грозный. У кн.: Скрынников Р. Г. Далёкий век. Л., 1989
Скрынников Р. Г. Самозванцы в России в начале XVII в. Новосибирск, 1990.
Слагё Е. Петр и женщины. Киев, 1991.
Слонимский Ю. Все о балете. М.— Л., 1966.
Ткачев М. Замки Белоруссии. Мн., 1987.
Ткачоў М. Мая Гарадзеншчына // Маладосць. 1992. № 4.
Тарасаў К. Памяць пра легенды. Постаці беларускай мінуўшчыны. Мн., 1990.
Тарасаў С. Адкуль прыйшло хрысціянства ў Беларусь // Полацак. 1992. №1-2.
Татищев В. Н. История Российская. Т. 2. М.— Л., 1963.
Филаретъ. Русские святые. Т. 3. Черниговъ. 1865.
Филист Г. М. История «преступлений» Святополка Окаянного. Мн., 1990.
Чамярыцкі В. Рагнеда і Уладзімір // Спадчына. 1989. № 1.
Шерр И. Тайны веков. М., 1990.
Шестаков П. Самозванец. Ростов-на-Дону, 1990.
Шишигина К. Я. Музы Несвижа. Мн., 1986.
Штыхаў Г. В. Ажываюць сівыя стагоддзі. Мн., 1982.
Штыхов Г. В. Города Полоцкой земли IX—XIII вв. Мн., 1978.
Шышыгіна К. Я. Паданні Нясвіжа. Мн., 1990.
Шышыгіна-Патоцкая К. Я. Чорная дама Нясвіжскага замка. Мн., 1992.

**ЗМЕСТ**